

ВАЛЯНЦІН
БЛАКІТ

# ШАНУЙ ІМЯ СВАЁ

АПОВЕСЦІ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

Дзень быў ціхі і хмурны. З самага ранку вісела беспрасветна-шэрая, нудная смуга. Такая смуга бывае хіба толькі глыбокай восенню. І каб не сярэдзіна студзеня ды не ўляжалы снег пад нагамі, можна б было падумаць, што на двары ўсё яшчэ канае — сканаць ніяк не можа — сыры, азызлы лістапад. Але к абеду даў пра сябе знаць сярдзіты сіверны ветрык, і неўзабаве разгуляўся, завіхрыў снег, дробны, спорны — у двух кроках нічога не разгледзіш.

Гадзіны дзве вар'яцела гэтае снежнае пекла, пра якое кажуць: ваўкалак з вядзьмаркаю жэняцца. А потым нечакана ўсё аціхла. Нізкія хмары сталі выцягвацца, як кудзеля, сям-там блiснулі бледна-сінія прагаліны, неўзабаве засталіся ўжо не хмары, а толькі іх ашмоткі — фіялетавыя, з рудымі грывамі, а праз якую гадзіну неба зусім ачысцілася, быццам сабралася выставіць напаказ, як за лес павольна і стомлена садзіцца расчырванелае ад холаду сонца.

На пацямнелай усходняй палове неба замільгалі дрыготкія халодныя зоркі.

Пацягнула марознай бадзёрасцю.

Вёска была непазнавальна белай, чыстай і нязвыкла бязлюднай, бы вымерла, бы людзям і не верылася, што гэтак хутка скончылася завіруха. Недзе працяжна і жаласліва замыкала карова, зарыпалі дзверы, самавіта застукалі вёдры...

Беражкі ажывалі, пачыналі жыць сваімі звычайнымі перадвячэрнімі клопатамі.

Непрыкметна сутонілася. Адчувалася, што на ноч бярэцца добры марозік.

Па вуліцы праехаў грузавік з уключанымі падфарнікамі, і неўзабаве ля фермы доўга-доўга чулася яго завыванне і фырканне — пэўна, буксаваў у сумётах, якіх

паспела надзьмуць завіруха. Грузавік, мусіць, нарэшце выехаў, заглух — і зноў усё сцішылася. І было нешта дзіўнае, насцярожанае ў гэтай не па часе соннай цішы. Толькі калі ўважліва-ўважліва прыслухацца, недзе ў сярэдзіне вёскі можна пачуць глухія, як з падзямелля, гукі гармоніка. Сёння ў Ступакевічаў вяселле...

Музыкант, адчувалася, ужо ладна стаміўся, але граў і граў адну мелодыю за другой, намагаючыся развесяліць гасцей, выжыць нейкую прыгнечанасць, што панурай няпрошанай госцяй прыбілася ў хату.

Госці, ніякавата хаваючы позіркі, пілі чарку за чаркай. Спачатку дзеля прыстойнасці прыслухоўваліся да сватавай каманды, потым — хто як хоча. Пілі моўчкі, не асабліва закусваючы, бы кожны толькі аб тым і думаў, каб захмялець.

Малады — русавалосы каржакаваты хлопец гадоў пад трыццаць у традыцыйным чорным касцюме і белай кашулі — сцішана, нават прыгнечана сядзеў на покуці, і немагчыма было зразумець, што ён думае і ці думае што наогул. Позірк яго, то абыякава-пусты, то насцярожана-трывожны, блукаў над галовамі гасцей. Можна было падумаць, што малады, ратуючыся ад рэальнасці, раз-пораз упадае ў нейкі транс і думкі яго ў гэты час далёка-далёка адсюль, аднак кожны, пэўна, здагадваецца, дзе могуць быць цяпер яго думкі, і гэта прыгнечвала яшчэ больш. Побач з ім моўчкі сядзела маладая — ужо не юная, але яшчэ свежая, прывабная, адчужана глядзела на гасцей, і ў яе недружалюбных зеленаватых вачах быў глухі смутак. У сваім белым вэлюме яна была падобная на мармуровую скульптуру — аж аддавала халадком.

— Гор-ка! Го-о-р-р-ка! — забасіў сват.— Маладыым го-о-о-рка!

У ненатуральна-бадзёрым сватавым голасе дрэнна хавалася ніякаватасць. Ён, гэты голас, нібы ўмольваў і па-

пракаў: «Ну, што ж гэта вы, браточкі? Мы ж на вяселлі, а не на памінках, браточкі...»

— Горка-а! Горка-а! — нядружна падтрымалі госці.— Го-ор-ка-а!

Маладыя, здалося, узрадаваліся, не змусілі доўга чакаць, усталі і несарамліва пацалаваліся.

— Горка! Яшчэ раз горка! Капуста горкая! Гарэлка горкая! — надрыўна закрычаў брат маладога — Андрэй.

— Го-о-ор-ка! Гор-ка! — вяла паўтарылі госці.

Маладыя пацалаваліся яшчэ раз.

Ад гэтага «саладжэння» гасціна трохі ажывілася — пачуўся лёгкі гаманок, звон чарак, бразганне відэльцаў. Гармонік нібы чакаў, каб перадыхнуць. Але ледзь аціхла музыка, як зноў у хаце стала ўсталёўвацца ніякаватая цішыня. Прайшла хвіліна, другая — і цішыня рабілася невыноснай.

— Увага! Увага! — ускочыў са свайго месца брат маладога Андрэй, стукаючы відэльцам па бутэльцы, бы тут быў невядома які гам.— Час патанцаваць! Сват! Не забывай пра свае абавязкі!

Прапанова ўсім спадабалася, хоць і прынялі яе без асаблівага энтузіязму. Не чакаючы сватавай каманды, з палёгкаю сталі ўставаць з месцаў і выходзіць з-за сталоў.

Музыкант зайграў вальс. Маладыя моўчкі выйшлі на сярэдзіну хаты і закружыліся ў такт музыцы. Неўзабаве да іх далучыліся сват са сваццяю, дружкі з дру́жкамі, сёй-той з маладзейшых гасцей. Але весялосці ніхто не адчуваў.

— Давай польку! — скамандаваў сват.

На польку аматараў стала менш, а тыя, хто застаўся ў крузе, танцавалі неяк вяла, без імпэту. Танец, здавалася, цягнецца да няёмкасці доўга, і кожны, пэўна, стаў адчуваць, што і гэтая вясёлая мелодыя нікога развесяліць не можа. Яна была сама па сабе, госці, нават танцоры — самі па сабе.

Гарманіст — хлопец гадоў пад дваццаць пяць, з ускуд-

лачанымі доўгімі валасамі — зашпіліў гармонік і ледзь не ўзмаліўся:

— Дайце перадыхнуць трохі — дальбог, рукі апухлі,— і каб не западозрылі, што збіраецца пагультайнічаць, выставіў самлелыя рукі, сціскаючы і расціскаючы пальцы.

— І то праўда: не дадуць чалавеку і паесці — грай ды грай,— заступілася за гарманіста старая Ступакевічыха.— Радыёлу трохі пакруціце... А ты, музыканцік, еш, еш! І выпі — весялей будзе,— замітусілася яна, падкладваючы ў гарманіставу талерку ладныя кавалкі мяса, марынаваныя баравічкі, наліла ў гранёную шклянку аж па паясок гарэлкі.

— Ой, што вы, цётка! Ды я ад такой дозы — адразу пад стол,— для прыліку запратэставаў гарманіст, а сам падумаў, што якраз і не пашкодзіць гэтая шклянка.

— То кропля для здаровага мужыка. Вунь бабы і то...— таксама для прыліку ўгаворвала гаспадыня, а на самую раптам навалілася нейкая слязлівасць.

— А! Пайшло як па масле! — задаволена пракрактаў музыкант, трыма глыткамі апаражніўшы шклянку, і, апетытна закусваючы, абы нешта сказаць, заўважыў:

— І чаго гэта, цётка, вы ўсё плачаце ды плачаце? Радавацца трэба...

— Еш, сынок, еш,— адчужана глянула старая.— Гэта ў мяне ад радасці.— Прыкрыла рукою рот і, стрымліваючы ўсхліп, борздзенька пайшла на кухню.

«Во цемень беспрасветная! — пацiснуў плячыма музыкант.— Вяскоўшчына — што казаць. Пабылі б яны ў горадзе, паглядзелі, што чаўпецца. У газеце вунь пісалі — кожная трэцяя пара разводзіцца. А тут... Падумаеш — другі раз жэніцца! Па тры, па чатыры ўмудраюцца! А тут на́ табе — байкот! Маралісты пазнаходзіліся... Зрэшты, якая справа яму да ўсяго гэтага! Твая справа — грай, адрабляй грошы, не лезь, куды не просяць. Калі разабрацца, то ты на службе: узяўся граць — грай...»

Цяпер, калі так усё павярнулася, Міхась праклінаў сябе, што спачатку згадзіўся, а потым дамагаўся ў бацькоў вяселля. Старыя як у ваду глядзелі. І праўда, каму была патрэбна гэтая камедыя? Запісаліся б без шуму, выпілі б кампаніяй у рэстаране — на тым і кропка.

Разбірала злосць на Любу — гэта ўсё праз яе. Адгаворваў, казаў, а яна... Бачыце, захацелася як у людзей, бачыце, для яе ў рэстаране ўжо і не вяселле, а звычайная п'янка! У горадзе цяпер усе ў рэстаране жэняцца і ніхто не лічыць звычайнай п'янкай. Пацягнула ў гэтыя Беражкі, старамоднай камедыі захацелася... Дурань быў, што згадзіўся... Бачыце, яна ў Беражках вырасла, там яе кожны ведае! Бачыце, ёй вельмі падабаюцца вясковыя вяселлі, бачыце, яна ўсё жыццё марыла пра такое вяселле! Мужчынам трэба было быць: сказаць цвёрдае «не», паставіць на сваім. Хоць... казаў... «Вяртайся да сваёй... Я табе не набіваюся!» — во што пачуў у адказ! І дарма спалохаўся, дарма прыкусіў язык. Па якому гэта праву яна, яшчэ не стаўшы законнай жонкай, пачала з папрокаў?! Ён жа яе не папракае былым...

Гэта на сённяшні розум. А тады... Сказаныя з выклікам словы «вяртайся да яе» секанулі непрыемна і балюча. Хацелася абурыцца, сказаць усё, што думае, але не абурыўся, прамаўчаў — нейкае не зусім зразумелае страхавітае пачуццё змусіла зацугляць свае эмоцыі. У яе было нешта неразважлівае, далёкае ад перадвясельных клопатаў, нешта сваё, зацятае, рашучае, і гэтае нешта насцярожвала, палохала: ні з таго ні з сяго яна рабілася то да слёз чуллівай, то праз хвіліну агортваў няўцешны смутак, і тады не хацела нічога заўважаць, рабілася абыякавай да ўсяго на свеце, то раптам надыходзіла нейкая ўтрапёная весялосць, і тады падобна была на ненармальную.

— Міхаська, ты мо грошай не маеш на вяселле — таму і не хочаш, каб яно было,— жорстка і здзекліва смяялася яна.— То ў мяне на дзесяць вяселляў хопіць.— А вочы не смяяліся, былі халодныя і пакутныя.

Яго даймаў страх, цвярозая разважлівасць: не зладзіцца ў іх сямейнае жыццё, характар у яе — не для жонкі, аднак ён адганяў гэтыя думкі, суцяшаючы сябе: прытрэцца, зладзіцца. Тады хацелася толькі аднаго: хутчэй бы адсекчы былое, хутчэй бы ўсё скончылася, як-кольвек уладзілася, хутчэй бы з'явілася хоць якая яснасць... На далёкае ён загадваць не хацеў. У яго быў толькі адзін сродак, толькі адно выйсце (ва ўсякім разе, іншага ён тады не бачыў) пазбавіцца ад гнятлівага цяжару, які ўзваліўся на яго, выбіў з каляіны, даводзіў да роспачы. Гэтае выйсце было — ажаніцца...

І верыў, да сённяшняга дня верыў, што вяселле будзе збавеннем, той мяжой, пераступіўшы якую, ён набудзе душэўную раўнавагу. Сёння стала ясна, што ўсе надзеі былі марныя і зараз рассеяліся, як туман, як сон. О, каб усё гэта магло быць проста сном!

Але вяселле было рэальнасцю, сумныя госці рэальнымі, і тое, што ўжо немагчыма нічога перайначыць, немагчыма нічога паправіць,— таксама было рэальнасцю.

Круг звужваўся, і цяпер у яго не заставалася ніякага выйсця, апроч таго, каб цярпліва чакаць, пакуль усё скончыцца, ды суцяшаць сябе: ат, чаго забягаць наперад — мо якраз і ўсё будзе добра, мо ўсё, як заўсёды, уладзіцца, чаго не бывае ў жыцці!..

Канечне, гэта было слабое суцяшэнне. Спакваля падкрадваўся страх, жахлівы, панічны. Трэба было нешта рабіць, а то, адчуваў, гэты страх даканае, але не ведаў, што рабіць, ды яшчэ разумеў, што ў яго проста не хопіць сілы, каб нешта рабіць... Мо напіцца, заснуць, каб не бачылі вочы, а там што будзе — то будзе?..

Каторая бліжэй да яго бутэлька была пустая, а прасіць, каб падалі поўную — няёмка. Глянуў на засмучаных маці, бацьку — і жахнуўся ад свайго намеру: што б было, каб напіўся, зваліўся пад стол! Старыя ж ні ў чым не вінаватыя. За што ж іх сароміць на ўсю вёску? А ён ужо і без гэтага асароміў...

Невідушчы позірк яго ўпёрся ў сцяну, абклееную жоўтымі шпалерамі, і раптам балюча кальнуў успамін... Некалі Іра выбірала — ёй вельмі падабаўся гэты вясёленькі колер. Шпалеры ніяк не хацелі прыставаць да пабелкі, адвальваліся разам з ёю, давялося счышчаць усе сцены, аж два дні быў у хаце вэрхал, але выклеілі, як хацела Іра, і маці была вельмі задаволена, хоць да гэтага незласліва бурчала: прыехалі, то адпачылі б, як людзі, на Нёман пахадзілі, а то за рамонт узяліся, на вясне сама пабяліла б, ні халеры не сталася б... А потым вадзіла суседак і хвалілася: во паглядзіце, якую красу мне нявестка навяла.

Ён намагаўся думаць пра што-небудзь іншае, адарваць свой позірк ад шпалераў, пераводзіў то на гасцей, то на ўстаўлены закуссю і гарэлкай вясельны стол, а шпалеры, трохі выцвілыя, жоўтыя, колеру здрады, прыцягвалі, як магніт; позірк зноў і зноў, злева, справа, спатыкаўся на іх, і не было куды схавацца, хацелася енчыць, выць воўкам. Ён стаміўся ад гэтай невыноснай барацьбы, разумеючы, што не будзе ратунку ад былога, не ў яго сілах нешта зрабіць, каб ураз адняло памяць, і, здаючыся, няўцешна падумаў: не ўцячы ад сябе, не схавацца, сябе не ашукаеш... І ўжо не рабіў спробу абараняцца ад былога, і неўзабаве стаў адчуваць, што яно прыносіць аблягчэнне... Нечакана для сябе зрабіў яшчэ адно дзіўнае адкрыццё: а былое запісана ў памяці, як на магнітнай стужцы! Захочаш — можаш адкруціць назад і зноў паслухаць, хочаш — круці з самага пачатку, хочаш — з сярэдзіны, хочаш — пракручвай любое на выбар...

Шкада толькі, што нельга ўжо нічога перапісаць, нельга нічога перайначыць.

І пабегла-пабегла нябачная стужка памяці, уваскрасаючы то зусім яркія, свежыя, то паўзабытыя падзеі, эпізоды, твары. Яны ўсплывалі з самых далёкіх, глухіх завулкаў, здаваліся казкаю, чароўным сном, на нейкі момант, нейкую хвіліну дазвалялі адкараскацца ад сённяшняй рэальнасці...

Усе хлопцы дзевятага «А» класа былі закаханы ў Любу — дачку настаўніцы матэматыкі Клаўдзіі Аляксееўны. Люба расцвіла неяк непрыкметна, адразу. Яшчэ вясной на экзамене за восьмы была худая, нязграбная. Форменны фартушок вісеў на ёй, як на пудзіле, а дзве касічкі былі недарэчнымі і смешнымі, быццам існавалі толькі для таго, каб за іх патузаць.

На лета яна з маці паехала некуды на Гомельшчыну, а калі вярнулася к восені — сваім вачам ніхто не хацеў верыць: няўжо Любка гэта? Яна падрасла, паправілася, з'явілася мяккасць у рухах, таямнічая загадкавасць у поглядзе. Нават недарэчная чорненькая радзімка каля рота стала загадкава-прывабнай. Гэтая радзімка адразу ж захвалявала Міхася. І ўвогуле ён адчуў, што з ім робіцца нешта незразумелае...

Яны з самага маленства жылі па суседству. У малодшых класах дружылі, сядзелі за адной партай, а недзе з пятага, як усе хлопцы, не схацеў «сядзець з дзеўкай», рабіў усё на шкоду: то падручнік схавае, то бант у косах запэцкае ў чарніла, то без дай прычыны тумака ўлепіць, то забярэцца ў яе кветнік, з карэньмі павырывае кветкі.

Цяпер усё перайначылася, перайначылася самым неверагодным чынам. Ён быў шчаслівы, калі ўдавалася на перамене хоць хвілінку пасядзець поруч, і наогул яна магла з ім рабіць што захоча. Больш таго: штодня даводзілася хлусіць Клаўдзіі Аляксееўне, што яны разам з Любай вучаць урокі, хоць, вядома, яны разам ніякіх урокаў не вучылі, а Люба з Віктарам Яловікам з дзесятага класа прападалі за ваколіцай, на Нёмане. Ад пякучай і горкай крыўды не раз хацелася выдаць Любу, аднак нечага баяўся, працягваў хлусіць Клаўдзіі Аляксееўне, спадзеючыся, што Люба ацэніць яго подзвіг. Яна і на самай справе была ўдзячна яму — і толькі...

У дзесятым класе Люба зусім занядбала вучобу, чым давяла маці аж да бальніцы, нахапала ў атэстат троек, правалілася на ўступным экзамене ў інстытут.

Ён паступаў у медыцынскі, без асаблівай ахвоты, абы паступаць, і не надта бедаваў, калі не прайшоў па конкурсе — ведаў, што Люба нізашто не паступіць, застанецца ў вёсцы. На нешта спадзяваўся — Яловіка ўвосень альбо будучай вясною забяруць у армію. Аднак спадзяванні яго не апраўдаліся: Люба, забраўшы дакументы, паехала ў Навагрудак і паступіла ў гандлёва-кааператыўны тэхнікум. Яму паступаць куды-небудзь было позна... У душы была страшэнная крыўда на Любу, быццам яна ва ўсім вінаватая, быццам яна яму здрадзіла, пакінула з носам. Але крыўдней за ўсё было, што Яловіку па нейкай прычыне далі адтэрміноўку ў армію.

Расчараваны і абражаны Міхась застаўся ў вёсцы, працаваў у калгасе на розных работах, а ў кожную вольную хвіліну з помслівай упартасцю сядзеў над падручнікамі.

Вясною яго прызвалі ў армію. А праз тры месяцы з бацькавага пісьма даведаўся, што ў Любы з Віктарам Яловікам мелася быць вяселле, але здарылася няшчасце...

Міхась ненавідзеў сябе, бо ведаў — пагана, брыдка, подла радавацца чужой бядзе, але не мог задушыць радасць, што Люба не выйшла замуж. Пачакаўшы з месяц, напісаў ёй пісьмо, потым — другое, трэцяе, праз паўгода — яшчэ, аднак ні на адно Люба не адказала. Больш, вядома, і не пісаў, супакоіўшы сябе, што на ёй не сышоўся свет клінам.

А потым, калі даведаўся, што Клаўдзію Аляксееўну перавялі ў местачковую школу і яны з'ехалі з вёскі, рашыў, што іх з Любаю сцежкі разышліся назаўсёды, што ўсё былое быллём парасло...

Спаткаліся яны праз шэсць гадоў, калі ён быў на чацвёртым курсе політэхнічнага інстытута, куды паступіў пасля арміі. На трох першых курсах летнія канікулы праводзіў у студэнцкіх будаўнічых атрадах, у вёску заглядваў перад самымі заняткамі, на некалькі дзён. На чацвёрты год нікуды не паехаў — рашыў адпачыць у бацькоў, пакупацца ўдосталь, парыбачыць на Нёмане.

— Ах, божачкі! — успляснула рукамі маці, ледзь ён зайшоў у хату.— Гэта ж толькі што забягала Люба. Ты яе не спаткаў на аўтобуснай?

— Не-е...— Адчуў, як закалацілася сэрца, аднак узяў сябе ў рукі, каб не падаваць знаку, што гэтая навіна кранула, усхвалявала яго.

Маці паглядзела ўважліва, і ў яе поглядзе мільгнулі пытанне і трывога адначасова.

— Пра цябе распытвала... То ніколі не заходзіла, то раптам успомніла... Яна кожны год сюды на дзень-два прыязджае... да Яваровічавай Ганны...— У матчыным голасе адчуваліся і нейкая недамоўленасць, і, здалося, асуджэнне.

— Шкада, што размінуліся...— наколькі мог, абыякава сказаў Міхась, а сам са шчымлівай ці то радасцю, ці то смуткам стаў разумець, што не, не зарасло быллём-палыном былое...

Тое, пра што расказала маці, не выходзіла з галавы, не давала спакою. Ужо назаўтра не знаходзіў сабе месца і занятку. Нейкая невядомая, неадольная сіла цягнула яго ў той далёкі раённы гарадок, дзе жыла і працавала Люба. Ведаў, што неразважліва адразу ж кідацца ўслед за ёю, было брыдкавата: а раптам здагадаецца маці, аднак, сам таго не разумеючы, шукаў і шукаў зачэпку, каб можна было, не выклікаючы падазрэння, вырвацца ў той гарадок.

Люба, калі ён неспадзеўкі познім вечарам пастукаў у дзверы, вачам сваім не хацела верыць, глядзела, як на цуд які, узрадавалася і разгубілася, не заўважала нават, што стаіць перад ім у начной кашулі, якую толькі для блізіру можна назваць адзежынай.

— Мі-і-хась?! — Узрушана, утрапёна кінулася на шыю.— Якімі вятрамі цябе? — Ён быў аглушаны, прыдушаны, шалеў ад шчасця — такой не малявала сустрэчу самая смелая яго фантазія. Праз хвіліну, сам таго не жадаючы, адчуў таемную цеплыню яе блізкага пругкага це-

ла; яно клікала, вабіла, палохала, сэрца забілася, як птушка ў сілку; не памятаючы сябе, пацалаваў Любу ў шчаку, яна падалася яшчэ бліжэй, адчуў яе бёдры, хмялеючы, пацалаваў яшчэ раз за вухам. І гэта нечакана разбудзіла Любу — яна рэзка адштурхнула яго, адскочыла ўбок, і невядома чаго больш было ў яе поглядзе — здзіўлення, збянтэжанасці, жаху ці мо нават нянавісці. У той момант яна была падобная на кошку, якая не дае сумненняў, што ўчэпіцца кіпцюрамі, толькі паспрабуй працягнуць руку.— Ой! — мусіць, здагадаўшыся, што за адзежына на ёй, Люба машынальна прыціснула локці да грудзей, зардзелася і шмыгнула за шырму.

Міхась стаяў як укопаны, не зусім разумеючы, што здарылася, але ўжо пачынала садніць расчараванне, нейкая прыкрасць.

— Прысядзь, чаго стаіш?! — узбуджана, але не сярдзіта, здалося, нават па-змоўніцку, з намёкам, азвалася з-за шырмачкі Люба, і ў яго зноў замерла сэрца, з'явілася прадчуванне, ад якога стала займаць дух.

Неўзабаве яна, апранутая ў шэрую сукенку і такога ж колеру світэр са стаячым каўняром, што рабіла яе строгай і афіцыйнай, выйшла са свайго схові́шча. Ніякаватая ўзбуджанасць у яе яшчэ не прайшла, яна пазбягала глянуць яму ў вочы, быццам саромелася нечага, і Міхась, пакутуючы ад незразумелай няўтульнасці, адчуваў, што павінен нешта сказаць, аднак патрэбныя словы ўпарта, як на грэх, не ішлі.

— Пачакай трохі, я на стол накрыю.

Ён нават абрадаваўся, што яна выйшла на кухню, і пакуль была там, пакутліва думаў, як сябе паводзіць, што будзе далей... За шырмай, якую Люба чамусьці (ці гэта не намёк?) забылася зашморгнуць, відзён быў ложак...

Люба заслала абрусам нізенькі столік, паставіла сподачкі з чаркамі на доўгіх ножках, прынесла бутэльку каньяку, лёгкую закусь, падумаўшы, выключыла святло, застаўся гарэць толькі таршэр ля століка. У Міхася салод-

ка зайшлося сэрца: ён недзе бачыў у кіно ці чытаў у кніжцы, што гэта значыць, калі жанчына стварае такі інтым... Таемна-незвычайнае, што мелася адбыцца паміж імі, кружыла галаву, адбірала розум і мову. Міхась адно разумеў: яна самая прыгожая, самая жаданая ва ўсім свеце, ён кахае яе па-ранейшаму, не, не так, як раней, а кахае больш, інакш, яна абуджала ў ім пачуцці, пра якія раней не адважваўся, саромеўся нават думаць.

Люба выпіла за сустрэчу чарку да дна, прапанавала закусваць. Ён затрымаў яе руку і адразу ж злавіў на сабе ўважлівы позірк: Любіны вочы глядзелі насцярожана строга, здавалася, яна нейкім чынам прачытала яго думкі.

— Міхась, ты што?!

— Ні-і-чога...— зніякавеў ён, адчуўшы нейкую горыч.

Яна зрабіла ўсяго адзін глыток са зноў налітай чаркі і заклапочана нагадала пра позні час. Ён яшчэ раз крадком кінуў позірк на незашморгнутую шырму, раскладзены ложак і з заміраннем сэрца згадзіўся, што час сапраўды позні...

Люба пайшла нанач да суседкі, а ён, расчараваны, абражаны, варочаўся, ніяк не мог заснуць на яе пасцелі, якая, нягледзячы на свежую бялізну, хавала нейкія незнаёмыя, таемныя пахі. Стаў супакойваць сябе і думаць, што ўвогуле Люба зрабіла правільна — нельга ж адразу... Ён нават з ёй і не пагаварыў па-чалавечы, не кажучы, каб адкрыць сваё сэрца, і разумна, што Люба пайшла начаваць да суседкі,— каму трэба, каб папаўзлі плёткі...

Назаўтра ўладкаваўся ў гасцініцы, вечарам схадзілі ў кіно, пасядзелі ў рэстаране, і, калі праводзіў дадому, у кватэру Люба не запрасіла. Яго гэта кранула, але не падаў знаку. А мо ў яе хто ёсць, толькі не прызнаецца? Чаму яна была без настрою ўвесь вечар, чаму нават абняць не дазволіла? А ён намерыўся быў сказаць пра свае пачуцці, магчыма, прапанаваць запісацца...

У наступныя дні падазрэнні закрадваліся ўсё часцей,

і здавалася, што яны мелі рэальную падставу — Люба зусім перамянілася: ухілялася быць адзін на адзін, здавалася, нават не рада, што ён прыехаў. Адно было дзіўна і незразумела: чаму яна так ахвотна бывае з ім на людзях, нават у клуб на танцы зацягнула? На людзях — памяркоўная, рахманая, а калі няма нікога — зусім іншая, нібы падмяняюць... Самая элементарная логіка падказвае, што павінна быць усё наадварот...

За тыя дні ён паспеў добра разглядзець Любу, прывыкнуць да яе, зусім не такой, як шэсць гадоў назад. Пасталела, вядома, нават, здаецца, стала вышэйшая ростам, новай, трохі насцярожваючай была яе строгасць, нейкая сухаватая, бязлітасная — пэўна, бухгалтарская работа зрабіла свой адбітак. І яшчэ, што не зусім падабалася яму,— вечны смутак і холад у вачах. Яна нічога не расказвала пра сваё жыццё, апроч таго, як вучылася, якія клопаты мае на рабоце, і ён асабліва не дапытваўся, разумеючы, што ёй не дужа прыемна прыгадваць былое. А ўвогуле, яна была прыгожая, прывабная, вядома, не такая, як калісь — што ні кажы: гады, але ён кахаў яе такую. Праўда, прымешвалася, не давала спакою нейкая горыч, і ён не ведаў, ад чаго гэтая горыч: ці то ад таго, што Люба не хацела пускаць яго на парог, ці то ад таго, што па-здрадніцку давала знаць аб сабе былая крыўда — прамяняла некалі на нейкага Яловіка, ці ад таго, што і цяпер, калі даўным-даўно няма Яловіка, яна застаецца, як і калісь, недасягальнай, халоднай. І гэта абражала, даводзіла да роспачы, а па вечарах, калі заставаўся адзін у гасцінічным нумары,— асабліва.

На шосты дзень прапанаваў запісацца. Люба нават не здзівілася, але далікатна, каб не пакрыўдзіць, стрымала:

— Не трэба, Міхась... Ты — добры сябра, ты мне таксама падабаешся, аднак не магу... Можа, потым... Дай мне час звыкнуцца... Я сама цябе знайду, калі ты мне спатрэбішся... Даруй мне, Міхась, але... Не магу я забыцца пра Віктара...— Люба змоўкла, вочы яе напоўніліся болем.

— Ды няма ніякага Віктара! — адчайна закрычаў Міхась.— А я кахаю цябе!..

Люба доўга маўчала, абдумваючы нешта сваё, потым разважліва і зацята сказала:

— Не-е, Міхась, ёсць... Мо для каго і няма, а для мяне ёсць Віктар...— і, злавіўшы яго няўцямны, нават спалоханы позірк, дадала: — Ведаю, Міхась, што гэта неразумна, але верыш ты ці не, а для мяне яшчэ не памёр Віктар, і няма ў сэрцы ні для каго месца, апроч яго. Для цябе таксама няма, Міхась...— Вочы ў яе былі пакутныя, умольныя.

— Вар'ятка, дальбог, вар'ятка!

— Можа быць...— цяжка ўздыхнула Люба.— Але не магу нічога зрабіць з сабою, разумееш, не магу! — І раптам затрэслася ад плачу.

Яму захацелася абняць яе, супакоіць, аднак нешта пратэставала ўшчуваць, супакойваць. Стаяў, таптаўся на месцы, не ведаючы, ці заставацца тут, ці ісці прэч, і неўзабаве стаў адчуваць, што ў душы нараджаецца нейкае глухое, крыўднае расчараванне. Падумаў, што трэба ехаць дамоў... І маці недзе захвалявалася — абяцаў праз дзень-два вярнуцца, а тут ужо дзесяты пайшоў, ды і ўвогуле няма ніякага сэнсу тырчэць тут...

Люба, здалося, пашкадавала, што ён ад'язджае, нібы адчувала сваю віну. Нечакана палагоднела, запрасіла да сябе, не ўхілялася ад пацалункаў — на большае ён не адважваўся, аднак застацца хоць на дзень яшчэ, чаго чакаў і на што спадзяваўся, не прапанавала.

Праводзіла на аўтобусны вакзал, вочы былі сумныя, разгубленыя, а ў самы апошні момант, калі ўжо аўтобус рушыў з месца, раптам вочы яе ажылі, здалося, прасілі, каб застаўся, вярнуўся назад. Міхась, уражаны яе развітальным позіркам, памкнуўся быў спыніць аўтобус, але нешта ўтрымала папрасіць шафёра...

Ён вяртаўся дамоў з нядобрым астоем на душы і з цвёрдым намерам забыцца пра Любу. Гэты нанова пача-

ты неразумны раман, апроч расчараванняў і пакут, нічога яму не абяцае, аднак праз тыдзень не ўтрываў і напісаў ёй, праўда, даволі стрымана і суха: даехаў нармальна, адпачываю, хаджу на рыбалку і гэтак далей. Неўзабаве прыйшло ад яе пісьмо ў адказ. Яно ўзрадавала і засмуціла — не было ў ім і намёку на тое, чаго чакаў, на што спадзяваўся.

А потым, калі вярнуўся ў Мінск, пісаў амаль кожны дзень, упарта дамагаючыся схільнасці і кахання. Любіны далікатныя «не» былі горкімі, крыўднымі і разам з тым усё больш штурхалі да яе, такой упартай, недасягальнай...

Зімовую сесію здаў датэрмінова і, каб не выклікаць падазрэнняў у маці, паехаў спачатку да Любы. Яна спаткала даволі ветла і прыязна, смяялася, жартавала, усе вечары праводзілі разам, але ад размовы, каб запісацца, ухілялася, а ён стаяў на сваім. І, нарэшце, на пяты дзень, здаецца, яна завагалася, сказала стомлена: добра, толькі ты спачатку закончы інстытут...

Можна было радавацца, быць задаволеным — ён амаль дамогся свайго, але не было поўнага задавальнення, ніяк не праходзіла дакучлівая горыч: не-не а ўваскрасаў у памяці Яловік, здавалася, ён ценем ходзіць за ім і Любай, узводзіць між імі перагародку. І яшчэ: час ад часу лавіў сябе на прыкрай думцы: а што, калі Люба проста водзіць за нос, хоча адцягнуць час, згадзілася толькі таму, каб менш назаляў? І гэтая думка абражала, даводзіла да шаленства...

А потым у яго жыцці з'явілася Іра. З'явілася нечакана, негадана, раптоўна, як бліскавіца, асляпіла, аглушыла, перавярнула ўсё...

Яна — юная, нейкая светлая і прыгожая ў сваёй лёгкай летняй квяцістай міні-сукенцы, ішла па праспекце, размахваючы сумачкай на доўгім рэмені, і ўсім кідалася ў вочы яе радасць, вялікая, светлая, чыстая. Дзяўчына,

здавалася, знарок стрымлівае свае пачуцці, аднак было такое ўражанне, што яны непадуладныя ёй. Пешаходы міжволі паварочвалі галовы — і на іх тварах таксама раптам расцвіталі ціхія цёплыя ўсмешкі.

Міхась як убачыў, так і аслупянеў, адразу ж адчуўшы нейкі неспакой.

Канечне, ён не мог не пайсці за гэтым цудам...

Ля ГУМа, дзе на тратуары больш народу, «незнарок» штурхануў дзяўчыну, красамоўна і доўга пачаў прасіць прабачэння.

— Ой, глупства! Я нават і не заўважыла,— даверліва глянула яна, і Міхась адчуў: у яго жыцці павінна адбыцца нешта важнае.

Ён гаварыў і гаварыў, каб уцягнуць дзяўчыну ў гаворку, і аж сам дзівіўся, адкуль у яго бярэцца красамоўства.

— Б'юся аб заклад: у вас сёння адбылося нешта такое... што толькі раз бывае ў жыцці. Ці не так?

— Ой, а як вы здагадаліся? — шчыра здзівілася яна.

— А хочаце, адгадаю, што ў вас адбылося? — дурасліва працягваў ён.— Я — ёсць індыйскі маг, які чытае думкі на адлегласці.

— Чытаеце думкі на адлегласці? — засмяялася дзяўчына.— Тады прачытайце! Нізашто не прачытаеце!

— Гля-я-дзі-і-це на мя-я-не-е... Па-а-чынаю-ю сеанс белай магіі!

— Ха-ха-ха-ха...— глянула яна, прыпыніўшыся, і цяжка было зразумець, чаго больш у яе шэрых вачах — здзіўлення ці шчырай дзіцячай гарэзы.

— Вы-ы... па... латарэйным білеце... выйгралі «Масквіч». О!

— Ха-ха-ха!.. Не ўгадалі.

— Тады-ы... вы-ы-ы,— з тою ж гуллівай урачыстасцю абы-што гаварыў Міхась,— угадалі... усе... шэсць... лічбаў «Спортлато»...

— Ха-ха-ха...— смяялася дзяўчына.— Я не гуляю ў «Спортлато». Зноў не ўгадалі!

— Тады-ы... вам... адзін рыцар журботнага вобраза прапанаваў руку і сэрца...

— Не-е...— трохі збянтэжылася яна і амаль сур'ёзна, нібы апраўдваючыся перад ім, сказала: — Я толькі што здала апошні экзамен. Так што перад вамі свежавыпечаны малады спецыяліст.

— І што гэта за спецыяліст? — пацікавіўся ён, забыўшыся павіншаваць.— Думаю, што надзвычай рэдкая і арыгінальная спецыяльнасць.

— Ды не! Медыцынская сястра,— прыязна глянула дзяўчына.— Так што, калі захварэеце — прыходзьце лячыцца.— І ў яе вачанятах зноў заскакалі гарэзлівыя чорцікі.

— Вось такія дактары вымуць душу без пары,— весела працытаваў ён радкі з верша і тут жа схамянуўся: а раптам пакрыўдзіцца?!

Дзяўчына і не думала крыўдзіцца, наадварот, засмяялася яшчэ гарэзлівей:

— Во-во! Якраз такі лекар... Ага! Спалохаліся!

— І ніколечкі!

— Не, спалохаліся...

Ім было проста, лёгка, весела ад гэтай легкадумнай дураслівай гамонкі, ішлі, забыўшыся, куды ідуць, не заўважаючы нічога і нікога на свеце.

Стаў пакрапваць дождджык. Дзяўчына з трывогаю глянула на неба — вісела толькі маленькая хмурынка. Міхасю хацелася рассмяшыць яе — надта ж хораша яна смяялася, так чыста, ад душы смяюцца толькі людзі з добрым, шчырым характарам.

Па штрасэ мы гулялі
А з неба васэр ішоў...—

узнёсла-парадыйным тонам прадэкламаваў ён.

Дзяўчына смяялася да слёз, потым ускінула здзіўлены позірк:

— Гэта вы сам?

— Не-е, то шэдэўр класіка літаратуры нашай першай гвардзейска-рыцарскай групы. Дарэчы, напісаны з выпадку «хваста» па нямецкай.

— Вы — студэнт?! — ні то здзівілася, ні то абрадавалася дзяўчына і глянула на яго так светла, што захапіла дыханне.

— Пакуль што... Але перад вамі — будучы знішчальнік малых і вялікіх рэчак, закляты вораг фауны і флоры, словам, інжынер-меліяратар... праз год пры ўмове паспяховай здачы экзаменаў,— і скорагаворкай запытаўся: — Дарэчы, як вас завуць, таварыш малады спецыяліст, прадстаўнік самай гуманнай прафесіі?

— Іра...— шчыра сказала дзяўчына і аж прыпынілася ад здзіўлення: проста дзіва, што яны незнаёмыя.

— А мяне клічуць — Міхась...

І ён, канечне, не паехаў ні да Любы, ні ў вёску, куды намерваўся ехаць на канікулы. Застаўся ў Мінску — адзін на ўвесь інтэрнат. З ім рабілася нешта неверагоднае, ён і сам не разумеў, што з ім робіцца. Малады, радасны, не падуладны розуму і волі, хмель закруціў яго, і ён то шалеў ад шчасця, то раптам ні з сяго ні з таго нейкая цьмяная трывога сціскала сэрца. Усё звыклае рабілася нязвыклым, таемным, з невядомым сэнсам, здавалася, увесь сусвет перайначыўся і ў цэнтры яго была Іра, то такая блізкая, то такая недасягальна далёкая... Часцей і часцей стаў лавіць сябе на думцы: як гэта жыў, як мог існаваць без яе? І ўсё былое жыццё здавалася шэрым, бясколерным, нават нікчэмным. Праўда, сяды-тады ўсё яшчэ дапякаў успамін пра Любу, якой абяцаў прыехаць, і рабілася прыкра за тое абяцанне, але суцяшаў сябе: а што Люба? Ён ёй нічым не абавязаны. Яна, пэўна, і сама абрадуецца, што адчапіўся.

А як марудна і нудна цёк час, пакуль Іра была на ра-

боце! Пад канец рабілася зусім нясцерпна, і ён на гадзіну-паўтары раней ішоў да бальніцы, дзе яна працавала, сноўдаўся сюды-туды, заглядваючы ў вокны. Роўна ў шэсць яна выходзіла, спынялася на ганку, шукала вачыма яго і, заўважыўшы, радасна бегла насустрач. Вячэралі на хаду ў сталоўцы самаабслугоўвання, беглі ў парк ці кіно, хоць рэдка калі і заўважалі, што адбываецца на экране,— здавалася, нічога і нікога не існуе на свеце, апроч іх дваіх.

Ім было хораша, радасна і шчымліва-трывожна...

У жніўні разам паехалі ў вёску...

Дзень тады ўдаўся сонечны, ясны, як і ўвесь жнівень. Галлё гнулася ад пачырванелых сліў, на яблынях даспявалі бурштынавыя ранеты. На вяселле прываліла ўся вёска. Нават уборачныя клопаты не перашкодзілі... Мелі шэсць дружкоў і столькі ж дружак: у Бярэжках так — чым больш, тым лепей. Іра трохі саромелася незнаёмых людзей і ад таго была яшчэ прыгажэйшая, а ў вэлюме — асабліва. Уся яна, здавалася, свяцілася, і яму было так прыемна, што бярэ ў жонкі такую прыгажуню.

Праехалі з бомамі і музыкай у адзін, у другі канец вёскі, потым далі кругаля каля гаю, што на беразе Нёмана. Кругом былі людзі, кветкі, віншаванні, шчырыя, сардэчныя, вясёлыя...

Сёння не было ні людзей, ні кветак, ні па-чалавечы зразумелых віншаванняў...

На другім паверсе ў Палацы культуры — зала маладажонаў, дзе рэгіструюць шлюбы. Гэта самая светлая і ўрачыстая зала. Звонку, здаецца, вокны як вокны, а зойдзеш — гарац усімі колерамі — вітражы. Асабліва ў ясны сонечны дзень, як тады...

Сёння валіў снег, і вітражы былі шэрыя. Шэрыя твары, шэрыя віншаванні...

І нешта абразлівае, зларадная раптамварухнулася ў яго душы. Зрабіў спробу прыдушыць гэтае неразумнае пачуццё, не думаць пра прыкрае сёння, аднак заўважыў, што

не ў яго сілах адагнаць «сёння» — яно лезла мільгатнём, змрочным супроцьпастаўленнем...

Тады старшыня сельсавета Міхаіл Пятровіч, як на свята, начапіў усе свае ордэны і медалі, сказаў такія сардэчныя, шчырыя словы...

Сёння нават ордэнскіх калодак не павесіў, і словы ў яго былі нейкія казённыя, ніякаватыя. Пэўна, каб мог знайсці якую зачэпку ці каб была на тое яго воля, нізашто не запісаў бы...

Тады бухалі бутэлькі шампанскага...

І сёння было шампанскае, ды яно, здаецца, і ў горла нікому не ішло...

Гэтыя ўспаміны-параўнанні джалілі, як тысячы восаў, рабіліся невыноснымі, і Міхасю захацелася выйсці з-за стала, кінуцца на вуліцу, пабыць аднаму, бегчы куды вочы глядзяць. Куды бегчы? Ад сябе не ўцячэш...

Не зважаючы ні на каго, ён наліў сабе чарку, выпіў, не дакрануўшыся да закускі. Госці адразу ж заўважылі гэта, здзіўлена пераглянуліся. Гарэлка абдала нутро агнём, трохі прытупіла боль. Хвілін некалькі ён увогуле ні пра што не думаў, тупа гледзячы на гасцей. І раптам аж сам здзівіўся: у яго няма ні злосці, ні крыўды на гэтых людзей. Засталася толькі абыякавасць, глухая, здранцвелая. І гэтая здранцвелая абыякавасць была своеасаблівым пратэстам, збавеннем, ратункам, праўда, ненадзейным, эфемерным, часовым, але ратункам ад гэтай гнятлівай рэальнасці.

Затуманены позірк яго нечакана спыніўся на заплаканых матчыных вачах — і ў сэрца кальнуў боль, да спазмы ў горле стала шкада старую. Што-што, а пра гэтае вяселле злыя языкі разнясуць па ўсёй акрузе... Гэта не тады-ы...

І зноў з завулкаў памяці выплывалі, наплывалі ўспаміны, вяртаючы ў тыя светлыя, шчаслівыя дні, і гэтыя дні ўжо здаваліся амаль не рэальнымі, вярэдзілі тупым шчымлівым болем, сваёй непапраўнай незваротнасцю...

Маці, калі першы раз прывёз Іру, сустрэла нявестку стрымана, падазрона, нават варожа. Ды і Іра, едучы, трэслася як асінавы ліст. Аднак матчынай варожасці хапіла ненадоўга — невядома, які ключык падабрала Іра, але ўжо к абеду яны здружыліся так, што нельга было разняць. Ён не раз дзівіўся Ірыным здольнасцям сыходзіцца з незнаёмымі людзьмі, і атрымоўвалася гэта ў яе неяк проста, непасрэдна. Мо яны, дзетдомаўскія, усе такія?

Іра была круглай сіратою: маці памерла пры родах, а бацька-шафёр загінуў у аварыі, калі ёй і года не было. Узяла малую на выхаванне стрыечная цётка, якая, казалі, засядзелася ў дзеўках, згубіла ўсялякую надзею займець сваю сям'ю. Але сталася так, што ўсё ж знайшоўся нехта, праўда, бесталковы, горкі п'яніца, і малую давялося здаць у дзіцячы дом.

Цяпер, калі гэтак раптам з'явіліся людзі, якіх не тое што можна, а трэба зваць мамаю і татаю, Іра радавалася, як дзіця,— аж смешна было. Спярша нясмела, нібы вучылася гаварыць, потым, як тое цялё, хадзіла то за старою, то за старым і за кожным словам — «мама», «тата», быццам мела намер нагаварыцца адразу за ўсе гады, калі не было каму сказаць гэтых звычайных, простых слоў. А маці нарадавацца не магла: працавітая, увішная, ласкавая, не распешчаная (вядома, сірата, гора хлебанула), сваім розумам добрую спецыяльнасць набыла; знаходзіла сотню прычын, каб разам прайсціся па вёсцы, і яе наіўныя хітрыкі былі відаць кожнаму: паглядзіце, пазайздросце, якая прыгажуня — любую артыстку за пояс заткне, а значыць, і сын нечага варты, калі за яго пайшла такая. Адна толькі Іра, пэўна, не здагадвалася, для чаго гэта маці кліча то ў магазін разам схадзіць, то на соткі, то дзялку буракоў за вёскай паглядзець. Міхася гэтая матчына пахвальба трохі забаўляла, аднак маўчаў — яму было прыемна.

Бадай, ніколі яшчэ для яго не бег так хутка час, як тады. Не паспелі і ачомацца ад вяселля, як кончыліся канікулы, трэба было ехаць у Мінск.

На вяселлі ім надарылі больш за дзве тысячы рублёў. Іра аж жахалася ад гэтакай сумы, бянтэжылася, што рабіць з такімі грашыма, упрошвала маці: пакіньце іх сабе.

— Ой, спатрэбяцца, яшчэ як спатрэбяцца! — хітравата ўсміхнулася старая і параіла: — Толькі ж на вецер не кідайце, купіце што-небудзь вартае, вопратку харошую, напрыклад, а то як вада ўцякуць, не заўважыце.

Так яно, вядома, і сталася...

Два дні шукалі які пакойчык — сямейных не асабліва хто хоча пускаць. Праз тыдзень усё ж знайшлі нейкую каморку метры два на тры за дваццаць пяць рублёў у месяц.

Пэўна, заўжды так: жывеш неўладкавана, нечага не хапае, нечым незадаволены, нешта праклінаеш, а праходзіць час — і з настальгіяй пачынаеш адчуваць, што гэта былі твае самыя лепшыя, самыя светлыя дні. Зараз ён з асаблівай вастрынёй і яснасцю разумеў, што, сапраўды, у той цеснай каморцы, дзе і шафу для адзення нельга было паставіць, а зімою па начах замярзала вада, прайшлі яго самыя шчаслівыя месяцы.

Тут у іх нарадзілася Верачка. Нарадзілася якраз у той чэрвеньскі дзень, калі здаў перадапошні дзяржаўны экзамен. З самай раніцы Іра паводзіла сябе неяк неспакойна — думаў, хвалюецца за яго экзамен, не разумеў, чаго так настойліва выпраўляе ў інстытут, калі яшчэ можна гадзіну-другую пагартаць канспекты. Гэта пасля дайшло: ёй рабілася кепска і не хацела яго хваляваць перад экзаменам.

Але, мусіць, праўда ёсць прадчуванне: ужо ў тралейбусе адчуў нейкую цьмяную трывогу. Гэтая трывога прычапілася неадступна, не хацела пакідаць нават на экзамене. І ледзь выскачыў з аўдыторыі — памчаў дамоў, было не да адзнакі.

Іру ўжо забрала «хуткая дапамога». Сама дайшла да тэлефона-аўтамата і выклікала, напісала запіску, замкнула дзверы.

Палову дня і ўсю ноч правёў ля радзільнага дома, праз кожную хвіліну назаляючы дзяжурнай: ну, што там? І толькі перад самым узыходам сонца нарэшце сказалі: усё нармальна — дачка. Ён не ўзрадаваўся і не засмуціўся, што дачка,— на гэта проста не хапіла сіл. Адчуў толькі, які страшэнны цяжар зваліўся з плеч, які ён стомлены, галодны. Не дайшло, што яшчэ гаварылі пра кесарава сячэнне. Важна: Іра адчувае сябе нармальна, дачка была яшчэ нечым абстрактным.

Калі выйшаў на вуліцу, ногі сталі як з ваты, блага, што трапілася нейкая лаўка. Ачомаўся, калі добра пачало прыпякаць сонца. Успомніў, што трэба купіць кветак, якіх-небудзь ласункаў, перадаць Іры, і тут раптам ахапіла такая ўтрапёная радасць, што заскакаў, хацелася неадкладна бегчы ў інтэрнат паведаміць хлопцам, крычаць на ўвесь свет пра сваю радасць.

Праведваць Іру пайшлі пасля абеду ўсёй групай. Пад вокнамі нарабілі такога ляманту, што выйшаў урач і папрасіў «не праяўляць так бурна сваіх эмоцый»: маўляў, разумею, але тут лячэбная ўстанова, а не стадыён. Нават незласліва прыгразіў паклікаць міліцыю, калі «не перастануць хуліганіць», але ніхто не верыў у гэтую пагрозу і, праўда, трохі цішэй, а працягвалі скандзіраваць:

— І-р-ра! І-ра! Ма-ла-дзец!

Іру любіла ўся іх «першая рыцарская група». Яна была не ў прыклад жонкам жанатых к таму часу хлопцаў. Тыя, як адна, з падазронасцю і асуджэннем, з нейкай неразумнай ці то рэўнасцю, ці то асцярогаю глядзелі на шумныя, трохі легкадумныя студэнцкія кампаніі, цураліся іх, рабілі ўсё, каб разладзіць мужчынскую дружбу. Іра з першага ж дня стала сваёй у групе, напаўжарт-напаўсур'ёз яе абралі ганаровым членам іх «рыцарскай».

Ён, вядома, чакаў сына, але, як хлопцы казалі, у радзільным доме выбару няма. Зрэшты, мо і праўда, добра, што першая дачка.

Дзесяць дзён вычухвалася Іра пасля кесарава сячэння.

Прывёз яе з малою якраз за дзень да таго, як уручалі дыпломы — была двайная радасць. Праўда, радасць трохі азмрочвалася: неяк адразу пасля экзаменаў стала разладжвацца, развальвацца іх «першая рыцарская». Хоць і было больш чым трэба клятваў у вечнай дружбе, урачыстых абяцанняў штогод прыязджаць на сустрэчу ў сваю альма-матэр, але адчувалася, што іншыя клопаты сталі адольваць хлопцаў: зборы, ад'езды, хваляванні перад новым, таямнічым самастойным жыццём. Толькі і размовы былі пра будучую работу, сыходзіліся нават тыя, хто ніколі не таварышаваў, а цяпер па волі лёсу павінен ехаць у адну альбо суседнюю меліярацыйную арганізацыю. Аднак што б там ні было, а ў адведзіны да Міхася прыйшлі ўсе як адзін. Заходзілі па чарзе — чатыры-пяць чалавек, завалілі пакойчык кветкамі, ускладчыну купілі дзіцячую каляску, якую і паставіць не было дзе. Але цесната ўжо яго не хвалявала — у тым катушку яны дажывалі апошнія дні, наперадзе была р а б о т а.

Гарадок яму адразу спадабаўся: чысты і ўтульны, ціхі, увесь у зяляніне і новабудоўлях. Але нават не гэта галоўнае. Важна было тое, што спаткалі яго надзвычай ветла і прыязна, і пры размове з начальнікам і галоўным інжынерам будаўніча-мантажнага ўпраўлення меліярацыі высветлілася, што ён мае справу з аднадумцамі — тут дбаюць не толькі пра выкананне планаў, але і пра тое, каб асушаць з галавой, наносіць прыродзе як мага менш шкоды. Мець такіх начальнікаў — шмат што значыць.

Зараз зусім не тое. Яго цяперашняму начальству давай план любою цаною і менш думай, што будзе пасля,— не твой клопат. Дальбог, праз год-два тут зробішся падобны на тых, што некалі ў Беражках...

Гэта было ў той год, калі ён не паступіў у медыцынскі інстытут і працаваў у калгасе. Меліяратары асушалі пойму невялікай рачулкі, што ўпадала ў Нёман непадалёк ад

іх вёскі. Магутнымі экскаватарамі вывернулі глыбозную, прамую, як страла, канаву, павярнулі ў яе ваду з рэчкі. Аднак рачулка, нібы на злосць, не хацела паміраць: ледзьледзь, а ўсё струменілася па звыклым рэчышчы — яе жывілі шматлікія крынічкі па берагах. Тады некаму прыйшло ў галаву засыпаць старое рэчышча. І пачалі бульдозерамі сцягваць зямлю з пагоркаў, пасля чаго там і цяпер нішто не расце. Месцамі рэчка была глыбокая, у ёй вялося шмат рыбы, у тым ліку і такая рэдкая, як фарэль. А якія шчупакі заходзілі сюды на нераст! Бывала, яны, падшпаркі, на вясне хадзілі з восцямі. Спрадвеку тут беражкоўцы білі шчупакоў, расказвалі, што некалі траплялiся па пуду і больш. Потым, калі па Нёмане стаў шныраць рыбнагляд, ганялі — браканьерства.

Бульдозеры, надрываючы маторы, ссоўвалі зямлю ў старое рэчышча, вада адступала, амаль наверсе плюхалася рыба. Каторая большая, меліяратары бралі голымі рукамі, варылі юшку, смажылі, прадавалі прыезжым рыбакам-аматарам, а драбязу, якой кішэла кожная лужынка, завальвалі зямлёю. Аднак неўзабаве стала ясна, што з гэтага засыпання нічога не будзе: кругом шмат крынічак, і вільгаць, нягледзячы ні на што, прасочваецца наверх. Тады пачалі ўкладваць дрэнаж. Але і гэта не памагло. Рачулка была жывучай і неперможнай, як цяга да жыцця, як само жыццё, і людзі з усёй сваёй магутнай тэхнікай, здавалася, былі бяссільныя перад ёю... Намучыўшыся і адхапіўшы вымовы, меліяратары кінулі знявечаную лагчыну і пераехалі са ўсёй сваёй тэхнікай у іншае месца, казалі, знішчаць другую, не такую ўпартую рачулку.

Чаму ён стаў меліяратарам? Каб узарваць меліярацыю знутры! Канечне, гэта быў дзіцячы, наіўны пратэст, потым у інстытуце самому было смешна: вінавата не столькі сама меліярацыя, колькі людское невуцтва, абыякавасць, халодны разлік, мінутная выгода. Во за гэта і помсціць прырода. Помсцяць крынічкі, помсцяць марна загубленыя рэчкі, на месцы якіх, апроч асоту, нішто больш і расці

не хоча, помсцяць знявечаныя лагчыны, што сталі чорнаю пустыняй, разносчыкамі пустазелля, помсціць Нёман, які на вачах мялее. Яшчэ дзесяць гадоў паўз Беражкі праплывалі вялізныя баржы, а ўжо зараз раку ў многіх месцах можна ўброд перайсці. Мала хто задумваецца, што будзе праз дзесяць, праз дваццаць, праз сто гадоў.

У тым раённым пасёлку, той меліярацыйнай арганізацыі, куды ён прыехаў пасля інстытута, думалі пра гэта і шмат што рабілі.

Яго прызначылі ў эксперыментальную брыгаду асвойваць новы спосаб асушэння.

Ён быў не тое што рады, а бязмежна шчаслівы, што атрымаў такую перспектыўную і цікавую работу. Не так часта бывае, каб маладому, толькі што з інстытута, інжынеру даручалі эксперыментаваць.

І на самай справе яму тады здорава шанцавала. Аж не верылася. Ва ўсім шанцавала. Ну, напрыклад, не прайшло і двух месяцаў, як атрымаў кватэру з усімі камунальнымі выгодамі ў толькі што пабудаваным доме...

...Думкі яго зноў і зноў спатыкаліся на Іры, і ён не адганяў іх, хоць думаць цяпер пра Іру было недарэчна, горка, балюча. Чамусьці раптам здалося, што гэтыя думкі-ўспаміны маюць нейкае падабенства з тою рачулкаю, якую калісь засыпалі меліяратары: як ні завальвай, а яна ўсё сочыцца і сочыцца ўпартымі крынічкамі, і жахнула ад гэтага падабенства. Разгублена глядзеў на гасцей, і ў вачах быў адчайны крык: людзі, што мне рабіць, парайце, людзі добрыя?! Госці сядзелі прыцішана, хаваючы вочы, пэўна, ніхто з іх не ведаў, якое ў яго можа быць выйсце з той пасткі, у якую сам сябе загнаў...

Калі прыехаў у вёску, каб забраць жонку і дачку да сябе, Іра ўзрадавалася, але, заўважыўшы, як спахмурнела

маці, разгубілася, не ведала: радавацца ці смуткаваць. Ці то ад таго, што ў старых не было сваіх дачок, ці мо таму, што Верачка — іх першая ўнучка, але яны не маглі нарадавацца, не спускалі малую з рук. Па праўдзе кажучы, у Міхася тлела сумненне: мо лацвей было б Іры з Верачкай пабыць пакуль што ў вёсцы — маці паможа пагадаваць, але і без іх надта ж занудзіўся.

Маці, нічога не кажучы, пайшла на пошту, зняла з ашчаднай кніжкі тысячу рублёў і, не зважаючы на аднекванне, усунула амаль сілком Іры: «Хата ж у вас пустая, то купіце, што трэба на першы час, абжывайцеся, каб было як у людзей».

Клопатаў, вядома, прыбавілася, але Верачка ўдалася на дзіва спакойная, не асабліва замінала. Яны нават рызыкавалі схадзіць у кіно, пакуль яна спала, цмокчучы пустышку. Праўда, Іра сядзела як на іголках, аднак сяды-тады рызыкавалі.

Пэўна, і на самай справе шчаслівейшай за іх маладой сям'і не было ва ўсім гарадку. Сёй-той, асабліва маладзіцы, глядзелі на іх з дрэнна схаванай зайздрасцю, а пажылыя — з замілаваннем, якое, калі разабрацца, таксама падобнае на зайздрасць: во жывуць, як галубкі, не тое што нашы — сварацца без дай прычыны. У гэтых справах, пэўна, усе жанчыны трохі зайздросніцы.

І яшчэ, мусіць, заўсёды так: калі памірае хто заўчасна — гэта, як правіла, добры чалавек, калі здараецца бяда — абавязкова са шчаслівымі людзьмі. Яна, бяда, нібы знарок выбірае жыццялюбаў і аптымістаў і звальваецца менавіта тады, калі яе менш за ўсё чакаеш.

Праз год, калі Верачка «знайшла» свае ножкі і стала лепятаць сваё «ма-ма», «та-та», уварвалася бяда, цяжкая, аглушальная. Іра трапіла ў аўтамабільную аварыю. Трапіла недарэчна, да крыўднага бязглузда: п'яны шафёр затармазіў на галалёдзе, машыну кінула на тратуар, потым — на слуп. І трэба ж было іменна ў тую хвіліну апынуцца Іры якраз насупраць таго праклятага слупа! Ад-

былося так нечакана, так імгненна, што не паспела і падумаць, не тое каб адскочыць убок...

Міхасёвы думкі раптам перарваў братаў голас і смех. Яму з робленай весялосцю нешта адказвала Насця. Кідалася ў вочы, што яны гэта робяць знарок, каб разварушыць гасцей, «утравіць» іх у нейкую гамонку. Міхась аж паморшчыўся ад сораму. Бадай, ніколі ў яго не было такой нянавісці да брата і Насці, як у гэтую хвіліну. Хто-хто, а яны прыклалі сваю руку да ўсяго, што сталася...

Тады, аглушаны, прыбіты бядою, кінуўся на пошту, даў дзве тэлеграмы: адну — маці, другую — брату. Прасіў тэрмінова прыехаць. Маці была патрэбна, каб прыглядзець за Верачкай, Андрэй... Усё ж ён без году ўрач, сёе-тое кумекае сам, а галоўнае, можа параіць, куды, да каго кінуцца па дапамогу — мо нават у інстытут, да прафесароў.

Андрэй і Насця (таксама тады студэнтка-медычка) апранулі белыя халаты, па-свойску перакінуліся з урачом некалькімі фразамі па-латыні, пайшлі ў палату, а ён, Міхась, застаўся ўнізе — так яны захацелі. Доўга-доўга іх не было, потым нарэшце выйшлі. Міхась кінуўся насустрач: ну што? Андрэй, не спяшаючыся, моўчкі зняў белую шапачку, стомлена, нібы толькі што закончыў •надзвычай складаную аперацыю, сеў у крэсла і, вытрымліваючы яго трывожна-запытальны позірк, сказаў:

— Справы дрэнь, стары... Ампутацыя...

— Што-што-о? — нібы аслухаўся Міхась.— Што ты вярзеш?

— Так, стары, так! Другой альтэрнатывы няма...

Андрэй любіць розныя вучоныя слоўцы, вымаўляе іх важка, са смакам. А такія, як «альтэрнатыва», «дылема», бадай, сталі ў яго лексіконе словамі-паразітамі, бо ўжывае іх дарэчы і недарэчы.

Да Міхася стаў памалу даходзіць увесь жахлівы сэнс братавых слоў, ногі падкасіліся — бездапаможна сеў на

крэсла. Андрэй гаварыў яшчэ нешта, але Міхась нібы аглух, усё было, як у тумане. Ачомаўся, толькі калі прыйшлі дадому.

— Няўжо нельга нічога зрабіць? — умольна, як на бога, глядзеў ён на брата.— А мо ў Мінск, у Маскву? Там усё ж урачы — не нашы? Га? Мо да якога прафесара?

— Не, стары, тут ніякі прафесар, хай будзе ён самім панам-богам, не паможа. Пачынай думаць аб іншым...

Ён не сказаў тады, аб чым гэта іншым трэба думаць. Сказаў у наступны прыезд, здаецца, праз месяц. Сказаў, не асабліва ўважаючы далікатнасць, не надта цырымонячыся:

— Хочаш ці не хочаш, а ты стаў перад дылемай: што рабіць, як жыць?

Міхась насцярожыўся, нічога не разумеючы.

Брат памяўся, падбіраючы патрэбныя словы, потым здалёк, крадком запытаў:

— Што рабіць будзеш, калі яна выпішацца з бальніцы? Якую маеш альтэрнатыву?

— Як што? — здзіўлена пацісну́ў плячыма Міхась. Яму, аглушанаму бядой, і ў галаву не прыходзіла, што і як будзе далей. Зрэшты, што можа быць далей?

— Зразумей мяне правільна: я не супроць Ірыны. Але няўжо ў цябе няма іншай альтэрнатывы, апроч той, каб жыць з калекай?

— Замаўчы!

— Я магу і памаўчаць... Твая справа...— Андрэй зрабіў пакрыўджаны выгляд.— Але, прызнайся, ты сам аб гэтым не думаў. Падумаеш скора, станеш перад дылемай... Жыцця ў вас не будзе, наперад кажу, як старэйшы...

— Не твая справа! Заткніся! — абарваў яго Міхась і з прыкрасцю падумаў: «На якую трасцу прынесла яго?»

Ён даўно, яшчэ змалку, трохі недалюбліваў старэйшага брата. Недалюбліваў за вечныя настаўленні, гатовыя рэцэпты на любы выпадак жыцця, нават за саму манеру даваць свае парады — быццам толькі яму аднаму вядомыя

ўсе вялікія і малыя ісціны, быццам усё, што сыходзіць ад яго, не можа выклікаць ніякіх сумненняў. Гэтак проста і мудра ўсё раскладваецца па палічках.

— Злуйся не злуйся, але трэба быць апошнім ідыётам, каб загубіць жыццё на патранаж калекі,— разважліва і кашчунна працягваў Андрэй.— А табе толькі дваццаць сем. Можа ўсё быць наперадзе, можа — застацца ззаду. Паварушы глуздамі...

Мо менавіта ў той момант ён здрадзіў Іры, здрадзіў сабе? Не! Ён не мог тады, не можа і сёння прыняць гэты Андрэеў практыцызм, эгаістычны, бяздушны, жорсткі. Чаму ж тады не ўзяў за каршэнь і не турнуў? Чаму, урэшце, не даў здачы? Маўчаў. Маці не маўчала, а ты маўчаў...

— Не лезь, Андрэй! — узарвалася старая.— Міхась не маленькі — сам разбярэцца.

А мо пачалося ўсё трохі пазней, калі да размовы падключылася Насця са сваім бессаромным цынізмам:

— Як ты з бязногай у пасцель будзеш класціся?

Ён тады не думаў як. Гэта пасля тая фраза гула, што назойлівая аса, даводзіла да роспачы.

Невядома, чаго яшчэ тады нагаварыла б Насця, каб яе груба не абсекла маці.

У старой ніколі асабліва не ляжала душа да Насці, і тая, мусіць, заўважыла гэта. Ён і сам не разумеў, чаму недалюблівае маці Андрэеву жонку. Мо таму, што Насця не пажадала ўзяць іхняга прозвішча? А мо за тое, што ў Насці ніколі так і не павярнуўся язык назваць яе мамаю?

Ён ніколі не бачыў маці такою, як тады. Вусны ў яе збляднелі, уздрыгвалі.

— Не распускай язык памялом! — прабірала яна Насцю.— Сорам! Ты ж кабета! — І, паглядаючы то на нявестку, то на Андрэя, працягвала са злосцю: — Што гэта за дурная звычка лезці са сваімі парадамі, дзе вас не просяць? — І, не дачакаўшыся адказу, трохі супакоілася, сказала са смуткам: — Я хацела, каб мае дзеці людзьмі вы-

2*

раслі. Вы цяпер павырасталі, у інстытутах розуму панабіраліся, свае галовы маеце. То думайце, будзьце людзьмі! У чужой бядзе парады даваць лёгка. Ды ніколі не рабіце з бухты-барахты... А ты, Міхась, сам разбярыся, што да чаго, сваё сэрца запытай. Ведай адно: пакуль мы з бацькам жывыя — Іру ў крыўду не дамо...

Іра выпісалася з бальніцы праз тры месяцы. Яна навучылася хадзіць без мыліц, толькі злёгку абапіралася на кіёчак.

Ён рабіў усё, каб Іра не заўважыла, што нешта перамянілася, цяжэй было пераканаць самога сябе. Нічога не перамянілася, нічога не перамянілася! На нейкі час нават удавалася паверыць, што нічога не змянілася, а калі змянілася, то мо нават да лепшага. Пакуль на вочы не трапляўся кіёчак, пратэз. І сэрца сціскалася ад болю, жалю і да Іры, і да самога сябе, толькі цяпер стала бачыцца ўся непапраўная трагічнасць бяды. Лепш бы сам пайшоў у той магазін! Ён жа мужчына, адразу б здагадаўся, чым можа скончыцца, калі машына пайшла юзам. Ён, канечне, выкруціўся б, а яна разгубілася. Каб гэта ведаў! Каб гэта можна было цяпер паправіць! Няўжо гэта на ўсё жыццё? У такія хвіліны альбо знаходзіў прычыну, каб выйсці з хаты, альбо браў на рукі Верачку і з ненатуральнай пяшчотай гушкаў яе.

Ён ведаў: Іра здагадваецца, што робіцца ў яго на душы, праклінаў сябе, згараў ад сораму, палохаючыся, жахаючыся фізічнай халоднасці да жонкі, прычынаю якой было яе калецтва. Адно ўяўленне пра яе кульцю прыводзіла ў адчай, наганяла няўцешную роспач — хоць воўкам вый, і ні ў кога не папросіш літасці, ніхто цябе не зразумее. Нават Іра, якой не скажаш... А мо ўсё ўладзіцца, звыкнецца з часам? І, кампенсуючы сваю віну, намагаўся быць уважлівым, чулым, больш за ўсё баючыся, каб яна не падумала, быццам гэтая ўвага і чуласць робленыя.

Паступова, спакваля паміж імі ўзнікала, вырастала нядобрая сцяна недамоўленасці, і ён не мог нічога зрабіць, каб разбурыць тую прыкрую сцяну. Яму было да болю шкада Іру, стараўся браць на сябе ўсе хатнія клопаты, а яна праз сілу хацела рабіць усё сама, і нават гэта выклікала новую недамоўленасць. І так штодня...

Яго, ды і яе, здаецца, палохалі людзі. Дзе б толькі не паяўляліся, на іх пачыналі звяртаць увагу, і ў гэтых позірках была не проста спагада, а жаласлівасць і да яе, і да яго, і нават да дзіцяці.

З маўклівай згоды яны сталі менш і менш разам бываць на людзях, кожны па-свойму саромеючыся таго, аб чым і заікацца не адважваліся. Яму часта здавалася, што кожны з іх робіць усё, каб ашукаць адзін аднаго, ашукаць самога сябе, але адчайна адганяў гэтыя думкі: мо ўсё ж уладзіцца, мо звыкнецца, як прывык некалі да дзіцячай каляскі, з якой з месяц саромеўся без Іры з'яўляцца на вуліцы, а потым сам пасмейваўся са сваёй дзівацкай сарамлівасці...

Іра старалася быць вясёлаю, жартавала, не траціла аптымізму, і ён бачыў, якіх неймаверных сіл каштуе ўсё гэта ёй, а самае страшнае — разумеў, што ўсё гэта яна робіць дзеля яго.

Праходзілі дні, тыдні, месяцы, недамоўленасць напластоўвалася і напластоўвалася, і ўжо цяжка, амаль немагчыма было хаваць яе.

Неяк, калі вярнуўся з работы, застаў Іру нязвыкла строгую, задуменную, са слядамі слёз на твары. Адразу ж зразумеў — нешта здарылася, аднак, як звычайна, бадзёра сказаў:

— Сустракайце — вось і мы! — звыкла падышоў і пацалаваў жонку ў лоб.

Іра не прылашчылася, панура маўчала. Ён глянуў — і анямеў: у яе каштанавых валасах каля вуха сівая пасмачка! Мусіць, во чаму такая смутная!

Пераапрануўшыся, сеў вячэраць, штучна бадзёрым голасам расказваючы нешта. Іра па-ранейшаму сядзела засяроджаная, невідушча глядзела на яго, здавалася, не чуе, што ён гаворыць. Калі паеў і апетытна закурыў, яна сказала незнаёмым уладным голасам:

— Міхась, нам час пагаварыць сур'ёзна, глянуць праўдзе ў вочы...

— Ты пра што гэта? — насцярожыўся ён.

Іра без патрэбы штурхала ўзад-уперад Вераччыну каляску — хвалявалася. Яна заўсёды, калі хвалюецца, павінна нешта рабіць. Ён здагадваўся, якая размова можа быць, сцяўся. Яму зараз не хацелася гэтай размовы, але не ведаў, як можна ўхіліцца ад яе.

— Міхась, мне цяжка гаварыць гэта...— У Ірыных вачах была тая ж нязвыклая рашучасць і цвёрдасць.— Але адцягваць больш няма сэнсу. Пакінь нас, назаўсёды пакінь, Міхась!

— Ты што? Здурнела...— Погляд зноў чамусьці ўпаў на журботную сівую пасмачку ля яе вуха, і зноў балюча сціснулася сэрца.

— Не трэба, Міхась... Я ўсё бачу, сэрцам чую, разумею... І не думай, што хачу папракаць ці вінаваціць цябе, каго б там ні было вінаваціць... Нам трэба разысціся... Я даўно пра гэта думала, ды ўсё не рашалася сказаць. Так будзе лепей для ўсіх нас...

— Ты нічога разумнейшага прыдумаць не магла?

— Не магла,— шчыра глянула Іра, і яму стала не па сабе ад гэтай настойлівай шчырасці.— Я ўсё перадумала, іншага выйсця не бачу. Мо ты ведаеш?

— Я не ведаю, чаго ты ад мяне хочаш?! — пачынаў злавацца ён.

Іра глянула няўцямна, не прыняла яго тону, яшчэ больш энергічна заштурхала туды-сюды Вераччыну каляску, потым сказала:

— Даруй, Міхась, я ніколі тваіх пісем не чытала, а сёння не ўтрывала — паглядзела, што піша Андрэй. Ты

нават не схаваў, пакінуў на стале пісьмо. Скажы, ты гэта знарок зрабіў? Толькі сумленна?

Канечне, ён гэта зрабіў незнарок, і зараз было прыкра, што не парваў тое пісьмо, не падумаў, што яно можа трапіцца на вочы ёй.

— Ты што, хочаш, каб я сейф паставіў? Ад цябе ў мяне сакрэтаў няма.

— Дзякуй хоць за гэта,— з сумнай іроніяй сказала Іра і ўздыхнула неяк цяжка і няўцешна.— А ведаеш, Андрэй праўду піша...

— Так я і паслухаў, што плявузгае гэты разумнік! — стаў абараняцца ён, саромеючыся і праклінаючы сябе, што тое паганенькае Андрэева пісьмо з Насцінай прыпіскай прачытала Іра.

Андрэй і Насця з дзіўнай упартасцю дамагаліся, каб ён думаў і рашаў, пакуль дачка малая, нічога не разумее. Незразумела, што ім так прыпякала? Бывала, пісьма ніколі не напішуць, а тут адно за адным і ў кожным назойліва: усё роўна ў вас нічога не будзе, вышэй фізіялогіі не скокнеш, не звяртай увагі на маралістаў — іх цяпер развялося хоць адбаўляй. Хай стануць на тваё месца гэтыя маралісты — па-іншаму запяюць. Менш за ўсё слухай маці, яна разважае па-бабску, пражыла сваё, а табе яшчэ жыць ды жыць...

Спачатку гэтыя катэгарычныя і дакучлівыя парады выклікалі прыкрасць, злосць, ён ірваў пісьмы на шматкі, нават не адпісваў. Затым стаў баяцца гэтых пісем, яны абуджалі нешта нядобрае, брыдкае, прычынялі боль, краналі здрадлівыя думкі, якіх палохаўся, настойліва адганяў, не пускаў у сябе. Потым прывык, чытаў спакойна і абыякава, дзівячыся: во людзі — ім плюй у вочы, а яны — божая раса.

— Не, Міхась, Андрэй праўду піша,— паўтарала сваё Іра.— Ды не мучай ты сябе. Хіба мала хто разводзіцца. Ну, не склалася ў нас — што зробіш...

Ён ведаў, што трэба пярэчыць, даказваць, перакон-

ваць, што не верыць ні аднаму брataваму слову, што нічога не перамянілася, што ён яе вельмі і вельмі кахае, а значыць, усё ўладзіцца, яны будуць шчаслівыя, яна памыляецца, ёй толькі здалося, што ён стаў не той. Дзесятым чуццём адчуваў, што Іра чакае ад яго менавіта гэтага, адчайна намагаўся адшукаць, але са страхам заўважаў, што не знаходзіцца шчырых перакананых слоў, а тыя, што круцяцца на языку,— ненатуральныя, фальшывыя...

Нарэшце Андрэй аціх, прыкусіла язык і Насця — з іх намеру «ўтравіць» гасцей у нейкую гаворку нічога не атрымалася. Міхась нейкімі новымі вачыма глянуў на прыгнечаных вясельнікаў — і раптам з'явілася дзіўнае ўражанне: быццам ён тут чужы, выпадковы чалавек, які невядома як трапіў на нейкае нуднае застолле, якое чамусьці лічаць вяселлем. А гэтыя людзі чакаюць: вось-вось, з хвіліны на хвіліну, павінен прыйсці нехта патрэбны і жаданы — і ўсё стане на сваё месца. А пакуль прыйдзе той, патрэбны і жаданы, кожны адчувае сябе вінаватым, што не дачакаліся, пачалі вяселле — а мо той жаданы, патрэбны затрымаўся па вельмі важнай прычыне?

А мо тут не тыя людзі, каб сыграць шмат раз іграны вясельны спектакль? Пэўна, не тыя. Якое к чорту вяселле, калі малады двух дружкоў першы раз у вочы бачыць?! А на тое яны і завуцца дружкамі, што даводзяцца блізкімі таварышамі маладому. Якія яны яму сябры?! Яны — Андрэевы таварышы! А які друг яму Пеця Мышко? Бегаў смаркатым падшыванцам, калі ён, Міхась, ужо на дзяўчат заглядваўся. А дру́жкі?! Ды ўсе яны на «вы» з Любаю. Не магла хоць каго прывезці з горада! Знайшла задушэўных сябровак — Тараса клыпатага Галю ды Падлясанчысіну Алену! Ды гэтыя дурніцы, пэўна, толькі і згадзіліся, што за дружкоў прыезджыя студэнты — мо часам клюне!

А мо ён сам, хто ўзяўся іграць галоўную ролю,— не той выканаўца? Мо таму і няма ніякага ладу, кожны адчувае

сябе пасажырам у аэрапорце, дзе ўжо ў чацвёрты раз аб'явілі, што вылет самалёта зноў адкладваецца.

— Го-о-рка! Маладым го-о-о-р-ка! — неяк недарэчы грымнуў сватаў бас.

Міхась панура глянуў на гасцей, нехаця ўстаў, памог пад локаць падняцца Любе, і яны для прыліку, холадна і абыякава, пацалаваліся.

Вясельнікі і госці ахвотна апаражнілі чарговую чарку і, здаецца, зноў забыліся пра яго.

А ці не падобны ён на бяздарнага камедыянта, што абрыдзеў усім, але дзеля прыстойнасці яго выклікаюць зноў і зноў, каб хоць трохі развеяць нудоту, пасмяяцца спадцішка не столькі з таго, што робіць, а з яго самога? Чаго яны папрыходзілі?! Каб напіцца, папасвіць свае вочы на яго сораме...

Гэтая думка навеяла няўцешна-адчайны смутак, стала баламуціць душу, уздымаць злосць, неадольнае жаданне дзейнічаць, нешта рабіць на злосць усім, мо нават на злосць самому сабе.

— Музыкант! Гапака! — панура загадаў ён.— Гапака, табе кажу!

Госці здзіўлена пераглянуліся — маладому на вяселлі не належыць заказваць музыку. Музыку заказвае сват. У свата просяць, калі што...

Гарманіст паслухмяна перайшоў з танга на гапак.

Міхась, не заўважаючы нікога, устаў, рэзка адштурхнуў крэсла, цяжкай хадою выйшаў на сярэдзіну хаты, пастаяў трохі, прыслухоўваючыся да музыкі. Ну, глядзіце! Пасвіце свае бессаромныя вочы! Глядзіце, глядзіце! Тупнуў нагою і заскакаў, заскакаў, набіраючы і набіраючы тэмп. Во вам! Во!..

Ён ужо не звяртаў увагі на музыку, глядзеў па баках — і нічога не бачыў, выкручваўся да болю ў касцях, і о, дзіва! Гэты боль прыемны. Ага-а! Паскрыўлялі фізіяноміі! Крывіце, крывіце! І пайшоў упрысядку, б'ючы ў далоні, абапёрся рукамі на падлогу і стаў дрыгацца, як

прыпадачны. Любуйцеся, будзьце задаволены! Я вам яшчэ не такія пакажу хохмачкі. Пасмейцеся, пасмейцеся... Для вас я апошні мярзотнік, а мярзотніку ўсё дазволена...

І раптам!.. Раптам у нейкім апантаным утрапенні раз, другі, трэці перакуліўся цераз галаву на бруднай падлозе. Во вам, во вам!

Падбегла затрывожаная маці, хацела змахнуць з пінжака гразь, ён невідушча адштурхнуў яе, з новым прыпадкам стаў канвульсаваць у сваім дзікім танцы.

Госці анямелі, з трывогай сачылі: што ж будзе далей?

Валасы ў танцора ўскалмаціліся, твар заліваўся потам. Ён выцер лоб рукавом, потым — крысом пінжака, затым, працягваючы дрыгацца, сцягнуў з сябе і шпурнуў на лаву пінжак з вывернутымі рукавамі, са свежай сілай і адчаем працягваў свой незразумелы жудасна-вар'яцкі танец.

Госці спалохана пераглядваліся, не ведаючы, што рабіць. Першым ачомаўся сват — жэстам паказаў гарманісту, каб спыніў музыку.

А Міхась усё скакаў, і здавалася, на душы рабілася лягчэй. Са здзіўленнем заўважыў, што стаў да жаху цвярозы. А потым убачыў Любу, маці — устрывожаных, са слязьмі на вачах, пачуў іх амаль мальбу:

— Хопіць, хопіць, хопіць...

Дайшло: музыкант не грае, а ён скача без музыкі. Спыніўся, абвёў прысутных здзіўленым позіркам, цяжка дыхаючы, абяссілены сеў на табурэтку, абхапіўшы галаву рукамі.

— Хадзем, Міхась, хадзем! — як з туману дайшоў матчын голас, заўважыў, што яна тузае за плячо.— Хадзем на кухню, трохі астынь, умыйся.

Стомлена ўстаў з табурэткі, злёгку адштурхнуў рукою Любу, ад чаго на яе белай сукенцы засталася бруднаватая пляма, ні слова не кажучы, пайшоў за маці.

— Ты што, ашалеў? Так набрацца! Ты ж — малады! — узяла загрудкі старая, як толькі зайшлі на кухню.— Сорам! Які сорам! Не пі! Ні кроплі больш!

— Мама, я цвярозы, я зусім цвярозы, мама! Такі цвярозы я яшчэ не быў ніколі, мама! Што са мною робіцца, мама?! Што я нарабіў?! — амаль закрычаў ён і стаў уздрыгваць ні-то ад адчаю, ні то ад плачу.

— Раней трэба было думаць! Позна цяпер думаць! Абняславіўся сам, нас увёў у сорам, захацеў яшчэ Клаўдзію Аляксееўну, Любу абсмяяць?! — Голас у яе быў сухі і строгі, нават злы.— Сунь сваю дурную мазгаўню пад умывальнік! Сунь! Вада халодная, памагае ад дурасці. Мыйся, мыйся! На каго стаў падобны! Мыйся, а то зараз як лясну па мордзе, не пагляджу...

Яго ўразілі, скаланулі гэтыя халодныя, чужыя матчыны словы — і яна не разумее, не, нікому на свеце не зразумець яго, і паслухмяна пайшоў да ўмывальніка.

Мыўся доўга, не спяшаючыся — куды спяшацца?! Калі бачок апаражніўся, падняў вечка, наліў туды яшчэ паўвядра. Сцюдзёная, амаль ледзяная вада памалу супакойвала, прыводзіла ў сябе. Выцерся ручніком, узяў шчотку, строс са штаноў пыл, нацягнуў вычышчаны пінжак, які падала маці, звыклым рухам паправіў гальштук і выйшаў да гасцей у святліцу. Ні слова не кажучы, сеў на сваё месца поруч з узбуджанай Любай, нахіліўся, папрасіў прабачэння, усміхнуўся гасцям: маўляў, усё ў парадку.

Сват, каб згладзіць ніякаватасць, борздзенька загадаў напоўніць чаркі і выпіць за здароўе маладых. Вясельнікі і госці зрабілі гэта з задавальненнем. Яму таксама захацелася асушыць налітую чарку, але Люба стрымала за руку, непрыкметна адставіла ўбок і падсунула сваю з напіткам. Ён паглядзеў з удзячнасцю і вачыма сказаў: добра, дзякуй, Люба. У адказ яна таксама спрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешкі не атрымалася.

Люба сядзела ўзбуджаная, сцятая, толькі сяды-тады на яе вуснах прабівалася нешта накшталт абавязковай дзяжурнай усмешкі, як гэта і належыць маладой. Міхасю раптам стала да пяшчоты шкада яе. Каб хоць як суцешыць, нахіліўся і шапнуў вінавата: «Даруй, калі можаш.

Непрыгожа атрымалася... праз гэтую праклятую гарэлку».

Яму было брыдка, што хлусіць. Але што мог сказаць? Апроч хлусні, ён і не ведаў, чым можна хоць трохі супакоіць Любу, згладзіць сваю віну перад ёю.

— Нічога, нічога, Міхась,— нібы здагадалася яна.

Ён разумеў, што трэба яшчэ нешта сказаць, але што сказаць — не ведаў. Выручыў сват.

— Маладым г-о-о-р-ка! Г-о-о-р-ка-а! — мо дзесяты раз сёння прабасіў ён.

Госці пачціва, нават дружна падтрымалі:

— Го-о-р-ка! Гор-ка-а!

Цяпер Міхась нават узрадаваўся гэтаму «горка», устаў, амаль ускочыў з месца і, не зважаючы на Любіна аднекванне, абняў яе і доўга-доўга цалаваў у вусны. Вясельнікі і госці ажыўлена запляскалі ў далоні, дружна выпілі і, гамонячы, прыняліся за закусь.

Здаецца, нарэшце, вяселле стала наладжвацца. Аднак гэта ўжо мала хвалявала Міхася. Ён адчуваў сябе стомленым, спустошаным, здавалася, нават слова вымавіць — непасільны цяжар. Вясельнікі і госці гаманілі наперабой, нехта некага хацеў перакрычаць, нехта жартаваў, смяяўся, але ён не чуў, не хацеў чуць, сядзеў сцішана, сядытады кідаючы погляд на Любу. З кожнай хвілінай яна змрачнела і змрачнела і ўжо не рабіла спробу захаваць належную ціхую ўсмешку на вуснах. З чаго б гэта яна? Мо прыгадала Яловіка? І адразу ж засаднiла, ніяк не хацела знікаць, нешта накшталт рэўнасці, накшталт крыўды. А потым прыгадалася, як па-дзіцячы наіўна некалі не раз, вядома, толькі ў мроях, перамагаў Віктара ў адкрытай і сумленнай бойцы на ваччу ва ўсёй вёскі, на ваччу ў Любы. Але Яловік быў чэмпіён па штанзе і боксу, старэйшы і на галаву вышэйшы за яго... Цяпер во як павярнулася! Яловіка няма ў жывых, а Люба ўжо яго, Міхасёва, жонка. А каб быў жывы Яловік? Пэўна, яны мелі б тузін дзяцей. На што-што, а на гэта ўсе Яловікі здатныя — вунь у самага меншага чацвёртае нарадзілася...

Употай кінуў позірк на засмучоную Любу — і нейкая непрыязь да яе варухнулася ў душы. Няўжо гэта яго жонка?! А як жа Верачка?

Ад згадкі пра маленькую, з заўсёды здзіўленымі вачанятамі дачку цяжкі, пякучы камяк падкаціў пад горла. Сірата... Бацька загінуў у аўтамабільнай аварыі... Гэта штодня будзе ўбіваць ёй у галаву Іра, пакуль Верачка не падрасце, каб самой ва ўсім разабрацца. Сірата пры жывым бацьку...

А ў іх з Любаю таксама можа быць дачка. Можна нават назваць Вераю. Прыгожае імя. Тады сам выбраў для дачкі. Пайшоў і запісаў, хоць Іра ўжо называла малую Вольгай — у гонар бабулі. Спачатку Іра засмуцілася, потым ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказала: «Во! Калі ты такі, нараджу табе адну за другой тры дачкі — Веру, Надзею, Любоў. Паглядзіш, нараджу! — і залілася гарэзлівым шчаслівым смехам.— От зяцёў некалі будзеш мець...»

А цяпер... У яго дачкі можа быць сястра і не сястра...

Не-е, Іра! Не так усё проста! Хлусіш, Іра, што вельмі проста!

— Пакінь нас, пакінь! — каторы ўжо раз прасіла Іра.— Не будзе ў нас жыцця. Пакінь, пакуль не сталі ненавісныя адзін аднаму.

У глыбіні душы Міхась разумеў, што яна гаворыць праўду, аднак энергічна пратэставаў супроць гэтай праўды. Ён усё яшчэ не траціў надзеі, што звыкнецца, зладзіцца, ва ўсякім разе, не быў гатовы на той рашучы крок, якога дамагалася жонка.

— І што ты вярзеш, не падумаўшы?

— Усё думана-перадумана, Міхась,— глянула ў вочы Іра, і яму стала не па сабе ад гэтага позірку, рашучага, патрабавальнага.— Бяду сваю я асілю, і за Верачку асілю, а за траіх — не пад сілу мне, Міхась. Зразумей ты гэта!

— Ат, плявузгаеш абы-што! — адмахнуўся ён.— Прападзеш адна, а яшчэ, называецца, абдумала ўсё...

Іра падумала і разважліва сказала:

— Ведаю, Міхась, што без цябе мне будзе нялёгка, але з табою, павер, яшчэ цяжэй.

— Цікава, цікава? — задзірліва глянуў ён.

— Нічога тут цікавага,— самотна ўздыхнула Іра.— Чужыя мы сталі, Міхась. Толькі што жывём пад адною страхою. Навошта ж так жыць?

— І трэба ж дадумацца! І трэба ж дадумацца...— паўтараў ён, маючы намер абурыцца, аднак абурэнне не хацела прыходзіць.

— Сэрцу не загадаеш, Міхась,— з сумам і болем сказала Іра.— І не трэба мардаваць сябе. Мо мне і горай за ўсё, што ты мардуеш сябе. Бачыць штодзень любага табе чалавека нешчаслівым, сэрцам чуць, што толькі жаласлівасць утрымлівае яго — жорстка і невыносна, Міхась.

— Хм! Адкуль ты ўзяла, што я нешчаслівы?

— Навошта, Міхась? — Яна глянула строга, з папрокам, і яму стала не па сабе ні то ад гэтага позірку, ні то ад праўды, хай сабе па-жаночаму суб'ектыўнай, але ўсё ж праўды, якую ён не мог абвергнуць.— Я не магу, зразумей, не магу бачыць боль у тваіх вачах і рабіць выгляд, што сляпая. Гэта не жыццё, а кашмар, для нас абоіх кашмар. Я не хачу такога жыцця, бо ўзненавіджу і цябе, і сябе самую. Давай разыдземся людзьмі, Міхась, давай не паганіць таго святога, што ў нас было.

Іра ніколі так з ім не размаўляла. Гэта была не тая Іра, якую ён ведаў, мог беспамылкова прадбачыць ход яе думак і ўчынкаў. Гэта была зусім незнаёмая жанчына — валявая, рашучая, настойлівая, у нечым мудрая і ў нечым вар'ятка. Ён новымі вачыма глянуў на яе, і незнаёмае пачуццё — глыбокая павага за нейкую зусім нежаночую мужнасць, захапленне, ці што, завалодала ім.

— А пра Верачку ты падумала? — Гэта быў аргумент, перад якім Іра павінна была не ўстаяць.

— Падумала,— на дзіва спакойна сказала яна.— Для Верачкі ў аўтамабільнай аварыі мы былі разам...

— Во, дзякую! Ты мяне жывога хаваеш.

— Каго жывога хаваюць — той доўга жыве. Ёсць такая прыкмета,— сумна ўсміхнулася Іра.— Жыві, Міхась, да ста гадоў жыві. І хай у цябе будзе многа-многа шчасця. І ведаеш, што яшчэ — жаніся! Як мага хутчэй жаніся. Ты такі малады, такі... За табою любая пабяжыць. Знаходзь каго па душы — і жаніся. Я хачу гэтага, дальбог, хачу. Так лягчэй будзе забыцца.

— Здурнела, зусім здурнела! — хацеў абурыцца ён, але зноў нешта перашкаджала абурыцца, глядзеў на жонку, быццам бачыць яе ўпершыню.

— Забудзецца, Міхась, паглядзіш, забудзецца,— разважліва, трохі адчужана працягвала Іра, і за гэтай разважлівасцю ёй было няпроста схаваць глухі, няўцешны боль.— Забудзецца, як некалі забылася Люба. Я не папракаю цябе. Не! Так... к слову прыйшло. Але каб я верыла ў бога, пэўна, палічыла б: гэта бог пакараў мяне за тое, што Люба нешчаслівая, бо я забрала ў яе цябе. Смешна, праўда? Я і сама ведаю, што смешна, але чую перад ёю сваю віну, ідзі да яе. Як друга прашу — жаніся з Любай! Я яе ніколі не бачыла, але, пэўна, яна прыгожая і добрая, калі ты яе любіў. Хай хоць двое з нас чацвярых будуць шчаслівыя. Не, што я кажу — не двое! Я таксама шчаслівая. Шчаслівая, што былі тыя тры гады, буду шчаслівая, калі ты знойдзеш шчасце. І ў мяне ёсць наша дачка. Не хвалюйся, спраўлюся, я двужыльная, ты мяне яшчэ не ведаеш.

Міхась падумаў: а і праўда, ён яе не ведаў, прымірэнча сказаў:

— Ды не гавары глупства, я думаю, у нас усё ўладзіцца,— намерыўся абняць, прылашчыць яе, але Іра рашуча адштурхнула руку, паглядзела амаль з нянавісцю.

— Не трэба, Міхась! — строга сказала яна.— Не трэба фальшу. Страшна, калі між блізкімі людзьмі закрад-

ваецца фальш, фальш, як іржа, раз'ядае душы. Не трэба! Ідзі, Міхась, ідзі! Я сама падам на развод...

— Ты мяне гоніш? — змрочна сказаў ён і раптам з пакутлівай яснасцю зразумеў: гэта ўсё!

— Не ганю, а прашу,— і, падумаўшы, дадала: — Лічы, што ганю,— потым паправілася: — Я ніколі цябе не абманвала, я на самай справе хачу, каб ты пайшоў...

— І нікуды я не пайду!

— Я сама мо з'ехала б, але куды падзенуся... такая ды з дзіцём на руках? Мне больш, чым табе, патрэбна страха над галавой. Не даводзь, Міхась, да той мяжы, калі мы можам стаць жорсткімі і несправядлівымі...

Пасля той размовы ён памалу стаў звыкацца з думкай, што, мусіць, і праўда без разводу не абысціся. Пачынаў уяўляць, як не будзе штодня прыходзіць у звыклую і ўтульную кватэру, не бачыць Верачку, ды і Іру таксама — і нешта нібы абрывалася ўсярэдзіне, пачынаў суцяшаць сябе: і ніякага разводу не будзе, канечне, яна адумаецца, усё ўладзіцца, усё прытрэцца...

Не ўладжвалася, не прыціралася. Праз месяц Іра сказала тыя абразлівыя, крыўдныя словы:

— Ды ў цябе самалюбства няма! Ці мо збіраешся судзіцца, дзяліць транты? Забірай усё, толькі ідзі з воч маіх! Я ненавіджу, больш не магу-у-у...— Упала на падушку і затрэслася ад слёз. Ён ніколі не бачыў, каб яна так плакала — адчайна, няўцешна, трагічна. І зразумеў — адцягваць няма сэнсу.

Падаў заяву на звальненне, рашыў паехаць далёка-далёка, а куды — сам не ведаў. Звальняць нізашто не хацелі, але як толькі прызнаўся, што разводзіцца, непрыемна здзівіліся, спрабавалі адгаворваць, а калі зразумелі, што ўгаворваць дарэмна, перасталі падаваць руку, наогул заўважаць і праз тыдзень выдалі разлік. Галоўны бухгалтар — дзябёлая жанчына гадоў пад сорак пяць пры ўсіх, нібыта тут яго і не было, сказала: гэтага нягодніка трэба было не па «ўласнаму жаданню», а турнуць у тры шыі ды

запісаць, каб толькі ў турму мог пападацца з такім запісам.

Карцела крыкнуць гэтым, па сутнасці, добрым і сардэчным жанчынам: «Як лёгка вам судзіць аб усім! Як лёгка рашаць за другіх! Як усё проста і зразумела! Нібы ў кіно. А ці заўсёды ўсё так проста і зразумела? Гэта вам не кіно, гэта вам не бязглузды раманчык, дзе ў нягодніка на лбе напісана, што ён нягоднік!»

Але не абурыўся, не крыкнуў. Яму было сорамна, невядома чаму, але сорамна. Апраўдвацца, нешта даказваць гэтым жанчынам проста не хапала смеласці. Зрэшты, які сэнс, якое значэнне маюць зараз апраўданні? Яму цяпер усё роўна — хай што хочуць, тое і думаюць. Скамячыў у руцэ грошы, гідліва кінутыя касіркай, вінавата і жаласліва сказаў: «Шчасліва вам заставацца», уціснуў галаву ў плечы, выйшаў за парог і пакрочыў па разбітай грузавікамі вуліцы...

— Музыкант! Вальц! Вальц для маладых! — закрычаў захмялелы сват.— Танцуем! Усе танцуем! Пачынаюць маладыя!

У свата пасля шматлікіх «саладжэнняў» памалу стала праходзіць былая скаванасць, ніякаватасць, і зараз ён ужо адчуваў сябе гаспадаром застолля. Разварушыліся і госці.

Музыкант узяў песню і п'яным голасам, фальшывячы мелодыю і словы, зацягнуў:

— В-а-альс устар-эў, гавары-ыць коя-хто смя-ясь,
Век усма-а-атрэ-эў ў ём адстала-асць і ста-а-арасць...

Міхася скаланула: гэта ж любімая Ірына песня! Бывала, круціць ды круціць гэтую пласцінку, а то пачынае падпяваць — ладна ў яе выходзіла. То раптам надыдзе нейкая дураслівасць — пачынае тузаць і з капрызнай жаласлівасцю прасіць: «Ну, Міхаська, ну, Міхаська, давай патанцуем...» Ён для прыліку аднекваецца, потым паддаецца яе настрою — і кружацца, кружацца, захмялелыя

ні то ад гэтай прыгожай і ўзнёслай мелодыі, ні то ад свайго маладога шчасця. Пласцінка канчаецца — Іра перастаўляе спачатку, і кружацца-кружацца, пакуль стомленыя не падаюць на канапу, па-змоўніцку смяюцца.

Іра... Ён і па сённяшні дзень не ведае дакладна, кахае яе ці не. З ёю было невыносна, без яе стала немагчыма.

І жаніцца надумаў з Любай, каб адкараскацца ад гэтай немагчымасці. І, мусіць, не ўдасца адкараскацца. Няўжо да скону дзён?! І зноў зашчымела, аддалося ў сэрцы тупым болем.

Музыкант цягнуў бязладна, і Міхась ніяк не мог патрапіць у такт з Любаю. Яна не слухалася яго рукі, танцавала цяжка.

Не тое, што Іра...

Зрэшты, хіба можна як-кольвек ладна танцаваць, калі так здзекуюцца над мелодыяй, так фальшывяць?!

А мо фальшывіць не адзін музыкант? Фальшывіць сват, фальшывяць госці... Фальшывіць ён сам, фальшывіць Люба, фальшывяць перад сабой, фальшывяць перад усім светам.

Хоць бы змоўк, перастаў гарланіць гэты п'яны безгалосы саліст!

Але, на жах, саліст, дамучыўшы песню да канца, пачаў яе спачатку.

Каб хоць трохі супакоіцца, спрабаваў проста не заўважаць ні музыкі, ні спеву, як гараджане не заўважаюць вулічнага шуму. Кінуў позірк на Любу — і нечакана нейкі востры боль кальнуў у сэрца: якая яна не такая! Як яна не падобная на Іру! Нават звонку. Іра — маленькая, якраз яму да падбародка, з кароткай хлапечай стрыжкаю... Люба — высокая, стройная, аднаго з ім росту, доўгія бялявыя мяккія валасы зараз акуратна ўбраны пад вэлюмам, а так — пасмамі падаюць на плечы... Іра — адкрытая, непасрэдная, з па-дзіцячы здзіўленымі вачыма. Нейкае мяккае, добрае святло так і струменіцца з іх. Нават бяда не змагла патушыць гэтага здзіўленага святла...

Зеленаватыя Любіны вочы здаюцца халоднымі, строгімі і сумнымі. Ён памятае іх вясёлымі хіба ў дзяцінстве... І ўвогуле, у адрозненне ад Іры, Люба, стрыманая, строгая, мусіць, трохі хітраватая і скрытная, умее валодаць сабой і сваімі пачуццямі. Пэўна, і здзівіць яе нічым немагчыма, не кажучы, каб вывесці з раўнавагі. А мо і добра мець такі характар? Вось і цяпер, быццам і не заўважае нічога, хоць, пэўна, на душы скрабуць кошкі. Іра на яе месцы, канечне, не вытрымала б. Іра лёгка паддаецца настрою, Іру лёгка збянтэжыць, пакрыўдзіць, нічога не варта перакапаць у чым-небудзь. Хоць... хоць у апошні месяц ён не пазнаваў яе... Люба, наадварот, упартая да неразумнага, нават злапомслівая: каб толькі па яе! Во і з гэтым вяселлем...

Ат, зрэшты, што ні робіцца — робіцца да лепшага!..

Яму заўсёды прыносіць супакаенне гэтая мудрасць. Пачутая даўно (сам не памятае ад каго), яна стала нечым накшталт талісмана. Гэтая мудрасць ратавала ў цяжкія хвіліны, не давала патухнуць праменьчыку надзеі. Праходзіў час — і ўсё спраўджвалася. Ну, напрыклад, не паступіў у медыцынскі — набыў спецыяльнасць па душы, правароніў сваю чаргу на размеркавальную камісію, як хлопцы казалі, прыйшоў на шапачны разбор — і адхапіў такое месца, такую работу. Каб пайшоў па чарзе — хто ведае, куды трапіў бы. Альбо... не згаджалася Люба — спаткаў Іру. Хоць... тут здарылася асечка... Няўжо Люба — яго лёс?! Няўжо Іра — было памылкай?!

Яго стаў апаноўваць страх, і выратавальная формула «што ні робіцца — робіцца да лепшага» не прыносіла аблягчэння. О, каб гэта да лепшага!

Музыка стаміла ўсіх, і зноў пачалі ўсаджвацца за сталы.

Міхась яшчэ раз зірнуў на Любу, засяроджаную, абыякавую да ўсяго — і яму кінулася ў вочы, што за гэтым знешнім спакоем, за гэтай абыякавасцю ў яе душы адбываецца напружаная, адчайная барацьба. І ён занепакоіў-

ся: аб чым яна думае, што з ёю? Аднак супакоіў сябе: якое гэта мае значэнне, што ад гэтага пераменіцца...

Не трэба было ніякага вяселля, з горыччу думала Люба. Але хто мог падумаць, што ўсё так павернецца? Хто мог падумаць, што вёска не прыме гэтага вяселля? Хто мог падумаць, што нават Міхасёвы сваякі, нават яе школьныя сяброўкі будуць цурацца? Чаму яны так? Што зрабіла яна ім благога? Што брыдкага ў яе замужжы? Няўжо мала хто выходзіць замуж за разводніка? Хіба яна разбівала Міхасёву сям'ю? Міхасёва сям'я распалася без якога б там ні было яе ўдзелу. Яна і ў вочы не бачыла Міхася з таго часу, як ён ажаніўся, і, па праўдзе кажучы, нават забылася, што ён існуе. Чаму ж такія несправядлівыя людзі? Няўжо іх задаволіла б, каб з'явілася яшчэ адна Антоля? Але ж і да той няшчаснай Антолі яны былі несправядлівыя!

Мала хто памятае дакладна, што здарылася, бо было даўно — яшчэ пры Польшчы. Расказвалі толькі: у маладой, вельмі прыгожай тады Антолі нешта здарылася з жаніхом — ні то застрэлілі, ні то сам застрэліўся ў арміі. Колькі сватоў пасля ні прыходзіла — на парог блізка не пускала, сама нікуды не выходзіла. Праходзіў час — і перасталі пасылаць сватоў, а потым і ўвогуле забыліся пра Антолю. Тым больш што жыла яна з вярсту ад вёскі, насупраць могілак, лічы што на могілках. Ніхто асабліва і не заўважыў, як памерлі Антоліны бацькі і яна засталася адна. Як і бацькі, Антоля была нелюдзімая — бадай, ніхто ніколі яе не бачыў у вёсцы, і яна не хацела нікога бачыць. Толькі калі хавалі каго ці на раданіцу хадзілі на могілкі, маглі ўбачыць яе строгую чорную постаць, якая шмат у каго выклікала страх. Калі хто выпадкова сустракаўся з Антоляй і пачціва вітаўся, яна незадаволена бур-

чала нешта па-польску і ішла сваёй дарогай. Мабыць, з-за таго, што Антоля жыла амаль на могілках, для вёскі яна была нечым накшталт жывога нябожчыка.

З гадамі Антоля зусім адзічэла. Нават калі ў вёсцы арганізоўваўся калгас, не пайшла да грамады. Так і засталася аднаасобніцай на сваім невялічкім агародзіку ў трухлявай хацінцы, якую штогод з верху да нізу абмазвала глінай.

Люба добра памятае прыгорбленую страшную Антоліну постаць. Яны, падшыванцы, часта праходзілі паўз могілкі, і сёй-той са смялейшых запускаў у Антоліну мазанку агрызкам яблыка ці каменьчыкам. Адразу ж выходзіла Антоля, нічога не гаворачы, сумна і ўважліва глядзела на дзятву, а яны з усіх ног імчалі аж да вёскі.

Праз некалькі гадоў ці то ад старасці, ці то ад бяскорміцы паздыхалі Антоліны козы, а потым некуды знікла і яна сама. Мо праз тыдзень, а мо і болей нехта здагадаўся заглянуць у мазанку — і з жахам пабег клікаць людзей...

Няўжо яны хочуць, каб і я паставіла мазанку? От людзі, ото ж і людзі!..

А мо яны не могуць забыцца пра Віктара? Тады сёй-той адкрыта пагаворваў: толькі яна вінаватая. Маўляў, не трэба было падбухторваць, трэба было ўтрымаць...

Але ці ж вінаватая яна?! Ці ж яна хацела? Хоць, канечне, мо і вінаватая. Сама перад сабою вінаватая. Сабе ніколі не даруе. Сама сабе! Больш яна ні ў чым не вінаватая, ні перад кім не вінаватая. Хто ж мае права так жорстка, так несправядліва судзіць яе?!

Летась мінула дзевяць гадоў, а яна ўсё не можа забыцца... І па сённяшні дзень іншы раз здаецца, што гэта нейкі кашмарны сон. Але... на тутэйшых могілках — Віктарава магіла...

Штогод васемнаццатага чэрвеня — у чарговую гадавіну трагедыі — Люба прыязджае ў Беражкі, быццам бы наведаць сваю школьную сяброўку Ганну Яваровіч. Ганна пасля школы нікуды не паступала, пайшла даяркай на ферму, выйшла замуж за Івана Яваровіча, нарадзіла ўжо чацвёра дзяцей, завочна скончыла сельгасінстытут, зараз загадвае буйным жывёлагадоўчым комплексам. Летась за сваю работу атрымала ордэн. Ганна заўсёды ў клопатах, але робіць усё смеючыся, проста і лёгка, у яе, сапраўды, усё ў руках гарыць. Тым не менш, Люба не хоча замінаць ёй, нават рада, што ў Ганны няма вольнай хвіліны. Ганна, вінавата просячы прабачэння, бяжыць на ферму, а яна пад выглядам «прагуляюся» ідзе звычайна на той луг па-над Нёманам...

І так з году ў год...

Быццам нічога не мяняецца на тым лузе. Кожны год аднолькава буяюць рамонкі. Няма толькі Віктара...

Яна падае ніц у рамонкі і, каб ніхто не бачыў, дае волю слязам, выплаквае ўсю горыч, што накапілася за год.

Калі наплачацца, робіцца лягчэй. Тады, супакоеная, ідзе на бераг Нёмана, глядзіць доўга, задуменна і невідушча на яго быстрыню. Наглядзеўшыся, вяртаецца назад, не спяшаючыся, ірве кветкі, пакуль не нарве вялізны букет, выбіраючы самыя прыгожыя і свежыя. Потым, крадучыся, быццам робіць нешта брыдкае, ідзе да густа зарослых хмызам недагледжаных беражкоўскіх могілак, мінае дзірку ў гнілым паўразваленым плоце. Пад двума соснамі — іх відаць здалёк — Віктарава магілка. Звыкла адчыняе брамку, гаворыць: «Ну, добры дзень, Віктар! Вось і я. Як ты тут?» Пастаяўшы трохі, пачынае вырываць траву, выкідваць з-за абгародкі розны друз, счышчае са сціплага цэментнага помніка з крыжам зялёны мох, які ў засені бэзавага куста неймаверна разрастаецца, лезе ўверх — таго і глядзі, схавае пад сабою надпіс «Віктар Сцяпанавіч Яловік», як схаваў ужо дзве чатырохзначныя лічбы, напісаныя праз рысачку.

Калі ўсё прыбрана, даведзена да ладу, бярэ рамонкавы букет і са словамі: «Гэта табе, Віктар, з нашага лугу», кладзе кветкі на магілу, садзіцца на хісткую падгнілую лаўку і доўга-доўга думае пра сваё...

У суботу ў іх з Віктарам павінна было быць вяселле. Ужо знайшлі вясёлага, вопытнага свата, запрасілі дружка́мі, дру́жкамі хлопцаў і дзяўчат.

У сераду адпрасілася ў тэхнікуме і прыехала на вёску, каб паглядзець, як там рыхтуюцца. А калі папраўдзе, то ёй страшэнна захацелася пабачыць Віктара — во і ўся прычына, што прыехала за дзень раней, чым дамаўляліся.

Віктар не чакаў яе і вельмі ўзрадаваўся.

— Вы ж там не марудзьце доўга! А то бацька прыйдзе — то намануў бычка рэзаць... Халера ж яго ведае — гарачынь такая, каб не папсавалася,— заклапочана казала цётка Марыля, калі яны з Віктарам сабраліся на Нёман пакупацца.

— Мы ненадоўга, мама! — на хаду крыкнуў Віктар, бегучы за Любай.

Злавіў яе, падхапіў на рукі і, не зважаючы на прытворны піск, перасадзіў цераз плот, сам, абапёршыся рукою на штыкеціну, спрытна і лёгка адолеў агарожу. Наперагонкі, галёкаючы, як малыя, памчалі да дубровы, што падступала да самай кручы старога Нёманавага рэчышча.

Шмат гадоў таму назад Нёман адышоў кіламетры на два, і там, дзе ён некалі цёк, з цягам часу ўтварыўся цудоўны луг. Спачатку быў выган, а пасля залужэння, падкормкі салетрай, за што, дарэчы, калгас заплаціў немалы штраф, бо вясною ў разводдзе патруцілася шмат рыбы, урос высокай шаўкавістай травою. Асабліва прыгожым было адно месца недалёка ад берага: нібы хто знарок усеяў рамонкамі — буйнымі, свежымі, лапушыстымі.

На хаду распрануліся, пакідалі адзенне ў рамонкі, засталіся толькі ў купальніках, галёкаючы, пабеглі да ракі.

Мо з гадзіну плёхаліся, дурасліва пырскаліся. Віктар тройчы пераплываў на той бераг і гукаў яе. Яна была неважнецкая плаўчыха, як ні дзіўна, баялася вады, хоць і вырасла на Нёмане. Таму заходзіла толькі па шыю і нязграбна плыла назад да берага.

Віктар весела смяяўся, даваў нырца, прымушаючы яе хвалявацца — толькі праз хвіліны тры-чатыры яго галава паказвалася на сярэдзіне ракі, дзе булькала і вірыла быстрыня. Віктар нейкі час аддыхваўся, змагаўся з цячэннем, потым зноў ныраў — і цяпер галава паказвалася аж ля самага таго берага.

Калі целы пакрыліся «гусінай скурай», выйшлі на бераг, каб сагрэцца. Віктар паскакаў на адной назе, прыклаўшы далонь да вуха, каб вытрасці ваду. Потым, уцягнуўшы галаву ў плечы — бр-р-р,— стрымгалоў пабег да адзення, яна — за ім, смеючыся. Пападалі ў рамонкі, падставіўшы спіны спякотнаму сонцу.

Над лугам вісела паўдзённая спякота — той час, калі ўсё жывое хаваецца ў цень, перастаюць дзынкаць чмялі, нават конікі спыняюць сваё бесклапотнае трашчанне, і стаіць такая цішыня, што, здаецца, чуеш, як звініць мроіва. Толькі зрэдку на рацэ пачуецца рэзкі ўсплёск — пэўна, шчупак выплыў пагрэцца на пясчаную водмель, а заадно і паганяць драбязу, якая соннымі чародкамі збіраецца ля берага.

Неўзабаве стала прыпякаць у спіну. Павярнулася на бок. Віктар ляжаў усё у той жа позе, уткнуўшы твар у рамонкі. Яна ўважліва паглядзела на яго бронзавае ад загару цела, ад яго веяла сілай, маладосцю і яшчэ нечым, незнаёмым, таямнічым. Ёй нясцерпна захацелася дакрануцца да яго дужага цела, яно і палохала, і прыцягвала, як магніт. Ціхенька вырвала былінку і, затаіўшы дыханне, стала казытаць па Віктаравай спіне. Ён, не адкрываючы твару, махнуў рукой — падумаў, што на самай справе поўзае нейкая казяўка ці муха.

— Ха-ха-ха-ха! — навалілася на яго Люба.

— Ах ты, хуліганка! — ласкава крыкнуў Віктар, рыўком пераварочваючыся на спіну, абхапіў яе рукамі, стаў цалаваць, і з кожнай хвілінай яго пацалункі рабіліся ўсё больш гарачымі і шматзначнымі.

Люба, перамагаючы незразумелы страх, прадчуванне незвычайнага, прытулілася да яго яшчэ вільготных грудзей, трацячы разважлівасць, з нейкім утрапеннем стала цалаваць у лоб, у шчокі, у шыю, адчула, як хмялее, стукае кроў у скроні, і гэты п'яны, не падуладны розуму хмель аддаецца ў кожнай клетачцы яе істоты. А Віктар, жаданы, прыгожы, дужы, асыпаў, асыпаў пацалункамі яе шыю, грудзі, што не заўважыла, як яны выбіліся з-пад мокрага купальніка; кружылася галава, прайшла нейкая сутарга, захопліваючы дыханне, яна зразумела, што гэта абуджаецца яе цела. Падумала: няма сэнсу, ды ўжо і не мела сіл супраціўляцца таму, што ўсё роўна павінна здарыцца...

...А над зямлёй усё яшчэ вісела і звінела мроіва. Але неўзабаве сонца пахілілася на захад, раптам радасна і натхнёна затрашчалі конікі, і, здавалася, паветра, усё наваколле ператварылася ў адну буйна-неўтаймаваную мелодыю. А ўвысі над гэтым светам бесклапотна павіс, заліваючыся сваім спевам, шэранькі званочак-жаўрук. І было нешта незвычайнае, загадкавае, таямнічае ў яго сціплым і простым звоне...

Яны ляжалі стомленыя, маўклівыя, быццам вінаватыя перад самім сабой, перад некім яшчэ. І ні адзін не рашаўся парушыць гэтую дзівосную сімфонію прыроды, бо, пэўна, кожны адчуваў, што нават самыя важныя словы тут будуць лішнімі.

У такія хвіліны не думаецца пра небяспеку, пра бяду. У такія хвіліны думаецца пра бясконцасць, вечнасць шчасця. І між тым яна, бяда, была побач, не далей, чым жучок, што рупліва, варушачы чорнымі вусікамі, поўзае па зніклай рамонкавай галоўцы.

Люба прапанавала пакупацца. Віктар, трохі саромеючыся ці то вінаватага, ці то насмешлівага яе позірку, пад-

хапіў яе на рукі, і калі Люба даверліва і шчасліва прытулілася да грудзей, дурасліва загушкаў яе на руках, знарок паказваючы сваю сілу. Ля берага адпусціў, а сам з гарэзлівым крыкам «глядзі!» разбегся і даў нырца з кручы.

Яна са здзіўленнем, потым з трывогаю глядзела: чаму ён не выплывае? Нарэшце, далёка справа на сярэдзіне ракі яго раз, другі, трэці падкінула цячэннем. Віктар быў нейкі вялы, бездапаможны.

Люба спачатку нічога не зразумела, паклікала: Віктар! Віктар! Галава яго схавалася зноў, кінуліся ў вочы ружовыя плямы на вадзе. Кроў! Яна анямела ад жаху, аднак яшчэ не верыла... Не памятаючы сябе, кінулася ў ваду, зразумела: не даплыве, трэба забегчы наперад па беразе. Выскачыла, ірванулася ўправа па грудку. Хацелася крычаць, клікаць некага на дапамогу, але чамусьці не было голасу.

Зносіла цячэннем, яна выбівалася з сіл, намагаючыся плысці хутчэй, адчувала, што дзеравянеюць рукі, не хапае паветра, але ўсё плыла і плыла, не разумеючы, што плысці няма ніякага сэнсу. Віктара не было відаць... Ледзь жывая выкараскалася на бераг і толькі цяпер зразумела жахлівасць усяго, што здарылася. Знайшоўся голас, залямантавала дзіка і, забыўшыся пра адзенне, кінулася да вёскі.

Луг быў бязлюдны, да вёскі — далёка, ніхто не мог учуць яе крыку...

Віктара вылавілі пад канец наступнага дня ў дзесяці кіламетрах па цячэнню. Калі ныраў, ударыўся галавою аб нейкую карчажыну...

У суботу былі памінкі. Такіх памінак ніколі яшчэ не было ў Беражках. Ніхто не памятае ў Беражках, каб рыхтаваліся да вяселля, а зрабілі памінкі.

Калі ўбачыла ў труне нежывога, з забінтаванай галавой Віктара, адразу ж стала кепска, і жанчыны амаль беспрытомную завялі дахаты, паклікалі ўрача. Яна не памятае, што было далей, не бачыла, як пахавалі Віктара...

А неўзабаве адбылося тое, чаго не даруе сабе да скону дзён.

Са страхам і радасцю заўважыла, што яна можа стаць маці. Спачатку не верыла, а к сярэдзіне жніўня — не было сумненняў. Нікому нічога не казала, і толькі ў верасні, калі пасля канікул прыехала ў тэхнікум, раскрыла свой сакрэт дзяўчатам, з якімі жыла ў інтэрнацкім пакоі. Тыя спалохаліся:

— Што ж будзе?!

— Сын будзе,— спакойна сказала яна.— Будзе падобны на бацьку, назаву яго Віктарам...

— Як жа так?! — яшчэ больш напалохаліся дзяўчаты.— Табе ж замуж трэба! А з дзіцём? Ты разумееш?!

— Усё разумею, дзяўчаткі,— задуменна адказала Люба і нават здзівілася: а чаго гэта яны хвалююцца?

— Табе ж толькі дзевятнаццаць,— не адступалі дзяўчаты.— Пакахаеш каго — і забудзеш. Колькі выпа-аадкаў!

— І нічога вы не разумееце, дзяўчаты,— з жалем паглядзела на іх Люба.— Я буду любіць так свайго Віктара Віктаравіча, што, апроч яго, мне ўжо ніхто не будзе патрэбны...— і пяшчотна ўсміхнулася, уяўляючы, як будзе цешыцца, забаўляцца з маленькім карапузам, бы дзве кроплі вады падобным на Віктара. А па начах з затоенай трывогай прыслухоўвалася: чаму ён не варушыцца?

— Дзіцяці бацька патрэбны,— даймалі дзяўчаты.— Віктара не падымеш...

Ёй было смешна з іх клопатаў, іншы раз узлавалася б, паказала, як совацца ў чужыя справы, а цяпер ведала, што хвалявацца ёй шкодна, таму прапускала паўз вушэй іх недарэчныя трывогі, сама здзіўлялася, што стала глядзець на сяброўак, як глядзіць сталы, умудроны жыццём чалавек на жаўтаротую блазноту.

Потым зайшла «пагутарыць па душах» Жэнька, якая мела вопыт у гэтых справах. Мусіць, дзяўчаты сказалі па сакрэце і папрасілі «абразуміць неразумную».

Жэнька, нягледзячы на свае дваццаць два гады, была дзеўка кручаная: паспела двойчы пабыць замужам і пасля ўсяго ўжо зрабіць тры аборты. Пры тым не саромелася аб гэтым гаварыць, ахвотна расказвала пра свае шматлікія прыгоды кожнаму, хто толькі быў гатовы слухаць.

— У цябе што, глуздоў няма? — з ходу накінулася яна.— Падумаць толькі: звязаць сабе рукі, загубіць маладосць! А яна, дарэчы, толькі раз даецца. А ты што? — пакруціла пальцам ля скроні.— Ды з тваёю вывескай! Толькі свісні — як крумкачы накінуцца! Хочаш — у загс вядзі, хочаш — уцяшайся, усё роўна адзін адказ...

— Жэнька!

— Што Жэнька?! У бальніцу ідзі, не будзь ідыёткай — во што Жэнька! Запусціш — не возьмуцца...— І, усміхнуўшыся паблажліва, па-змоўніцку падміргнула.— Гэта першы раз страшнавата і няёмка, а глянеш, што ты не адна такая — і хоць бы хны... Урачам, дарэчы, за гэта грошы плоцяць, праз іх рукі, калі хочаш ведаць, штодзень па дзесятку такіх... праходзіць.

— Ідзі к чорту, Жэнька! Давай свае парады каму-небудзь іншаму,— абурылася Люба.

— Хм, ненармальная! — пакрыўдзілася тая.— Мне-то што — я пайду. Табе шурупіць трэба,— зноў пакруціла пальцам ля скроні і, пагардліва фыркнуўшы, пайшла прэч.

Але наперадзе была размова з маці. Яна аддала б усё на свеце, каб можна было пазбегнуць гэтай размовы. У маці хворае сэрца, і заўсёды, як толькі перахвалюецца ці пэратоміцца, пачынаюцца візіты ўрачоў, пакой напаўняецца пахам лякарстваў. Пасля Віктаравых памінак Клаўдзія Аляксееўна трыццаць дзён адлежала ў бальніцы. Акрыяла сяк-так, а тут...

Люба прыкладна ведала, што скажа маці: і замуж не пайшла, і ў дзеўках не засталася. Але ў глыбіні душы ўсё ж тлела маленькая надзея: а мо і зразумее? Каму ж зразумець яе цяпер, як не маці?

Клаўдзія Аляксееўна падазрона агледзела яе стан, спачатку не паверыла, потым збляднела, схапілася за сэрца.

— І адкуль столькі няшчасцяў звалілася на маю галаву! — хваравіта сказала яна.— А ты? Што ты думала?

Што яна магла адказаць? Ды хіба можа быць адказ, што яна думала...

— Мамачка, ды гэта ж шчасце, што Віктар пакіне пасля сябе сына — нездарма жыў...— і асеклася, убачыўшы, што маці не ўспрымае яе словы, глядзіць здзіўлена, як на вар'ятку, дрыжачымі рукамі не можа ўправіцца з цюбікам валідолу. У Любы сціснулася сэрца: не трэба было хваляваць, не трэба было нічога казаць. Але каб гэта можна было не казаць?!

— Што ты тады думала? Што ты тады думала? — з роспаччу паўтарала маці і, паклаўшы таблетку пад язык, прашапялявіла: — Калі гэта ў вас было?

Ёй быў непрыемны і брыдкі гэты допыт, а маці не ўнімалася:

— Чаго маўчыш? Што ты сабе думала?

— Нічога не думала! — узарвала Любу.

— Яно і відаць, што ні аб чым не думала,— глуха сказала маці.— Цяпер сама сябе за локаць укусі...

— Я ні ў чым не дакараю сябе, мама. Я кахала і кахаю Віктара. І адна мне ўцеха — наш сын. А ты ведай ад мяне, а не праз якія брудныя плёткі.

— Так асароміцца! Так асароміцца! — больш для самой сябе, чым для Любы, абуралася Клаўдзія Аляксееўна.— З дзевятнаццаці гадоў пацягнуцца...

— Мама!

— Што мама? — бязлітасна-строга глянула Клаўдзія Аляксееўна.— Заўтра ж пойдзеш да ўрача!

— Нікуды я не пайду,— вытрымала гэты позірк Люба.

— Што-о?! — У матчыных вачах мільгануў спалох.— Паглядзіце на яе, паглядзіце! Ні ўдава, ні дзеўка! Як ты людзям у вочы глянеш? Як я, твая маці, пагляджу людзям

у вочы? Не-е, ты мяне проста рашыла загнаць у магілу. Дзякуй, дачушка. Выгадавала, называецца... Яна мне сабралася падаруначак у прыполе прынесці...

— Мама, разумны зразумее, дурню — усё роўна нічога не дакажаш,— памяркоўней, але стаяла на сваім Люба.

— Значыць, і я, твая маці, і ўсе навокал — дурні, адна ты — разумная?

— Не распусніца ж я якая...— адчайна абаранялася Люба.

— А хто ты? Мо скажаш: у капусце знайшла? Ці мо ад святога духа?

Матчына абраза не прыставала да Любы. Проста было да болю крыўдна, што маці разважае прыкладна так, як і дзяўчаты, для якіх усё проста і ясна. Горш таго — як Жэнька, распусная і цынічная Жэнька. І як гэта ні дзіка, на іх баку ёсць нейкая горкая і жорсткая праўда. На самай справе, на яе, Любу, будуць пальцам тыцкаць: во распусніца, байструка нагуляла. А ў блудлівай Жэнькі на лбе нічога не напісана... Распусная Жэнька можа знайсці ого якога жаніха! Такія на зайздрасць сціплым і прыстойным дзяўчатам часцей за ўсё і знаходзяць, ды яшчэ якіх жаніхоў знаходзяць! А на такіх, як яна, нават на яе дзіця бруднай плямай ляжа ганьба. Быццам даць жыццё новаму чалавеку — брыдкі, непрыгожы ўчынак, а загубіць будучае жыццё — прыгожы ўчынак. Аднак... Аднак, хочаш не хочаш, а кожны задумаецца: як гэта магло стацца, што і замужам не была, а дзіцё прыдбала? Што скажуць сваякі, таварышы, сябры, калі ўбачаць, што ўзяў жонку з прычэпам? Павагаецца-павагаецца і пойдзе да Жэнькі, у якой на лбе нічога не напісана. Вось і ўся праўда.

Людзі, якая ж тут праўда?! Хіба такое можа быць праўдай?!

Увесь дзень Люба не знаходзіла сабе месца. Потым, супакоіўшыся, стала думаць, каб як-кольвек зразумець маці: а мо ўсё ж ёсць нешта слушнае ў гэтай жорсткай несправядлівасці? Мо была свая мудрасць у продкаў, калі

ўзводзілі ў культ, у прынцып дзявочую цнотнасць? Мабыць, фальш і яшчэ раз фальш у разважаннях розных «разумнікаў» і «разумніц» аб эмансіпацыі, архаічнасці, фармальнасці паняцця «дзявочая нявіннасць», аб свабодзе, па сутнасці, неабмежаванай, а таму ўжо не свабодзе? Мабыць, наскрозь фальшывыя сучасныя літаратурныя гераіні, якія ў сваім каханні ці проста захапленні падобны на машыны без тармазаў? Не-е, без тармазаў нельга, без тармазаў наробіш бяды...

Але ж нельга ўсіх мераць на адзін капыл! Але паспрабуй, дакажы некаму, на які капыл цябе трэба мераць! Крычы, хоць расперажаыся крычы: я харошая, я нявінная — не паспачуваюць, памелюць удосталь языкамі, пасмяюцца...

Маці была сваім чалавекам у паліклініцы, і на трэці дзень сама ўзялася суправаджаць «неразумную» дачку да акушэра-гінеколага...

Тады Люба, разгубленая, прыбітая, была як у тумане, яна і не здагадвалася, што гэты ўчынак будзе лічыць самым вялікім сваім маральным падзеннем, за якое давядзецца разлічвацца ўсё жыццё. Тады ёй, дурной, разгубленай, ніхто не растлумачыў, чым усё можа гэта скончыцца...

З бальніцы выйшла праз два дні канчаткова спустошанай, злою на ўвесь свет. Адчувала, што нешта надламалася ў яе жыцці, яно згубіла ўсялякі сэнс, стала бясколерным, нават прыкрым. Думала, з цягам часу ўсё пройдзе, але ішлі месяцы, гады, нічога не хацела мяняцца.

У першы час яна, вядома, цікавіла хлопцаў. Да прыгожай дзяўчыны хлопцы хінуцца, як матылькі да святла. Але хлопцы зусім не цікавілі Любу, да іх у яе была нейкая ледзь не паталагічная нянавісць. Разумела, што гэта не толькі неразумна, а ненармальна, прымушала сябе перамяніцца, прыгадваючы жудасную чорную Антоліну постаць, і толькі пасля гэтага без усялякай ахвоты некуды ішла, з некім сустракалася.

Але на душы было пуста і холадна-холадна.

Пасля адной-двух сустрэч хлопцы, якія прызначалі спатканні, заўважалі гэты холад, палохаліся — на тым і канчаліся залёты.

А тым часам равесніцы так ці сяк пазнаходзілі сваіх суджаных, павыходзілі замуж, прыдбалі дзетак — і ім стала не да забаў. Дом культуры, парк, танцпляцоўку запаланілі ўчарашнія няўклюдныя дзяўчаткі-падлеткі, якія заўсёды вырастаюць непрыкметна, нечакана, і Любе стала ніякавата хадзіць на танцы, не кажучы ўжо, каб вадзіць дружбу з малалеткамі. Толькі, бывала, як дойме невыносная туга і жах, навеяны чорнай Антолінай постаццю, ідзе ў Дом культуры. Пасядзіць сцішана ў куточку, іншы раз за ўвесь вечар так ніхто і не запросіць на танец. Хіба які падгулялы жанацік. Але і падгулялыя жанацікі не надта кідаюцца да строгіх, пераспелых дзевак-векавух. Трэба самой пабыць, каб да канца зразумець, наколькі страшнае, абразлівае гэтае слова — векавуха.

Адно збавенне — работа, вучоба, кнігі. Каб не ўсё гэта, пэўна, даўно звар'яцела б доўгімі, нуднымі вечарамі. Работа была для яе — усё, рабоце аддавала ўсю сябе без астачы, і гэта прыносіла задавальненне. Спачатку была рахункаводам, затым — бухгалтарам, а калі ў графе аб адукацыі мела права пісаць «незакончаная вышэйшая», узначаліла групу, а праз год прызначылі галоўным бухгалтарам. Адзін раз нават хацелі забраць у вобласць, але старшыня райспажыўсаюза — пажылы, з вечна пакутліва-стомленымі вачыма чалавек — зрабіў што толькі мог, каб не адпусціць. «Няма кім замяніць, будзе поўны завал у бухгалтэрыі...» — плакаўся ён перад начальствам. І ўважылі, дамогся свайго.

З аднаго боку, Люба пакрыўдзілася — ёй хацелася пераехаць у вялікі горад, з другога — было прыемна, што яе цэняць, без яе не могуць абысціся.

Аднак як добра ні складвалася на рабоце, як бы ні паважалі яе, Люба не магла ашукаць сябе, што для поў-

нага шчасця ў яе нечага не хапала. Асабліва востра і выразна гэта адчувала, калі вярталася ў свой акуратны, прыбраны, абстаўлены сучаснай і моднай мэбляю, але такі няўтульны і халодны пакойчык. А ў апошнія гады сталі па начах даймаць нейкія кашмары: то прысніцца, быццам забаўляецца пасярод беражкоўскага лугу, урослага дзівоснай прыгажосці кветкамі, з дзіцём — сваім сынам, якому не дала нарадзіцца; то раптам пасярод ночы раздаецца дзіцячы плач — і прачынаецца ў халодным поце, залазіць з галавою пад коўдру і трасецца ад жудасці.

А потым неяк позна вечарам завітаў Міхась. Пачуўшы яго голас, так узрадавалася, што нават забылася накінуць на сябе паліто ці плашч. Чаго ўзрадавалася — сама не ведае. Потым гэта прайшло... А ўсё ж, калі шчыра, было прыемна чуць яго тыя словы... Чаму ж тады не згадзілася распісацца? Мусіць, таму, што хацела мець час, каб прывыкнуць, пакахаць, забыцца пра былое. А калі праводзіла на аўтобус, як хацелася, каб у апошнюю хвіліну ён перадумаў ад'язджаць, вярнуўся, застаўся! Пэўна, у той жа вечар стала б яго жонкай. Але ён не даўмеўся застацца. Потым было позна... Чаму позна? Хто яго ведае — мо таму, што ў душы затаілася нейкая неразумная крыўда, нечым падобная на крыўду жанчыны, якую адверглі, якой пагрэбавалі. Канечне ж, яна выдатна разумела, што яе не адвяргалі, ёю не грэбавалі, а зусім наадварот — яна сама крыўдзіла, адштурхоўвала, вадзіла за нос Міхася, аднак гэтая дурная, неразважлівая крыўда была ўсё ж не апошняй прычынай, што і зімой, калі ён прыязджаў на некалькі дзён, думала адно, рабіла — другое. Хоць к таму часу была амаль гатова згадзіцца выйсці замуж: і Міхась ёй стаў не абыякавым, і начныя кашмары прайшлі, і Віктар успамінаўся ўсё радзей і радзей. З'явілася, стала амаль рэальнай надзея на сваё бабскае шчасце, нават на рабоце ў ёй заўважылі перамены, і каб не тая эгаістычная жаночая прыхамаць: і нікуды ён не падзенецца, пачакаем да лета, пэўна, усё было б па-іншаму...

3 Зак. 830

Летам даведалася, што Міхась ажаніўся, і зноў на тры гады стала пуста і глуха.

А потым быў Аляксей...

Яна спаткала яго выпадкова, калі можна назваць выпадковай сустрэчу двух незнаёмых людзей у невялікім раённым гарадку. Чаму ён кінуўся ў вочы? Мо таму, што знешне вельмі нагадваў Віктара, толькі старэйшы. Спачатку падумала: мо які далёкі Віктараў сваяк? Сама зачапіла, сама завяла знаёмства...

Аляксей быў амаль на дзесяць гадоў старэйшы за яе, меў жонку і двое дзяцей. Ён прыехаў працаваць у іх горад і пакуль што жыў у гасцініцы. Вядома, ніякім сваяком Віктару не даводзіўся і ведаць яго не ведаў.

І само сабою сталася, што неўзабаве пачаліся іх асцярожныя спатканні. Яны, гэтыя спатканні, заўсёды пакідалі ў душы нейкі нядобры, абразлівы астой, але з другога боку — мелі трохі змоўніцкае, страшнаватае, што аж дух займае, свавольства, накшталт таго, як калісь у дзяцінстве, калі намервалася залезці ў чужы сад. І на нейкі момант забывалася на ўсё, была нават шчаслівая. Але толькі на момант. Звычайна ж яе думкі былі куды больш празаічныя, мо нават практычныя... Праўда, іншы раз прыгадвалася недзе вычытаная смешная думка, быццам бы адзінокая жанчына здольна віць сваё гняздо хоць на гадзіну, хоць на вулкане. Ну, чым яна не тая жанчына? А ўсё ж не тая. Яна не мела ніякага намеру віць сваё гняздо з Аляксеем.

Нейк, праводзіўшы да хаты, ён намякнуў: мо пара б ёй і ў госці запрасіць? Люба не сказала ні слова, дакладней, сказала ўсё сваім маўчаннем — яна чакала гэтага. Што думала, на што спадзявалася? Думала надзвычай цвяроза, ні на што не спадзявалася. Яна хацела толькі аднаго — нарадзіць сына ці дачку. Гэтае рашэнне выспявала даўно, для таго, шчыра кажучы, і заводзіла раман

з Аляксеем, суцяшаючы сябе свавольнай думкай: што-што, а ў яе ёсць нават нейкая перавага перад замужнімі — яна можа выбраць у бацькі свайму дзіцяці каго захоча...

Яна была пераканана, што клопаты аб маленькім, бездапаможным чалавечку напоўняць яе самотнае жыццё новым зместам, раз і назаўсёды пазбавяць ад дакучлівай адзіноты і начных кашмараў. Болей нічога ёй ад Аляксея не патрэбна. Ніколі і нізашто не дазволіць сабе адабраць бацьку ў дзяцей. Ды і ён таксама, мусіць, не змог бы пакінуць сваіх дзяцей сіротамі.

Але цікава, чаму ён, ужо не першай маладосці, сур'ёзны, салідны, муж і бацька, так лёгка пайшоў на гэтую сувязь? Запытацца б у яго... Ат, то яе не датычыць! Мусіць, самалюбства ўсіх мужчын яго ўзросту цешыцца ад аднаго ўсведамлення, што яны яшчэ здольныя закруціць галаву на дзесяць гадоў маладзейшай. Хай сабе цешыцца. Усё роўна яна прагоніць яго да сям'і, як толькі... І нічога не скажа, не дасць ніякай падставы здагадацца, чаму парывае гэтую сувязь назаўсёды. Ды і ён, пэўна, рады будзе, што так усё абышлося. Сказаць праўду? А навошта, каб яго мучыла сумленне? Яна, калі ўсё будзе ясна, звольніцца ці папросіць, каб перавялі куды-небудзь, і ён ні пра што не будзе здагадвацца.

Тры месяцы, месяцы надзей і расчараванняў, былі доўгімі, як тры гады. Потым, пераадольваючы сорам, пайшла ў жаночую кансультацыю, адтуль — на абследаванне ў бальніцу. Прысуд быў страшны, ашаламляльны: яна не можа стаць маці.

— Не адчайвайцеся — мо лячэнне, мо аперацыя...— супакойвала ўрач.

Усё рушылася, пераварочвалася, фарбавалася ў шэры колер, змрочны, бязлітасны. Яна заходзілася ад няўцешных слёз, праклінала сябе, маці, якая амаль сілком завяла тады...

Такою, усю ў слязах, застаў яе ўвечары Аляксей. Ён разгубіўся, зразумеў усё па-свойму, замітусіўся, спалохаўся так, што стаў заікацца. Ачомаўшыся, пачаў лісліва і вінавата супакойваць:

— Ну, кінь ты... Ну, перастань... Я, вядома, сваёй віны не здымаю, але ж... разумееш...— І, умольна гледзячы, прасіў: — Ты ў мяне разумніца... Ну, сходзіш... Ведаю, няёмка. Але што рабіць? Сама разумееш... Я...

Яна заморгала, нібы прачнулася, здзіўлена паглядзела на гэтага разгубленага, збянтэжанага чалавечка — і раптам аж скаланулася, зразумеўшы, у якую гразь сама сябе вымазала. Ён быў ненавісны ёй, і ўся іх блізкасць, якую так і не прывыкла выносіць без гідлівасці, зараз зрабілася паганай, паскуднай, кашчуннай.

— Вон! Пайшоў вон!

— Ну-у, што ты... Ну, што ты...— зусім разгубіўся Аляксей.— Ты-ы сёння не ў гуморы... Мо супакоішся — тады абгаворым усё дэталёва... Я зайду-у праз пару дзён...

— Вон! Каб мае вочы цябе не бачылі! Вон! — аж калацілася Люба.— Ты нічога тут не згубіў! Вон! Нам няма пра што гаварыць!

Ён, здалося, з палёгкаю выскачыў за дзверы, забыўшыся нават развітацца, а Люба два дні не магла прыйсці ў сябе, было такое пачуццё, быццам дакранулася да нечага слізкага, агіднага, як вужака,— мыеш і ніяк не можаш адмыць рукі.

Праз тыдзень Аляксей, заклапочаны, збляднелы ад перажыванняў, прыйшоў зноў. Нерашуча спыніўся ў парозе, пакутна топчучыся на месцы. Ён быў смешны, варты жалю. Спачатку яна мела намер нічога не казаць — хай трохі пахвалюецца, але перадумала: цяпер для яе нават яго хваляванні былі брыдкімі, абразлівымі.

Спачатку Аляксей, даведаўшыся праўду, зусім разгубіўся, не хацеў верыць, потым зразумеў — не хлусіць, узрадаваўся:

— Як цудненька! Як цудненька! Ай ды разыграла! Ай

ды разыграла! Цяпер нам нічога не страшна. Цяпер мы...— Распасцёр рукі і пайшоў на яе.

— Ну і нягоднік жа ты...— ціха, амаль абыякава сказала Люба, ухіляючыся ад яго абдымкаў. Яе абурала, абражала яго радасць, але нейкая глухая пустата ў душы адбірала сілы, іх не ставала нават для таго, каб абурыцца. Мо яна і стрымалася б, каб Аляксей здагадаўся, зразумеў, што ў яе на душы, аднак на радасці ён быў сляпы і глухі.

— Мярзотнік! Мярзотнік! Мярзотнік! — адно, што выгаворвала яна праз сцятыя зубы, стала біць па твары, схапіла за каўнер, што аж затрашчала адзежына,— і сама здзівілася, адкуль раптам узялося столькі сілы.— Вон! Вон!

Міхась заявіўся месяцы са два таму назад. Разгублены, прыгнечаны, сам не свой. Заявіўся і ледзь не [illegible] парога:

— Люба, калі не маеш нікога — выходзь за мяне замуж.

— Ды што з табою? — здзівілася і трохі збянтэжылася яна.— Што здарылася? Ты звар'яцеў ці п'яны?

Ён нервова патаптаўся на месцы, хаваючы ад яе вочы.

— Ды не п'яны я, Люба! І пакуль што ў сваім розуме...

— То што вярзеш? — У яе поглядзе было пытанне і насмешка.— Мо хоць распранешся...

— Ты згодна ці не? — Нейкая глухая, зацятая рашучасць чулася ў яго голасе, і гэтая рашучасць не падабалася ёй.

— Во, паглядзіце — жанішок аб'явіўся! Як снег на галаву, як па латарэі! А я-то думала, а я-то шукала... А тут на табе — такое шчасцейка прываліла! — Яна жартавала, але ў яе жартах былі дакорлівыя, нават злыя ноткі.— Чатыры гады назад хоць у каханні прызнаваўся, а цяпер — адразу быка за рогі. Сучасны мужчына! Дальбог, Міхаська, цябе прадзьмула не тым скразнячком. Выпі вадзічкі, супакойся...

Міхась не хацеў прымаць яе іроніі і, не пераменьваючы ўзрушанага тону, стаяў на сваім:

— Люба, можаш насміхацца, лічыць мяне вар'ятам, але я сур'ёзна...

Яе стаў раптам душыць нейкі дурны смех, да слёз, да колікаў, і за гэтым смехам пачала адчуваць дзіўную неасэнсаваную радасць.

— Ты ж, наколькі мне вядома, маеш ужо жонку. Ці мо захацеў займець цэлы гарэм, як той султан?

— Люба, перастань! — патрабавальна і панура сказаў Міхась, і яна адразу ж перастала смяяцца, здагадваючыся, што ў яго здарылася нешта сур'ёзнае.

Ён моўчкі распрануўся, павесіў плашч на вешалку і раптам здаўся такім бездапаможным і пакрыўджаным, што ў яе зашчымела сэрца.

— Ну, сядай, Міхась, расказвай,— сказала памяркоўна і, каб змяніць тэму, якая цяпер стала недарэчнай, бязглуздай, дадала: — Колькі ж мы з табою не бачыліся? Здаецца, гады чатыры...

— Так, каля чатырох,— неахвотна пацвердзіў ён і, схамянуўшыся, прапанаваў: — То давай мо вып'ем за сустрэчу? Я тут прыхапіў...

Каб гэта быў не Міхась, а хто-небудзь іншы, яна пакрыўдзілася б, мо нават абурылася б, што прынёс з сабою бутэльку. Бывала, не зважаючы на пратэсты, прынасіў шампанскае ці віно Аляксей. У мужчын, кажуць, такая завядзёнка: да палюбоўніц хадзіць са сваёю выпіўкай. На Міхася яна не магла ўзлавацца, аднак і не магла стрымацца, каб не папікнуць:

— Ты, мусіць, думаеш: жыву так, што для госця кроплі не знойдзецца? Ці мо думаеш, што на бутэльку — мне не па кішэні выдаткі? Ці мо за парогам стаіць сват? То кліч яго сюды, сватам мы рады...— Гэта атрымалася ў яе з'едліва, жорстка. Міхась збянтэжыўся.

— Даруй, Люба. Я не падумаў, што ты пакрыўдзішся.

Калі селі за стол, ён адным глытком апаражніў кілі-

шак, адразу ж наліў і выпіў яшчэ, толькі пасля гэтага ўзяў кавалачак хлеба. Па тым, як заняло дых, як паморшчыўся, Люба зразумела, што ён не ахвочы да гарэлкі, выпіў, каб уняць сваю збянтэжанасць і хваляванне, і пашкадавала: не трэба было так жорстка.

— Раскажы, Міхась, як жывеш — мы ж з табою сто год не бачыліся,— каб разрадзіць атмасферу, лагодна сказала яна.— Дзе ты цяпер прападаеш, як работа, сям'я, жонка? — І тут жа схамянулася: навошта ляпнула пра жонку? Ён з парога даў зразумець — нешта няладнае...

— Была жонка — і няма жонкі...— панура сказаў ён і пасля паўзы дадаў: — Паўгода, як развяліся...

— А што сталася? Чаму?..— зноў асеклася, зразумеўшы, што пытанне яе зараз нетактоўнае, хоць і страшэнна хацелася даведацца, чаму ён развёўся з жонкай, якую хвалілі нахваліцца не маглі ўсе Бераж кі. Разам з тым падсвядомая, цьмяная радасць, што з'явілася з яго прыходам, рабілася выразнай — ён, мусіць, і праўда, хоча зрабіць прапанову? Гэтая радасць і палохала і, як кожнай жанчыне, незалежна, згодзіцца яна ці не, была прыемнай.

Пасля прысуду гінеколага і разрыву з Аляксеем Люба адчула, што ў яе адбыўся душэўны надлом, мо яшчэ больш страшны, чым той, які быў пасля таго, як яе завяла маці... Жыццё здавалася пустым, нікога не хацела бачыць, нават да работы, якая заўсёды прыносіла супакаенне, стала ставіцца без былога імпэту: а каму гэта патрэбна, а для каго яна стараецца? Па начах зноў сталі даймаць кашмары. Са страхам заўважала, што ў яе характары адбываюцца нядобрыя змены — усё часцей «зрываецца», робіцца злою, несправядлівай да людзей, з'яўляецца брыдкая зайздрасць да чужой радасці, да чужога шчасця. Гэтыя перамены жахалі, яна ненавідзела сябе, але перасіліць, зрабіцца такою, як калісь, не магла. Выдатна разумела, ад чаго ўсё гэта, часта былі такія змрочныя гадзіны, надыходзіў такі адчай, такая няўцешная жуда, што, здавалася, альбо звар'яцее, альбо нешта зробіць з сабою. Але ведала: і ні-

чога яна не зробіць, бо ўсё гэта глупства, і пачынала думаць, што ёй варта ўсынавіць ці ўдачарыць малое, калі ўжо так сталася, што сваіх нельга мець. Аднак зноў пачыналіся сумненні: а ці зможа яна, ачарсцвелая, злая, стаць ласкавай, пяшчотнай маці чужому дзіцяці, ці зможа выгадаваць з яго чалавека? А яшчэ можа здарыцца так, як у газетах не раз пісалі: вырасце дзіця — знаходзіцца родная маці, пачынаецца цяганіна па судах. Ды і, зрэшты, што за дзіця трапіцца, што яму перададзена з генамі? А раптам вырасце які дэбіл, алкаголік ці распусніца — тады кусай сябе за локаць...

Праўда, сяды-тады ўзнікала разумная і лагічная думка: трэба ісці ў бальніцу, класціся, калі спатрэбіцца, на аперацыю, і на нейкі час рабілася лягчэй. Аднак ці то сорам, ці то страх перад магчымай аперацыяй, а мо і тое, і другое, перашкаджалі зрабіць рашучы крок, і яна ўсё адкладвала з дня на дзень сваё рашэнне...

Яна ўбіла сабе ў галаву, што нікому не патрэбная, хоць і ведала, што, мусіць, гэта не так: яна яшчэ не старая, больш за сваіх равесніц захавала прыгажосць і прывабнасць, не такія яшчэ выходзяць замуж, аднак ніхто не рабіў і намёкаў на заляцанні, чаго яна тайна жадала і чаго баялася. Баялася, разумеючы: наўрад ці каго яна зможа палюбіць, душа была пустою і халоднай, як склеп, яе каханне, мусіць, назаўсёды забраў з сабою ў магілу Віктар. Нават у тыя тры месяцы, калі была блізкай з Аляксеем, не пакідала адчуванне граху, сваёй віны перад Віктарам, здавалася, ён увесь час сочыць, нізашто не даруе. І тады з жахам думала: а ці не звіхнулася?!

Пасля таго як прагнала Аляксея, заўважала, што адбыўся нейкі зрух і ў яе пачуццях да Віктара. Дагэтуль ніколі, ні ў чым яна не вінаваціла Віктара, цяпер накаплялася і накаплялася нейкая горыч і крыўда, разабрацца ў якой пакуль што не магла. Якое права ён меў так бязглузда рызыкаваць, так па-дурному паміраць? З якой гэта ласкі ён будзе даймаць яе ўсё жыццё?!

І калі заявіўся Міхась, з парога прапануючы выходзіць за яго замуж, магчыма, яна не задумалася б, адразу ж згадзілася, каб было так, што ён проста развёўся з жонкай: ну, не сышліся характарам, ну, яшчэ што-небудзь, а тут... Нешта нядобрае, брыдкае стаяла за гэтым разводам...

Ні тады, ні праз дзень, ні праз тыдзень не магла сказаць ні «так», ні «не». Яна думала, думала да бяссонніцы, то ўжо, здавалася, рашыла, то зноў пачынала вагацца. І ўвогуле было дзіўнае ўражанне, быццам яе ўнутранае «я» раздваілася, размежавалася, як святло і цемень, як плюс і мінус, і кожнае хоча перасіліць, прыцягнуць на свой бок.

Плюс, прыстойненькі, як анёлачак, абураўся: «Ты што, звар'яцела? Падумай толькі: забраць у калекі мужа, у дзіцяці бацьку! Да скону дзён табе не будзе спакою».

Нячысцік-мінус ставіў пытанне рубам: «Ну і дурная! Што ты траціш? Табе і траціць няма чаго. Не ўпускай апошні шанц,— і здзіўлена разводзіў рукамі: — Чаму ты ўсё жыццё павінна быць нешчаслівая? Не забывай, што некалі не ты ў яе, а яна ў цябе яго забрала...»

«Шчасце...— скептычна ўсміхаўся анёлак.— Ён калісь здрадзіў табе, потым у цяжкую хвіліну здрадзіў жонцы, дачцэ. Захацела шчасця, замешанага на здрадзе. Не бывае такога шчасця».

«А што табе засталося? Чаго дачакаешся? — хіхікаў чорцік і сцвярджаў: — Нічога не засталося! Ісці ў бальніцу, лячыцца, спакушаць новага Аляксея? Ха-ха-ха! Ды без законнага мужа нават у той бальніцы будзеш белаю варонай. Табе патрэбны законны муж, хоць на месяц, хоць на паўгода, але патрэбны. Грызе сумленне перад былой Міхасёвай жонкай? А ў чым ты вінавата перад ёю?

Ты ж яго не кахаеш. Шлюб без кахання — амаральна».

«Ха-ха-ха...— па-мефістофельску рагатаў нячысцік.— Хто верыць у гэтую лухту? — і здзекліва дадаў: — Зрэш-

ты, твая справа — заставайся адна ў сваёй кватэры, дзе нават рэха, як у труне...»

«Лепш ужо адной векаваць, чым такое замужжа...»

«І знойдуць некалі, як Антолю...»

«Так, пэўна, няма на свеце цяжэйшай спрэчкі, як спрэчка сама з сабою — сябе не падманеш,— думала Люба.— Канечне, можна хапацца, як тапелец за саломінку, спадзявацца, што ўсё абыдзецца, сцерпіцца-злюбіцца, аднак, у рэшце рэшт, мусіць, заўсёды наступае расплата за той падман, за кампраміс з сумленнем...» Гэтая думка апякала яе. Разгублена агледзелася па баках, нібы шукаючы нейкага ратунку. Але ратунку не было...

Госці сяк-так цягнулі знаёмую старую вясельную песню, памалу здымалася скаванасць са свата, гаманілі нешта дружкі з дру́жкамі, старая Ступакевічыха выплакала свае слёзы. Выпітая гарэлка брала сваё. Люба ліхаманкава глядзела ў адны, другія, пятыя, дзесятыя вочы — і не знаходзіла таго, чаго так хацелася знайсці — спагады ці хоць якога разумення. Вочы былі то затуманеныя хмелем, то чужыя, няласкавыя, усё тут было чужым, недарэчным, і яна адчула такую жуду, такую адзіноту, якой яшчэ ніколі не адчувала.

Старая Ступакевічыха была, бадай, адным чалавекам, хто не ўзяў яшчэ ні кроплі гарэлкі, таму магла глядзець на ўсё цвярозымі вачыма. Яна ўвогуле не п'е, а каб і магла выпіць — нельга, яна гаспадыня. Гасцям гуляць, а яе справа клапаціцца, каб не было пуста на сталах, каб загодзіць кожнага. Такая ўжо гаспадыньская доля... На душы было цяжка і неспакойна. Чаму ніхто не прыйшоў паглядзець на маладых? Чаму нават блізкія сваякі знайшлі сто прычын, каб адмовіцца прыйсці на вяселле? За што так зганьбілі? Тут, мусіць, і Яловікі прыклалі свае языкі. Усё не могуць забыцца, усё вінаватага шукаюць.

Але, пэўна, дарма яна на Яловікаў. Яловікі тут ні пры чым. Ніхто ніколі ўсур'ёз не прымаў, што Люба вінаватая ў смерці Яловічысінага сына. Не забіла ж, не маленькага ж утапіла! Зрэшты, сама Яловічыха не раз казала, што нічога не мае да Любы, дзівілася, чаму замуж не выходзіць — не быць жа ёй, не раўнуючы, прыдуркаватай Антоляй...

Тут, вядома, іншае... Ім не могуць даравань за Іру. І праўда, непрыгожа, не па-людску сталася... І на якую трасцу было гэтае вяселле! Ну, сын шалапут, але яны, старыя людзі, навошта ўблыталіся? А ўсё праз тое, што яйка курыцу пачало вучыць. Трэба было сказаць: ніякага вяселля — і хай сабе як хацелі б. Во цяпер і самі не рады — бач, што вычаўпляў! Не сп'яну вычаўпляў. А яна якая маркотная, быццам і не маладая, бы і не яе вяселле...

Ступакевічыха ўзяла з прыкрытых радзюшкай скрынак некалькі бутэлек «Экстры», занесла і паставіла на сталы, прыняла парожні посуд, рашыла, што на сталах няма нічога гарачага, вярнулася на кухню, запаліла духоўку газавай пліты, паставіла разаграваццa адубелыя катлеты, а сама ўзялася чысціць бульбу — згадзіцца. З-пад нажа бегла спрытна доўгая тонкая лупіна, то абрывалася, то ўзнікала зноў, як і невясёлыя Ступакевічысіныя думкі.

Ах, Люба, Люба! Дай бог табе шчасця! Не галубіла цябе жыццё. Бацька з вайны вярнуўся ўвесь знявечаны, жывога месца не было. На руках твая маці насіла. А потым даў бог яшчэ і цябе. Вядома, не помніш бацькі — памёр небарака, здаецца, праз год, як нарадзілася. Не адракалася ад бязрукага, бязногага навучыцелька — твая маці, хоць час які быў! Разруха, галадуха, крапіву ды лебяду елі, адна пазыка чаго каштавала, але не кінула калеку — сумленне не дазваляла. І праўда, мусіць, цяжкасць і гора гартуюць людзей. Калі чалавек гора хлебане, то не пакіне ў бядзе другога, з гора чалавек выходзіць дабрэйшы, умее паўпічуваць, падставіць плячо, апошнім кавал-

кам падзяліцца. Не-е, што б там ні казалі, а дастатак псуе людзей. Во і Міхась — рос, як сыр у масле, а вырас? Адрокся ад роднага дзіцяці, кінуў жонку-калеку — бач яго: не можа з інвалідам! А навучыцелька тады магла? Магла! Людзі ўсё бачаць, людзі помняць, па-свойму ўсё разумеюць.

Праўда, час цяпер іншы. І не дай бог ім, маладым, нацярпецца таго, што старэйшыя нацярпеліся. Мы нацярпеліся, каб ім было лепей. Ды нешта прагледзелі, нешта ўпусцілі са старым, як раслі дзеці. Лёгка ім усё давалася, хоць, праўда, і не заўсёды соладка было, але тады былі малыя, не помняць.

Ой, Люба-Люба, ці хоць будзе ў цябе шчасце? Чуе маё сэрца нядобрае. Праўду, мусіць, кажуць старыя людзі: на чужым няшчасці не пабудуеш шчасця...

І адразу ж прыгадалася Іра. Бог, за што ж ты пакараў так яе?! Яна ж і мурашкі ніколі не пакрыўдзіла, а ты на яе змалку беды і беды. Чаму ж такі бессардэчны і несправядлівы ты, бог?! І раптам жахнулася ад такіх нечаканых думак, спалохана перахрысцілася.

Перамыла, паставіла варыцца бульбу, узялася нарэзваць каўбасу, але рабіла ўсё амаль механічна — думкі, адна за другую маркотней, здавалася, хочуць даканаць яе. Прыгадаўся дзень, калі Міхась сказаў, што развёўся з Ірай. Яна-то стрыманая, а стары як разышоўся: вон з маёй хаты, каб нагі тваёй не было, каб вочы мае не бачылі такога вылюдка. Схапіў папругу і перацягнуў, як некалі ў маленстве. А сам зусім апалеў: заб'ю, сволач! Шкада, што малога не забіў — мо не нарабіў бы пакасці.

Параіліся тады, папрасілі ў старшыні калгаса машыну і паехалі мо за дзвесце вёрст па Іру. Прыехалі аж пад вечар, а дома не засталі. Прачакалі, пэўна, з гадзіну. Нарэшце, накульгваючы, з каляскай, у якой сядзела Верачка, на асфальтаванай дарожцы паявілася Іра.

— Тата?! Мама?! — здзівілася і ўзрадавалася яна, адпусціла каляску і кінулася абдымаць іх.— Ой, а я і не

здагадвалася, што такія госці! Гуляем сабе, нічога не думаючы. То пойдзем у хату...

— Пойдзем, пойдзем, дочка. Час ужо на ноч хіліцца. Сабярэм твае мэтлахі — і паедзем,— рашуча сказаў стары.— Мы тут спецыяльна з машынай.— І, беручы на рукі Верачку, сказаў да яе: — Паедзем да нас, унучачка...

— Як гэта паедзем? — не зусім зразумела Іра.

— А во так! Ты наша дочка — во і ўсё! Мы цябе ў бядзе не пакінем — во так. Хоць ён і кроў наша — ды не сын нам. Во што! Ты — наша дочка, Верка — наша ўнучка. Во што!..— блытана тлумачыў ён і аж пачырванеў ад узбуджэння.

— Татачка! — кінулася да яго Іра, уткнулася ў грудзі і закалацілася ад плачу.

— Ну-у, што ты... Ну-у, што ты...— няўмела супакойваў яе стары, гладзіў, як малую, па плячы і шчасліва ўсміхаўся, а потым не стрымаўся — і ў самога па твары пракацілася буйная слязіна.— Будзеш у нашай бальніцы рабіць, я з доктарам абгаварыў — во што... А таго нягодніка я прагнаў — бачыць паскудніка праціўна. Во як...

Яна таксама падышла да Іры, пагладзіла па валасах:

— У нас табе лепей будзе...

Іра раптам перастала плакаць, вінавата ўсміхнулася, выцерла хусцінкай слёзы, адразу ж зрабілася задуменна-сур'ёзнай.

— Якія вы харошыя людзі, тата і мама! — пасля некаторай паўзы мякка і сардэчна сказала яна.— Як я вас люблю — вы, пэўна, і самі не здагадваецеся. Ад шчырай душы вы прыехалі, ведаю, і ніколі нікому не далі б мяне ў крыўду, каб паехала да вас. Але я не магу паехаць. Зразумейце мяне — не магу.

— Як гэта не магу? — насцярожыўся стары.

— Не магу, тата...— аб сваім нечым думаючы, сказала Іра.— Калі хочаце ведаць праўду, то не Міхась мяне пакінуў, а я сама яго адпусціла... прагнала, калі хочаце... Не здзіўляйцеся — прагнала.

— Ну-у, ты, вядома, гэта... не заступайся, на сябе не каці бочкі,— пачаў нерваваццa стары.— Я, ведаеш, не люблю гэтага.

— Я не заступаюся, тата, але гэта праўда, што не Міхась, а я дамаглася разводу.

— Чаго ж гэта ты? — недаверліва глянуў той.— Ты кінь мне байкі баяць!

— Вам хочацца ведаць чаму? — задумалася Іра.— Па праўдзе кажучы, не хацела жаласлівасці. Жаласлівасць абражае.

— Ну-у, ты гэта ўжо і скажаш! — не здаваўся стары.— Чаго ў тым благога, калі паўшчуваюць? За што ж крыўдзіцца? Га?

— Добрыя людзі заўжды паўшчуваюць,— падтрымала яго Вольга Аляксандраўна.— Гэта толькі ліхадзей ці зайздроснік будзе радавацца чужой бядзе.

— Ушчуванне і жаласлівасць не адно і тое, мама,— самотна ўздыхнула Іра і яшчэ больш засмуцілася.— І горш за ўсё: дзе мяжа паміж спачуваннем і жаласлівасцю, не ведаюць людзі.— Задумалася і больш для самой сябе, чым для іх, пачала расказваць: — Пазаўчора хацела на суботнік выйсці разам з усімі, а наш галоўны: заставайся дома — табе не ўправіцца нараўне...

— Ну, і што тут такога? — не даў дагаварыць ёй Мікалай Міхайлавіч.— Няўжо хацела, каб цябе яшчэ гойсаць па стадыёне прымушалі, ці што?

— Ды сціхні ты, дай чалавеку дагаварыць! — незласліва сыкнула на яго Вольга Аляксандраўна.

— Вы вечна гэта, бабскае племя, вам падай далікатнасці! — разышоўся стары.

— Ды не ў тым справа, тата...— прыцішана сказала Іра, і Мікалай Міхайлавіч аціх, хоць, адчувалася, маўчаць яму не так проста.— Не калецтва само па сабе страшна, а страшна, што табе ўвесь час напамінаюць пра яго. Змірыцца са сваёй непаўнацэннасцю страшна... І разумееш, што людзі табе ад шчырай душы спачуваюць, а зрабіць з

сабою нічога не можаш — крычаць, выць воўкам хочацца. Няўцям людзям, што, спачуваючы, яны прычыняюць боль, нагадваюць тое, пра што сама хочаш забыць...

Ступакевічыха, занятая сваімі думкамі, не заўважыла, як на кухні з'явілася Люба.

— Цёця Оля, дзе тут мае боцікі і паліто? — нецярплі-ва запыталася яна.

Старую непрыемна кальнула гэтае «цёця», але падумала: ат, знайшла да чаго чапляцца, быдта ў самой некалі язык паварочваўся адразу клікаць свякруху мамай! Прывыкне...

— У шафе. Зараз падам,— устала з зэдліка.— А мо ў валёнкі ўступіся, накінь кажух на плечы — ён новы, чысты.

— Ды не, цёця Оля...

— Ну, як сабе хочаш...— трохі пакрыўджана сказала Вольга Аляксандраўна і пайшла шукаць Любіну адзежу, боцікі.

Любы доўга не было з вуліцы, і ў душы Вольгі Аляксандраўны неўзабаве стала варушыцца нейкая цьмяная трывога.

А ў святліцы п'яна басіў сват:

— Вальц для маладых! А дзе ж маладая? Малады, дзе маладая?! Дзе маладая, пытаюся?!

Вольга Аляксандраўна выйшла з кухні і незадаволена буркнула на вуха свату:

— Ды не гарлапань ты — зараз прыйдзе.

— Усё-ўсё, цётка, зразумеў...— падміргнуў ёй сват і закрычаў: — Увага! Увага! Зараз прыйдзе маладая! Ніхто не танцуе, пакуль не прыйдзе маладая! Чакаем маладую! — І праз хвіліны дзве пагразіў пальцам Міхасю: — Ты глядзі ў мяне! Чаго добрага ўкрадуць маладую...

На душы ў Ступакевічыхі было неспакойна, не ўтрывала — нацягнула на ногі валёнкі, накінула на плечы кажух, выйшла на панадворак, думаючы: куды ж яна падзелася, даўно пара вярнуцца. Пратупала да хлява, нягучна паклікала:

— Люба! Люба!

Люба не адгукалася.

Вольга Аляксандраўна заглянула за хлеў, у сад — Любы нідзе не было. Куды ж яна падзелася? Як скрозь зямлю правалілася.

— Люба! Люба! Дзе ты? — гучней паклікала яна, пастаяла, прыслухалася — у адказ была глухая цішыня.— Хм, чорт ведае што...— неўразуменна паціснула плячыма і падумала: трэ сказаць Міхасю — мо яму адклікнецца.

А ў хаце бушаваў п'яны сват: «Куды падзелі маладую?! Падаць сюды маладую!» Голас яго быў чуваць нават тут, на вуліцы.

Вольга Аляксандраўна зайшла ў сенцы, потым — на кухню, павесіла на вешалку кажух, хацела пераабуцца, але перадумала, заглянула ў святліцу, паманіла пальцам Міхася, устрывожана сказала:

— Люба прапала, мо схадзі сам пакліч. З паўгадзіны, як пайшла, даўно пара вярнуцца... Такая халадэча на дварэ...

— Нікуды не прападзе-е! — бадзёра сказаў Міхась і памкнуўся да дзвярэй.— Зараз знойдзем!

— Не хадзі так! — спыніла яго маці.— Апраніся.

Міхась паслухмяна насунуў шапку, накінуў паліто, выйшаў за дзверы. На сходках агледзеўся і гукнуў на ўвесь двор:

— Іра-а! Іра-а! Дзе ты прапала?

У яго гэта атрымалася машынальна, і ён нават не заўважыў сваю памылку, сцяміў толькі, калі ў сенцы куляй выскачыла маці і злосна штурхнула ў бок:

— Ты што, ашалеў?! Якая табе Іра?!

Ён аж сціснуўся ад сораму за сваю прамашку, сарваў-

ся з месца, таропка пайшоў да хлява. Пачакаў, пакуль маці скончыць сваё бурчанне на ганку і зойдзе ў хату, потым, згараючы ад няёмкасці, нясмела паклікаў:

— Люба, дзе ты?

У тую хвіліну яму не хацелася, каб Люба адклікнулася: канечне, яна чула, канечне, пакрыўдзілася. Але, прастаяўшы сціснана за вушаком хвілін з дзесяць, адчуў, што да яго не на жарт закрадваецца трывога: куды ж яна магла падзецца? Абышоў вакол хлява, пахадзіў па садзе, ля ўрослых у снег вуллёў, выйшаў праз весніцы пад хату, зноў павярнуў да хлява, заглянуў на сенавал, не ўтрываў і баязліва паклікаў:

— Люба! Люба! Люба-а...

Была такая цішыня, што аж звінела ў вушах. Толькі з хаты даносіўся прыглушаны шум ды недзе ў вёсцы заліваўся сабака. Ярка свяціў месяц, адкідваючы доўгія чорныя цені ад хаты, слупа, дрэў, ад яго самога, і гэтае святло стала раздражняць: пэўна, яна назірае за ім са свайго схованча, бачыць яго разгубленасць. Зайшоў у цень, спыніўся. Здаецца, чуваць нечыя крокі! Канечне, яна! Услухаўся, затаіўшы дыханне — не, нічога не чуваць. Выбег на вуліцу, сціснуўся ля плота — нідзе нікога, нават сабака замоўк дзесь пасярод вёскі.

— Люба! Люба!

Толькі гулкае рэха — «ба», «ба» — адгукнулася ад суседніх хат, і Міхася ахапіў страх. Ён і сам не разумеў, ад чаго больш гэты страх: ці ад таго, што Люба прапала, ці ад таго, што раптам хто ўбачыць, як ён туляецца ля платоў, шукае маладую, а яна — лататы! Зноў подбегам ірвануў да хлява, залез на гарышча. Сена было халоднае, уляжалае — сюды, канечне, яна не магла схавацца. А мо пайшла на суседскі двор, дзе некалі жыла? Ён мала верыў, што яна магла забрацца на суседскі двор, аднак рабіць нічога не заставалася — крадучыся, пайшоў туды. Прытаіўся ля плота, і слых яго быў чуйны, як у звера, аднак улавіць нічога не ўдавалася. Страх, брыдкі, крыўдны, пры-

кры, вырастаў з кожнаю хвілінай — і ён стаў заўважаць, што ў яго ўсё дрыжыць усярэдзіне.

«А мо забрыла да Яваровічавай Ганны? — узнікла радасная здагадка.— Ганна не прыйшла на вяселле, спаслалася на недамаганне, то мо рашыла адведаць — даўнія ж сяброўкі. Але хіба можна так: пайсці з уласнага вяселля, нічога нікому не сказаўшы? Не-е, наўрад яна магла пайсці да Яваровічаў у такі час...»

Пастаяў яшчэ некалькі хвілін, вагаючыся: ісці ці не ісці да Яваровічаў, заўважыў, што прабірае холад і ўвогуле няма ніякага сэнсу тырчаць, як злодзею, пад суседскім плотам, рашыў ісці. От жа дасць нагоняю!

Яшчэ здалёк заўважыў, што ў хаце Ганны Яваровіч няма святла, хацеў быў павярнуць назад, але чамусьці не павярнуў. Збаўляючы хаду, прайшоўся ля хаты, чуйна прыслухоўваючыся. Ціха. Толькі фасфарычнае месяцава святло няўтульна і холадна паблісквае ў шыбах.

А мо яна, пакуль ён шукае ветру ў полі, даўно ў хаце? Пэўна, у хаце. Подбегам памчаў назад, усё яшчэ верачы і ўжо не верачы, што яна знайшлася. Хацеў зазірнуць у акно, але мароз размаляваў шыбы так, што нічога не відаць. Раптам позірк затрымаўся на засунутай у шчыліну на дзвярах газеце. Здаецца, яе тут раней не было. Мусіць, паштальён пасаромеўся зайсці. Але чаму не апусціў, як звычайна, у паштовую скрынку? Міхась машынальна ўзяў газету і заўважыў, што рука не падымаецца адчыніць дзверы — а раптам яе няма? Што рабіць тады? Ён не ведаў, што рабіць. Няўжо на самай справе збегла? Чаму? Хіба ж можна?!

— Ну, дзе яна? — трывожна наляцела маці.— Знайшоў?

— А не прыходзіла? — не сваім голасам запытаў ён, заўважаючы, наколькі недарэчнае яго пытанне.

— То каб прыходзіла...

— Няма нідзе...— разгублена і бездапаможна развёў рукамі, патупіўшы позірк.— Дзе ж яна можа быць?..

— Маладых сюды! Куды падзелі маладых?! — грымнуў сватаў бас.

Міхась разгубіўся яшчэ больш: ці паказацца яму ў святліцы, ці зноў ісці на вуліцу? Збянтэжана сеў ля стала, не чуючы, што гаворыць затрывожаная маці. Заўважыў, што яго калоцяць нейкія дрыжыкі, прабіваецца халодны пот. Каб хоць чым заняць рукі, разгарнуў прынесеную газету і — заморгаў: наўскос губной памадай было напісана: «Даруйце, я не магу больш. Я вінавата перад усімі, але не магу. Нічога дрэн. са мной не здарыцца. Бывайце. Люба».

Першае, што ўдарыла ў галаву: што будзе зараз, калі вясельнікі даведаюцца?! Што будзе заўтра?! І з'явілася адчуванне, быццам яго раптам ударылі па галаве нечым цяжкім, ды так ударылі, што захістаўся, ледзьве ўстаяў на нагах. У вушах гудзеў сватаў бас:

— Дзе маладая? Куды падзелі маладую? Дзе малады?!

Не памятаючы сябе, ледзь не збіўшы з ног маці, ён кінуўся ў сенцы, затым — на вуліцу.

«Дагнаць! Дагнаць! Вярнуць!» — была толькі адна думка.

Выскачыўшы за вароты, спыніўся, утрапёна гледзячы па баках: куды бегчы? Справа ў вёсцы забрахаў сабака — і, не раздумваючы, кінуўся туды — мо на яе брэша.

Ён бег па бязлюднай вуліцы, не чуючы пад сабой ног. За што яна?! За што?! Я ж ёй пакажу! Я ж ёй пакажу!

Раптам аднекуль проста пад ногі з залівістым брэхам кінуўся кудлаты сабака.

— Каб ты здох! — прастагнаў Міхась і, прыпыніўшыся, сярдзіта сыкнуў: — Пайшоў вон!

Сабака адскочыў убок, сеў на заднія лапы, не так злосна, але брахаў, задраўшы ўверх зяпу. Аднак варта было Міхасю прыбавіць кроку, як сабака зноў кінуўся на яго, лямантуючы на ўсю вёску.

«Зараз з хат павыскакваюць»,— са страхам падумаў Міхась, прыглядваючыся, дзе б раздабыць які кій, аднак, як на злосць, нічога не траплялася пад рукі. Нарэшце заў-

важыў плоскую рудую льдзіну з-пад конскага капыта, нагнуўся і схапіў яе. Сабака змікіціў — адбег далей, яшчэ агідней лямантуючы. Міхась пабег, адчуваючы, што сабака прэ за ім з усіх лап, потым рэзка затармазіў — і сабака, войкаючы, клубком пакаціўся пад ногі. Міхась з усяе сілы шпурнуў у яго льдзінай — ы-ых, прамазаў! Сабака рвануў назад, скуголячы: я-й-яй-яй-і-і... Ну во, мо, нарэшце, адчэпіцца, воўчае мяса!

Але варта было прыбавіць кроку, як сабака зноў, праўда, на небяспечнай адлегласці, залямантаваў на ўсю ваколіцу. Гэты лямант падхапілі іншыя сабакі, аж ірваў ланцуг ваўкадаў Хведара Канцавога, і неўзабаве падняўся такі вэрхал, быццам у вёску пранікла сотня зладзеяў.

Міхась кінуўся з усіх ног па цаліку, наўпрасткі праз выган; хоць снег быў уляжалы, але ногі сям-там правальваліся, потым натрапіў на лыжню, якая неўзабаве зноў вывела на дарогу...

Ад бегу стала займаць дых — збавіў крок. Нейкі час ішоў, ні пра што не думаючы, але не думаць было немагчыма. За што яна? За што так аплявала?! Якое яна мела права?! Што яна нарабіла?!

Бяссільная злосць паліла яго, даводзіла да шаленства.

— Дурань! Ідыёт! Асёл! — крычаў Міхась, не баючыся, што хто пачуе яго адчайны крык, раз-пораз падфутбольваючы што толькі траплялася на дарозе. Нейкая неразумная, неўтаймаваная сіла стала ўлівацца ў яго, хацелася біць, ламаць усё наўкол, некаму за нешта помсціць, некага лупцаваць і перш за ўсё лупцаваць самога сябе. На вочы трапіўся даволі вялікі ўледзянелы камяк, з адчаем саўгануў яго нагою — і ледзь не завойкаў ад болю, накульгваючы, пакалдыбаў далей.

Неўзабаве раздражненне і гнеў сталі патроху аціхаць, з'явілася нейкая спустошаная стома, абыякавасць. Стаў заўважаць, што яму перахацелася даганяць і вяртаць назад Любу, нават злосць на яе стала ўбываць. Ну і чорт з ёю, што ні робіцца — робіцца да лепшага...

Прыпыніўся, здзіўлена агледзеўся вакол — і стаў разумець, дзе ён: проста неверагодна, што адмахаў кіламетраў з дзесяць! Роўна столькі засталося яшчэ да чыгуначнага вакзала. Пашнырыў па кішэнях: ці ёсць грошы? Дзякаваць богу — ёсць. А мо вярнуцца? Мо Люба перадумала і там ужо шукаюць яго? Мо яна і не думала ўцякаць, а зайшла да каго са старых знаёмых? Не-е-е! Нешта нядобрае варухнулася ў душы, і ён, раз-пораз спатыкаючыся на калдобінах, пакрочыў далей...

Любе раптам здалося, што на яе глянулі Ірыны вочы — і халодныя мурашкі пабеглі па целе. Яна ніколі не бачыла першую Міхасёву жонку, аднак, здалося, што яе сумныя вочы глядзяць з кожнага кутка, з кожнага закутка, нават з іконы маці божай з дзіцянём на руках, глядзяць з дакорам, проста ў душу, нібы хочуць сказаць: і што ж вы робіце?

«Дальбог, звіхаюся»,— з жахам падумала Люба і адчула: калі яшчэ хоць хвілінку пабудзе ў хаце — расплачацца, магчыма, наробіць глупстваў. Адно збавенне — як мага хутчэй на вуліцу, на мароз, пабыць адной. Хоць бы паспець! Хоць бы ніхто не бачыў слёз!

Пасля духаты і тытунёвага дыму ў хаце, дзе яна прабыла амаль увесь дзень, бадзёрае марознае паветра аж закружыла галаву. Прайшлася да хлява, завярнула ў сад, прысела на прысыпанае снегам бервяно ля плота і ў роспачы схапілася за галаву: што ж я нарабіла?! Куды ўлезла?! Што ж рабіць?

Яна не ведала, што рабіць...

Раптам прарваліся слёзы, горкія, няўцешныя, і яна не магла стрымаць іх. Бы праз сон чула, як бразнула клямка, выйшла Вольга Аляксандраўна, пахадзіла па двары, паклікала: «Люба!» Ёй хацелася яшчэ хоць хвілінку пабыць адной, трохі ўняць слёзы, таму не адклікнулася. Потым з'явіўся Міхась і двойчы пракрычаў «Іра». Не, яна не

пакрыўдзілася, мо нават наадварот — абрадавалася. Гэта было яе выратаванне, цяпер яна ведала, што рабіць...

Яна ішла наўпрасткі па неглыбокім снежным пласце і думала: балазе, што не цемень! Амаль у зеніце вісеў белы, з вышчарбленым краем месяц, і ў яго святле снег пераліваўся мільярдамі бліскавак. Было так ціха, што, калі спынішся, замрэш, каб пераканацца, ці часам не натрапіў Міхась на след, здаецца, чуваць, як звіняць у прамёрзлым небе зоркі, а хруст снегу пад нагамі чуцен ва ўсім сусвеце.

На душы было пуста і гнятліва, як ні супакойвала сябе, а супакаенне не хацела прыходзіць. Шкада было Міхасёвых бацькоў — яны-то ні ў чым не вінаватыя. Але ў яе няма іншага выйсця. Для іх яшчэ горай, каб у сына і на гэты раз не склалася жыццё. Міхася яна не шкадавала. Бязвольны слізняк. Зрэшты, мо яшчэ сыдуцца з жонкай. Патужаць, патужаць адно без аднаго і, калі было каханне, сыдуцца. Навошта ёй совацца ў іх жыццё...

Люба толкам і не ведала, куды ідзе і што ёй трэба. Недзе толькі, як у тумане, было вяселле, з якога яна ўцякла, прычыніла людзям боль і сорам, але тое брыдкае вяселле для яе было ўжо далёка-далёка, усё засталося ў мінулым, ужо нельга нічога паправіць, не ў яе сілах нешта паправіць, сілы проста-напроста пакідалі яе.

«Могілкі!» — раптам жахнулася Люба, і адразу ж зрабілася жудасна.

Калі была малою, заўсёды баялася пасля заходу сонца праходзіць паўз могілкі. Якіх толькі страхаў ні расказвалі! Потым ведала, што гэта байкі, аднак заўсёды ноччу ля могілак было жудаснавата.

Цяпер нейкая невядомая сіла несла яе сюды.

Вось і Антолін пляц. Невялічкі ўзгорак узвышаецца, дзе некалі была яе мазанка, ды дзве адзічэлыя грушы не-

чым нагадваюць дзве чорныя Антоліны постаці. Пэўна, каб цяпер з'явілася Антоля — у Любы разарвалася б сэрца.

Сцяўшы губы, загадала сабе не думаць пра страшную Антолю, смела пайшла наперад. Пралезла праз дзірку ў плоце... Люмінесцэнтнае месяцава святло холадна і трохі злавесна паблісквала на чорных крыжах, шэрых алавяных распяццях, паліраваным мармуры. Люба сцялася ўся і, абмінаючы крыжы і агарожы, борздзенька пайшла да знаёмага месца пад разгалістым клёнам. Пастаяла хвілінку, прыслухоўваючыся, адчыніла чорную ад часу брамку, якая павісела, пагойдалася і са скрыпам абарвалася, упала на снег. І гэты скрып і ўдар былі такімі аглушальна-жудаснымі, што ў яе адзеравянела ўсё ад страху, але перамагла сябе. Ступіла за абгародку, расшпіліла гузікі, хуценька скінула паліто, павесіла на штыкеціну, зняла з сябе вэлюм і акуратна паклала на зацярушаны снежным покрывам бугорчык з помнічкам-абеліскам. Адразу ж адчула, як прабірае мароз. Апранула паліто, якое яшчэ не паспела растраціць цеплыню цела, пастаяла хвілінку ў задуменні, ціха сказала: «Бывай, Віктар» і хуценька пайшла прэч.

Яна ішла і намагалася прыгадаць Віктараў твар. Са здзіўленнем, смуткам і нейкай радасцю злавіла сябе: а я ўжо не памятаю яго твару... Толькі ўвогуле, як у тумане... А кажуць: калі забываеш твар — значыць, забываецца...

Як толькі ступіла на дарогу, прыцярушаную сённяшняй, не — ужо ўчарашняй кудасай, паскорыла крок, потым пабегла. І цяжка было зразумець, што гоніць яе: жудасць, мароз, які так упарта прабіраецца пад паліто, ці проста жаданне ўцячы ад усяго свайго былога. Яна ўсведамляла толькі адно: хутчэй адсюль, хутчэй, хутчэй...

Неўзабаве стамілася ад бегу, прыпынілася, аддыхваю-

чыся, задумалася, куды ісці: ці назад у вёску перанача-ваць у Ганны Яваровіч, ці далей, да шашы — мо трапіцца які начны аўтобус альбо спадарожная машына... Не! Назад ходу няма... І ўвогуле, яна тут апошні раз. Вось развіталася з Віктарам, назаўсёды развіталася. Ён памёр. Для яе больш няма Віктара.

А ёй трэба жыць, інакш трэба жыць, жывое павінна браць верх...


Шануй
імя
сваё

## 1

Аляксей Сцяпанавіч прачнуўся ледзь свет. Яму не асабліва што рупіла, але даўняя звычка, настолькі даўняя, што і не памятае, з якіх яна часоў, прымушае ўставаць штодня ў такую рань, нешта рабіць, пра нешта клапаціцца. А розных клопатаў у старшыні калгаса — хоць пазычай каму. Бывае, што і падрамаць выпадае ўсяго якую гадзіну, асабліва ўлетку, але ўсё роўна ў пяць на нагах, без ніякага будзільніка, свежы, як і не было ніякай стомы. А яшчэ пішуць, што для сну патрэбна аж восем гадзін! Хоць, вядома, можна дрыхнуць і восем, і ўсе пятнаццаць. Напрыклад, у санаторыі, куды зачасціў у апошнія гады. Але санаторый ёсць санаторый — там здурэе сталы чалавек, калі не навучыцца спаць...

Ціха, каб не нарабіць грукату і не збудзіць унучку, нацягнуў на сябе спартыўны касцюм — таксама санаторная звычка, сунуў ногі ў пантофлі, асцярожна праз святліцу выйшаў на кухню — тут можна не хвалявацца, што некага пабудзіш. Хоць, канечне, хваляванні дарэмныя: малая ў такі час з гарматы страляй — не прачнецца, а старая ўсё роўна не спіць. Але на ўсялякі выпадак...

Навобмац адчыніў дзверцы ў шкапчыку, узяў аберуч збан з квасам, глынуў некалькі разоў — каб не курыць нашча. Накурышся нашча — паўдня ў горле пяршыць.

Пачаты пачак «Беламору» і запалкі заўсёды звечара кладзе на падаконнік, каб знайсці, не запальваючы святло. Папяросамі завалены адзін са шкапчыкаў на кухні — для запасу. Гэтага запасу, пэўна, хапіла б на паўгода, аднак Аляксей Сцяпанавіч папаўняе і папаўняе яго, асабліва калі бывае ў горадзе. Папяросы зараз сталі выходзіць з моды, не ў кожным магазіне знойдзеш «Беламор». А пераходзіць на цыгарэты не збіраецца: у яго гады не так проста мяняць звычкі — і добрыя, і дрэнныя.

Закурыўшы, засяроджана паглядзеў у акно і задаволена падумаў: а глядзі, як дзень прыбывае! Цемень-то зусім рэдзенькая...

На ўсходзе займаўся бледна-сіні водбліск зараніцы. Быў той час, калі не зусім зразумела, ці гэта яшчэ ноч, ці ўжо новы дзень. На двары было няўтульна і зябка, лёгкі марозік сцяў рэсквась; што ж, адзімкі напрадвесні — звычайная з'ява.

У хлеўчуку наперабой ашалела гарланілі пеўні. Тры гады назад старая завяла гэтую гарластую пароду. І дзе яна толькі знайшла такую! Зімою яшчэ не так, а к вясне дзяруць горлы — аж вокны дрыжаць.

Дзень вылузваўся цяжка і трохі трывожна, хоць і абяцаў быць сонечны. Гэта і не зусім добра, што сонечны — хай сабе пакісла б, каб зямля адтала як след, набрыняла, набрала ўдосталь вільгаці — восень была сухая. А то і міргнуць не паспелі, як амаль з'ела снег, аж равуць ручаі, рэчка яшчэ і ад лёду не вызвалілася, а ўжо з берагоў вылезла. Аграном хвалюецца — угнаенні з палёў павымывае. Аграномаў клопат не асабліва трывожыць Аляксея Сцяпанавіча: і нікуды не падзенуцца тыя ўгнаенні — абы яны былі! Кампостаў назапасілі — як ні адзін год. Во толькі вывезці не паспелі, а цяпер не ўлезеш. І ліха з імі — пад плуг раскідаецца! Непакоіла іншае: калі так пабудзе — днём сонца, ноччу марозік,— не агледзішся, як асмягне, запыліць зямля. Гэта не восень, калі з лыжкі вады — вядро гразі. Вясною наадварот: з вядра вады — лыжка гразі. Учора аб'ехаў усе палеткі: затапіла нізіны, паразмывала разоры на пагорках. Мусіць, аграном мае рацыю: трэба ўсё ж разоры рабіць уздоўж схілаў. Канечне, гэта для тэхнікі не зусім зручна, аднак... Во так: век жыві — век вучыся. Але хто мог падумаць, што так дружна адпусціць?

Аляксей Сцяпанавіч стаяў ля акна, курыў, ламаючы галаву, які занятак знайсці да дзевяці раніцы, пакуль ехаць у раён. Заўсёды, калі не занятак яго, а ён шукае занятак,

Аляксей Сцяпанавіч адчувае сябе прыгнечана, няўпэўнена, сноўдаецца сам не свой, злуе без дай прычыны.

— Якая ж халера цябе і сёння падняла? — пачуўся бурклівы жончын голас.

«Хм, пачынаецца ранішняя гігіенічная зарадка»,— падумаў ён, не адварочваючыся ад акна.

Алена Пятроўна заўсёды ўстае тады, як ён пап'е квасу, закурыць, задуменна гледзячы на вуліцу; і заўжды гаворыць адно і тое ж — «якая халера цябе падняла», гаворыць, абы нешта сказаць, бо даўно змірылася, што няма на свеце такой сілы, якая ўклала б яго назад у ложак.

Аляксей Сцяпанавіч нічога не адказаў — ён прывык не надаваць аніякага значэння гэтаму жаночаму бурчанню.

Алена Пятроўна пстрыкнула выключальнікам — і адразу ж знік досвітак, нібы час імгнення павярнуў назад. Аляксея Сцяпанавіча трохі злуюць, асабліва калі не ў гуморы, гэтыя жончыны звычкі ўставаць у такую рань, асляпляць святлом, звягаваць хоць без злосці, але звягаваць. Пэўна, самае вялікае шчасце мець жонку, якая ўмее трымаць язык за зубамі, не дакучае рознымі нікчэмнымі пытаннямі. Ды, мусіць, мала ёсць такіх на свеце — усё іх бабскае племя ахвотніцы пабалабоніць, памянціць языкамі. Балазе, язык без касцей! Разам з тым Аляксей Сцяпанавіч добра ведае, што грэх яму скардзіцца на сваю старую: і ўстае яна ў такую рань не таму, што ёй так хочацца, а таму, каб ён не дай бог не пайшоў ці не паехаў куды не еўшы, і сакатанне яе не мае ні папроку, ні дакору. У іх узросце, калі адшумела маладая кроў, усё ўспрымаецца прасцей і мудрэй.

Моўчкі накінуў фуфайку, насунуў на босую ногу кірзачы, адкінуў засаўку на дзвярах, ступіў на вуліцу.

Абдало халодным вострым паветрам, якое бывае толькі вясною. Раскіслую за дзень гразь спяў зверху марозік, яна спружыніста асядала пад нагамі, са звонам храбусцеў шматслойны матавы лядок. Пахла снегавой вадою, бярозавымі дрывамі, яшчэ нечым зябкім, прэлым, вясновым.

На душы было неспакойна, гняло нешта цьмянае, як набліжэнне хваробы, а што — сам дзівіўся.

Чаго ж гэта выклікаюць у раён? Мала чаго могуць паклікаць! Бы першы раз клічуць! Але ўсё ж чаго? Мо зноў па структуры пасяўных плошчаў? Падсунуць яшчэ гектараў пяцьдзесят цукровых буракоў — во і круціся-выкручвайся, таварыш Кунцэвіч! Быць таго не можа, каб зноў пачалі ламаць — усё думана-перадумана, гаворана-абгаворана... А мо клічуць, каб даць за што наганяй? Але за што? Здаецца, няма за што. Тэхніка гатова, насенне праверана ў лабараторыі — эліта, першы клас. Угнаенняў не вывезлі... Але хто іх вывез? Мо за малако? Ды «заплюсавалі» па малаку ў апошнюю дзесяцідзёнку, добра «заплюсавалі»! І па мясу план закрылі... Хоць, на добры розум, трэ было яшчэ пакарміць бычкоў, дацягнуць да кілаграмаў трохста сямідзесяці. За месяц і набралі б — кармоў хапае. Па рублёў сто на кожнай галаве згубілі. Шкада, канечне... Але з другога боку — каму якое дзела, што ў Кунцэвіча кармоў удосталь і ён можа па сто рублёў на кожнай галаве мець? Трэба, каб мяса было. Ёсць квартальны план, ёсць графік здачы — і будзь добранькі, выконвай! Гэта і правільна: трэба, каб і мясакамбінат працаваў рытмічна, і мяса ў любы час на прылаўку было. Хоць мо і разумней, каб перагледзелі графік: хай здаваў бы цяпер той, у каго кармоў няма. Напрыклад, Сурміла. Ён ужо з месяц, як косіць дугою. Калі закосіш дугою — не да прываг, тут хоць бы скаціна дух не паспускала. Во гаспадар! А яшчэ кандыдат навук!

Кунцэвіч недалюблівае старшыню суседняга калгаса «Гігант» Сурмілу, дзе толькі можна пацвельваецца, падкусвае яго, а той аж чарнее ад злосці. Аляксей Сцяпанавіч і сам толкам не ведае, чаго даўся яму гэты Сурміла. Пэўна, праз Сурмілаву ганарыстасць, сверб пабалабоніць з трыбуны, высоўвацца з рознымі ініцыятывамі. Летась ва ўсе званы званіў, што збярэ на круг па сорак цэнтнераў збожжа. Ды лыткі тонкія, каб па сорак цэнтнераў

узяць — ледзьве па дваццаць сабраў. Другі ад сораму згарэў бы, прыкусіў бы язык, сядзеў бы ніжэй травы, цішэй вады, а яму — хоць бы што! Нейкіх «аб'ектыўных» прычын навыдумляў, зноў ходзіць, адкапыліўшы губу, начапураны, як індык, зноў кулакамі ў грудзі б'е: па чатыры тысячы кілаграмаў малака ад каровы надаю! Раўняйцеся на мяне! Каб ты так жыў, як надоіш па чатыры тысячы! Зрэшты... Ат, што казаць, пустая бочка заўжды грукату дае... Адно дзіва: ніяк не раскусяць гэты арэх-свістун. Глядзі, чаго добрага, высунуць у яшчэ большае начальства. А бывае, што такія спрытнюгі і пралазяць. Потым, праўда, спахопяцца, шукаюць — знайсці не могуць зачэпку, каб скалупнуць: выпівае ў меру, з чужымі кабетамі не падгульвае — паспрабуй падкапайся...

А мо дарма ён чапляецца да Сурмілы? Дрэнь, калі суседзі — як сабакі. Кожны жыве як знае. Сурміла малады, вучоны — яму трэба выбівацца ў людзі. Таму і шуміць, як вятрак. Каб не было каму слухаць, то і не шумеў бы... Але што табе да таго? Сурміла ў твае справы не соваецца, і ты не лезь са сваімі правіламі ў чужы манастыр. З якой гэта ласкі табе не дае спакою Сурміла? Мо зайздросціш яго вучонасці? Хм... Было б каму зайздросціць! Што ж, хоць і грамаці малавата, але не ён, а вучоны Сурміла косіць дугою... А фанабэрыі колькі! Праўду кажуць: фанабэрыі ў чалавека роўна столькі, колькі розуму не хапае. Розум, ён з кніжкамі не даецца... А мо і даецца — халера ж яго ведае... Цяпер усе вучацца, але хай павучыўся б тады... Ваяваць, а потым хлеб вырошчваць трэ было, а не пра інстытуты думаць... Хоць, канечне, калі ён, Кунцэвіч, не думаў, то гэта не значыць, што ніхто не думаў. Былі такія, што і хлеб вырошчвалі, і інстытутаў не цураліся. Далёка глядзелі. А ён? Капаўся, як крот, а зірнуў на свет — позна. Ат, што шкадаваць, чаго не вернеш!

Збочыў да плота — і яшчэ гусцей захрабусцеў пад нагамі бледна-слаісты лядок. Акурат шкло, акурат тады ў Берліне — бліснула раптам нечаканая думка,— і перад

вачыма ўстала выразна тая берлінская вуліца, усланая бітым шклом. Хоць, вядома, было тады не да нейкага шкла, але, як сёння памятае, перад вачыма ўстаў бацька: з маленькіх аскельчыкаў збірае шыбу — пры Польшчы шкло не так проста было дастаць і каштавала яно немалыя грошы. І было неяк не па сабе, што пад салдацкімі ботамі разлятаюцца з трэскам кавалкі на паўвітрыны, якія нейкім цудам не паразбіваліся, падаючы на тратуар.

Кунцэвіч усміхнуўся гэтаму нечаканаму ўспаміну і шпарчэй пакрочыў да хлява. Адчыніў дзверы — адразу ж абдало цеплынёй. На ногі ўскочыла пярэстая карова, даверліва памкнулася да яго мокраю пысаю. Пачухаў у ямцы між рог, карова ці то ад задавальнення, ці то ад нецярплівасці бушліва пакруціла галавою і зноў памкнулася пысаю, лізнуўшы руку шурпатым языком.

— Зараз пакармлю,— лагодна сказаў Аляксей Сцяпанавіч і рушыў да гумна наскубці ахапак канюшыны. Карова высунула галаву ў дзверы, уважліва і нецярпліва сачыла за ім сваімі вялікімі неспакойнымі вачыма, у якіх гарэла, адбівалася святло веснавой раніцы.

Як толькі кінуў у жолаб канюшыну, з кутка ўскочыў цыбаты, такі ж, як і карова, пярэсты цялюк, тыцнуўся да жолаба, палахліва рвануў убок, растапырыўшы ногі, падазрона і недаверліва ўставіўся на чалавека, яшчэ раз скокнуў убок, тут жа забыўся на ўсё, укленчыў, прыпаў да вымя, весела і задаволена віляючы хвосцікам.

— І дулю ён табе пакіне! — усміхнуўся Аляксей Сцяпанавіч, уяўляючы, як пабурчыць жонка, калі прыйдзе сюды з даёнкаю.— Пацешся, пацешся, заўтра адсаджу — бач, які бугай стаў!

Аляксей Сцяпанавіч з замілаваннем глядзеў на гэтую звычайную ідылію, і ў душу яго стаў усяляцца спакой, разважлівы, самавіты. Але спакваля падкрадвалася нешта большае, значнае.

А як там на ферме?.. Мо ўсё ж пад'ехаць, паглядзець?

У яго не было асаблівай трывогі за ферму — Адась управіцца, калі што. Бывае, па пяць ацёлаў за ноч прымае, а тут адну, вядома, не праваронiць. Лепш за якога лекара ўпраўляецца. Заатэхнік спачатку на час ацёлаў пакідаў дзяжурную даярку, але Адась заўсёды адпраўляў яе дадому, потым і заатэхнік зміры́ўся з гэтым «непарадкам»... Адасю падабаецца прымаць ацёлы, але заўсёды лаецца, мацюкаецца, асабліва калі даяркі пачынаюць пацвельвацца — «каровіна акушэрка». Адась не разумее ніякіх жартаў, крычыць на ўсю ферму:

— Ы-ых вы-ы... Ялаўкі, ідры вашу такую!..

— То мо ты ўзяўся б за гэтае дзела? — рагочуць жанчыны, падступаючы бачком да Адася.

— Ы-ых вы, растакую вашу матары! — заходзіцца Адась.— І нагі маёй не будзе тут! Самі акушэрце!

— Ну-у, што-о ты, Ада-ась...— пачынаюць падлізвацца даяркі.— Які гілос на цябе напаў...

— Я табе дам гілос! — пагрозліва наступае той, размахваючы кульбаю.

Даяркі з піскам і рогатам разбягаюцца хто куды, і Адась трохі супакойваецца.

А ўвогуле ён чалавек добры і мяккі, клапатлівы і няўрымслівы, хоць часам падобны на наравістага каня: упрэцца — хоць ты дручком паганяй! Яго дзівацтвы, асабліва мацюкі, пагрозы, ніхто ўсур'ёз не прымае — як заводзіцца, так і адыходзіць. Такі ён і на ферме, дзе ўжо гадоў дваццаць вартаўніком, такі і дома — вечныя крыкі...

Рашэнне паехаць на ферму зусім супакоіла Аляксея Сцяпанавіча. Але на чым ехаць? Успомніў, што машыну не загнаў звечара на панадворак: загадаў шафёру, каб рыхтаваў да паездкі ў раён.

Звычайна ён сам водзіць машыну, заязджае на ноч «козлікам» на панадворак — калі захацеў, тады і паехаў. Летась набылі новую «Волгу», але за руль «Волгі» сядаць не рашаецца — машына далікатная і не для сельскіх дарог. І выганяюць з гаража толькі тады, калі трэба ў горад,

і то па добрай дарозе. Шафёру гэта не падабаецца. Праўда, маўчыць. Ён і ўчора ўгаворваў ехаць на «Волзе». Яму абы праехаць з шыкам. За адзін раз гатовы дабіць машыну. А што яму! Даб'е — калгас новую купіць. Калгас для яго бяздонная бочка. Не-е, не сялянскага заводу гэты хлопец, хоць і вырас у вёсцы. Пашвэндаўся па свеце, а дабра-розуму так і не набраўся...

## 2

Начальнік райсельгасупраўлення Іван Віктаравіч Лазовік не знаходзіў сабе месца, усё валілася з рук. Яму не раз даводзілася гаварыць людзям не дужа прыемныя рэчы, куды больш непрыемныя, чым тое, што зараз трэба сказаць Кунцэвічу, і ніколі асабліва не цырымоніўся. Ён ведаў, перакананы быў, што трэба іменна так, а не інакш, і сумленне было спакойным. Зараз такога спакою не было. Ён разумеў, чаму няма спакою, і гэта садніла яшчэ больш...

Колісь пасля інстытута Лазовік чатыры гады адпрацаваў у «Забор'і» аграномам. Праўда, гэта было даўно — гадоў пятнаццаць таму назад. Але і па сённяшні дзень, калі сам паспеў пастаршынстваваць, пабыць начальнікам райсельгасупраўлення, бы нічога і не змянілася між ім і Кунцэвічам. Іх адносіны наўрад ці можна назваць дружбаю, але і простым знаёмствам не назавеш таксама. Гэтыя адносіны падобныя на адносіны старога настаўніка і былога вучня, які ў нечым пайшоў далей за свайго настаўніка. Кунцэвіч на людзях трымаецца на «вы», што заўсёды бянтэжыць Лазовіка, разам з тым ён удзячны старому, бо і ў вочы, і за вочы шмат хто, Радзевіч у тым ліку, называе іх адносіны «асобымі». Дзівакі людзі! Хіба ён патурае, робіць хоць якія паслабкі Кунцэвічу?! Мо якраз наадварот... Кунцэвіч і сам не хоча ніякіх скідак-паслабак і, калі сумленна, для раёна робіць больш, чым хто. Якія ж тут «асобыя» адносіны?!

4 Зак. 830

У кабінет зайшла начальнік планава-фінансавага аддзела, немаладая хударлявая жанчына са стомленымі вачыма.

— Ну, як там у вас, Святлана Васільеўна? — узрадавана спаткаў яе Лазовік.— Ці скора? — Голас яго быў затрывожаны, умольны.

Жанчына моўчкі паклала на стол стос паперак, спісаных слупкамі лічбаў, графікамі, паглядзела на яго спакойна і стрымана:

— Падлічваем, Іван Віктаравіч. Вы ж самі ведаеце...— І таропка пайшла да дзвярэй.

Канечне, ён ведаў, выдатна разумеў, што планавікі робяць амаль немагчымае — на такія разлікі патрэбны тыдні два, ну, дзён дзесяць, а тут... Пасля таго як учора па яго заданню быў аб'яўлены аўрал, планава-фінансавы аддзел сядзеў усю ноч, людзі ледзь з ног не валяцца ад стомы. А што рабіць?! Адпачнуць потым. Да прыезду Кунцэвіча трэба, каб усё было гатова. Болей таго — неабходна яшчэ паспець з разлікамі ў райком партыі...

Лазовік прагна накінуўся на паперкі, і для яго на нейкі час, апроч іх, перастала існаваць усё на свеце. Ён чытаў, нешта падкрэсліваючы, ставіў пытальнікі, клічнікі, і твар яго то праясняўся, то хмурнеў — было відаць, што ў разліках нешта не клеіцца ці зрабілі не тое, чаго хацеў. І пачынаў зноў і зноў звязвацца з планавікамі па селектару — прасіў удакладніць, разлічыць па іншых параметрах, даваў новыя заданні, умольваў паскорыць работу, ловячы сябе на тым, што патрабуе немагчымага.

Прачытаўшы паперкі, адклаў іх убок і раптам адчуў, што і сам стомлены — усю ноч таксама не самкнуў вачэй. Каб трохі ўзбадзёрыцца, захадзіў па кабінеце, стаў рабіць нешта накшталт гімнастыкі, але скора ўсё гэта абрыдла.

І за якія гэта грахі прыдумалі яму такую кару! Хай перклікаў бы Кунцэвіча і гаварыў усё сам Радзевіч. Ён першы сакратар, гэта, у рэшце рэшт, яго ідэя — хай і даво-

дзіў бы да канца! Ці даручыў бы Чыжэўскай альбо Дзевяценю. Бы не ведае...

Гэтая думка прыходзіла не першы раз, але тут жа тухла, выцяснялася іншай — больш разважлівай і разумнай. Яно, канечне, так: Чыжэўскай альбо Дзевяценю было б зручней... Вядома, Чыжэўская спала б спакойна. Хто ёй Кунцэвіч? Кадр з няпоўнай сярэдняй адукацыяй, ад якога трэба збаўляцца як мага хутчэй. А Дзевяцень — чалавек у раёне новы... Так што гэта і добра, што гутарыць з Кунцэвічам даручылі яму, Лазовіку. Хто, апроч яго, дакажа памылку? Не-е, гэта глупства, што ўстарэў Кунцэвіч! Ды паглядзелі б, якія кніжкі ў старога на паліцы! Не ўсякі аграном, заатэхнік, інжынер такое чытае. І ў кожнай — паметкі, закладкі. У рэшце рэшт, хіба Кунцэвіч правальвае справу?! Хіба ў яго горш, чым у іншых? Наадварот. А гэта важней за ўсё... Быць такога не можа, каб Радзевіч не падумаў, каб яго не перакаималі разлікі!

А калі не перакаиаюць? Як сказаць старому? Вачэй-то не пазычыш...

Глянуў на гадзіннік: стрэлка няўмольна набліжалася да адзінаццаці — вось-вось павінен з'явіцца Кунцэвіч, а разлікі яшчэ не гатовы. Устаў з крэсла, нецярпліва захадзіў па кабінеце...

Эх, каб можна было пачакаць хоць з дзянёк! Толькі адзін дзянёк! Не дасць Радзевіч...

Нехта няўмела паскрэбаўся ў дзверы — і ў Лазовіка апала сэрца: канечне ж, гэта Кунцэвіч... Адзін стары не можа ніяк прывыкнуць, што дзверы ў кабінеце адчыняюцца не на сябе, а ад сябе, і кожны раз абавязкова паскрэбаецца, потым пабурчыць: рукі трэба паадбіваць такім майстрам...

Цяпер ён чамусьці прамаўчаў, быў заклапочаны, насцярожаны, і першае, што цюкнула Лазовіку: а ці не ведае ён пра ўсё? Гэтая згадка і збянтэжыла, і ўзрадавала адначасова, змусіла раптоўна замітусіцца, з незвычайнай ветлівай паслужлівасцю прапаноўваць старому крэсла,

але праз хвіліну схамянуўся, зразумеўшы, наколькі недарэчная гэтая яго ліслівая гасціннасць...

Кунцэвіч глянуў дапытліва, трохі насмешліва, хацеў нешта сказаць, але прамаўчаў. Павагаўшыся, сеў на прапанаванае крэсла, па звычцы паклаўшы на калені свае цяжкія агрубелыя рукі. Яшчэ раз глянуў дапытліва, падміргнуў паблажліва, загадваючы вачыма: то давай-давай, слухаю...

Было падобна, што на самай справе ён ведае і зараз намерыўся выпрабаваць яго, Лазовіка. Івана Віктаравіча кінула ў пот. «Але адкуль мог даведацца стары? — свідравала думка.— Мо па тэлефоне сказалі Радзевіч ці Чыжэўская? Маглі пазваніць учора вечарам ці сёння зранку... Гэта б і добра было, каб стары пачуў не ад яго, падрыхтаваўся...»

— Ну дык што там, Іван?

І Лазовік адчуў, што ў яго стала дранцвець усярэдзіне. Было такое адчуванне, быццам вось-вось давядзецца ступіць у ледзяную ваду — аж дух займала. Трэба было нешта гаварыць, а патрэбныя словы прапалі, тыя ж, што круціліся бязладным роем, зараз здаваліся нетактоўнымі, недарэчнымі...

Маўчанне, між тым, рабілася няветлівым, нават гнятлівым.

Лазовік, нарэшце, сабраўся з духам і пачаў здалёк — пра дружную і раннюю вясну, незвычайна цёплую для сакавіка пагоду. Добра, што ёсць на свеце гэтая на ўсе выпадкі жыцця тэма-выручалачка!

Кунцэвіч сядзеў засяроджаны, для прыліку слухаў, а сам гадаў: якую ж задачку зараз падкінуць? Паклікалі, вядома, не для таго каб пагаманіць пра вясну ды пагоду. Гэта толькі запевачка... А задачку, па ўсім відно, падкінуць няпростую: калі начальства пачынае паддобрывацца, абходжваць, як паненку, значыць, яму нечага ад цябе трэба, значыць, чакай непрыемнасцей... Во зараз падсуне яшчэ гектараў пяцьдзесят цукровых буракоў — і чухай

патыліцу, круці-выкручвайся, паважаны таварыш Кунцэвіч. Здурэць можна — куды ўжо тыя буракі! І так, лічы, па гектару на бабу выходзіць. Не-е, нізашто! Ні гектара, ні соткі! Нізашто!.. Усё спланавана, кожны кавалачак зямлі на ўліку... А мо і не пра буракі будзе прасіць? Мо ў раёне план па мясу не складваецца... Выручай, скажа, прадавай бычкоў у лік другога квартала... А больш ты нічога не хацеў?! Што гэта, зрэшты, браце мой, за парадак: гарыць план па раёне — знадзіліся да Кунцэвіча: здавай, Кунцэвіч, выручай, Кунцэвіч. А ў якую капеечку ўсё гэта вылятае Кунцэвічу — хто думае?! Досыць! Кунцэвіч выканаў і перавыканаў, колькі мог, свой план, Кунцэвічу ведней, калі і што прадаваць. Во, хай Сурміла свой план выконвае. А то як залезе на трыбуну — ого, які зух, а цяперака...

Ён сачыў за Лазовікам сваімі хітрымі выцвілымі вачыма, рыхтаваўся энергічна пярэчыць, пратэставаць, разам з тым... памалу прывыкаў, што ў яго, мусіць, не хопіць ні настойлівасці, ні сумлення адмовіць Івану, калі той хораша папросіць. Плакалі, пэўна, твае бычкі, таварыш Кунцэвіч... Ну і халера з імі — трэба ж выручаць... Мусіць, прыпякло, калі просяць. І начальству бывае нясоладка, дастаецца на арэхі, яшчэ як дастаецца...

— Ды не круці ты, не пятляй, як заяц, прама кажы...

Лазовік і сам разумеў, што гуляць з Кунцэвічам у жмуркі — несур'ёзная забаўка, стары на метр у зямлю бачыць, аднак язык не паварочваўся сказаць... А мо пакуль што нічога не гаварыць? Папрасіць, каб зайшоў пад вечар... Тым часам будуць гатовы разлікі, пакажа іх Радзевічу, збярэцца бюро — мо і патрэба адпадзе...

— Аляксей Сцяпанавіч, давайце адкладзём гутарку да вечара...

— Ды не-е-е, браце мой! У мяне часу няма сноўдацца без дзела да вечара. Гавары ўжо, калі паклікаў...

Лазовік добра ведаў Кунцэвіча — сапраўды, чакаць да вечара ён не будзе і, увогуле, не выйдзе нізашто з кабінета, пакуль не даведаецца.

— Аляксей Сцяпанавіч...— і запнуўся, спалохаўшыся свайго голасу.

— Без цябе ведаю, што Аляксей Сцяпанавіч!..— нахмурыўся Кунцэвіч.— Кінь, браце мой, гэтыя свае дурныя заласкі — я табе не паненка якая...— Паглядзеў хітра.— Ды можаш ты, урэшце, сказаць па-чалавечы? — І падахвоціў: — Трэба — значыць, трэба...

Лазовік разумеў, што ўхіліцца ці перанесці на потым гэтую дужа непрыемную размову ўжо немагчыма, і паніклым голасам сказаў:

— Тут плануецца аб'яднаць вас з «Гігантам»...— і, сам таго не жадаючы, схлусіў: — Але не ўсё яшчэ вырашана...

— І ўсяго толькі? — здзівіўся Кунцэвіч. Адчувалася, да яго не адразу дайшоў сэнс гэтага аб'яднання, але не прайшло і некалькі секунд, як твар яго стаў змрачнець.— Аб'яднаць нас з Сурмілам, кажаш?..

Цяпер, калі сказана галоўнае, Лазовік адчуў невялікую палёгку.

— Калгасік у вас маленькі — усяго тры з паловай тысячы гектараў... Ды і «Гігант» — таксама...— зноў запнуўся, злавіўшы сябе на прыкрым: а гаворыць жа чужымі словамі...

Кунцэвіч, сам не ведаючы чаго, устаў, потым зноў сеў, ледзь сунімаючы хваляванне... Во як нечакана ўсё сталася, з горыччу думаў ён. Так нечакана... Хоць, калі разабрацца, якая тут нечаканасць? Позна ці рана, а ўсё роўна некалі мусіў наступіць час. У вёсцы спрадвеку было: бацька перадаваў гаспадарку ў сынавы рукі. Зараз, вядома, калгасы, дакладней — старшынскія пасады, не перадаюць сынам у спадчыну, але ўсё роўна бярэцца нехта маладзейшы...

Па праўдзе кажучы, Аляксей Сцяпанавіч даўно падумваў пра свой непазбежны адыход ад старшынскіх спраў, і гэта ўспрымалася спакойна, як належнае. Хвалявала адно: каму, у чые рукі перадаць сваю справу, сваю спадчыну, каб з пачуццём выкананага абавязку ціха дажываць

гады, адлічаныя няўмольным лёсам. Абы толькі ў калгасе з'яўляўся талковы малады спецыяліст, пачынаў па-асабліваму пільна прыглядацца да яго, узважваючы ўсе «за» і «супроць», і, калі на некага падаў выбар, прыбліжаў, вучыў, рабіў, што мог, каб мацнелі ў палёце маладыя крылы. Але заўсёды здаралася так: ледзь-ледзь спрабуе малады свае крылы, як знаходзяцца купцы-ганцы... Лазовік, Жылінскі, Сурмач, Ясько і, нарэшце, Цярэшка, якога толькі летась забралі на «Светлы шлях»...

Прыгадалася, як ваяваў, не хацеў аддаваць Цярэшку — бы душа чула. Угаварылі: ёсць час, паспееш яшчэ падрыхтаваць сабе змену... Во як паспеў!.. Канечне ж, нізашто не адаў бы Цярэшку, лепш сам пайшоў бы ў адстаўку, каб не думаў... А думаў: праз пару гадкоў мо з Апанасавага Валодзькі толк будзе. Хоць наўрад ці з Валодзькі толк будзе — шалапуцісты, халера, не ў бацьку ўдаўся. Шкада, што не ў Апанаса пайшоў... А мо каб ажаніць, паварыць пару гадкоў — глядзіш, і пасталеў бы, прапала б гэтае дзяцінства? Хто яго ведае... А кемлівы як аграном, зямлю ведае і любіць. І, апроч усяго,— свой, гэта лепей, чым які заезджы...

І яшчэ была ў Аляксея Сцяпанавіча адна патаемная надзея — праз год канчае інстытут старэйшы сын Сцяпан. Вядома, каб заступаў Сцяпан — няёмка, нясціпла, гэта толькі ў кіно бывае... Аднак, хай пабыў бы нейкі час пад бацькавым наглядам, пацёрся сярод сваіх людзей...

Але, бадай, горай за ўсё было зараз, што здарылася гэтак знячэўку, зусім не так, як уяўлялася, як думалася. А думалася: прыедзе некалі ў райком і скажа: дарагія таварышы, пастаршынстваваў я нямала, састарыўся, трэба і меру ведаць. Прашу на заслужаны адпачынак. Во, падрыхтаваў сабе змену, хай бярэцца ён, малады...

А сталася тое, чаго больш за ўсё баяўся — дачакаўся, што паклікалі і сказалі: саступай, стары корч... Правароніў свой час, той момант... Гэтыя два гады, што засталіся да шасцідзесяці, завялі ў зман... І няма ні зменшчыка, ні

ўрачыстасцяў... Нічога няма. Усё забярэ з малатка нейкі Сурміла...

— А ці ўсё вы прадумалі? — насцярожана глянуў на Лазовіка.— Ці не давядзецца як зводзіце, так і разводзіць пасля? Як тады... Ты ж помніш...

Вядома, Лазовік добра памятае... Гэтага нельга забыцца.

У самы разгар кукурузнага буму Кунцэвіч не проста так, а з трыбуны асмеліўся сказаць такое, пра што не дазвалялася нават думаць: і не збіраюся чатырнаццаць працэнтаў зямлі займаць пад кукурузу, нізашто не стану заворваць канюшыну!

То была немаведама якая дзёрзкасць. Лупцавалі на той нарадзе «злоснага антыкукурузніка», як сідараву казу. І ў дадатак да ўсяго праз тыдзень у раённай газеце з'явіўся фельетон, злы, разносны, абразлівы — на ўсю старонку. Ды яшчэ малюнкі. Асабліва адзін: стаяць Кунцэвіч і ён, Лазовік — галоўны аграном,— на каленях перад партрэтам Вільямса, на лысай галаве якога вяночак з канюшыны і цімафееўкі, бы німб у святога апостала, масіўная рама аздоблена гірляндамі з сырадэлі і вікі, адзін, закаціўшы вочы, хрысціцца на гэты партрэт, другі — паклоны б'е. І подпіс: «Заборскія травапольшчыкі». І сёння Лазовік беражэ тую газету, каб пад добры настрой пацешыць знаёмых. Аж за жываты бяруцца. І праўда — смешна. Тады было не да смеху... Кунцэвіча прагналі са старшынёй, нават брыгаду не даверылі, а яго, Лазовіка, як «травапольшчыка-падпявалу», разжалавалі з галоўнага ў аграномы-насенняводы. Да «Забор'я» далучылі дабіты да ручкі, але багаты кукурузнымі традыцыямі суседні «Светлы шлях», кіраваць калгасам прыслалі намесніка старшыні райвыканкома Баранава, чалавека гарадскога, але непахіснага кукурузніка, аратара высокага класа. Першае, што зрабіў новы старшыня, гэта запрасіў карэспандэнтаў, сабраў мітынг, сказаў палымяную прамову і тут жа загадаў трактарыстам заворваць канюшыну, якая ўжо

бралася ў сцябло. Пад «каралеву палёў» Баранаў заняў аж дваццаць пяць працэнтаў пасяўных плошчаў, і гэта лічылася вялікай перамогай, небывалым дасягненнем, пра якое пісалі ўсе газеты, аж захлёбвалася ад захаплення радыё. Баранаў паспеў «вырасціць» па тысячы цэнтнераў кукурузы на гектары, зарабіць за гэты «рэкорд» ордэн, а напрадвесні ад бяскорміцы пачаўся падзёж жывёлы...

А потым... А потым быў кастрычніцкі, затым — сакавіцкі пленумы ЦК...

Баранава пасіху пераставілі на аддзел культуры, калгас зноў падзялілі на два, паспісвалі даўгі. Успомнілі пра Кунцэвіча — абралі старшынёю ў «Забор'і», і яго, Лазовіка, таксама вярнулі на старое месца. Праўда, ненадоўга — праз паўгода рэкамендавалі старшынёю ў «Светлы шлях»...

— Не-е, Аляксей Сцяпанавіч, цяпер нельга раўняць...— энергічна запярэчыў Лазовік.— Што было — то з вадою сплыло...

— Яно, канечне, з вадою сплыло...— згадзіўся Кунцэвіч.— Цяперака раўняць нельга... Паразумнелі, да вёскі павярнуліся. Такога клопату, такога жыцця, браце мой, селянін яшчэ ніколі не меў — гэта факт. Але і бесталкоўшчыны яшчэ — ой-ёй-ёй! Ну, скажы, чым ваш Сурміла лепшы за Баранава? — І, не дачакаўшыся адказу, цяжка ўздыхнуў: — Мо яшчэ і горшы... А крыўдна, Іван, што трапіць усё да Сурмілы. Зноў, лічы, кату пад хвост...

Лазовіку і самому было крыўдна і горка, але не пра гэта даручылі яму гаварыць з Кунцэвічам... Да-а-ручы-ылі... Усміхнуўся кісла і адчуў, што на яго зноў находзіць нейкая няўтульная ўзрушанасць. Даручылі... А калі ён не згодзен, прынцыпова не згодзен з тым, што даручылі?! Чаму павінен маўчаць, чаму павінен згаджацца?! З якой гэта ласкі, у рэшце рэшт, павінен крывіць душою, быць не самім сабой?.. А што ён можа зрабіць? Ёсць рашэнне бюро, ёсць партыйная дысцыпліна... Партыйная дысцыпліна... А калі бачыш памылку, калі бюро дапусціла віда-

вочную памылку?.. Гэта ён так лічыць, а тыя, хто галасаваў за рашэнне, інакш думаюць... І ён мусіць падначаліцца, прыняць думку большасці... Значыць, падтрымаць памылку... А сумленне? Калі сумленне не хоча мірыцца?.. Мо яно, сумленне, і ёсць найважнейшая партыйная дысцыпліна. Мо партыйная дысцыпліна і заключаецца ў тым, каб не маўчаць, а насуперак фармальнай большасці даказаць, прадухіліць памылку... Але ж учора нічога не даказаў... То было ўчора, учора не быў гатовы, знячэўку не паспеў і падумаць як след... Чаму, зрэшты, такія пытанні рашаюцца знячэўку, без папярэдняга абдумвання? Чаму абышлі начальніка райсельгасупраўлення? Не-е, канечне, так нельга ставіць пытанне — уласныя амбіцыі дрэнны дарадчык. Трэба быць вышэй за ўласныя амбіцыі, глядзець у сутнасць... А калі глядзець у сутнасць, то, вядома, у прынцыпе Радзевіч мае рацыю — узбуйненне гаспадарак — аб'ектыўны працэс, і тармазіць яго бязглузда. Але хіба ён супроць узбуйнення? Ён прынцыпова супроць таго, как пароць спешку, рабіць з бухты-барахты...

— Аднаго не вазьму ўцям: на якую трасцу спатрэбілася заварваць гэтую кашу, на вясну гледзячы? — нібы прачытаў яго думкі Кунцэвіч.— Гарыць, ці што? Далі б з сяўбою аходацца...

Лазовіка аж скаланула: менавіта гэта ён сам учора гаварыў на бюро! Ускочыў, як уджалены, з крэсла, нецярпліва захадзіў сюды-туды, здавалася, забыўшыся пра Кунцэвіча... Ехаць у абком, думаў ён, а калі спатрэбіцца — у ЦК. Бюро райкома — не апошняя інстанцыя... У абкоме разбяруцца, хто памыляецца...

Ён амаль пераканаў сябе, што трэба ехаць неадкладна, мо нават сёння, але праз хвіліну заўважыў, як прабіваецца другі, цвярозы, разважлівы голас: не кіпяціся, узваж усё спакойна. Падумай, напрыклад, як успрымуць такі дэмарш Радзевіч, іншыя члены бюро? Сам ведаеш — як...

Ну і хай сабе! Ісціна даражэй за ўсё...

Значыць, ехаць спадцішка, бы скардзіцца?.. І нейкі агідненькі, азызлы страх стаў падымацца з глыбіні душы, пакідаючы прыкры астой, і дзёрзкае, разумнае рашэнне, якім яно здавалася яшчэ хвіліну назад, пачынала бляк-нуць, губляць сваю разумнасць...

Не! Калі ехаць, то пагаварыўшы з Радзевічам. Мо, пагаварыўшы, і ехаць не спатрэбіцца... Калі ехаць, то ехаць па-саліднаму, вычарпаўшы ўсе магчымасці на месцы...

«Чаго гэта ён? — назіраючы за Лазовікам, здзівіўся Кунцэвіч.— Пэўна, браце мой, сам бачыць, што не туды павярнулі аглоблі...» — Хацеў нешта сказаць, але стрымаўся: хай сабе падумае...

Лазовік па-ранейшаму таропка хадзіў па кабінеце, намагаючыся супакоіцца: усё будзе добра, быць таго не можа, каб Радзевіч не зразумеў, каб яго не пераканалі эканамічныя разлікі! Праўда, разлікі далёка не такія, якія хацелася б мець, але ўсё роўна... Перад эканамічнымі разлікамі Радзевічу не ўстаяць... Сёння дэталёва і грунтоўна абдумана, што гаварыць і як гаварыць...

Разам з тым зноў і зноў прыгадвалася ўчарашняя Радзевічава рашучасць, непахісная, упартая, і са страхам стаў заўважаць, як пакрысе ўбывае, знікае яго былая ўпэўненасць дамагчыся адмены ўчарашняга рашэння... Не! І яшчэ раз не! У яго цяпер такія доказы...

Але і Радзевіч, пэўна, не сядзеў склаўшы рукі...

І раптам ці то ад патрэбы ўзнавіць размову з Кунцэвічам, якая так няёмка заглухла, ці то ад неадольнага жадання ўзбадзёрыцца, набыць былую ўпэўненасць перад сустрэчай з Радзевічам цюкнула нечаканая, трохі недарэчная, трохі гарэзлівая думка: а што, калі ўчарашнія Радзевічавы аргументы апрабаваць, праверыць на Кунцэвічу? Цікава, што скажа стары? Глядзіш — нешта спатрэбіцца для размовы ў райкоме...

Праўда, штосьці падсвядомае стрымлівала, супраціўлялася: брыдка, нетактоўна, але, павагаўшыся, перасіліў сябе:

— Аляксей Сцяпанавіч, а ці не думаеце вы, што таму і трэба фарсіраваць аб'яднанне калгасаў, каб паспець управіцца да палявых работ?

Менавіта гэта сказаў учора Радзевіч, калі яны з Антоненкам даказвалі, што аб'яднанне разладзіць палявыя работы, і зараз спадзяваўся, быў перакананы, што Кунцэвіч скажа прыкладна тое, што гаварылі яны з Антоненкам, а мо знойдзе нешта яшчэ больш разумнае, мудрае, як гэта заўсёды ўмее стары, аднак памыліўся.

Кунцэвіч няўцямна паціснуў плячыма, падумаў і разважліва сказаў:

— А мо яно і праўда: калі ўжо рабіць, то рабіць адразу, браце мой, без лішняй важданіны. Як ты не скрывай, а людзі ўсё роўна даведаюцца — шыла ў мяшку не ўтоіш... Сам разумееш, якая будзе работа, калі ўсе наўкол пачнуць чакаць, як смерці...

— Вы так думаеце? — сумеўся Лазовік.

— А што мне загадаеш думаць? — незадаволена буркнуў стары, даючы знаць, што такая размова яму не дужа падабаецца.

Лазовік зніякавеў, збянтэжана сеў на месца, не ведаючы, як быць далей. Каб не маўчаць, вяла, трохі вінавата сказаў:

— А ўсё ж цеснавата на трох з паловай тысячах гектарах. Адзін комплекс...

— Цеснавата, кажаш? — ажывіўся Кунцэвіч.— Хм, гэта, мусіць, у Сурмілы замулялі боты...— Не ведаў, куды падзець рукі, паклаў на стол, нервова барабанячы пальцамі.— Хацеў бы паглядзець, як ён збіраецца ўправіцца з такой аграмадзінай... Гэта ж добрых пяцьдзесят вёрст з канца ў канец! Як гной вывезці ў такую далеч? Як тэхніку пазаганяць, людзей на работу і з работы даставіць, калі ніводнай людскай дарогі няма? Якая ж тут эканамічная выгода? Адны ўбыткі... Папомніш мяне, старога дурня: паплыве гной і жыжка з таго комплекса ў раку, дальбог паплыве! Мы з Цярэшкам мо і не далі б змарнавацца,

каб быў той комплекс кааператыўны... Скажы, а чаго перадумалі будаваць яго кааператыўна? Думаеш, аддавацьаднаму Сурмілу разумней?

І пра гэта гаварыў на бюро Лазовік, але ўчора ў яго не было разлікаў...

«Ды дзе ж разлікі?! — схамянуўся ён.— Чаго яны марудзяць?»

Нецярпліва, трохі раздражнёна націснуў на клавішу селектара, амаль умольна сказаў у мікрафон:

— Святлана Васільеўна, ну, што там у вас? Ці скора-а?..

— Нясу, Іван Віктаравіч,— прахрыпела ў дынаміку.

Праз хвіліну яна зайшла ў кабінет і з палёгкаю сказала: — Ну, вось, здаецца, і ўсё...

Лазовік амаль выхапіў у яе з рук паперы, заклапочана накінуўся на іх, праз хвіліну схамянуўся:

— Дзякуй, Святлана Васільеўна... Вялікі дзякуй вам усім. А цяпер ідзіце адпачываць.

— А мо яшчэ што спатрэбіцца? — няўпэўнена запыталася яна.

— Не, ідзіце адпачываць. Дзякуй, вы зрабілі ўсё, што маглі...— рашуча сказаў Лазовік і паглыбіўся ў чытанне.

Кунцэвіч уважліва сачыў за ім, не ўсё яшчэ разумеючы, хацеў быў нешта запытацца, але не рашыўся замінаць — па ўсім бачна, паперы важныя і, мусіць, маюць дачыненне...

Прагледзеўшы апошнюю старонку, Лазовік задумаўся, устаў з-за стала, узрушана сказаў:

— Аляксей Сцяпанавіч, мне трэба ў райком. Тэрмінова...— І амаль загадаў: — А вы мяне пачакайце, абавязкова дачакайцеся! Спаткаемся праз гадзіны тры...

Кунцэвіч глянуў хітравата, і ў яго поглядзе было нешта большае, чым здзіўленне.

— Што ж, пачакаю...— ахвотна згадзіўся ён, і на твары мільганула ледзь прыкметная ўсмешка, аднак тут жа знікла, змянілася заклапочанасцю, мо нават трывогай.—

А ці трэба, Іван? Праз мяне толькі сам непрыемнасцей нажывеш. Мне гэта, браце мой, ведаеш, а табе...

## 3

І думаць не думаў Андрэй Паўлавіч Радзевіч, што гэтае амаль дзяжурнае пытанне «пойдзе» так цяжка. Першы стаў на дыбкі Лазовік. Лазовіка то і можна зразумець — ніяк не можа абарваць пупавіну з «Забор'ем», хоць абарваць даўным-даўно пара. Яго «асобыя» адносіны да Кунцэвіча, пра якія ўсе ведаюць, не робяць гонару кіраўніку, надзеленаму такою ўладай. Кіраўнік не мае права на нейкія асаблівыя адносіны з кім бы там ні было — гэта аксіёма. Хоць, зрэшты, хто ж яго ведае — мусіць, не ўсё так проста: мае ці не мае права... Мо кожны да скону дзён з нечым ці некім звязаны пупавінаю, у кожнага ёсць свае сімпатыі і антыпатыі, і вышэй гэтага не скокнеш. Хто ж яго ведае... Калі разабрацца, то хіба ён, першы сакратар, каму па службоваму абавязку належыць быць прыкладам, аднолькава роўны да ўсіх людзей? Канечне, не роўны... Іншы раз і невядома чаму, а да адных хіліцца душа, а да другіх — хоць забі, не хоча хінуцца. І разумееш: нельга так, а зрабіць з сабою нічога не можаш. Не паказваеш выгляду — не болей... Калі шчыра, то ён і сам сімпатызуе Кунцэвічу куды больш, чым Сурмілу. І, між тым, даводзіцца выбіраць не мудрага, цягавітага Кунцэвіча, а Сурмілу, да каго не туліцца душа. Ёсць рэчы, якія вышэй сімпатый і антыпатый,— з гэтым таксама трэба лічыцца... А што датычыць Лазовікавых «асобых» адносін, то, мусіць, перабольшвае іх значэнне. Няма ніякіх фактаў, што Лазовік робіць скідкі, паблажкі Кунцэвічу. Адны голыя словы. Раз нехта сказаў, два, тры — глядзіш, прыліпла. І ніхто не даўмеецца спытаць сябе: а ў чым тут крамола, што благога, калі людзі захавалі між сабою цёплыя, сардэчныя пачуцці? Бы, падняўшыся на чарговую службовую прыступку, ты абавязкова павінен цурацца старых

сяброў... Пэўна, гэтыя так званыя «асобыя» адносіны і перашкодзілі ўчора правільна зразумець Лазовіка. Пэўна... Між тым, павінна было насцярожыць, што Лазовіка падтрымалі сакратар райкома Антоненка, рэдактар газеты Аўсейчык, а старшыня камітэта народнага кантролю Кахновіч устрымаўся ад галасавання. Ніхто з іх ніякімі «асобымі» адносінамі не звязаны з Кунцэвічам... Колькі заракаўся не савацца раней часу ў спрэчкі, а зноў сарваўся. Можна зразумець, калі на гэтым спатыкаецца малады сакратар, а пры яго стажы і вопыце — недаравальна. Першаму сакратару трэба ўмець спакойна выслухаць думкі членаў бюро, узважыць, калі спатрэбіцца, стаць арбітрам, толькі пасля гэтага казаць сваё важкае слова... Але што цяпер шкадаваць, калі позна? Позна шкадаваць... Усё вырашана, і вырашана, безумоўна, правільна — чаго хвалявацца? Хто, зрэшты, адказвае за раён? Не Лазовік, не Антоненка, не рэдактар, канечне...

Чым больш супакойваў сябе Радзевіч, тым болей вострая незадаволенасць авалодвала ім. Каб неяк адкараскацца ад яе, узяўся праглядаць карэспандэнцыю, розныя нетэрміновыя дзелавыя паперы, хоць за іх бярэцца, звычайна, у канцы дня, калі менш званкоў і наведвальнікаў.

Зверху ляжала пісьмо, змацаванае з канвертам канцылярскай сашчэпкай. З «Гіганта»?! І зноў ананімнае... Чамусьці адчуў, што яго балюча кранае гэтае пісьмо... Ну і почырк! Клінапіс лягчэй расшыфраваць... Сяктак прачытаў першую старонку — во, ужо і за Клімовіча ўзяліся! Хацеў напісаць рэзалюцыю Антоненку, але перадумаў: мо самому паехаць, самому, нарэшце, разабрацца? Чаму ўсе ананімкі з «Гіганта» павінны разбіраць Антоненка і Чыжэўская? Канечне, даўно сам заняўся б гэтымі пісьмамі, каб яны не былі ананімныя — да ананімак у яго заўсёды быў недавер. Мо праз гэта і да праверак ставіўся не дужа ўважліва і сур'ёзна. А на добры розум, даўно варта было задумацца, чаму ідуць гэтыя ананімкі? Насцярожыць павінна было нават тое, чаму гэта ў Антоненкі

факты заўсёды пацвярджаюцца, а ў Чыжэўскай — не? Чорт ведае што!

Разбірала злосць, нейкая безадрасная, глухая, і ён не мог зразумець, адкуль яна, з якой нагоды.

Зайшла сакратарка:

— Андрэй Паўлавіч, я дазванілася да Сурмілы. Праз гадзіну будзе тут...

— Дзякуй...

Лазовік, нікога не заўважаючы, не ішоў, а бег у райком. Карцела неадкладна сказаць усё Радзевічу, прасіць зараз жа сабраць бюро, хваляваўся: каб хоць члены бюро не раз'ехаліся па раёне!

— Андрэй Паўлавіч у сябе?

— У яго карэспандэнты з Мінска,— расчаравала сакратарка.

«Во насланнё!» — раздражнёна падумаў Лазовік, ведаючы Радзевічаву слабінку; калі да яго завіталі карэспандэнты, ды яшчэ не дай бог трапіць цікавы субяседнік — гэта на паўдня.

— Даўно?

— Хвілін дзесяць,— са спагадаю сказала сакратарка і, заўважыўшы яго нецярплівасць, няўпэўнена прапанавала: — То мо заходзьце, калі нешта тэрміновае...

Лазовік ведаў, што да Радзевіча ў такой сітуацыі лепш за ўсё не совацца, але падумаў: а мо і праўда зайсці, падаць знак? Ужо ўзяўся за ручку дзвярэй, але пацягнуць на сябе ў апошнюю секунду не адважыўся.

— Ладна, пачакаю...— глянуў на сакратарку, нібы гэтым абыякавым «ладна» хацеў апраўдацца перад ёю за сваю нерашучасць.

Прысеў на крэсла, аднак не сядзелася. З непрыяззю падумаў пра карэспандэнтаў: пэўна, яны надоўга заселі. Во народ, не могуць здагадацца, што ў першага сакратара без іх спраў хапае, будуць пералiваць з пустога ў парожняе!

Чакаць пад дзвярыма было невыносна. Мо, каб не траціць часу, зайсці да Антоненкі? Пагаварыць, заадно абзваніць членаў бюро, папрасіць, каб былі на месцы...

— Марыя Іванаўна, я буду ў Антоненкі,— звярнуўся да сакратаркі і папрасіў: — Як толькі вызваліцца — скажыце.

— Добра. Будзьце спакойны.

Сакратар райкома партыі Міхаіл Пятровіч Антоненка, гадоў сарака невысокі чалавек, на выгляд тыповы флегматык, размаўляў па тэлефоне. Не спыняючы размовы, павіталіся за руку, Лазовік сеў ля прыстаўнога століка, закурыў, стаў нецярпліва чакаць, пакуль гаспадар кабінета скончыць сваю бясконца доўгую тэлефонную размову. Паступова стала разбіраць нешта накшталт злосці: здурэць трэба, каб гэтулькі гаварыць пра нейкія лозунгі, плакаты! У іх з сакратаром па ідэалогіі не раз бывалі сутычкі наконт гэтых лозунгаў. Лазовік лічыў іх марнай справай, пустой тратай грошай, Антоненка аднойчы адсцябаў за гэта яго на пленуме райкома, а потым у заключным слове яшчэ «праехаўся» і Радзевіч, таму цяпер не чыніць перашкод, хоць наўрад ці тая крытыка яго перакапала.

Лазовік нервова барабаніў пальцамі па стале, даючы знак: закругляйся, аднак Антоненка не прымаў гэтых выразных знакаў. Было невыносна нудна чакаць, і позірк стаў блукаць па кабінеце, шукаючы, за што можна зачапіцца. Аднак нічога вартага не траплялася. Пачаў разглядваць Антоненку, быццам бачыць яго першы раз. Позірк чамусьці затрымаўся на яго залысінах, пасівелых валасах, і балюча кальнула ў сэрца: а мы ж амаль равеснікі...

З Антоненкам яны знаёмы даўно, яшчэ з тых часоў, калі ён быў старшынёю калгаса, а Антоненка — дырэктарам мясцовай школы. Не сказаць, каб хадзілі тады ў сябрах-прыяцелях, але і злосці-крыўды адзін да аднаго ні-

колі не мелі. А калі спачатку адзін, потым другі перабраліся ў райцэнтр на свае кіруючыя пасады, адразу ж зблізіліся, зрабіліся неблагімі таварышамі. Мусіць, такая ўжо завядзёнка ці доля ў «раёншчыкаў» — трымацца сваіх. З кім можна, напрыклад, калі выдасца хоць раз у месяц выхадны, на прыроду выехаць, да каго ў госці схадзіць, не баючыся, што папаўзуць нядобрыя чуткі альбо і плёткі? Няпроста гэта быць ва ўсіх на віду, калі пра цябе іншы раз больш ведаюць, чым ты сам. Дзіўна, але цябе хочуць бачыць ледзь не святым, нават самую мізэрную слабінку не даруюць...

Здавалася, канца не будзе гэтай Антоненкавай тэлефоннай размове. Апарат стаяў на стале зусім побач, так і карцела націснуць пальцам на рычаг. Стаў сярдзіта падаваць знакі: ды канчай ты, ёсць справы паважней, аднак Антоненка, нібы знарок, выпрабоўваў яго цярпенне. Нарэшце паклаў трубку і насмешліва запытаў:

— Ну, што табе гэтак прыспічыла?

Лазовіку карцела папікнуць: ну-у, ты па часанню языка не ўступіш любой кабеце, але стрымаўся (не да гэтага), сказаў таемна:

— Ведаеш, што я надумаў?

— Пакуль што — не. Пэўна, нешта геніяльнае...— пажартаваў Антоненка.

— Не прыдурвайся! — адмахнуўся, нахмурыўшыся, Лазовік.— Іду да Радзевіча. Хай збірае бюро...— Вачыма паказаў на папку з эканамічнымі разлікамі.

Антоненка адразу ж пасур'ёзнеў, заклапочана ўстаў з месца, машынальна падышоў да акна, задумаўся.

— То што скажаш? — нецярпелася Лазовіку.

Антоненка маўчаў, нібы аслухаўшыся, і гэтае маўчанне стала злаваць Лазовіка: во, называецца, параіўся! Паўгадзіны выслухоўваў лекцыю пра афармленне нагляднай агітацыі, работу палітінфарматараў, цяпер — слухай маўчанне...

— Думаеш, дакажаш? — нарэшце абыякава, нават

скептычна азваўся Антоненка, і цяжка было зразумець: ці ён яшчэ не вызначыў, як паводзіць сябе ў такой сітуацыі, ці ён ужо не саюзнік...

Дзверы адчыніла сакратарка і паведаміла, што Радзевіч адзін. Лазовік, з горыччу махнуўшы рукою, спешна рушыў да выхада.

— Пачакай! — уладна спыніў яго Антоненка.— Разам пойдзем...

Радзевіч, не выходзячы з-за стала, падаў руку аднаму, потым другому, прастуджана, басам прапанаваў:

— Сядайце...— прыдзірліва і строга агледзеў іх, загадкава ўсміхнуўся вачыма: — То што, апазіцыянеры, згаджацца ці ўсё яшчэ стаяць на сваім завіталі?

Лазовіка трохі збіў з тропу гэты іранічна-паблажлівы тон. Пераглянуліся з Антоненкам: каму пачынаць? Пачынаць, вядома, трэба было Лазовіку.

— Я лічу, Андрэй Паўлавіч, што з аб'яднаннем калгасаў учора дапушчана сур'ёзная памылка,— сціпла, але салідна і важка сказаў ён падрыхтаваную фразу.

Гэта не зрабіла на Радзевіча ніякага ўражання. Ён маўчаў, заняты нейкімі сваімі думкамі.

— Трэба тэрмінова сабраць бюро,— не вытрымаў гэтага маўчання Лазовік.— Адмяніць рашэнне трэба...

Радзевіч нахмурыў бровы і, павярнуўшы сваю масіўную галаву з кароткай стрыжкай да Антоненкі, сярдзіта запытаў:

— Ты таксама хочаш адмяніць рашэнне бюро?

— Так! — коратка і рашуча пацвердзіў той.

Радзевіч яшчэ раз дапытліва агледзеў іх, загадкава ўсміхнуўся, нешта прыгадаўшы, развёў рукамі:

— А я не маю права адмяняць калектыўна прынятае рашэнне... За яго, дарэчы, прагаласавала больш палавіны членаў бюро...

— Гэта яшчэ нічога не значыць,— глуха сказаў Анто-

ненка.— Давайце не будзем фармалістамі, а выправім памылку, пакуль не позна...

Па Радзевічавым твары прайшоў цень, аднак Антоненка бы не заўважаў, што першы незадаволены яго бесцырымоннай дзёрзкасцю.

— Не заўсёды,— працягваў ён,— праўда на баку тых, хто застаецца ў большасці. Вы ведаеце, што бывалі выпадкі, калі і Ленін заставаўся ў меншасці, але, згадзіцеся, гэта не значыць, што ён памыляўся...

Во памочнічкі, думаў Радзевіч без злосці. Раз-два — і з цябе зрабілі фармаліста, глядзі, зараз і ў якія апартуністы запішуць. Во дажыўся...

— То ў чым вы бачыце памылку? — холадна запытаў ён, сярдзіта нахмурыўшы бровы, і пасля непрацяглага маўчання насмешліва дадаў: — Уважліва слухаю вас, нефармалісты...

Антоненка выразна глянуў на Лазовіка і загадаў вачыма: пачынай!

Лазовік за гэтыя суткі ў думках удосталь наспрачаўся з Радзевічам, а цяпер, калі наступіў час бліснуць логікай і пераканаўчымі доказамі, адчуў, што ўсё зблыталася ў галаве, збілася з ладу. Канечне, у яго было што сказаць — у галаве апрабаваны дзесяткі варыянтаў, але з чаго пачаць?! Патрэбныя словы, як на злосць, не хацелі ісці. Успомніў пра папку з эканамічнымі разлікамі, не спяшаючы стаў выкладваць паперкі, а сам ліхаманкава думаў: з чаго ж пачаць? Злавіў на сабе трохі здзіўлены Антоненкаў позірк і яшчэ больш разгубіўся: Антоненка-то чакае ад яго... Антоненку-то ён падбіў ісці...

— Памылка перш за ўсё ў тым...— запнуўся, спалохаўшыся свайго ненатуральна-казённага голасу.— Мне думаецца, памылка, што пачынаем танцаваць не да комплекса, а ад комплекса, які пакуль што толькі ў праекце...

— Ты чалавечаю моваю можаш гаварыць? — яшчэ больш насупіў бровы Радзевіч.— Ато заладзіў, як пабіты

моллю прафесар...— Ажывіўся, адразу ж рушыў у наступ: — Значыць, па-твойму, ствараючы буйную гаспадарку, мы не набліжаемся, а аддаляемся ад комплекса? Так я цябе зразумеў? — І, не чакаючы адказу, працягваў: — Дзіўная логіка! Хм... Стварэнне буйной гаспадаркі і ёсць першы крок да комплекса. Гэта — элементарна...

— Не, Андрэй Паўлавіч, першы крок трэба рабіць не з механічнага злучэння разнапрофільных гаспадарак. Пачынаць трэба з іншага...— Лазовік з палёгкаю адчуў, што ў яго пакрысе знікае недарэчная скаванасць, з'яўляецца жаданая ўпэўненасць у сабе.— Падумайце самі: спатрэбіцца ў пажарным парадку перагляд структуры таварнасці прадукцыі, змена профілю спецыялізацыі, ломка кааператыўных сувязяў паміж большасцю гаспадарак раёна. Я ўпэўнены, і аб гэтым сведчаць эканамічныя разлікі, што комплекс трэба пачынаць кааператыўна, паступова мяняючы спецыялізацыю «Гіганта» і «Забор'я», рыхтуючы тым самым кармавую базу, пагалоўе і ўмовы для натуральнага зліцця гаспадарак...

Радзевіч слухаў уважліва, і па тым, як неспакойна хадзілі яго пальцы, можна было здагадвацца, што яго вострая, чэпкая думка робіць два хады наперад, каб у зручны момант пераняць, разбіць ушчэнт яго аргументы. Трэба быць абачлівым, падумаў Лазовік, не выкладвацца цалкам, мець сёе-тое на запас, каб, калі спатрэбіцца, можна было не толькі абараняцца, а і наступаць.

— То што, мо ты ўжо зрабіў разлікі, паспеў падлічыць? — недаверліва глянуў Радзевіч.

— Паспеў.

— Пакажы, што там...

Лазовік падаў яму папку, Радзевіч паспешна надзеў акуляры, стаў учытвацца ў паперы. Прайшло пяць, а мо і дзесяць хвілін, а ён усё чытаў, здавалася, забыўшыся пра іх з Антоненкам. Час ад часу ён спыняўся, думаў, выпісваў нейкія лічбы, і ніводзін мускул на яго твары не выдаваў яго пачуццяў. Гэта і абнадзейвала, і насцярож-

вала. Лазовік запытальна глянуў на Антоненку: «Ну, як?» «Нармальна» — па-змоўніцку падміргнуў той.

— І колькі часу спатрэбіцца, каб зрабіць усю гэтую перакарэкціроўку? — нарэшце азваўся Радзевіч.— Няўжо гэта такая невырашальная праблема?

Яго заклапочаны тон спадабаўся Лазовіку.

— Ну-у, праблема не праблема...— як мага салідней сказаў ён.— А месяцы два-тры спатрэбіцца... Гэтак... к лету, а вы разумееце, што гэта значыць...— І адразу ж перайшоў на другое: — Апроч усяго, нам трэба мець на ўвазе, улічваць контурнасць палёў у «Гіганце» і «Забор'і» — вы выдатна ведаеце, якія там масівы. Дзесяць тысяч гектараў — не нашы маштабы, то не Украіна, не цаліна...

Радзевіч насцярожыўся, адкінуўся на спінку крэсла.

— Значыць, па-твойму мы навечна асуджаны сядзець на двух-трох тысячах гектарах? — У яго пытанні была іронія.

— А калі ў нашых умовах гэта аптымальны варыянт? — запальчыва сказаў Лазовік, спахапіўшыся, што даў прамашку.

Як і трэба было чакаць, Радзевіч не прамінуў ухапіцца за гэтую прамашку:

— Кажаш, аптымальны варыянт? Ці-і-ка-а-ва-а...— Паглядзеў недаверліва, іранічна.— Няўжо аптымальны? Аказваецца, ты ведаеш аптымальны варыянт...— І, убачыўшы, як зніякавеў Лазовік, памяркоўней працягваў: — Знайшоў аптымальны варыянт! Гадоў пяць — дзесяць мо і быў аптымальны, а сёння? А заўтра? А паслязаўтра? Далёка мы зойдзем з такою стратэгіяй, таварыш начальнік сельгасупраўлення...

— Але мы не можам жыць толькі паслязаўтрашнім днём...— як мог абараняўся Лазовік.— Пераскокванне цераз этапы ніколі нікому карысці не прыносіла.

— То мо, па-твойму, і задуманы комплекс таксама пераскокванне цераз этап? — з былой іроніяй запытаўся

Радзевіч, па ўсім відаць, маючы намер зусім загнаць яго ў кут.

— Магчыма...— ашчэціўся Лазовік.— Болей таго: Сурміла нас штурхае на авантуру, калі хочаце ведаць!

— Ого! — аж прыўстаў Радзевіч, здзіўлена заморгаўшы вачыма.

Зазваніў адзін з тэлефонаў. Радзевіч незадаволена паморшчыўся, нахіліўся, не паднімаючы трубку, пераключыў апарат на прыёмную — гэта значыла: няма зараз у яго больш важных спраў, чым гэтая размова.

— Значыць, авантура? — Глянуў строга і змрочна.

— І авантура! — вытрымаў гэты позірк Лазовік.— Ну, чым не авантура: Сурміла не можа пракарміць і семсот галоў, а што будзе рабіць з дваццаццю тысячамі? Прасіць кармы ў дзяржавы? І апошні дурыла можа гаспадарыць на дзяржаўных кармах, не абавязкова быць кандыдатам навук. Ці мо дугою збіраецца касіць, як цяпер косіць? Не-е, Андрэй Паўлавіч, да комплекса трэба ісці са стварэння кармавой базы, яснай перспектывы, як запоўніць яго пагалоўем, інакш — вецер будзе гуляць у гэтым комплексе. А гэта, даруйце, і ёсць авантура.

Размова набывала нервовы характар. Радзевічу не падабалася Лазовікава запальчывасць — кіраўнік павінен умець трымаць сябе ў руках, узважваць кожнае слова. Карцела асадзіць, паставіць на месца, заадно прыгадаць, на чыю авантуру клюнулі, ліквідуючы дробныя свінафермы. Напомніць, хто насіўся разам са сваімі спецамі: канкурыруючыя галіны, блытаюць усе схемы спецыялізацыі, стрымліваюць механізацыю, аўтаматызацыю! Паслухалі. Бокам цяпер вылазяць іх хуткаспелыя схемы, жыццё не хоча ўкладвацца ў іх пракрустава ложа. Спахапіліся, але адрэзаную лусту не прыклеіш, ліквідаваць прасцей, чым аднавіць.

— Іван Віктаравіч,— спакойна і разважліва сказаў ён.— Во слухаю цябе, і ведаеш, што прыходзіць у галаву? А ці не зацягнуў ты старую песню?

Лазовік разумеў, куды хіліць першы сакратар. К чаму гэты намёк? Гэта ж удар пад дых! Якое дачыненне мае той пралік, за які сам сабе не можа дараваць, да будаўніцтва комплекса, да аб'яднання калгасаў? Хацеў абурыцца ўголас, але стрымаўся, адчуваючы сваю віну.

— Я не супроць схем, навуковых разлікаў і прагнозаў,— працягваў між тым памяркоўна Радзевіч.— Я катэгарычна супроць таго, каб рабіць з іх фецішы, ставіцца, як да ікон, сілком усоўваць жывое жыццё ў гэтыя схемы, не ўлічваць нюансаў, новых непрадбачаных сітуацый і праблем, якія штодня падкідвае рэальнасць. Узбуйненне гаспадарак — сёння рэальная эканамічная, сацыяльная, тэхнічная неабходнасць. Не заўважаць гэтага, значыць, не бачыць далей свайго носа, значыць, зрабіцца закасцянелым схаластам. Што ж, давядзецца і паламаць некаторыя прынятыя схемы, вялікага ў тым страху няма. Хай пасядзяць, папацеюць твае спецыялісты, эканамісты, зробяць патрэбныя карэктывы, думаю, праз дзён дзесяць і ўправяцца. Разгледзім пасля на выканкоме, на бюро, вядома... Іншая справа: пазнавата надумалі — тут ты маеш рацыю. Але ўжо калі рашылі, то адступаць не варта, трэба даводзіць да канца, і як мага хутчэй... Ну, а што датычыць тваёй «авантуры» наконт комплекса, то, думаю, гэта несур'ёзна. У нас будзе час падумаць, як рашыць кармавую праблему, адкуль узяць пагалоўе і ўсё іншае.— Глянуў на Антоненку: — А ты як думаеш?

Той не чакаў такога пытання і адразу не адказаў.

— Магчыма... Але мяне не гэта хвалюе...

— А што?

Антоненка трохі памаўчаў, павярнуўся напаўабарота, глянуў у вочы Радзевічу:

— А ці не здаецца вам, што Сурміла тут проста хітрыць?

— Што значыць хітрыць?

Антоненка зноў не спяшаўся з адказам — ён ведаў, які кручок закінуў: усё можа зразумець, усё можа дараваць

Радзевіч, толькі не хітрасць, няшчырасць, ён арганічна не выносіць розных спрытнякоў, хто хоча мець выгоду за чужы кошт.

— Мне думаецца,— амаль абыякава пачаў ён,— палітыка тут ясная: праглынуць Кунцэвіча з яго мільёнамі, на чужым гарбу ў рай уехаць — раз, апынуцца ў ролі голага караля, застацца, у рэшце рэшт, ля разбітага карыта — два...

Радзевіч неспакойна закруціўся ў крэсле:

— А чым гэта можна даказаць? — Глянуў насцярожана, недаверліва.

— Памяркуйце самі: справы з эканомікай і фінансамі ў Сурмілы не бліскучыя — даўгі, мінусы, суседзі абскакалі па ўсіх паказчыках. Значыць, не паможа і вучоная ступень, рана ці позна, а дабяромся і да яго. То чаму б не прыбраць багатага Кунцэвіча? Тым больш, нічым не рызыкуе, аб'ядноўваючыся,— Кунцэвіч яму не канкурэнт. Па-другое, усе яго пачыны і ініцыятывы апошніх год лопаюцца, як мыльныя бурбалкі. А ён чалавек не дурны, ведае, чым у рэшце рэшт усё можа скончыцца — бясконца нельга шукаць нейкія аб'ектыўныя прычыны. Вось і спатрэбіўся адцягваючы манеўр, дымавая заслона, якой можа стаць арганізацыйная перабудова...

Тое, што гаварыў Антоненка, было падобна на праўду, і гэтая праўда дужа пякла Радзевіча. На самай справе, у Сурмілы даўно нешта не ладзіцца, а ён, першы сакратар, так і не дабраўся, каб «улезці», самому разабрацца, чаму не ладзіцца ў Сурмілы? Ніхто не ведае, а была на тое прычына, пра якую нават сабе самому прызнавацца не хочацца...

Некалі, у пасляваенныя гады, яны працавалі з Сурмілавым бацькам. Той быў сакратаром райкома камсамола, ён — інструктарам. У сябрах, вядома, ніколі не хадзілі, хоць былі амаль равеснікі. Сурміла трымаўся на адлегласці, не мог дазволіць сабе фамільярнасці з падначаленым, раўніва клапаціўся пра свой аўтарытэт, думаў і ўмеў, што

сказаць, каму сказаць, дзе сказаць і як сказаць. Калі аднойчы, перамагаючы хваляванне, зайшоў і папрасіў у яго рэкамендацыю ў партыю, пачуў металічнае: рана, мы не можам засмечваць партыйныя рады, і тлумачыць, чаму рана, чаму і па якой прычыне, ён, Радзевіч, засмеціць партыйныя рады, палічыў лішнім. За гэта ніколі не меў ні крыўды, ні злосці — мо і праўда, было рана, але нейкі прыкры астой усё ж застаўся. І яшчэ... Яшчэ была блакітнавокая, з тугою касой піянерважатая Тамара, якая з першай сустрэчы запаланіла сэрца і мары... Усё было добра, пакуль нейкім чынам не даведаўся Сурміла... Ні з сяго ні з таго раптам ён зачасціў у школу, дзе працавала Тамара... Яго ж, інструктара, месяцамі стаў трымаць у далёкіх глыбінных вёсках, куды сам і носа баяўся паказваць — па хутарах і глухіх вёсачках тады яшчэ туляліся недабітыя акоўскія банды. Заданні даваў Сурміла строгія: сагітаваць і прыняць у камсамол мінімум столькі чалавек, стварыць столькі камсамольскіх арганізацый... Агітаваў, арганізоўваў, тройчы ледзьве ногі выручалі... Сурміла дамогся свайго — не ўстаяла Тамара... Эх, Тамара, Тамара... Ажаніўся з ёю Сурміла, баючыся скандалу,— праз тры месяцы пасля вяселля ў іх нарадзіўся сын.

Потым па волі лёсу яшчэ двойчы перакрыжоўваліся іх службовыя сцяжыны ў розных раёнах вобласці... А калі сталася так, што апярэдзіў па службе Сурмілу, таго нібы падмянілі: куды падзеўся гонар і фанабэрыя! Не тое што настойліва, а назойліва стаў набівацца ў прыяцелі. Яго то бесцырымоннасць, то да гідлівасці непрыемныя заласкі, вечнае ныццё на свой лёс — маўляў, «зацёрлі», пакрыўдзілі — раздражнялі, выклікалі прыкрасць, аднак чамусьці ці то сумлення, ці то смеласці не хапала паказваць ад варот паварот. А калі Сурміла пераехаў у вобласць — усё стала па-ранейшаму: шукаў любую зачэпку, каб падкусіць, нават вітацца пачаў так, бы робіць табе вялікую ласку. Пакуль зноў не пакаціўся ўніз...

А потым ці то выпадкова, ці то не без удзелу бацькі

ў раён прыехаў па размеркаванню Сурміла-малодшы... І зноў жыцця не стала ад званкоў, бясконцых просьбаў, крыўд, нараканняў, якімі даймаў Сурміла-старэйшы. Недарэчна, але, мусіць, і праз гэта надта ж не хацелася ездзіць у «Гігант»...

Вядома, не да ўсіх пачынаў, ініцыятыў, да якіх такі ахвочы Сурміла-малодшы, ставіўся сур'ёзна, з поўным даверам, аднак і не хацеў глушыць іх. У адрозненне ад бацькі ў яго, трэба аддаць належнае, ёсць смеласць, размах, і гэта падкупляе. Ніхто, напрыклад, так паслядоўна і настойліва не займаецца перабудовай вёскі, тэхнічным пераасналічэннем, як гэта робіць Сурміла, хоць, праўда, не абыходзілася без заскокаў...

— Сурміла — не тая кандыдатура,— працягваў Антоненка.— Не ўмее ён ладзіць з людзьмі. Яго гульня ў выключнасць, аўтарытарны характар, дыктатарскія замашкі — сур'ёзная перашкода для таго, каб стаць лідэрам такога калектыву. Мусіць, мы трохі асляплены яго вучонай ступенню, не заўважаем таго, чаго не прамінём заўважыць у іншых.

— Чаго гэта не заўважаем? — нахмурыўся Радзевіч.

— А хоць бы таго, што зрабіў з сябе ўдзельнага князька. Я вам ужо дакладваў пра гэта, разбіраючы скаргі. Маральна-псіхалагічная атмасфера ў калгасе ненармальная, і перш за ўсё па віне Сурмілы. Не любяць яго людзі, у камуністаў не мае аўтарытэту. Дарэчы, і Клімовіч там аказаўся не на вышыні. І, урэшце, ведаеце што: мне думаецца, што Сурміла — звычайны, ардынарны кар'ерыст...

— Вось як! — ні то здзівіўся, ні то абурыўся Радзевіч.— Ты мне не абстракцыі і здагадкі, а факты падай. А то ведаеш, да чаго можна дагаварыцца...

— Факты...— трохі падумаў Антоненка і нечакана прапанаваў: — А давайце паклічам і прапануем яму пайсці намеснікам да Кунцэвіча...— Злавіў неўразуменны

Радзевічаў позірк.— Для праверкі хоць бы... Паглядзім, што запяе.

Радзевіч не прыняў усур'ёз гэтую выдумку — яна яму не спадабалася, аднак жаданне зараз жа даведацца праўду, развеяць сумненні, мо пасароміць Антоненку ўзяло верх.

— Што ж, давай праверым...— згадзіўся ён, рашуча націскаючы на кнопку званка.

Зайшла сакратарка:

— Сурміла прыехаў?

— Ён тут.

— Хай заходзіць...

## 4

Аляксандр Уладзіміравіч Сурміла ехаў у райком з прыўзнятым настроем. Ён здагадваўся, дакладней — ведаў, чаго клічуць. Яшчэ ўчора званіла Чыжэўская, цікавілася ходам зімоўкі жывёлы і між іншым прагаварылася, што бюро ўжо рашыла аб'яднаць калгасы.

Цікава, а як паводзіў сябе Лазовік? Упіраўся, пэўна, ратаваў свайго сябрука Кунцэвіча. Зрэшты, хто такі Лазовік, каб упірацца? Дробная сошка. Толькі строіць з сябе чорт ведае што. Гаспадар у раёне Радзевіч, як Радзевіч скажа — так і будзе. А Радзевіч, між іншым, палічыўся не з начальнікам райсельгасупраўлення, а са старшынёю калгаса. З Сурмілам! Гэта таксама шмат пра што сведчыць...

Зрабілася трохі не па сабе: во ўсцешыўся, як дзіця! Аднак, разам з тым і не хацелася адганяць гэтыя дужа прыемныя думкі.

З аб'яднальным сходам, канечне, марудзіць не будуць — вясна. На тым тыдні, пэўна, і назначаць. Трэба непапрасіць, каб на сход прыехаў сам Радзевіч. Трэба ж некалі разбурыць сцяну адчужанасці, якая невядома чаму з першых дзён узнікла паміж ім і Радзевічам. А ўсё ж незразумела, чаму ён цураецца, бокам аб'язджае калгас,

ні разу яшчэ і ў хату не зайшоў? З бацькам жа яны... Хоць, наўрад ці калі яны дружылі па-сапраўднаму. Інакш стары не папярэджваў бы: з Радзевічам трымай вуха востра, глядзі, куды падзьме вецер... Даць заданне жонцы, каб падрыхтавала стол як след...

Але куды яны падзенуць Кунцэвіча? Зараз, калі ўсё рашылася, не было ні злосці, ні крыўды на Кунцэвіча, хоць сваімі вечнымі кепікамі і здзекамі ён сапсаваў нямала яму крыві. Яму было нават трохі шкада старога. Канечне, Кунцэвіч — мужык не дурны. Каб быў дурны — не пратрымаўся б столькі ля руля. Праўда, перасядзеў сваё, ой перасядзеў! Зараз ад яго за вярсту патрыярхальшчынай пахне. Няўцям яму, наколькі смешны са сваімі пропаведзямі аб любові да зямлі. Жалезам трэба вытраўляць любоў да зямлі, за якую ён агітуе. Іншая любоў зараз патрэбна — дзелавая, рацыянальная, без рознага слінцяйства і сантыментаў. Што такое зямля? Сродак вытворчасці, як станок, канвеерная лінія — і не болей. Усё астатняе — пустыя забабоны. Трэсці, жалезам прасаваць, вырваць усё, што можна,— во якая любоў да зямлі павінна быць сёння! Гэтага Кунцэвічу ніколі не спасцігнуць...

А ўсё ж, куды падзенуць яго? Пэўна, пакінуць брыгадзірам. Не хацелася б. Які з яго брыгадзір? Сёння і брыгадзіру патрэбна вышэйшая адукацыя. Сёння брыгада — гэта ўчарашні калгас, і брыгаду ўзначальваць павінен спецыяліст вышэйшай кваліфікацыі. І наогул, непажадана, каб Кунцэвіч заставаўся ў калгасе. Будзе вечна звягаваць: гэта не так, тое не гэтак — такая ўжо натура. Трэба ўстаць на дыбкі: нізашто! Хай падшукаюць дзе работу экс-старшыні — на тое яны райком. Дзе-небудзь у сельсавеце ці якой раённай канторы, напрыклад...

Але з чаго пачынаць? Вядома, з агляду, са знаёмства з далучаным калгасам, з прыёму дакументацыі, рахункаў у банку, з кадравых перастановак. Першае — да пачатку сяўбы пазамяняць Кунцэвічавых брыгадзіраў, узбуйніць брыгады. Галоўнае — пад рэарганізацыю парассоўваць як

мага далей мясцовых. Гэта — прынцып. Надта ж моцна сядзіць у мясцовых патрыярхальшчына, нават інстытут ці акадэмія не здольныя вытравіць яе да канца. Апроч усяго, у мясцовых, звычайна, процьма розных сваякоў, сяброў...

А раптам не будзе ніякага аб'яднання? Не-е, канечне, ніякага «раптам» быць не можа. Бюро не стане адменьваць сваё рашэнне...

Працвярэзлівая думка кальнула і знікла, выклікаўшы ледзь-ледзь прыкметную цьмяную трывогу. Ён лёгка прыдушыў гэтую трывогу і зноў ухапіўся за ранейшыя думкі.

Закончыць сяўбу — і будаваць, будаваць, будаваць! У першую чаргу, вядома, комплекс. З комплексам асаблівых праблем не будзе — ёсць праектная дакументацыя, падрадчык, праўда, сёе-тое трэба будзе перарабіць па ходу... Выбіць жыллё — во дзе задача! Хоць бы адзін пяцідзесяцікватэрны дом для пачатку! Во як дом патрэбны, да зарэзу! Давядзецца паездзіць-паклянчыць, быць таго не можа, каб пад комплекс, пад арганізацыйную перабудову не «выплакаў»! Па-першае, трэба некуды сяліць спецыялістаў, па-другое, паплакаць, што людзі ў далучаным калгасе не хочуць жыць па-старому, даймаюць, бяруць за горла: давай новае, сучаснае жыллё. Гэта добрая зачэпка, добры козыр. Выбіць ліміты і пацііху, без рэкламы, каб не пашкодзілі, брацца за Кунцэвічавы вёсачкі. Іх аж дзевяць, здаецца. У прынцыпе, каб рашыць праблему, спатрэбіцца пяць-шэсць добрых дамоў, пасля чаго Пілiпавічы стануць ладным гарадком, па ўмовах жыцця нават райцэнтру ўтруць нос. Ды што райцэнтр! Там нават цяпер няма такога Палаца культуры, як у Піліпавічах. А гандлёвы цэнтр! Райунівермаг — канюшня ў параўнанні з ім. Во што значыць Піліпавічы! Во што значыць сучасны гаспадар, Сурміла! А што яшчэ будзе! Адзін Сурміла бачыць, што будзе... Варта, мусіць, паставіць пытанне, каб замянілі назву. Што значыць Піліпавічы? Не гучыць. Сучаснаму пасёлку патрэбна і сучасная назва. Напрыклад,

Сонечны, Светлы, Першамайск, Ясная Паляна ці яшчэ нешта новае, сугучнае часу, такое, каб ад мінулага, ад патрыярхальшчыны ні следу, ні назвы не засталося.

Шкада, што Забор'я не чэпіш — пакуль што перспектыўная вёска. Гэта мы паглядзім яшчэ, якая яна перспектыўная... Во так заўсёды: не думаюць. Каб хто паварушыў мазгамі, то, канечне, угледзеў бы, якая перспектыва ў гэтага Забор'я. Адбухалі такі Палац культуры, такую школу, а цяпер расхлёбвайся Сурміла, што рабіць з імі. Гадоў з дзесяць, калі не болей, будуць як бяльмо на вачах. Што ж, хай дагнівае, дажывае пакуль што гэтае Забор'е, калі ўжо так сталася. Трэба, не марудзячы, дамагчыся, каб выкрэслілі з ліку перспектыўных. І ніякага новага будаўніцтва, ніводнай дошкі на рамонт — хай прывыкаюць: позна ці рана, а давядзецца перабірацца ў цэнтр. Гэта — няўмольнае патрабаванне часу.

Ну, а за розныя там Петрачкі, Агароднікі, Навасёлкі, Цімкавічы, Грынькі трэба брацца неадкладна... Канечне, усяго давядзецца пабачыць — балюча гэта ўспрымаюць, асабліва старыя, але мэта апраўдвае сродкі. І што за людзі: ніяк не хочуць зразумець, што гэта робіцца для іх жа карысці. Проста нейкае дзікунства. Летась Гліняны ссялялі. У кватэры з усімі камунальнымі выгодамі, а яны ў плач, ледзь не пад бульдозер кладуцца. Скаргамі закідалі... Ну, дзіва-дзіўнае: іх за вушы цягнеш да святла, да культуры, да новага быту, новага жыцця, а яны зубамі чапляюцца за старое, за свае ідыёцкія традыцыі. Бачыце, яны не ўяўляюць сабе жыцця без каровы, свіней, курэй, саду, агарода, ім шкада наседжаных сядзіб, іх нават могільнік утрымлівае... Прывыклі сядзець у гразі і...

Нічо-ога, як пазакрываеш магазіны, пачатковыя школкі, паабразаеш электрычнасць, радыё, перастанеш завозіць газавыя балоны — памалу робяцца згаворлівымі. А што рабіць? З дзікунствам апраўдана змагацца і варварскімі метадамі, як Пётр Першы. Абы гэта было для прагрэсу. Толькі слінцявыя інтэлігенцікі, накшталт Антонен-

кі, гундосяць пра нейкі векавы побыт, нейкую сялянскую псіхалогію, намагаюцца ставіць палкі ў калёсы. Ламаць, рашуча і беспаваротна, трэба гэтую псіхалогію, бо яна ўласніцкая, цемрашальская, патрыярхальная. А той, хто ставіць палкі ў колы прагрэсу, заўсёды трапляе пад колы гісторыі...

Гэты дарожны роздум наводзіў на думку, хай сабе і не зусім спіплую, але ў прынцыпе правільную: а ўсё ж я празорлівы, з маштабам палітык. Бадай, ніколі яшчэ ён не падабаўся сам сабе так, як у гэты момант. І стала напльіваць нейкая ўзнёслая ўзрушанасць, не зусім асэнсаваная радасць, і гэтай амаль апантанай няяснай радасці было цесна ў душы, карцела, свярбела падзяліцца з кімнебудзь. Але побач быў толькі шафёр. І неўзабаве гэтая радасць стала памалу перагараць, аднекуль выплываў лёгкі смутак, дакор невядома каму. Усплывала непрыемнае пачуццё нейкай няпоўнасці жыцця, халоднай адзіноты, мо нават уласнай непаўнацэннасці. Гэтага пачуцця ён заўсёды баяўся. Мо загаварыць з шафёрам? Пра што гаварыць з шафёрам? Хоць бы пра тое, што скора давядзецца калясіць не толькі піліпавіцкія, а і заборскія дарогі. Пэўна, парадуецца. Во і тэма для гаворкі... І чаму б, на самай справе, не пагаварыць па-людску, у рэшце рэшт, сказаць добрае слова чалавеку, якому два гады, пасутнасці, сваё жыццё давяраеш, а пра яго, апроч імя, нічога не ведаеш? Ужо раскрыў рот, каб нешта сказаць, але ў самую апошнюю хвіліну стрымаўся, падумаўшы з прыкрасцю: знайшоў перад кім адкрываць душу! Глянуў скоса, ці выпадкам не заўважыў шафёр, пераканаўшыся, што не заўважыў, надаў сабе саліднасці, па-ранейшаму сядзеў строгі, насуплены...

Але неўзабаве гэтая насупленая саліднасць, бы напятая маска, стала дакучаць, душыць, рабіцца невыноснай. Каб неяк адкараскацца ад гэтага непрыемнага пачуцця, не без зларадства ўявіў, які будзе твар у Лазовіка... Задаволена ўсміхнуўся... І стаў думаць, што з такой нагоды

не грэх будзе прапусціць добрую чарку. Запрасіць для кампаніі каго з начальства. Напрыклад, таго ж Лазовіка, ды паназіраць, які ён будзе. А гэта было б здорава паназіраць пры чарцы за Лазовікам! Не пойдзе, канечне, Лазовік. Святым прыкідваецца. Ведаем такіх святых!

Даўно, вельмі даўно жыла ў ім антыпатыя да Лазовіка. З-за чаго — і сам толкам не ведаў, дакладней, не адважваўся прызнацца нават самому сабе. Тры гады назад было зроблена ўсё, каб заняць месца начальніка райсельгасупраўлення, па раёне пайшлі пагалоскі, усё было на мазі, аднак у самы апошні момант Радзевіч, казалі, завагаўся, потым заўпарціўся і, у рэшце рэшт, выбраў Лазовіка. Лазовік, вядома, тут ні пры чым — не па сваёй віне ён пераступіў дарогу, але ўсё роўна нейкая не падуладная розуму непрыязнасць да Лазовіка назаўсёды засела ў душы.

А мо запрасіць у рэстаран самога Радзевіча, заадно — старшыню райвыканкома Дзевяценя? Далікатненька прыкінуцца смяртэльна пакрыўджаным: маўляў, грэбуеце, ніколі разам не паабедалі... Мо якраз і згодзяцца... Хоць, наўрад: у райцэнтры хадзіць у рэстаран ім не з рукі... Ды, чаго добрага, і зразумець могуць няправільна... А ўсё ж, калі будзе адпаведны настрой і спрыяльныя абставіны, чаму б і не запрасіць? Ісці ці не ісці — іх справа, а за прапанову нікога не б'юць. А калі не пойдуць, то мо і лепей. З начальствам выпіваць — што балансаваць на канаце. Але ж не сядзець у такі дзень аднаму ды казаць сам сабе: будзь здароў, Аляксандр Уладзіміравіч! Мо завітаць... Не-е, туды шляхі-дарожкі даўно адрэзаны, быллём-палыном параслі... А што застаецца? Шукаць якога выпадковага гуляку-сабутэльніка... Во дажыўся: і радасць падзяліць, і выпіць ад душы няма з кім...

І зноў засмылела старое, непрыемнае пачуццё, цьмяная, падсвядомая трывога, і зноў зрабіў спробу пераключыцца на былую, блізкую сэрцу тэму...

...Праз гадоў пяць — дзесяць у Піліпавічы, ці як там іх назавуць, з усяго свету паедуць вучыцца, як трэба пе-

рарабляць вёску на новы лад. Прыкладна так, як цяпер едуць у хвалёныя Верцялішкі! Верцялішкі — гэта помнік пройдзенаму этапу, Піліпавічы — прынцыпова новы этап... Магчыма, зробяць які турысцкі маршрут. І будзе ён, Сурміла, пры ўсіх рэгаліях і тытулах сяды-тады сустракаць і расказваць знакамітым гасцям, якая колісь тут цемната была, як ніхто не хацеў сяліцца вышэй другога паверха. Смяяцца будуць...

Аднак былая тэма ішла неяк вяла, нешта замінала засяродзіцца, аддацца ёй спаўна. Канечне, усё гэта несур'ёзна. Толькі звар'яцеўшы можна заставацца тут на пяць, на дзесяць гадоў...

Калі сакратарка сказала, што Радзевіч заняты — у яго Лазовік і Антоненка, неасэнсаваная трывога, ад якой Сурміла ніяк не мог адкараскацца ўвесь астатак дарогі, стала ўзмацняцца, набываць больш канкрэтныя абрысы, перарастаць у насцярожанасць. Пачаў супакойваць сябе: і нічога не здарылася і здарыцца не можа! Мала чаго спатрэбілася першаму сакратару паклікаць і пагаварыць з начальнікам сельгасупраўлення і сакратаром па ідэалогіі... Звычайны рабочы візіт... Аднак спакой не прыходзіў. Прыгадалася прыкмета: пасля радасці заўжды бывае нейкая непрыемнасць. Для каго-каго, а для яго гэтая прыкмета чамусьці заўсёды спраўджваецца, і шчыра пашкадаваў, што, едучы ў машыне, даў волю эмоцыям.

Прайшло дзесяць, дваццаць мінут, паўгадзіны, а Лазовік і Антоненка не выходзілі. Што яны там так доўга? Пра што можна столькі гаварыць? Нейкім дзесятым чуццём адчуваў нядобрае. Насцярожвала больш за ўсё, што там Антоненка. Якая агульная справа ў іх з Лазовікам? Ну, Лазовік — зразумела: пэўна, да канца стаіць на сваім. А Антоненка? Няўжо спаркаваліся?! Ён не любіў і баяўся гэтага чалавека. За яго манеру размаўляць, за позірк — як лакатар, як рэнтген, здаецца, цябе навылет прасвечвае,

здаецца, бачыць, што ў цябе ў вантробах робіцца... Яму б не ў сакратары райкома, а ў следчыя — такі талент прападае. Каб падаўся ў юрысты — пэўна, ого, якую кар'еру зрабіў бы!

Сурміла як мог адганяў нядобрыя згадкі, настойліва трымаючыся свайго: мала чаго Антоненка і Лазовік могуць сядзець у першага — мо зноў перагрызліся з-за нагляднай агітацыі, але смутная, насцярожаная трывога не хацела аціхаць. Усё б на свеце аддаў, каб хоць краем вуха пачуць, пра што яны гавораць!

Адрывіста і рэзка зазумерыў званок, і Сурміла з заміраннем сэрца зразумеў, што гэты зумер мае нейкае дачыненне да яго.

Сакратарка спешна пайшла ў Радзевічаў кабінет, зачыніўшы за сабою дзверы, але праз хвіліну вярнулася назад і ветліва, з афіцыйнай ноткаю прапанавала:

— Заходзьце, калі ласка... Вас клічуць...

І адразу ж нешта страхавітае ёкнула ў грудзях Сурмілы. Ён нерашуча затаптаўся ля дзвярэй, чакаючы, што вось-вось выйдуць Антоненка і Лазовік, аднак яны чамусьці не выходзілі.

— Заходзьце-заходзьце...— з тою ж казённай ветлівасцю папрасіла сакратарка, і гэтая ветлівасць здалася падазронай. Усё, што хочаш, мог уявіць сабе, толькі не тое, што давядзецца гутарыць з Радзевічам у прысутнасці Антоненкі.

— Дазвольце? — сунімаючы хваляванне, запытаў ён, адчыніўшы дзверы, акінуў усіх траіх адразу насцярожана-дапытлівым позіркам і зразумеў: тут гаварылі, не проста гаварылі, а спрачаліся наконт яго.

— Праходзь! — Погляд у Радзевіча быў строгі, голас — халодны.— Сядай...

Сурміла хацеў падаць руку, але перадумаў: першы па этыкету павінен падаваць руку начальнік, а калі ён не падае — лепш не совайся са сваёй фамільярнасцю. Сціпла павітаўся кіўком галавы з усімі разам, узяў крэсла ля

стала, за якім праходзяць пасяджэнні бюро, прысеў, ліхаманкава думаючы: што ж здарылася?

Радзевіч маўчаў падазрона і жорстка, нібы загадваў прызнавацца ў нейкіх грахах. Лазовік і Антоненка таксама маўчалі нацята — было падобна, што адбылася нейкая змова наконт яго персоны.

— То што, будзем узбуйняцца ці не будзем? — нарэшце, з нейкім падтэкстам прабасіў Радзевіч, паглядзеў так, быццам хацеў злавіць на нечым непрыгожым і не прапусціць ніводнага руху на твары. Так Радзевіч на яго яшчэ ніколі не глядзеў. Звычайна ён пачынае гутарку з якога-небудзь жарту, як роўны з роўным, хоць заўсёды і адчуваеш нябачную, няўлоўную дыстанцыю. Што ж здарылася? Няўжо ён здагадваецца? На нейкую секунду апанавала разгубленасць, ад страху задрыжала ўсярэдзіне, але імгненна спрацавала нешта накшталт інстынкту самаахоўы, змусіла сцяцца, як спружына, быць гатовым да любой нечаканасці.

— Вядома, трэба ўзбуйняцца, Андрэй Паўлавіч,— яшчэ трохі апалым голасам сказаў ён, але тут жа ўзяў сябе ў рукі: — Навукова-тэхнічны прагрэс дыктуе новыя маштабы, прынцыпова іншы падыход, а дасягнуты ўзровень вытворчасці...— Запнуўся, заўважыўшы, як прайшоў цень па Радзевічавым твары, успомніў, што Радзевіч не пераносіць, калі пачынаюць гаварыць траскуча, як па пісанаму, болей таго, можа нават на пленуме ці якой салíднай нарадзе бесцырымонна абарваць пад рогат залы: маўляў, ты мне не чытай перадавіцу з раённай газеты, не балабонь пустое, кажы, што сам думаеш, а не маеш чаго сказаць — сядай, не адбірай час. Гэтая нетактоўнасць, грубаватая, бесцырымонная, шмат каго шакіруе, прымушае губляцца, чырванець, не падабаецца яна, вядома, і яму, Сурмілу, аднак першы прывучыў, што ніхто не рашаецца выступаць з трыбуны, уткнуўшыся ў паперку, дэталёва не абдумаўшы свайго выступлення,— каму ахвота быць пасмешышчам...

— Кажаш, маштабы малыя? — недаверліва перапытаў Радзевіч і, не чакаючы адказу, шматзначна намякнуў: — А мо не ў маштабах дзела? А-а? — Уставіўся хітрымі вачыма, не хаваючы, што сочыць за кожным яго рухам. Сурмілу стала няўтульна пад гэтым позіркам. Ён нутром адчуваў, што настае кульмінацыйны момант і, магчыма, лёс яго зараз залежыць ад таго, зможа ці не зможа вытрымаць гэты позірк, не ўздрыгнуць, зрабіць так, каб Радзевіч пераканаўся, што, апроч высокіх грамадскіх інтарэсаў, апроч клопатаў пра росквіт і светлае будучае калгаса, яго, Сурмілу, больш нішто не хвалюе і хваляваць не можа.

— А ў чым дзела, Андрэй Паўлавіч? — паставіў здзіўленыя вочы Сурміла, а сам ледзьве сунімаў нейкія здрадлівыя дрыжыкі.— Нічога не разумею, Андрэй Паўлавіч... Што за падазрэнні? Што я мог надумаць?! — Ён выразна разумеў, што павінен абурацца — толькі абурэнне, пераканальнае, рашучае, выратуе ад падазрэнняў, якія ўвялі ў вушы Радзевічу Антоненка з Лазовікам. Ён ужо здагадваўся, што гэта за падазрэнні...

— Што мог надумаць?..— з тым жа недаверам перапытаў Радзевіч, уважліва сочачы за выразам яго твару.— Ну-у... напрыклад, праглынуць «Забор'е» з Кунцэвічавымі мільёнамі?..

Сурмілу кінула ў пот, аднак усё той жа інстынкт самааховы прымусіў узяць сябе ў рукі.

— Гэта несур'ёзна! — амаль шчыра абурыўся ён.— Гэта — паклёп! На якой падставе мне ставяцца такія абвінавачванні?! Андрэй Паўлавіч, я... патрабую... расследавання...— І, не дачакаўшыся Радзевічавай рэакцыі, пакрыўджана дадаў: — Патрэбны мне Кунцэвічавы мільёны!

Апошняе было пралікам, спахапіўся, але — позна...

— А чаму б і не патрэбны? — памяркоўней, але з тым жа недаверам запытаў Радзевіч.— Колькі ў цябе на рахунку?

Гэта было дужа непрыемнае пытанне, і Сурміла ліхаманкава думаў, як непрыкметна і дыпламатычна ўхіліцца ад яго.

— Не-ешта-а... каля...— замяўся з сур'ёзным одумам, спадзеючыся, што Радзевіч адчэпіцца.— Не маю самай свежай лічбы...

— Тры з паловай мільёны,— падказаў Лазовік і здзекліва ўеў: — Даўгоў...

Сурміла глянуў на яго з нянавісцю, не ведаючы, што сказаць.

— А ў Кунцэвіча колькі? — не сунімаўся Радзевіч. Пытанне было адрасавана яму, Сурмілу.

— Я іх грошай не лічыў! — агрызнуўся ён, думаючы, як выблытацца з гэтай непрыемнай тэмы, не даць загнаць сябе ў кут.

— Няўжо не палічыў? — недаверліва, іранічна сказаў Радзевіч, насупіўшы бровы, папрасіў Лазовіка: — То падкажы яму, колькі там у Кунцэвіча?

— За сем мільёнаў.

— Канечне, не даўгоў?

— Вядома...

— Во бачыш — за сем мільёнаў! — са здзекам глянуў Радзевіч.— А ты не лічы-ыў... Во так трэба гаспадарыць, кандыдат навук! Хопіць усе твае дзіркі залатаць ды яшчэ столькі застанецца, пакуль наробіш новых...

— Мне іх грошы не патрэбны...— як мог абараняўся Сурміла.— Самі свае даўгі асілім...

— Пачакай-пачакай: як жа ты будзеш асільваць свае даўгі, калі намерыўся аб'ядноўвацца? — злавіў на слове Радзевіч.— Мо два рахункі ў банку збіраешся трымаць? — У яго голасе была знішчальная іронія.

Сурміла адчуваў, што яго прыпіраюць да сцяны.

— Не з-за грошай жа аб'ядноўвацца...— адчайна абараняўся ён.

— А з-за чаго?

Адчуў, што глеба канчаткова выплывае з-пад ног, і ў самы апошні момант зрабіў адчайны рывок.

— Андрэй Паўлавіч, я не хачу, каб да мяне ставіліся як да хлапчука! — І гэта, як і разлічваў, атрымалася цвёрда, з пафасам, нават са злосцю.— Тым больш, інкрымінавалі нічым не абгрунтаваныя абвінавачванні. Не я рашаю, аб'ядноўваць ці не аб'ядноўваць калгасы. Я выказаў і абгрунтаваў сваю думку, кіруючыся толькі інтарэсамі дзела. Гэта — справа майго сумлення і абавязку, таму прашу ставіцца да яе калі не з павагаю, то хоць з належным тактам!

— Ну, ладна...— паморшчыўся Радзевіч.— Але скажы, чаму ты залез у гэтакія даўгі?

Па тым, як перамяніўся Радзевічаў тон, зразумеў, што псіхалагічны ход быў правільны. Цяпер павінен наступіць пералом...

— Чаму залез у даўгі, пытаеце? А хто больш за ўсіх будаваўся? У каго самая сучасная тэхніка? Хто за год па шэсць-сем камбайнаў, дзесяць — пятнаццаць трактараў, не лічачы іншай тэхнікі, купляе? А завод гранулявaных кармоў? А новае тэхналагічнае абсталяванне для фермаў? Усё гэта дарма не даецца, як вы выдатна ведаеце...

— Пачакай-пачакай, ты ж толькі два гады назад дзесяць «СК-4» купіў. Дзе яны? Навошта табе столькі камбайнаў?

— «СК-4» маральна ўстарэлі. Спісалі...— зноў стаў губляць пад сабою грунт Сурміла.

— Ды яны ж толькі адзін сезон адпрацавалі, а вы паспісвалі?!

— І Кунцэвічавы хлопцы на запчасткі расцягнулі,— падліў масла ў агонь Лазовік.— А тэхналагічнае абсталяванне, дарэчы, разукамплектавалі так, што цяпер канцоў не знойдуць, «Сельгастэхніка» і манціраваць не бярэцца...

— Праўда?! — ні то здзівіўся, ні то абурыўся Радзевіч.

Сурміла маўчаў, разумеючы, што ў гэтай сітуацыі лепш за ўсё памаўчаць з вінаватым выглядам.

— Ды цябе ж судзіць трэба! Во гаспадар! Вы бачылі такога гаспадара? — узарваўся Радзевіч.

Было ясна, што псіхалагічны ход з маўчаннем даў асечку, павярнуць размову ў пажаданым кірунку не ўдалося, трэба шукаць нейкае іншае выйсце.

— Андрэй Паўлавіч, мы прызналі сваю памылку...— вінавата-прыбітым голасам пачаў ён.— Нас за гэта народны кантроль аштрафаваў. Даю слова: нічога падобнага ў нас ніколі не будзе...

— Не будзе, кажаш? — трохі спакойней сказаў Радзевіч.— Вядома, больш такога марнатраўства не будзе — Кунцэвіч не дапусціць. Во аб'яднаем калгасы — пойдзеш у намеснікі да Кунцэвіча. Павучыся, кандыдат навук, як трэба гаспадарыць...

Сурмілу стала горача: а раптам і праўда?! Не-е-е! Жартуе. Палохае. Бярэ на бога... Хай сабе папалохае. Яго абавязак палохаць... Але... Усё ж, калі праўда запхнуць у намеснікі?! Не-е і яшчэ раз не! Быць такога не можа! Кандыдата навук ды ў намеснікі да нейкага невука! Глупства! Абсурд! Ніхто не дапусціць...

— То пойдзеш у намеснікі да Кунцэвіча? — на поўным сур'ёзе запытаў Радзевіч.

Сурміла маўчаў. І хоць ён разумеў, амаль быў перакананы, што ўсё гэта абсурд, нейкі недарэчны кур'ёз, брыдкая праверка, аднак усё роўна зрабілася млосна.

— Калі трэба, то і пайду,— нарэшце здранцвела сказаў ён і, трохі ачомаўшыся, ненатуральна ўзнёсла дадаў: — Мне не пасады патрэбны, мяне справа хвалюе...— Глянуў на Радзевіча і з задаволенасцю і радасцю заўважыў, што той зніякавеў. На Лазовікавым твары было здзіўленне, Антоненка скептычна ўсміхаўся, аднак схаваць збянтэжанасць яму не ўдавалася... Канечне ж, не такога адказу яны чакалі. Чакалі, што Сурміла дасць у хамут, тады Сурмілу можна навешаць чорт ведае якіх сабак. А дулю вы не хацелі? Во, цяпер падумайце, як выкручвацца! Рыхтавалі для Сурмілы пастку, а самі ў яе

трапілі... Так і павінна было быць! Уздумалі перайграць, захацелі голымі рукамі ўзяць Сурмілу! А дулю!

— Што ж, паглядзім...— пасля непрацяглай паўзы няпэўна сказаў Радзевіч. На душы ў яго быў нейкі нядобры асадак. Хацелася верыць, і нешта супраціўлялася, каб паверыць у Сурмілаву шчырасць. Падобна было, што ён разгадаў іх карты. Шчыра кажучы, тут не трэба мець вялікага розуму, каб разгадаць... Але якое прыняць рашэнне? Розыгрыш розыгрышам, а, мусіць, самае разумнае было б, каб на самай справе Сурміла пацёрся ля Кунцэвіча ў намесніках. Такіх самародкаў, як Кунцэвіч, не так многа ўжо і засталося, каб можна было дазволіць імі кідацца. Пашлеш яму талковага спецыяліста — праз дватры гады, глядзіш, гатовы старшыня... Ну, проста кузня старшынскіх кадраў гэтае «Забор'е». А мо ўсё ж рызыкнуць ды прапусціць Сурмілу праз Кунцэвічаву школу? Эх, каб не яго гэтая праклятая дысертацыя! А так ткніся ў вобласць з Кунцэвічавай кандыдатурай — на смех падымуць. Першы Сурміла-старэйшы спадцішка тарараму наробіць: як гэта так — аддаюць перавагу малапісьменнаму практыку! Яны, у абласным упраўленні сельскай гаспадаркі, і без гэтага не прамінуць ніводнай нарады, каб не тыцнуць высокім працэнтам практыкаў. У прынцыпе яно, канечне, і правільна: сёння сельская гаспадарка патрабуе гаспадара-спецыяліста, запеўку ва ўсім павінны рабіць высокакваліфікаваныя спецы. Але спец спецу, практык практыку — розніца. Нельга мераць усіх на адзін капыл, стрыгчы пад адзін грэбень. Нельга-то нельга, але...

А мо рабіць так, як і задумалі? Кунцэвіч усё роўна будзе праваю рукою ў Сурмілы. А Сурміле зрабіць добрую «выцяжку»: слухай і вучыся, ды часцей гладзіць супроць шэрсці, не зважаючы на яго дысертацыю... А мо ўсё ж прыслухацца да Лазовіка і Антоненкі і пакуль што ўстрымацца ад аб'яднання? Вясна наступае на пяты. Прыйдзе восень — там і рашыцца... Але трэба рашаць,

і комплексам зацягваць нельга. Тут ёсць над чым падумаць...

Цяпер у Сурмілы не заставалася ні кроплі сумнення, што яму ўчынілі праверку, і наступіла палёгка, потым нахлынула радасць, тайная, помслівая. Ён моўчкі святкаваў сваю перамогу. Аднак усё ж нешта муляла, смылела, перашкаджала адчуваць радасць да канца. І хоць гэта было неразумна, дзёрзка, але ўсё выразней адчуваў, што для поўнага шчасця не хапае толькі аднаго — Радзевіч, а з ім Антоненка, Лазовік павінны не моўчкі, а ўголас прызнаць сваё паражэнне.

— Я не магу супакоіцца, Андрэй Паўлавіч! — пакрыўджаным і адначасова абураным голасам пачаў ён.— Як вы толькі маглі падумаць! Як вы маглі западозрыць, што я... я пазарыўся на Кунцэвічавы грошы?! Як вы маглі падумаць! — Сурміла не раз крывіў душою перад начальствам, але яшчэ ніколі не быў такім абачлівым, яшчэ ніколі так не баяўся перайграць, апраставалосіцца.

— Ну, ладна, ладна...— прымірэнча сказаў Радзевіч.

Сурміла разумеў, што Радзевіч загаварыў тонам пераможанага, гэтым можна і задаволіцца, аднак нейкая недольная сіла спакушала дамагацца большага.

— Во і добра, што сам Кунцэвіч будзе распараджацца тымі грашыма,— не мог утрымацца, безразважна палез на ражон ён.— У нас зроблены такі задзел, што праз два-тры кварталы ад даўгоў і следу не застанецца...

— Давай не будзем! — абарваў яго Радзевіч, сярдзіта звёўшы свае калматыя бровы, і гэтая сярдзітая нахмуранасць зноў кальнула балюча: а, мусіць, ён не верыць? Мусіць, усё ж так і не будзе эфектнай апошняй кропкі... І радасць стала блякнуць, спакваля ўсплывала злосць, прыкрая, пякучая, абразлівая: як толькі язык павярнуўся ў Радзевіча прапанаваць, хай сабе для праверкі, але прапанаваць такое?! Хацелася абурыцца, мо нават са злосцю стукнуць кулаком па стале, але абурыцца адкрыта ён не мог...

## 5

Лазовік вяртаўся з райкома партыі а чацвёртай гадзіне дня і думаў: а ці дачакаўся яго Кунцэвіч? Хацелася, каб не дачакаўся. Звесткі, якія ён нёс, не маглі парадаваць старога. Усё, што адбылося ў Радзевічавым кабінеце, збіла з тропу, паралізавала былую рашучасць, нарадзіла ў душы нейкую глухую разгубленасць. Хоць мо не ўсё яшчэ так безнадзейна... Нягледзячы на ўсё, што адбылося ў Радзевіча, здаецца, давер да Сурмілы пахіснуўся... Але ж Радзевіч не стаў збіраць бюро, каб перарашыць! Значыць, адмяняць рашэнне не збіраецца. Праўда, абяцаў падумаць... Але, па ўсім відно, гэта толькі для прыліку...

Кунцэвіч сядзеў у прыёмнай і не ведаў, як бавіць час. То хадзіў, злуючы і крэкчучы, то зноў сядаў, то з'яўлялася рашэнне плюнуць на ўсё і ехаць дамоў, то гэтае рашэнне знікала.

— Скора прыйдзе, не хвалюйцеся,— супакойвала сакратарка, зусім яшчэ дзеўчанё — пэўна, не паступіла ў інстытут і цяпер выседжвае ў прыёмнай да наступнага набору: на стале стос падручнікаў за восьмы — дзесяты класы.

Ад нечага рабіць падышоў да акна, абыякава паглядзеў на вуліцу. Ярка, зусім па-вясноваму свяціла сонца, нават праз шыбы пахла вясной. Позірк затрымаўся на вераб'ях, што, радасна шчабечучы, купаліся ў талай вадзе: скок-скок, распусціць крыльцы, паплюхаецца хвілінку — і выскоквае на сухое, пачынае вычышчаць дзюбкай свае пярэстыя пёрцы. Во чысцюлі! Аднекуль раптам наляцела з тузін адкормленых шызых галубоў і, звысоку паглядваючы на шэрую драбязу, важна захадзілі па двары, выглядаючы, чым пажывіцца. «Гараджане»! У вёсцы яны чамусьці не водзяцца. У вёсцы ўсё куры падбяруць, нічога не пакінуць гэтым дармаедам...

Заняты сваімназіраннем, ён і не заўважыў, як прыйшоў Лазовік — дзверы ў прыёмную былі адчынены насцеж. Лазовік сцішана паглядзеў на яго збоку — і зашчымела-зашчымела сэрца. Ці то ад таго, што нічым не можа парадаваць гэтага блізкага чалавека, ці то ад таго, што толькі цяпер кінулася ў вочы, як здаў за апошнія гады стары — ссутуліўся, нездарова размажнеў, на галаве засталіся толькі рэдзенькія белыя валаскі — яшчэ не лысіна, але ўжо і не чупрына. Яму можна даць не пяцьдзесят восем, а ўсе шэсцьдзесят пяць — семдзесят гадоў. Знешне ён, увогуле, менш за ўсё падобны на старшыню калгаса, хутчэй — на брыгадзіра-практыка ці проста вясковага жыхара, якога прывяла ў раённую ўстанову нейкая своя важная сялянская патрэба. Шмат такіх дзядоў вычэквае сваю чаргу ў прыёмнай райсабеса, загсе, раённай бальніцы.

— Ну, во, нарэшце! — абрадаваўся Кунцэвіч, і адразу ж яго вочы засвяціліся нецярплівай насцярогаю: ну, што там?

У Лазовіка сціснулася сэрца.

— Хадзем у кабінет...

Лазовік не пайшоў за свой рабочы стол, а сеў насупраць Кунцэвіча за прыстаўны столік. Выгляд у яго быў заклапочаны, паніклы.

— Не трэба, Іван...— зразумеў усё Кунцэвіч.— Ды кінь ты! Мо гэта і лепей, што так сталася...

Лазовік разумеў, што стары кідае яму выратавальны круг, падказвае выйсце, аднак было сорамна прымаць гэты круг.

— Лепей, кажаце?! — Ускочыў з месца і таропка захадзіў па кабінеце.— Не-е-е, у тым-то і справа, што не лепей!

— Ну, чаго ты, браце мой, забедаваў? — стаў супакойваць яго Кунцэвіч.— Знайшоў чаго бедаваць! Калі хочаш ведаць, то мне гэтае старшынства астачарцела.— Правёў далонню па горле.— Во як! Патрэбна мне яно, як леташні

снег... Пастарэў, браце мой, сам чую, як пастарэў... Пацягнуў лямку — і досыць. Хай цяперака хто маладзейшы бярэцца...

— Рана спісваеце сябе...

— Ну-у, рана ці не рана,— разважліва, нават весела адказаў Кунцэвіч.— Але, мусіць, і праўда, з мяне хопіць. Засядзеўся, мо нават перасядзеў сваё... Усяму свой час. Тры рэчы чалавек павінен зрабіць у свой час — ажаніцца, адысці ад дзела і памерці.

— Гаворыце нешта...

— Праўду кажу, браце мой. Ты і сам разумееш, што праўду. Нельга дацягваць, каб чакалі — дачакацца не маглі, калі ж ты, нарэшце, замінаць перастанеш. Праўда, бывае сяму-таму па старасці розум адбірае: сядзіць, як трухлявы корч, парахня сыплецца, а яму ўсё здаецца, што ён пуп зямлі. Не дай бог, каб пад старасць адабрала развагу...— Памаўчаў, потым нечакана перамяніў тон.— Во, каб не Сурмілу ставілі, то і зусім добра было...— Глянуў затрывожана, амаль умольна: — Няўжо ўсё ж Сурмілу паставіце?

— Не ведаю...— разгубіўся Лазовік, хацеў схлусіць, але не змог.— Пэўна, Сурмілу. А вас — да яго намеснікам...

Кунцэвіч адразу ж пазмрачнеў, замоўк зацята. Вочы яго патухлі, зрабіліся абыякавымі, пустымі, але праз хвіліну ажылі зноў, сталі недаверлівымі, іранічнымі.

— Дзякую за клопат. Але няўжо вы не падумалі, што не пайду я да Сурмілы ў намеснікі.

— Чаму? — няўцямна павёў плячыма Лазовік, ці то здзівіўшыся, ці то спалохаўшыся.

Кунцэвіч глянуў на яго, нібы кажучы: як можна не разумець такіх простых рэчаў? І, угледзеўшы, што той і на самай справе нічога не разумее, усміхнуўся горка:

— Як я людзям у вочы глядзець буду, калі ўступлю ў хаўрус з Сурмілам, вазьмуся развальваць усё, што стварaў разам з людзьмі? Сурмілу-то што: без пасады не па-

кіпеце, на самы горшы выпадак — матане ў горад вучыць студэнтаў. А мне што загадаеш? За ім у дворнікі? Не-е, браце мой, мне не так многа жыць засталося, каб уступаць у хаўрус з Сурмілам...— Уздыхнуў самотна, надоўга замоўк, потым схамянуўся, махнуўшы рукой, амаль весела сказаў: — Ат, давай не будзем пра гэта! Не пра тое зараз у мяне клопат...

— А пра што? — неяк недарэчна вырвалася ў Лазовіка.

Кунцэвіч паціснуў плячыма, заклапочана паглядзеў на гадзіннік, насмешліва і трохі адчужана сказаў:

— Каб не спазніцца на аўтобус — во што зараз мяне хвалюе...— У яго голасе была горыч і, здаецца, нават крыўда.— Мне пара, Іван...

— А хіба вы без машыны?

— Адправіў... Тут на базе сёе-тое дастаў...— неахвотна адказаў Кунцэвіч. Ён ніколі не любіў расказваць пра свае візіты ў «Сельгастэхніку», але ні для каго ў раёне не было сакрэту: калі ўжо Кунцэвіч заявіцца на базу, то з пустымі рукамі назад не паедзе — хоць якія шрубкі, толкам не ведаючы, навошта яны яму, але ўсё роўна нешта выцыганіць. Пра яго набегі на «Сельгастэхніку» ледзь не анекдоты расказваюць... Вось і кончыліся твае візіты, твае вясёлыя гісторыі, Аляксей Сцяпанавіч. Сёння быў апошні. Хто-хто, а кіраўнікі «Сельгастэхнікі», пэўна, парадуюцца, што не стане такога дакучлівага кліента. Але што ні кажы, а нешта збяднее, паблекне ў раёне без Кунцэвіча... Нейкае шчымліва-жаласлівае пачуццё варухнулася ў Лазовікавай душы.

— Я вас давязу.

— Ну да! — адмахнуўся Кунцэвіч.— «Волгу» гнаць блізкі свет па такой рэсквасі! Аўтобусам даеду — не вялькі пан.

— Нічога-нічога! — рашуча запратэставаў Лазовік.— Хай трохі пратрасецца шафёр — увесь дзень у «казла» пралупіў.

— Глядзі, як хочаш...— абыякава згадзіўся Кунцэвіч.— То калі так, скажы шафёру — паедзем, каб завідна вярнуўся...

— Я вас правяду...— нечакана для сябе прапанаваў Лазовік і, нечага саромеючыся, схлусіў: — Мне якраз у «Светлы шлях» заскочыць на хвілінку трэба.

— Як хочаш...— паціснуў плячыма Кунцэвіч. Яму дужа не хацелася гэтага праважання.

Лазовік пазваніў у гараж, і шафёр не прымусіў сябе чакаць — праз хвіліну пасігналіў, даючы знаць, што ён гатовы.

Моўчкі сталі збірацца на выхад.

— Вы хоць паабедалі? — успомніў Лазовік і, зразумеўшы, што стары без абеду, прапанаваў: — Мо заскочым да мяне, перахопім чаго?

— Нешта не хочацца... Давай паедзем...

Лазовік таксама застаўся без абеду і цяпер адчуваў асабліва востра, што кішкі граюць марш, аднак не рашыўся настойваць — старому і на самай справе зараз не да яды.

Выехалі за горад. Кунцэвіч сядзеў засяроджаны, хмуры, невідушча гледзячы ў акно, на пытанні адказваў коратка, адназначна, без ахвоты, і Лазовік рашыў не назаляць яму — хай думае, а сам пачынаў шкадаваць, што ўблытаўся ў гэтыя провады. Хоць... хоць, шчыра кажучы, ён не мог гэтак проста справадзіць Кунцэвіча... А чаму не мог? Захацеў паспачуваць, паддобрыцца, згладзіць сваю віну, думаў з прыкрасцю Лазовік. Патрэбна Кунцэвічу тваё спачуванне, як брычцы пятае кола!.. Старому хочацца пабыць сам-насам, без дакучлівых субяседнікаў і спачувальнікаў. Ён нават не хавае гэтага. Хай бы сабе ехаў з Эдзікам. Эдзік маўчыць, як рыба, калі за рулём,— слова з яго не выцiснеш...

Сонца хілілася к заходу. Над голымі чорнымі дрэвамі насіліся гракі, і нават шум матора, вібрацыя ў кузаве не маглі заглушыць іх ашалела-радасныя галасы.

Кунцэвіч самотна глядзеў на палі, нібы развітваўся з імі, развітваўся са знаёмаю, тысячы раз езджанаю дарогаю, з усім, чым жыў, што турбавала, непакоіла яго ўсе гэтыя дваццаць пяць гадоў. На душы было па-ўрачыстаму спакойна і тужліва... Не думаў, што гэта будзе вясною... Вясною адольваюць заўжды новыя клопаты, новыя справы, вясною ніколі не думаецца пра хуткаплыннасць часу, пра тое, што на свеце няма нічога вечнага, бясконцага. На такія думкі вясною проста не хапае часу. Што ж, вясною пачынаў, вясною і даводзіцца заканчваць. Вясною даводзіцца заканчваць...

І памяць падсунула, памяць нечакана для самога сябе падсунула тую насцярожаную, трывожную вясну 1949 года...

Заходнія вобласці Беларусі ўваходзілі ў новую гістарычную паласу, якая карэнным чынам ламала, мяняла спрадвечны сялянскі побыт. Пачыналася калектывізацыя. Людзі толькі што вылезлі з зямлянак, сталі абжывацца, залечваць раны вайны, і будучае хвалявала, трывожыла кожнага. У вёсках амаль штовечар збіралі сходкі, моўчкі выслухоўвалі аратараў з раёна, з вобласці, ніхто ім не пярэчыў, але і падаваць заявы ў калгас не спяшаліся: маўляў, пажывём — пабачым, і чаго, чаму я першы палезу? Пра калгасы хадзілі розныя жахі. Распускалі іх і свае, хто быў больш заможны, і нейкія задрыпанцы, што бадзяліся ў той час па вёсках. Людзі вагаліся: паслухаеш прамоўцу з раёна ці вобласці — адно, паслухаеш, што сарока на хвасце прынесла,— зусім іншае. Бібліятэкарка прывезла з раёна прыпеўкі пра стопудовы ўраджай, і гэтыя прыпеўкі прыйшліся даспадобы дзяўчатам. А праз дзень на танцах, калі чамусьці патухла лямпа, нехта не сваім голасам праспяваў:

А-а самалёт ляці-іць,
Ды збоку фортачка...

Назаўтра гэтую прыпеўку ведала ўся вёска, хоць спяваць уголас ніхто не адважваўся.

Яны з Апанасам Бакуном толькі што вярнуліся з арміі — пры ордэнах, медалях, з ранняй сівізной у чупрынах, але маладыя, пабачыўшыя свет, поўныя сіл і энергіі, гатовыя зямлю перавярнуць...

Калі гэта было! А здаецца — толькі ўчора... Нават яшчэ тыя галасы выразна гучаць у вушах. Чвэрць стагоддзя... І, мабыць, першы раз у жыцці так цвяроза і жорстка кальнула думка: а ўсё ж як хутка бяжыць час, як мала адведзена чалавеку! І няма калі за рознымі клопатамі заўважаць, як згараюць, бы свечка, хвіліны, гадзіны, дні, месяцы, гады... Толькі сяды-тады смутна ўяўляеш, што будзе некалі канец, але ўсё гэта ўспрымаецца як далёкая-далёкая перспектыва, нават нерэальнасць... Пакуль не ўдарыць між вушэй, як ударылі сёння: пара саступаць, стары корч, кончыўся твой ліміт... Та-ак, адыходзім паціху... Што ж, гэтак было да нас, гэтак ёсць, гэтак будзе, ніхто не можа стаць над часам, адны — раней, другія — пазней, але ўсё роўна... А ўзяць Апанаса... Ужо ледзьве клёвае Апанас, Апанас, якому, здавалася, не будзе зносу. Эх, Апанас, Апанас! Спета наша з табой песенька... А памятаеш? Канечне, памятае... Такое не забываецца...

І раптам да болю шчымліва прыгадалася такое далёкае і такое блізкае галоднае, зрэбнае маленства, юнацтва, але памяць чамусьці толькі слізганула па іх, упёршыся ў той дзень, той ранак...

Дзень абяцаў быць гарачым, бязветраным. Пазней звычайнага прыгналі з начлегу коней — нядзеля, а ўдзень не выпусціш, сцінаюць авадні. І ніхто, вядома, не надаваў значэння выбухам, што чуліся недзе ўдалечыні,— думалі, як звычайна, ірвуць карчы. А потым у небе з'явіліся самалёты. Самалёты над Забор'ем былі не навіна — кіламетраў за пяцьдзесят, ля райцэнтра, аэрадром, і сама-

лёты часта лёталі над вёскай, да іх прывыклі, і ніхто, апроч блазнюкоў, не зважаў на іх. На гэты раз гул быў нейкі нязвыклы, незнаёмы, і, калі самалёты падляцелі бліжэй, усе, хто быў на двары, здзіўлена ўбачылі, што гэта нейкія іншыя самалёты — з белымі крыжамі на крылах і незразумелымі загагулінамі на хвасце. Стаялі, пазадзіраўшы галовы, дзівуючыся і нічога не разумеючы. Калі самалёты ўжо мінулі вёску, адзін раптам стаў паварочваць назад, нібы што забыўшы. Зрабіўшы разварот, нечакана клюнуў уніз — і на яго рыльцы заскакалі чырвоныя іскаркі. Перш чым здагадаліся, што ён страляе, убачылі, як задымеў Лявона Клыпатага хлеў. «Крыжак» праляцеў над самымі стрэхамі, задраў рыла і, праціўна завываючы, палез уверх. Потым лёг на крыло, робячы разварот, і зноў, бы па слізкай горцы, пайшоў уніз, запырскаўшы чырвонымі іскрамі.

— Падай на зямлю! — загадаў Мікалай — старэйшы Апанасаў брат.

Яны з Апанасам яшчэ нічога толкам не разумелі, але падначаліліся Мікалаеваму загаду — ніцма пападалі ля плота. Сам Мікалай не ўпаў, а схаваўся за шула і адтуль назіраў за самалётам. У канцы вёскі бабухнула, што аж задрыжалі шыбы. Да хлопцаў яшчэ не даходзіў сэнс усяго, што адбываецца. Не было нават страху, была адна цікаўнасць — паўскоквалі, прыкрыўшы далонямі вочы ад сонца, глядзелі на дзіўны самалёт, намагаючыся разгледзець лётчыка. «Крыжак» тым часам, набраўшы вышыню, пачаў рабіць новы разварот. Аж раптам адкуль ні вазьміся — знаёмы і звыклы маленькі тупаносы «ястрабок» з чырвонымі зоркамі на крылах. Ён адразу ж насеў на «крыжака», смела і задзірліва. Той адразу ж, было відаць, спалохаўся, кідаўся то ўлева, то ўправа, а «ястрабок» не адпускаў яго. І не паспелі яны што-небудзь сцяміць, як ад «крыжака» пацягнуўся чорны хвост. Самалёт губляў вышыню, неўзабаве ад яго аддзялілася нейкая чорная кропка, і праз хвіліну ў небе павіс парашут. Самалёт тым

часам, цягнучы за сабою яшчэ больш густы чорны хвост, цяжка праляцеў да ляска, знік за дрэвамі, і адразу ж адтуль пачуўся выбух і пацягнуўся слуп дыму. Мікалай, Апанас, Аляксей, а за імі ўся вясковая блазнота кінуліся на поплаў, куды сядаў парашут. Яго стала зносіць ветрам на жыта, і калі прыбеглі туды, парашутыст ляжаў і ніяк не мог выблытацца з вяровак і сцяблін. Убачыўшы іх, стаў лапатаць нешта не па-нашаму, усё намагаўся і ніяк не мог з-за вяровак дацягнуцца да кабуры, што вісела ў яго збоку на поясе...

— Шпіён! — выказаў здагадку Мікалай і загадаў: — А ну, хватай яго, хлопцы! — Першы кінуўся на парашутыста.

Сяк-так выблыталі, адабралі пісталет і павялі да сельсавета. Уся вёска збеглася паглядзець, як на цуд, нават пакінулі тушыць Лявона Клыпатага хлеў. Старшыні сельсавета не было — паехаў на выхадны да нейкіх сваякоў ні то ў раён, ні то яшчэ некуды далей, і ніхто не ведаў, што рабіць з гэтым дзіўным незнаёмцам з неба. Той нешта злосна гергетаў і не разумеў ні слова. Гэта быў зусім малады бялявы хлопец, яшчэ і не вораг, але ўжо і спагады ні ў каго не было — свечкай гарэў Лявона Клыпатага хлеў.

Пакуль разважалі, спрачаліся, што з ім рабіць, з'явіліся на машынах вайскоўцы, разгубленыя, здалося, нават трохі напалоханыя. Яны не з меншай, а мо нават з большай цікавасцю аглядалі парашутыста, які адразу ж зніякавеў, прыціх. Камандзір вайскоўцаў з асцярогаю разглядваў пісталет, які яму аддаў Мікалай. Потым, засунуўшы свой трафей у планшэт, падзякаваў усім, а Мікалаю — асабліва за пільнасць, заклікаў не паддавацца на правакацыі, не кідацца ў паніку. На трывожныя пытанні: а што робіцца, нічога не адказаў, спаслаўшыся на вайсковую тайну. Загадаў пагрузіць парашутыста ў машыну, і яны спешна памчалі ў бок раённага цэнтра.

Усю ноч па ўсход ішлі войскі. У вёсцы, апроч малечы, ніхто не спаў, трывожна прыслухоўваючыся да ўсё нарастаючага з захаду гулу. Выходзілі на вуліцу, прыставалі да заклапочаных вайскоўцаў, але ніхто нічога не казаў. І гэта насцярожвала яшчэ больш. А раніцою ўжо ведалі — пачалася вайна.

Вайскоўцаў стала праходзіць усё менш і менш, сядытады пралятаді самалёты з крыжамі, але ляцелі яны высока, на Забор'е не звярталі ніякай увагі.

А пад вечар у вёсцы былі немцы. Яны ехалі на матацыклах, на грузавіках, ішлі пехатою, запыленыя, з закасанымі па локаць рукавамі, з кароткімі аўтаматамі на плячы. Потым па вуліцы прагрукаталі дзесяткі два танкаў з такімі ж, як і на самалётах, белымі крыжамі. Людзі баяліся выходзіць з хат. Немцы часта спыняліся ля студні, наскора пілі ваду і ішлі далей.

Мікалай, Апанас і Аляксей хаваліся то ў жыце, то ў хмызняках, толькі ўночы забягаючы дахаты запасціся харчам. Потым, заўважыўшы, што немцам не да іх, трохі асмялелі, сталі выходзіць са свайго сховішча і ўдзень. Асабліва Мікалай. Выйдзе да варот, абапрэцца рукамі на жэрдку і глядзіць, як па вуліцы паўзуць жалезныя аграмадзіны — аж зямля дрыжыць пад іх гусеніцамі.

На трэці дзень з'явіліся зусім іншыя немцы, не падобныя на тых, што ішлі ўсе гэтыя дні. У чорным, з перакрыжаванымі касцямі і чарапамі на рукавах, гладка паголеныя, дагледжаныя. Усю вёску сагналі да сельсавета, і адзін на ломанай польска-рускай мове аб'явіў, што германскі фюрэр вызваліў іх ад камуністаў, камісараў і яўрэяў, з сённяшняга дня ўводзіцца новы парадак, загадаў камуністам, камісарам і яўрэям выйсці тры крокі наперад.

Такіх у Забор'і не знайшлося.

Назначыўшы солтысам хваравекага дзядзьку Ігнася, які выпадкова трапіў на вочы, яны зніклі і больш за тыдзень не паказвалі носа. Вёска прыціхла, трывожна ча-

кала, што ж гэта за «новы парадак» будзе. Ніхто асабліва нікуды не адлучаўся, але пра гэты «новы парадак» даходзілі чуткі і да Забор'я. Казалі, што ў райцэнтры немцы пастралялі шмат народу, не шкадавалі ні дзяцей, ні старых. Назначэнне начальствам зусім даканала дзядзьку Ігнася — пакрэхтаў дзён пяць і памёр.

Неўзабаве ў вёску зноў панаехала немчуры ў чорным. Схапілі Мікалая Бакуна — аднекуль даведаліся пра лётчыка. Шукалі іх з Апанасам...

Спачатку хаваліся, потым натрапілі на невялікую групу акружэнцаў, так і пачалося іх партызанскае жыццё. К вясне сорак другога года быў ужо вялікі атрад, адважваліся нападаць не толькі на адзіночныя машыны на шашы, а і на нямецкія гарнізоны. А неўзабаве атрад вырас у брыгаду, і ўжо немцы нават удзень баяліся нос сунуць у пушчу. І ўсе чатыры гады не разлучаліся з Апанасам, жылі ў адной зямлянцы, разам хадзілі на заданні, ірвалі рэйкі на чыгунцы, плавілі са снарадаў тол. Канечне, хлебануць давялося ўсяго: і голаду, і холаду, і страху, і бяссонных блакадных начэй, прарываў. Колькі разоў смерць дыхала сваім холадам, але выжылі. Проста дзіва, што выжылі. А выйшлі з лесу ў сорак чацвёртым — адразу ж у армію. І зноў так сталася, што ў адным узводзе дайшлі аж да самага Берліна.

Не, на самай справе, мусіць, яны ў кашулях нарадзіліся — ні куля, ні асколак не кранулі ні яго, ні Апанаса за ўсю вайну. А пакасіла вайна людзей, ой, пакасіла!..

Адгрымелі салюты перамогі, здавалася, наступіў жаданы мір, але ў адзін дзень пагрузілі ў эшалоны — і праз усю краіну на Далёкі Усход, дзе пачалася вайна з Японіяй. Не паспелі павяваць з самураямі: пакуль прыехалі — японцы капітулявалі.

Хто быў старэйшы — дэмабілізавалі, а іх аднагодкам давялося яшчэ чатыры гады чакаць, пакуль падрасце змена. Без салдатаў не бывае войнаў, але і міру няма без салдатаў — гэта праўда.

Іх сустракалі сціпла — зусім не так, як тых, каму пашчасціла дэмабілізавацца ў сорак пятым. На двары быў сорак дзевяты. Ап'яненне перамогай трохі прайшло, цяклі галодныя будні са шматлікімі падаткамі, пазыкамі па вясне. Але ніхто ні на што не скардзіўся, разумелі, што цяжка не толькі ім, працавалі люта і адчайна, спадзеючыся на лепшае.

Яны з Апанасам былі першыя ў Забор'і, хто меў уяўленне, сваімі вачыма бачыў, што такое калгас,— усю Расію праехалі. І ім паверылі больш, чым каму. Упаўнаважаны з раёна, які ўжо быў зусім адчаіўся, дурэў ад радасці, калі амаль уся вёска раптам у адзін вечар падала заявы ў калгас. Праўда, не абышлося і без кур'ёзу — стварылі не адзін, а два калгасы, не схацелі быць у адным. Але гэта не бянтэжыла ўпаўнаважанага...

Вёску тады надвое падзяляў ручай. Цяпер, калі правялі меліярацыю, ад яго і следу не засталося. А тады... З незапамятных часоў яны былі ў вечнай варожасці, гэтыя дзве часткі адной вёскі. Не сказаць што гэта была нейкая сур'ёзная варожасць, бо ніхто не ведаў, калі і праз што яна пачалася. Проста была такая завядзёнка не ладзіць — вось і ўсё. У трыццатыя гады з нечае лёгкае рукі прыліплі мянушкі Абісінія і Іспанія (на польскі лад Хішпанія). Ніхто толкам не ведаў, дзе і што такое Абісінія і Хішпанія, але лічылі гэтыя мянушкі надзвычай абразлівымі, і часам дастаткова было назваць у вочы «абісінец» ці «хішпанец», каб дзецюкі браліся загрудкі.

Бывала, у «Абісініі» свае танцы, у «Хішпаніі» — свае, і рэдка абыходзілася без узаемных набегаў. І заўсёды былі свае задзіры-верхаводы. Перад вайною асабліва вылучаліся «хішпанец» Мікола Бакун і «абісінец» Стась Тамашэвіч (Міколу восенню сорак першага расстралялі гестапаўцы — за таго лётчыка. Стась у сорак трэцім падарваў сябе гранатай, каб не дацца жывым карнікам). А да вайны, бывала, завальваецца Стась са сваёй кампаніяй на «хішпанскія» танцы, усе пад хмяльком, з парога

загадвае музыканту: «Канчай польку! Танцуем вальц!» — «Ты хто такі, каб камандаваць?!» — зрываецца насустрач разгневаны Мікалай, і адразу ж пачынаецца тузаніна. Сёй-той кідаецца расцягваць, а забіякам толькі таго і трэба — куражацца: «Пусціце! Дайце нож! Зар-р-рэ-э-жжу!» Ніхто ніколі не прымаў усур'ёз гэтых пагроз, бо ведалі: праз хвіліну-другую, натузаўшыся, хлопцы абдымуцца і, хістаючыся, будуць гарланіць песню. І ўвогуле, Забор'е была вёска ціхая і мірная. Гэта не іншыя, дзе што ні свята — панажоўшчына, брат брата на вілы падымаў. Праўда, і ў Забор'і бывала, што сёй-той пасля гулянкі тыднямі хадзіў з сінякамі ды гузакамі, але такое здаралася даволі рэдка. Звычайна ж як пачыналася тузаніна, так і канчалася і была нечым накшталт пацехі, а калі абыходзілася без яе, то і вечарынка здавалася нецікавай. Яны, падшыванцы, і тыя летам вялі вечныя войны за больш-менш глыбокае месца ў ручаі, дзе можна паплёхацца, не дастаючы рукамі да пяску.

І хоць к таму часу бойкі сталі рэдкасцю, аднак і «абісінцы», і «хішпанцы» заўпарціліся: давай кожнаму свой калгас. У «Хішпаніі» выбралі старшынёю яго, Кунцэвіча, а ў «Абісініі» — Апанаса Бакуна, хоць той быў і не «абісінскага» паходжання. Праўда, яго лічылі амаль сваім, бо з першых дзён улёг да «абісінкі» Марты, і паколькі ён не меў сваёй хаты (спалілі немцы), пытанне было амаль вырашаным.

Праіснавалі гэтыя калгасікі больш за два гады, а потым неяк само сабою выйшла, што аб'ядналіся. Галасавалі ўсе як адзін за яго, Кунцэвіча, пэўна, таму, што ў «Чырвоным партызане» быў лепшы парадак, працадзень багацейшы, а Апанас запіў, усё ішло цераз пень-калоду. З год Апанас прабыў брыгадзірам, а потым сам адмовіўся. Па праўдзе кажучы, каб не ён, Кунцэвіч, то Апанас, пэўна, даўным-даўно спіўся, а мо нават прэлі б яго костачкі на могілках. Бывала, лямантуе Марта:

— Каб жа ты спрэндзіўся, апівошына пракляты! Залье вочы, свету божага не бачыць з-за гэтай гары...

— Я не-е х-ха-ацеў,— ледзьве варочае языком той.— Х-х-ло-опцы з-змусі-і-лі...

Ледзь што, Марта бяжыць да старшыні — толькі яго пабойваўся Апанас. Усё было: і ўгаворваў не піць, і палохаў, і караў, перавышаючы свае старшынскія правы, і «хлопцаў»-выпівох адваджваў. Канечне, Апанас іншы раз вельмі крыўдзіўся, але што рабіць было? І, нарэшце, калі ледзь не замёрз па п'янцы, адразу ўзяўся за розум — адкалоўся ад сяброў-выпівох, начыста завязаў наконт чаркі, нават курыць кінуў. Затое да работы стаў тройчы люты — ніхто не мог за ім угнацца. І праз шэсць гадоў стаў першым у раёне Героем Сацыялістычнай Працы. Колькі разоў пасля ўгаворваў быць брыгадзірам — нізашто!

А мо і розум меў, што не палез у начальства? Герой, а ён, Кунцэвіч, хто? Ніхто! Але шкадуй не шкадуй, а позна нешта перайначыць, нешта перамяніць. Хоць што шкадаваць? Былі і ў яго радасці, яшчэ якія радасці! У самыя цяжкія гады калгас быў на віду, ніхто не галадаў, не хадзіў у шмоцці. Славіўся калгас, штогод удзельнікам выстаўкі ў Маскве быў. Чатыры ордэны, не лічачы медалёў, хіба гэта мала?! Канечне ж, адзнака немалая. Ды хіба дзеля ўзнагарод жыў? Вядома, жыў не для таго, каб зарабіць сабе ордэны і медалі. А дзеля чаго?..

Машына звярнула з асфальту і пабегла, праўда, не так шпарка, па брукаванцы. Адразу ж завібравала, затрэсла, ды так, што, здавалася, вось-вось нешта зломіцца. Доўга не наездзіць па такіх дарогах,— пашкадаваў машыну Кунцэвіч.

Шум і калатуха адарвалі яго ад думак-успамінаў. Схамянуўся: нягожа сядзець надзьмутаму — Іван падумаць можа... А бач ты — узяўся праводзіць, віну сваю чуе.

А якая яго тут віна! Каб гэта залежала ад яго, канечне б, не дапусціў бы... Трэба загаварыць, супакоіць... Ат, ладна, дома нагаворымся!

Наперадзе паказаўся лясок, дакладней, пні ды хмыз — усё, што засталося пасля Сурмілавых лесанарыхтовак. А некалі, яшчэ на яго памяці, быў ого які бор! Мо ад таго і назва вёскі пайшла — Забор'е. У вайну немцы секлі. Кіламетры на тры паабапал дарогі, як пад касу, ачысцілі. Мусіць, баяліся партызанскіх засад, ці мо ленаваліся лезці далей, а мо тое і другое... А пасля вайны будаваліся, на станцыю драўніну вывозілі. Так начыста і высеклі. Праўда, на высечках адразу ж узяўся маладняк, аднекуль знайшліся елка, бяроза. Ладны лес праз гадоў дзесяць быў бы, каб не ўбіліся пініпавіцкія дрывасекі, калі пачалося тое вялікае перасяленне... Гэта ж трэба зусім мазгі згубіць, каб селяніна ад зямлі адарваць, сілком загнаць на пяты паверх, змусіць хадзіць за паўвярсты даіць, карміць карову. Няўжо цяпер і ў «Забор'і» Сурміла возьмецца вычаўпляць тое ж самае? Няўжо не дадуць па руках?!

Брукаванка раптоўна абарвалася, машына завіляла па раскіслай жвіроўцы. Ці то залішне газануў шафёр, ці то руль павярнуў няўдала, ці трымаў залішнюю хуткасць, але машыну «завадзіла», рэзка кінула ўбок — аж дух заняло, і, каб не куча камення, пэўна, сядзелі б у кювеце.

— Асцярожней! — незадаволена папярэдзіў шафёра Лазовік.

— Не паспелі забрукаваць увосень. Які кіламетр — таго і засталося,— стаў апраўдвацца Кунцэвіч.— Во, прасохне — адразу ж забрукуем, а зверху асфальт пакладзём. Я ўжо дамовіўся з...— і замоўк на паўслове.

Лазовіку хацелася сказаць што-небудзь, падбадзёрыць старога, але патрэбныя словы, як ні намагаўся, не знаходзіліся. Дзіўна: то яны, бывала, маглі прагаварыць не адну гадзіну, ніколі не клапоцячыся, якую тэму ўзяць, якія словы знайсці, то раптам гэтак усё перамянілася. Крадком зірнуў на старога — і адразу ж кінулася ў вочы,

што ў таго круцяцца нейкія словы на кончыку языка, аднак штосьці стрымлівае сказаць іх. Мо шафёр — нявольны сведка? Хоць бы не пачаў пра тое, ад чаго і без слоў млосна! Ліхаманкава думаў, як апярэдзіць, навязаць сваю тэму Кунцэвічу, і раптам позірк затрымаўся на магутным лапістым дубе пасярод поля. Некалі тут быў хутар з садам. Хутар ссялілі да вёскі, а сад з дубам засталіся сіратлівай купінай. Колішні старшыня райвыканкома Атрымовіч пры ім аднойчы напаў на Кунцэвіча: чаму не карчуеш? Пустазелле разводзіш, тэхніцы перашкаджаеш! Кунцэвіч выслухаў моўчкі, але дуба-волата кранаць і не думаў.

— Што, стаіць прыгажун? — паказаў на дуб Лазовік, маючы намер зачапіцца хоць за якую тэму.

— Стаіць. Чаму б яму і не стаяць...— ахвотна адказаў Кунцэвіч, падумаў і дадаў: — У каго гэта рука падымецца губіць такую красу!

— А сад усё ж выкарчавалі?

— Выкарчавалі. Удзічэў, таму і выкарчавалі...— І, задуменна засяродзіўшыся, ні то запытаў, ні то проста разважыў услых: — Ты во, Іван, чалавек вучоны, то скажы, браце мой, чаму гэта так: як толькі зглухне сядзіба — такая ўжо, здаецца, яблыня ці груша, а праз год-два ўдзічэе, у рот не возьмеш. Ведаю, пра догляд, пра недахоп спажыўных рэчываў будзеш гаварыць, але не ў гэтым справа, браце мой. Во, вазьмі ў маім садзе яблыні: хто калі іх даглядае, хто калі якія спажыўныя рэчывы сыпле, а яблыкі — у роце растаюць. То чым гэта, па-твойму, аб'ясніць можна?

— А па-вашаму, чым?

— Кажу ж табе: не ведаю. Каб ведаў — не пытаў бы. Ад цябе пачуць хачу...

Падобна было, што стары задумаў нейкую каверзу і хоча злавіць яго, тыцнуць: ага, ні халеры не ведае ваша навука! Гэта ў яго звычцы. Лазовік пацінуў плячыма: хто ж яго ведае... Ён, вядома, мог бы дэталёва растлума-

чыць, што да чаго, але марная справа нешта тлумачыць, калі ў старога ёсць на гэты конт свая думка. Застаецца толькі чакаць, пакуль ён не ўтрывае, скажа.

— Да-а-а...— не дачакаўшыся адказу, задуменна працягваў Кунцэвіч.— Тут, браце мой, не ў салетры ці суперфасфаце справа-а... Тут нешта іншае, браце мой... Зямля і ўсё, што расце на ёй, любоў і ласку чуюць, як жывыя. Ёсць любоў і ласка — радзіць і радаваць будзе, застанецца сірацінаю — удзічэе, быльнягом урасце...

— Ну, а дуб-то расце?

— Расце. І хай сабе расце — каму ён мяшае? Гэта аднаму Атрымовічу, ты помніш, некалі вочы мазоліў. Зямлі той займае — кот наплакаў, а хараство вялікае. Хлопцы мае ўпадабалі гэтае месца: летам у спёку на муражку ў цяньку паляжаць добра хвілінку-другую, у жніво сюды абеды завозяць... Трактарысты, гіцлі, колькі ні крычы, а плугі ля дуба мяльчэй пускаюць, каб, часам, карэнні не пашкодзіць... Калі хочаш, то ў дуба характар наш, сялянскі: каранямі ў зямлю ўрастае так — ніякімі бульдозерамі не зрушыш...— Кунцэвіч задуменна паглядзеў у акно, усміхнуўся сам сабе, зноў пасур'ёзнеў.— Я во часта думаю: чаму гэта ў нас пры такой тэхніцы, пры такой навуцы, а з сельскай гаспадаркай не заўсёды ладзіцца ўсё?..— Схамянуўся: — Ну, во і прыехалі!

Машына пабегла па асфальтаванай вуліцы, і Лазовік пашкадаваў, што прыехалі, не закончыўшы такой цікавай гаворкі.

Забор'е — звычайная, сярэдняй велічыні вёска, якіх сотні, мо нават тысячы на Беларусі. Доўгая, амаль з кіламетр, вуліца. Некалькі цагляных катэджаў пры ўездзе, але болей драўляных хат, абшытых вагонкаю, пафарбаваных. За кожнай — сады, а з вуліцы акуратненькі штыкетнік, за якім з ранняй вясны да позняй восені буяюць кветкі — кідкія воку цюльпаны, сціплыя гваздзікі, лапушыстыя гладыёлусы, сарамлівыя вяргіні, рознакаляровыя астры. Гаспадыні адна перад другою стараюцца... Боль-

шасць хат пастаўлена наўскось, вуглом да вуліцы, бы кожная знарок выступае бачком зухавата: а паглядзіце, якая я ладная! Стаяць яны не па адной лініі, на рознай адлегласці, і гэтая на першы погляд неарганізаванасць, выпадковасць не псуе выгляд вёскі, а мо, наадварот, надае ёй нейкую незразумелую гармонію, сваю непаўторнасць, свой характар.

Кунцэвічава хата нічым не адрозніваецца ад суседскіх. Хіба толькі — ганкам з незразумелай разьбою, то квадратнымі, то круглымі, то авальнымі шкельцамі, а па ліштвах зверху ўніз — шашачкі накшталт арнаменту, нейкія не зусім зразумелыя ўзоры, і ўсё гэта разам узятае стварае ўражанне лёгкасці, ажурнасці, цешыць вока непаўторным хараством. Лазовік бачыў, як гэты ганак аж два гады рабіў сваімі рукамі гаспадар разам з малодшым сынам Лёшкам. Кунцэвічаў бацька, Лёшкаў дзед, некалі быў сталяром на ўсю акругу, ад яго і засталіся розныя долатцы, рубанкі, гэблікі. А ганак атрымаўся адмысловы. Казалі, прыязджала нейкая этнаграфічная экспедыцыя: фатаграфавалі, змалёўвалі.

У Кунцэвічаў для Лазовіка заўсёды вароты пірагамі падпёрты. Алена Пятроўна, убачыўшы яго, узрадавалася, замітусілася:

— Ах, прагаладаліся, нябось... То чаго ж гэта я стаю...— У яе заўсёды першы клопат, каб госць быў накормлены.

Іншы раз Лазовік сказаў бы дурасліва: «Ой, і праўда ж, цётка Алёна, прагаладаліся, як ваўкі ў піліпаўку!» Цяпер больш, чым голад, смактала сарамлівая ніякаватасць перад гэтымі добрымі, шчырымі людзьмі, быццам ён у нечым здрадзіў ім.

— Дзякуй, цётка Алёна, але мне трэба ехаць...

— Ну, ладна-ладна! — нахмурыўся гаспадар, мусіць, здагадваючыся пра яго настрой.— Пакуль не паясі, нікуды ты, браце мой, не паедзеш.

Лазовік хацеў схлусіць, што яго чакае Цярэшка ў «Светлым шляху», якому назначыў сустрэчу, няёмка, каб зачакаліся, але перадумаў: у Кунцэвічаў усё роўна не адмовішся сесці за стол, а зараз — тым больш. Не-не, а раптам возьмуць ды падумаюць: во як, пакуль быў старшынёю — не цураўся, а цяпер адразу загрэбаваў. І гэта выклікала адразу ж нейкую пякучую горыч: няўжо канец Кунцэвічавага старшынства стане канцом іх дружбы? Няўжо нельга будзе ўжо гаварыць адзін аднаму ўсё, што хочаш, ніколькі не клапоцячыся, што цябе могуць зразумець не так?! Няўжо і прыязджаць сюды будзе не з рукі?

А ён любіў бываць у Кунцэвічаў і па якой-небудзь справе да гаспадара, і проста так, без усялякай прычыны, бо ведаў, што тут яму заўсёды рады, тут ён можа расслабіцца, забыцца на нейкі час пра свае бясконцыя клопаты, адпачыць душою, адчуваючы звычайную няхітрую прастасць і шчырасць, якіх так часта не хапае цяпер. Канечне, яго цяпер з ахвотай запрасілі б да стала, падрыхтавалі б яшчэ не такі пачастунак у любым калгасе, але ён не мае звычкі бываць афіцыйным ці паўафіцыйным госцем на старшынскіх кватэрах — там адчувае сябе проста «патрэбным чалавекам», а «патрэбных людзей», як вядома, запрашаюць і частуюць не ад чыстага сэрца. Кунцэвічава хата заўсёды нагадвае яму бацькоўскі дом, якога ўжо даўно няма, і праз што адчувае сябе збедненым, мо нават абкрадзеным. Бацькі памерлі, апусцелую хату далёкія сваякі расцягнулі на дровы. Мо і таму ў яго заўсёды сціскаецца сэрца, да болю шкада закінутых, абязлюдзелых вёсачак, якіх так многа стала на Беларусі.

Кунцэвічава хата некалі на тры гады замяніла яму бацькоўскі дом — тут ён жыў, працуючы пасля інстытута аграномам, і быў у Кунцэвічаў амаль за сына, пакуль не прыглянулася тутэйшая фельчарка Валя, цяперашняя Валянціна Іванаўна, яго жонка.

Тут мала што перамянілася з тых часоў. Усё тая ж, на тым месцы, мэбля, што даўно выйшла з моды, нават

шпалеры, здаецца, таго ж колеру, хоць у гаспадыні цвёрдае правіла — штогод вясною рабіць капітальную чыстку, куды ўваходзіць і абклейка сценаў свежымі шпалерамі. Хіба толькі на кухні з'явіўся беленькі гарнітур са шматлікімі шкапчыкамі і халадзільнікам ды замест керагаза стала газавая пліта на чатыры камфоркі.

Размова не хацела клеіцца, і гаспадар прапанаваў уключыць тэлевізар.

Ішла нейкая сумная перадача, аднак цярпліва глядзелі, абое разумеючы, што не тое іх цікавіць, не тое іх хвалюе. Лазовіку карцела неяк вярнуцца да гаворкі, якая абарвалася ў машыне, калі ўехалі ў вёску, але разумеў: для той гаворкі мусіць быць адпаведны настрой, а такога настрою ў Кунцэвіча цяпер няма.

На ўвесь экран з'явіўся мужчына з прэсным, трохі спалоханым тварам, гундосліва стаў чытаць па паперцы, і можна было падумаць, што і сам не разумее, што чытае. Ён быў падобны не на жывога чалавека, а на муляж, манекен, якімі ўпрыгожваюць вітрыны магазінаў «Адзенне». Слухаць яго было невыносна.

А на кухні сквірчэла, смажылася. Пацягнула спакусліва-смачным, дражніла, узбуджала люты голад.

Ляснула калітка, пачуліся частыя, таропкія крокі за сцяною. Кунцэвіч насцярожыўся: каго там нясе? Праз хвіліну скрыпнулі дзверы, з кухні данеслася прыглушаная жаночая гамонка. А-а, Марта Бакун, пазнаў Кунцэвіч, супакойваючыся, што прыйшлі турбаваць не яго. Але неўзабаве адчыніліся дзверы, і Марта нясмела ступіла ў святліцу. Нешта здарылася, калі не пасаромелася заходзіць, ведаючы, што тут чужы чалавек, можна сказаць, госць, падумаў Кунцэвіч. Аб тым, што нешта здарылася, сведчыў і Марцін твар, устрывожаны, заклапочаны. Няўжо з Апанасам?!

Марта пачціва кіўком галавы паздароўкалася з Лазовікам, моўчкі просячы прабачэння за сваё ўварванне, са спалохам глянула на Кунцэвіча.

— Што здарылася? — На Кунцэвічавым твары мільганула трывога.

— Ды з Апанасам кепска, Сцяпанавіч. Дахторка кажа — у раён трэба як хутчэй...

Апанас, як звычайна, перанасіў хваробу на нагах, ды на гэты раз так узяло, што ўклалі ў пасцель. У яго заўсёды к вясне і восені дае знаць пра сябе гэтая ангіна, якая, урачы кажуць, і падтачыла сэрца.

— Што з ім? — нецярпліва спытаўся Кунцэвіч, прыгадваючы, што сёння, прыехаўшы з раёна, збіраўся наведаць Апанаса.

— А хто ж яго ведае! Дахторка кажа: срочна ў бальніцу...

— Ну й трэба вязці! — падхапіўся з месца Кунцэвіч.— Ты ў гараж збегай, скажы Мішу, каб завёз...

— Была, была! І ў гаражы была, і ў канторы — нямашака ні твайго Мішы, ніякай ніводнай машыны нямашака...

— Дзе ж ён падзеўся? — яшчэ больш занепакоіўся Кунцэвіч.— От, гіцаль! Я ж яго зранку адпусціў! Галаву адарву! От жа круцель!

— Эдзік падвязе! — выручыў Лазовік.

Кунцэвіч паглядзеў на яго з удзячнасцю і няўпэўнена запярэчыў:

— То Эдзік толькі з дарогі, ды і ў машыне нешта корпаецца, нат у хату не схацеў ісці — мо што сапсавалася... То калі што, хай пад'едуць пашукаюць Мішу мо?

— Нічога-нічога! Машына спраўная, дарога невялікая. Завязе!

— То дзякуй табе... вам, Іван... І табе, Сцяпанавіч, дзякуй...— усхліпнула Марта.— Ах, божачкі, каб чаго благога і ўпраўду не было...

— Ну-у, ужо і ў слёзы! — напусціў на сябе сярдзітасць Кунцэвіч.— Шмат твая фельчарка паніма́е! Во, звозіш, урачы паглядзяць, пілюль прыпішуць і назад адправяць. Бы першы раз! А ты мне, браце мой, у паніку!

— Каб даў жа бог! — трохі ўзбадзёрылася Марта і паспешліва выйшла з пакоя.

Кунцэвіч ніяк не мог супакоіцца, адчувалася, што яго трывожныя думкі зараз ля хворага Апанаса — Лазовік добра ведаў пра іх дружбу.

— Аляксей Сцяпанавіч, то мо схадзіце, ці мо давайце разам сходзім? — прапанаваў ён.

— Ды не-е...— няёмка памяўся Кунцэвіч.— Нічога там страшнага не здарылася, яны, бабы, заўсёды перабольшваюць, кідаюцца ў паніку...

І зноў павісла няёмкае, трохі напружанае маўчанне.

Той, муляж, у тэлевізары адгундосіў сваё, пачаліся мультфільмы. Гэта было цікавей. Знакаміты воўк ганяўся за зайцам, ніяк не мог сцапаць лапавухага...

У святліцу нарэшце зайшла цётка Алёна і запрасіла да стала.

Стол быў устаўлены такімі прысмакамі, ад якіх у галоднага Лазовіка аж слінкі пацяклі. Пакуль гаспадар скручваў і ніяк не мог управіцца з коркам на бутэльцы, не ўтрываў — накалоў на відэлец кавалачак сялянскай каўбасы, якую, бадай, ніхто так смачна не ўмее рабіць, як цётка Алёна, і адкусіў палавінку.

— А-а-а, смаката-а...— нібы апраўдваючыся за сваё нецярпенне, пахваліў ён.

— Паеш, Іван, паеш...— Алена Пятроўна зычліва падсоўвала да яго талеркі з нарэзанай каўбасой, скрылікамі падсушанай паляндвічкі, незадаволена, трохі сварліва выгаворваючы старому: — Ды дай ты чалавеку перакусіць, паспееш са сваёй гарай.

— О, быдта я шкадую! — сярдзіта глянуў на яе і па-змоўніцку падміргнуў Івану: — Пад чарку яно ямчэй пойдзе, браце мой...

Выпілі па кілішку, дружна ўзяліся закусваць. Алена Пятроўна таксама прыгубіла для прыліку, але не прыкусвала — яна заўсёды так. І яшчэ Лазовік ведаў, што неўзабаве яна пакіне іх удвух, спаслаўшыся на свае нейкія

гаспадарскія справы, а калі папраўдзе — каб не замінаць мужчынскай гаворцы. Дзівачка цётка Алёна! Але сёння якраз і не трэба, каб яна пакідала іх двух. А мо і трэба? Мо менавіта цяпер за чаркаю трэба выгаварыцца пра ўсё, нічога не ўтойваючы, каб раз і назаўсёды, калі ўдасца, адкараскацца ад недарэчнай недагаворанасці, што гэтак раптам сёння ўзнікла паміж імі?

— То вы ўжо, мужчынкі, пагаманіце,— нібы здагадалася Алена Пятроўна.— А мне тут па гаспадарцы трэба сёе-тое паглядзець...

Нейкі час сядзелі моўчкі, закусваючы, ведаючы і не ведаючы, пра што гаварыць. Гаспадар запрасіў выпіць яшчэ па адной, і Лазовік не пярэчыў. Зноў маўчалі, і гэтае маўчанне рабілася ўсё больш няёмкім, няўтульным.

— То скажы, калі ўсё гэта пачнецца? — нарэшце асцярожна, здалёк пачаў Кунцэвіч.

— Не ведаю...— апалым голасам адказаў Лазовік.— Пэўна, скора...

Кунцэвіч машынальна напоўніў чаркі, але выпіць не прапанаваў. Ён засяроджана думаў, бездапаможна паклаўшы свае вялізныя рукі на край стала. Потым нейкім асуджаным, жаласлівым, з ноткамі горычы і роспачы голасам сказаў:

— Баліць душа, Іван, як на споведзі табе кажу, ой як баліць! — і, нібы спалохаўшыся, каб яго правільна зразумелі, паправіўся: — Не падумай, што за сябе баліць. За людзей, за калгас неспакойны... Каб са «Светлым шляхам» аб'ядноўвалі — ні слова не сказаў бы, мо нават рады быў бы. Цярэшка хоць і малады, а з галавою гаспадар. Я і прымерваўся яго за сябе пакінуць, але ж забралі. Я яму і цяпер са спакойнай душою калгас перадам, як магу, памагаць буду. Вярніце, Іван, Цярэшку, а? — І, не дачакаўшыся адказу, занепакоіўся, пазмрачнеў: — Аднаго не магу ўзяць уцям: каму гэта ўсё спатрэбілася? Калі Кунцэвіч некаму засеў у вантробах, то я не чапляюся за сваё старшынства, дайце толькі ўзамен талковага чалаве-

ка. Няўжо свет клінам сышоўся на гэтым пустабрэху Сурмілу? Няўжо вы там не бачыце, што не па Сурмілу гэты воз, няўжо вартага чалавека нельга падабраць? Навошта ж калгас гробіць, каб толькі пазбавіцца ад Кунцэвіча?

— Ды-ы не ў тым справа...— памяўся Лазовік, разумеючы, што стары не далёкі ад праўды, аднак чамусьці не хапала смеласці, ці што, каб згадзіцца з ім, злавіў сябе на прыкрай думцы: а мусіць, проста не хоча паказаць Кунцэвічу сваю бездапаможнасць.

— А ў чым справа? — даймаў стары.— У Кунцэвіча граматы — кот наплакаў, Кунцэвіч па грамаце псуе працэнт усяму раёну. Сам псуе і за брыгадзіраў такіх трымаецца. Во і ўся прычына! Толькі ты гаварыць не хочаш...

— Ды не-е, Аляксей Сцяпанавіч...— слаба абараняўся Лазовік, сам толкам не ведаючы, чаго абараняецца.

— Мо і бяда наша, браце мой,— не зважыў на яго пярэчанне Кунцэвіч,— што ўтырыліся ў адно: давай дыплом! Быдта ў дыпломе і ўся вартасць чалавека. Ды выдай ты мне, маім двум брыгадзірам хоць па тры дыпломы, думаеш, адразу паразумнеем? Якія былі, такія і застанемся. І, між тым, сёння куды ні кінь — усюды вашаму кандыдату навук нос уціраем...

— А заўтра? Што будзе заўтра? — атрымаў нечаканую зачэпку Лазовік.— Вы падумалі, што будзе заўтра — у век комплекснай механізацыі, аўтаматызацыі, калі сяло стане на індустрыяльную аснову? Не-е, Аляксей Сцяпанавіч, заўтра і кроку не ступіш без навукі.

— Яно-то так...— згадзіўся Кунцэвіч.— Але, браце мой, хлеб, мяса, малако патрэбны сёння. А мы пры тых жа ўмовах даём удвая больш за Сурмілу. То нашто ж рызыкаваць, калі з цвярозай галавой думаць пра заўтра? Думаеш, нешта пераменіцца заўтра? Думаеш, Сурміла завaліць мясам, залье малаком? Ды ты яму хоць прафесара прысвой, трактар на трактар пасадзі, ЭВМ абстаў з усіх бакоў — усё роўна толку не будзе. Няма ў яго душы, а без душы ні чарта, браце мой, не зробіш...

Лазовік разумеў, што цяжка не пагадзіцца са старым, аднак нешта ўсё яшчэ перашкаджала, стрымлівала сказаць: ды я ж тое самае думаю, Аляксей Сцяпанавіч, але, на жаль, не ўсё ад мяне залежыць; і, невядома чаго ўпарцячыся, спрабаваў перавесці размову ў больш зручнае рэчышча:

— Вы ўяўляеце, якая тэхніка заўтра прыйдзе на сяло, які пераварот зробіць у агратэхніцы і тэхналогіі...— Схамянуўся: ды гэтую лекцыю стары і без яго чуў!

Кунцэвіч прапанаваў выпіць, і Лазовік уздыхнуў з палёгкаю.

Зноў нейкі час маўчалі, закусваючы.

— Гляджу я на ўсё, Іван, і часта думаю,— адклаўшы відэлец убок, задуменна пачаў Кунцэвіч.— Вы, маладыя, надта любіце пагаварыць, нават пафарсіць слоўцамі «аўтаматызацыя», «механізацыя», «індустрыяльная аснова», «хімізацыя» і рознымі там яшчэ, бы мы, пажылыя, такія дурні, што за саху ды вілы трымаемся, навуцы і тэхніцы падножкі ставім, не петрым, што гэта такое і з чым яго ядуць, гэты навукова-тэхнічны прагрэс. Не-е, браце мой, не такія мы ёлупні, каб супроць прагрэсу, механізацыі, хімізацыі выступаць. Нас непакоіць, ой як непакоіць толькі адно: каб гэтая хімізацыя душы сялянскай не вытравіла...— І, заўважыўшы запытальны Лазовікаў позірк, растлумачыў: — Мужыка ад зямлі адбіваем — во што страшна. Для сяго-таго зямля ўжо не маці-карміцелька, а мачыха, далёкая сваячка. Во ўчора ў газеце пісалі, што недзе кароў з горада па чарзе ездзяць даіць. У нас, дзякаваць богу, пакуль што не дайшло да гэтага, але дойдзе, папомніш мяне, старога дурня, што дойдзе, калі возьмуцца гаспадарыць такія, як Сурміла. Паглядзі, што нарабіў! Талковых брыгадзіраў павыганяў, панабіраў розных свістуноў. Адну, кажуць, сілком з горада прыцёг, сакратаркаю недзе сядзела. Людзі смяюцца, плачуць людзі ад бесталкоўшчыны. А вы ўра, ура! У «Гіганце» ўсе кадры сярэдняга звяна — спецыялісты! Яны, гэтыя спецыялісты, толь-

кі і спецыялісты нервавацъ людзей, ахвоту да зямлі адбіваць. Во табе і прагрэс! Нас, старых, браце мой, і хвалюе, каб вы не дайшлі да такога сораму, што кароў трэба ездзіць даіць з горада, каб з гэтаю меліярацыяй не дакаціліся да пустыні. Мы па сваёй дурасці шмат напаганілі на зямлі, колькі рачулак, колькі хараства загубілі. Хочацца, каб вы былі разумнейшыя. Верыш ці не верыш, Іван, але заўсёды, калі лезуць знішчаць якую рэчку ці балотца, хочацца крычаць на ўвесь свет: людзі, спыніцеся, падумайце, што вы робіце! Ты ж ведаеш, я пра гэта не раз на ўвесь раён казаў... Ды гэтых сурміл і блізка нельга падпускаць да сялянскай справы, а вы! — Ён захваляваўся і, павагаўшыся, нясмела запытаў: — А мо мне ў абком паехаць? Расказаць пра ўсё — мо каго другога паставяць? Як ты думаеш?

— Не ведаю...— ухіліўся Лазовік.

— Толькі трохі няёмка: падумаюць — пра старшынства сваё клапачуся. Могуць так падумаць, праўда?

Лазовіку хацелася сказаць: і ніхто так не падумае, едзьце, але не сказаў, ён не мог гэтага сказаць. І не тое, каб баяўся лезці на ражон з Радзевічам, не! Зараз не было такога страху. Проста было брыдка: Кунцэвіч паедзе даказваць, а ён, хто мае куды больш важкі голас, змаладушнічаў, схаваўся за спіну старога чалавека! У тую хвіліну ён ненавідзеў сам сябе, а сорам усё разрастаўся, паліў, даводзіў да адчаю, разам з тым ачышчаў, уліваў рашучасць, рабіў сільным, і ён ужо ведаў, што заўтра скажа ўсё Радзевічу, пакіне за сабою права звярнуцца ў абком, магчыма, нават вышэй, калі спатрэбіцца. Ён дакажа, што рана яшчэ спісваць Кунцэвіча, што Сурміла загубіць калгас, што трэба глядзець на чалавека не па званнях і амбіцыях, а па яго сутнасці. І на душы рабілася лягчэй, спадаў нейкі цяжкі, гнятлівы цяжар, станавілася проста, лёгка, нават весела.

— Аляксей Сцяпанавіч,— казытнула свавольная дум-

ка.— Няўжо і праўда вы ніколечкі не шкадуеце, што не будзеце старшынёю? Толькі шчыра?

Кунцэвіч паглядзеў на яго дапытліва і трохі паблажліва, адчувалася, ён не зусім разумее прычыну раптоўнай перамены Лазовікавага настрою.

— Хм! А чаго мне шкадаваць? — Усміхнуўся хітра.— Што меў ад гэтага старшынства? Ні дня, ні ночы спакою, вечную згрызоту, дзеці ад рук паадбіваліся і дзве вымовы па партыйнай лініі...— і, вытрымаўшы паўзу, з тою ж хітрасцю дадаў: — Ты ж помніш: адну — за кукурузу, другую — за сянаж...

«От стары хітрун! — усміхнуўся Лазовік.— Быццам нехта і паверыць, што яму не даюць спакою тыя дзве даўнія вымовы, якія даўным-даўно ўжо зняты. Бы і праўда, што ён больш за ўсё жадаў спакойнага жыцця! Не-е, Аляксей Сцяпанавіч, колькі б ні кляў ты свой лёс, а іншага і сам не пажадаў бы. Так што расказвай свае казачкі каму-небудзь. Хто-хто, а я наскрозь бачу, чаго варта тваё бурчанне...»

— Во так, браце мой, Іване! Два «страгачы» — гэта не дзве цукерачкі...— і, мусіць, заўважыўшы Лазовікаў недавер, перамяніў тон: — А цікава, браце мой, палучаецца... Нават смешна палучаецца: гэта я, злосны траваполыпчык, стаў заядлым кукурузнікам! — Ён заводзіў размову ўбок, і Лазовік рашыў не перашкаджаць яму.— Тады на радасці пазводзілі яе, гэтую «каралеву палёў», а я сабе сею і сею. Летась пяцьдзесят гектараў было. Ажно дзіва: і земляў лепшых не выбіраем, і камісіі з рулеткамі не ездзяць, а расце, як лес.— Падумаў, усміхнуўся: — Мусіць, яна, гэтая «каралева палёў», браце мой, у іншым дужа далікатная — прымусу не любіць... А хто, зрэшты, калі разабрацца, той прымус любіць! Ніхто... Пад прымусам — што ўбіў, тое і ўехаў, і ўсё роўна далёка не заедзеш...— Зноў задумаўся, усміхнуўся сам сабе.— Хоць, халера ж яго ведае: бывае, што і без прымусу далёка не паедзеш... Мне некалі за сянаж вымову ўляпілі. Падурэлі, думаў, дзе ж

гэта хто бачыў, каб сырую траву ў яму класці! Гэта ўсё роўна, што ў магілу корм завярнуць. Да вучоных людзей, як ведаеш, я з павагай стаўлюся, а тут падумаў, што і ад вялікай вучонасці, бывае, некага заносіць. Хоць забі, не верыў, думаў, які новы загіб-выкрунтас. А цяперака паспрабуй хто скажы, што трава не ўлежыць!

— То вы за прымус ці супроць прымусу? — падкузьміў Лазовік.

— Прымус прымусу розніца, браце мой! — не схацеў прымаць яго тону Кунцэвіч.— Ты спачатку дакажы, пераканай — тады і прымушаць не спатрэбіцца. Добры гаспадар за ўсё вартае дзвюма рукамі ўчэпіцца, прыкіне, што к чаму. А не хоча дзвюма рукамі чапляцца, лянуецца мазгаўніцай варушыць — гані такога паганаю мятлою! Во для чаго, па-мойму, і тваё ўпраўленне існуе, а не для таго, каб камандаваць: сей столькі працэнтаў, сей сёння, а не заўтра. Вас, браце мой, было, трохі асадзілі, а цяпер зноў берацеся за сваё. Я даўно-о, браце мой, хацеў цябе раскрытыкаваць за гэта, то во якраз слухай напаследак. Скажы, няўжо вам з раёна лепей відно, дзе, калі, як і колькі сеяць? А на добры розум, ты мне павінен сказаць так: прадавай жыта столькі, мяса, малака — столькі, а я ўжо сам буду мазгавешкай варушыць, як сеяць, што сеяць, калі сеяць, каб прадаць усё, чаго ад мяне патрабуюць. А калі не прадам, спытай па ўсёй строгасці: ты чаму, сукін сын, даведзенага плана не выконваеш? І гані пад паганую мятлу, калі што. А то што ж гэта палучаецца, браце мой? На якую ж трасцу старшыня, аграномы, заатэхнікі, інжынеры, брыгадзіры ў калгасе, калі ўпраўленне ўсім камандуе?

Зайшла Алена Пятроўна, і Лазовік узрадаваўся яе прыходу — не трэба будзе адказваць на няпростае Кунцэвічава пытанне, хоць, канечне, адказаць на яго і не так ужо складана: стары глядзіць на свет толькі са сваёй званіцы, а са сваёй званіцы ўсяго свету не ўбачыш, як бы не глядзеў.

— Ну, як вы тут? — дала знаць пра сябе гаспадыня.— Мо падрэзаць ці падаць яшчэ чаго?

— Ой, што вы, цётка Алёна! — шчыра запратэставаў Лазовік.— Ды тут можна цэлае вяселле накарміць! Пасядзіце з намі...

Кунцэвіч зыркнуў на яе незадаволена, даючы зразумець, каб не перашкаджала, не мела звычкі назаляць, калі мужчыны вядуць сур'ёзную гаворку,— да такіх размоў, якая завязалася зараз, нават пры жонцы ён дужа не ахвотнік.

— Ага, Ляксей, каб не забыцца: тут з канторы прыбягала Хведарава дзеўчына сказаць, што з райкома званілі, клічуць цябе заўтра на дванаццаць да Радзевіча.— Алена Пятроўна паглядзела заклапочана, нават падазрона.— Чаго гэта ты спатрэбіўся кожны дзень?

— Мала чаго! — незадаволена буркнуў Кунцэвіч...

## 6

Яшчэ звечара ад хаты да хаты ў Забор'і папаўзлі трывожныя чуткі, а раніцай пра аб'яднанне калгасаў гаварыла ўся вёска. І праўду кажуць: калі хочаш даведацца, што робіцца ў тваёй вёсцы,— пайдзі распытай у суседняй. Звестку пра аб'яднанне прынесла з Піліпавіч (у яе там дачка замужам) Тэкля Канцавая. Тэклю ведалі як бабу не языкатую, таму вестку прынялі з даверам. Прыгадалі, што, мусіць, не выпадкова ўчора Кунцэвіча выклікалі ў раён і яго адтуль прывёз на сваім легкавіку былы аграном Лазовік, які цяпер ходзіць у вялікіх начальніках. Аднекуль прасачылася, што і сёння Кунцэвіча паклікалі ў райком. Канечне ж, гэта не проста так...

Словам, розных здагадак і меркаванняў было больш чым трэба, вёска гула, як растрывожаны вулей. Болей за ўсё трывожыла, палохала, што старшынёю можа быць і, пэўна, будзе Сурміла. Хто паціху, хто ў поўны голас пра

Сурмілу расказвалі розныя жахі — ніхто пра яго добрага слова не чуў.

— Не выберам — і ўсё! — запальчыва і самаўпэўнена гаварыў кожнаму аграном Валодзька Бакун — Апанасаў сын.— Няма такога права, каб сілком уперлі!

За яго словамі была быццам і праўда, аднак мала хто верыў, што можна не выбраць старшынёю таго, каго скажуць з раёна — не чуваць было, каб такое дзе-небудзь здарылася, хоць старшынь у суседніх калгасах мянялі нямала. І каб гэта гаварыў хто-небудзь іншы, сталы чалавек, а не Валодзька, то мо і можна было б паверыць. Валодзька каго хочаш, нават бацьку роднага, здольны падвесці пад дурнога хату. У Забор'і яшчэ не забыліся пра яго колішнія фокусы з папом... Пасля дзесяцігодкі Валодзька нікуды не паступаў і ў калгас не пайшоў, а паехаў шукаць рамантыку недзе на цаліну. Вярнуўся ў Забор'е аж праз чатыры гады, пацішэлы, з доўгаю грывай. І адразу ж, на здзіўленне ўсім, зачасціў да мясцовага папа. Сыдуцца, сядуць на лаве пад грушаю ў папоўскім садзе і пра нешта гавораць дапазна.

— Што табе, прыяцеляў мала?! Знайшоў таварыша! — аж збялеў Апанас.— Каб нагі больш там не было! Людзі смяюцца!

— А мне з ім цікава пра жыццё-быццё пагаманіць...— загадкава адказваў Валодзька.

— Я т-табе дам «цікава»! — накідваўся з кулакамі бацька.

Тым не менш, не дзейнічала. Сталі пагаворваць: калі ўжо не вучыцца, то, мусіць, збіраецца вучыцца Апанасаў хлопец на папа — хлеба лёгкага захацеў. Валодзька не пацвярджаў, але і не абвяргаў гэтых чутак. Потым аднойчы зайшоў у кантору да Кунцэвіча і папрасіў выдаць яму даведку.

— А навошта яна табе? — насцярожыўся той.

— У акадэмію збіраюся.

— У якую акадэмію?

— У маскоўскую...

— Не-е, браце мой, ніякай спраўкі я табе даваць не буду! Ты ў нас не працуеш — і ніякай спраўкі не палучыш,— занерваваўся Кунцэвіч.— Пайдзі, мо поп дасць! Хай поп табе дае спраўку! І гэта ж трэба! Так абсароміць бацьку, увесь калгас абсароміць!

— Што ж, не даеце — воля ваша...— сціпла сказаў Валодзька і, не пажадаўшы слухаць, выйшаў за дзверы.

Назаўтра ён некуды знік, сказаўшы бацьку, каб не хваляваўся: маўляў, пажартаваў, ні ў якую духоўную акадэмію паступаць не збіраецца. Праз месяц напісаў з цаліны, а праз год — даў знаць пра сябе з Масквы: так і так, вучуся ў акадэміі. Разнерваваны, разгневаны Апанас назаўтра ж узяў білет на цягнік з намерам сілком прыцягнуць назад шалапутнага сына. Валодзьку знайшоў у Ціміразеўскай сельгасакадэміі, аднак цяпер ужо ў вёсцы не асабліва хацелі верыць Апанасу. І толькі калі на лета прыехаў сам Валодзька ды з сабою прывёз сябрука ні то з казахаў, ні то з узбекаў, перасталі сумнявацца, зразумелі, што Валодзька корчыў дурня.

— Дык чаго ж ты, сукін кот, мне мазгі марочыў?! — напаў на яго Кунцэвіч.

— А вы ж мне не далі даведку,— зарагатаў Валодзька.

— Цьфу, блазен! — не ведаў, злавацць ці смяяцца, Кунцэвіч.

На дзіва, ён быў выдатнікам, пасля заканчэння акадэміі ледзь не пакінулі ў Маскве, аднак упрасіўся дадому. Кунцэвіч прыняў яго без ахвоты — уважыў Апанаса. Праўда, ён трохі пасталеў, набраўся розуму, але ўсё роўна таго і глядзі выкіне якую штучку-дручку. Таму і цяпер да яго слоў ставіліся з падазрэннем.

Высветлілася, праўда, што не ўсе занепакоены і затрывожаны магчымым Сурмілавым прыходам. Знайшліся ворагі і ў Кунцэвіча. Першы аб'явіўся інжынер Алег Касьянаў.

— Даўно пара! — хмыкнуў ён, шукаючы падтрымкі ў механізатараў.— Хоць тэхніку будзем мець, як людзі...

— Што ты гаворыш, Сяргеевіч? — здзіўлена глянуў Зміцер Гаварушка.— Што, у нас тэхнікі мала?

Зміцер Гаварушка — аўтарытэт у механізатараў. Ён яшчэ ў бытнасць МТС быў трактарыстам, а калі МТС расфарміравалі, разам са сваім трактарам перайшоў у калгас, хоць і не адгэтуль быў родам. Няма ў калгасе такой машыны, з якой не мог управіцца Гаварушка, кожную дэталь якой не абмацалі б яго рукі. Ці то за салідны ўзрост, ці то за тое, што за ім ніхто не мог угнацца, ці за тое, што Зміцер Гаварушка кожнаму гатовы прыйсці на дапамогу, хлопцы яго звалі «баця». Гэтае «баця» настолькі прыліпла да Гаварушкі, што стала мянушкай, на якую ён не крыўдуе.

— Знайшоў мне тэхніку! — скептычна ўсміхнуўся Касьянаў, тыцкаючыся пальцам на выстраеныя ў рад камбайны «СК-4».— Ды па гэтых мамантах даўно ўціль плача! Вунь у «Гіганце»...

— Во-во! — падскочыў Павел Пракопчык.— У людзей па-людску, а ў нас пакуль не развяліцца стар'ё ды ламачча...

Пракопчыка ніхто не паважае ў вёсцы, і, мусіць, за тое, што ніколі не мае сваёй думкі, жыве чужым розумам, заўсёды, як кажуць, трымае нос па ветры: не паспее начальства і рот раскрыць, а Пракопчык ужо ведае, што трэба сказаць.

— Пачакай-пачакай! — асадзіў яго «баця».— Ты скажы мне во што: якой маркі ў цябе тэлевізар?

Хлопцы затаілі дыханне — нешта тут будзе...

— А пры чым тут мой тэлевізар? — глянуў з недаверам Пракопчык.— Я пра камбайны кажу, а не пра тэлевізары...

— А ўсё ж? — даймаў Гаварушка.

— «Тэмп». А што?

— Чаму ж ты яго не выкінеш?

— Што я, дурны?! — шчыра здзівіўся Пракопчык.— Ці ў мяне грошы лішнія? — Хацеў яшчэ нешта сказаць, але спатыкнуўся, пачуўшы смех.— І выкіну! Каляровік куплю...

— Купі, купі...— панура сказаў маўчун Іван Слабуха.— Ды цябе твая Маня разам з каляровікам з'есць...

— А твая, думаеш, лепшая! — агрызнуўся Пракопчык.

— Ну, і не такая, каб за капейку блыху пасвіць!

Хлопцы зарагаталі, і не таму, што было надта смешна, а каб дапячы Пракопчыку, кім сквапная і сварлівая жонка круціць як хоча. Гэты смех Касьянаў зразумеў пасвойму.

— Во-во! — узрадаваўся ён.— З Кунцэвічавай ласкі і мы недалёка адышлі ад Пракопчыкавай жонкі — сцягваем з усяго свету ламачча, як плюшкіны. Што людзям нягожа, то нам прыгожа...

— І чаго ты, Сяргеевіч, прычапіўся да гэтых камбайнаў? — разважліва, з дакорам зноў пачаў Гаварушка.— Сам жа знаеш: не золата гэтыя «Нівы» і «Коласы», адно — новая марка...

— То мо, скажаш, гэтыя лепшыя? — насмешліва тыцнуў пальцам на «СК-4» Касьянаў.

— Лепшыя ці не лепшыя — гэта трэба яшчэ паглядзець...— няпэўна разважыў «баця».— Летась што было, памятаеш? Хто каму памагаў: Піліпавічы нам сваімі «Нівамі» і «Коласамі» ці мы ім? Ды каб не гэтыя, як ты кажаш, мамантьі, то клякнула б, пад снег пайшла б Сурмілава пшанічка. А ў нас што: чым паказалі сябе новыя маркі? У рэшце рэшт, тая ж самая выпрацоўка, а колькі марокі было?

Касьянаву не было чым крыць, але і здавацца не хацеў:

— Калі трымацца логікі Пракопчыкавай жонкі...

— Ты, інжынер, маю жонку не чапай! — нечакана раз'юшыўся Пракопчык, і гэта было дзіва для ўсіх: як

толькі ён асмеліўся?! — Сваю займей — тады пагаворыш...

— Ну, ладна, яшчэ не хапала толькі жонкам косці перамываць! — нахмурыўся Гаварушка, і Пракопчык адразу ж аціх.— Яно, канечне, кожны быў бы рады, каб штогод давалі новы трактар, новы камбайн. Але без парток засталіся б з такім гаспадараннем...— Выразна глянуў на Касьянава.— І не ведаю, як гэта можна спраўную машыну, якая і заплочаных грошай не апраўдала, выкідваць на звалку? Яе ж людзі на заводзе не для металалому рабілі...

— За гэта яны грошы палучылі, якая ім розніца? — не здаваўся Касьянаў, не могучы зміруцца, што яго, інжынера, пасаромілі механізатары.

— І нічога, бачу, ты не разумееш, Сяргеевіч, хоць і інстытут скончыў...— засяроджана і неяк журботна сказаў Гаварушка.— Малады яшчэ, пажывеш — паразумнееш... Зрэшты, што з цябе ўзяць! Ты — чалавек прышлы, вольны, ні да чаго не прывязаны: сёння ў нас, заўтра — у суседнім раёне. Табе абы зарплата. Калі бог дасць розум, мо некалі дапетрыш, што не ў адной зарплаце шчасце...— Падумаў, ажывіўся і рашуча сказаў: — Не-е, хлопцы, гэта брахня, што Кунцэвіча скінуць. Брахня! Кунцэвіча не скінуць. У нас запытаюць, а мы скажам сваё...

— Запыта-а-юць...— яхідна ўсміхнуўся Касьянаў.— Чакай Пятра — сыр з'ясі...

— І запытаюць! Паглядзіш, запытаюць...

А на ферме даяркі ледзь не адлупцавалі «каровінага акушэра» Адася. Ці то з-за таго, што прывык заўсёды лаяцца, гаварыць насуперак жанчынам, ці то на самай справе меў нейкі зуб на Кунцэвіча, але як толькі даяркі сталі абмяркоўваць навіну, ахаць ды охаць, Адась вазьмі ды ляпні:

— Во-во! І правільна зробяць, што прагоняць, ідры яго матары!

— Ты-ы што?! — анямелі ад здзіўлення жанчыны.— Што рэйдаеш?

— Хо-о-о-піць! Паўластваваў, ідры яго маць, і досыць! Хай цяперака сторажам ідзе. На маё месца... Хе-хе-хе-хе...— праціўна захіхікаў Адась, задаволены, што знайшоў нарэшце, чым праняць жанчын, пайграць ім на нервах.

— Што зрабіў ён табе кепскага, ёлупень ты аблезлы?! — Даяркі пагрозліва сталі акружаць Адася, і гэта нічога добрага яму не абяцала, аднак трымаўся бясстрашна.

— І зрабіў! — тупнуў кульбаю ён.— Хто такі Кунцэвіч, каб мною камандаваць?! Мужык, хамула! Ты мне падай начальніка, каб я яго паважаць мог! Вучонага, з дзіпломамі, ідры яго маць!

— Во-во! Як прыйдзе з дзіпломамі піліпавіцкі Сурміла — карову апошнюю прадасі.

— А на здыхату мне тая карова! На мой век хопіць, з голаду не памру. Мо мне хочацца па-гарадскому ў ванне плёхацца! Во! А малачка душа пажадае — да цябе прыйду,— тыцнуў сваім крывым пальцам на Пракопчыкаву Марыю.

— Смалы ты ў мяне нап'ешся! — сварліва загаласіла тая.— Утопішся, клыпаты чорт, у той ванне. Гэта ж паглядзіце, людцы добрыя, чаго ён захацеў, гэта ж яму нічога не трэба!

— І не трэба! Гэта табе ўсё мала, ідры тваю маць! Мужыку на свята рубель на піва шкадуеш. Во прыйдзе Сурміла, ён навучыць, як жыць!

— Бабанькі, ды што ж ён баранує? Што ён рэйдае?! — пайшла ў наступ Ганна Чачотка, жанчына псіхаватая і рашучая.

— Ну-ну-у! — прадбачліва адступіў Адась.— У каталажку захацела? Думаеш, раз баба, то не пасадзяць! Зацюлюкаюць як міленькую, ідры т-тваю маць!

Невядома, чым усё скончылася б, каб не з'явіўся Кунцэвіч.

— Што тут робіцца? Чаго замітынгавалі? — незадаволена сказаў ён, гледзячы на Адася.

Жанчыны адразу ж аціхлі, Адась, патупаўшы на месцы, шмыгнуў за дзверы.

Кунцэвіч трымаўся, быццам ведаць не ведае ні пра якія чуткі, аднак яму было няпроста таіцца ад дапытлівых жаночых позіркаў. Даяркі маўчалі насцярожана і ніякавата, не ведаючы пра што гаварыць, быццам у тых чутках ёсць віна кожнай з іх.

— Сцяпанавіч, то гэта праўда? — нарэшце не вытрымала Галя Хілімон, самая маладая і бойкая.

— Ты гэта пра што? — сярдзіта нахмурыўся Кунцэвіч.

— Ды ведаеш ты, пра што, Сцяпанавіч,— хорам наваліліся жанчыны.— Брахня ж гэта? Праўда, брахня?

Кунцэвічу было няпроста вытрымаць іх дапытліва-трывожныя позіркі, ледзь было не вырвалася: усё, бабанькі, адстаршынстваваў я сваё, але ў самую апошнюю хвіліну стрымаўся — яго яшчэ ніхто не вызваляў, ён не мае права дэмабілізоўваць сам сябе, кідаць калгас на волю лёсу, пакуль што гаспадар тут ён...

— Вы мне базар не разводзьце! — спрабаваў асярдзіцца ён, але ўзнікла не злосць, а нейкая жальба горкім камяком раптам падкаціла пад горла.— Больш слухайце розныя плёткі!

Жанчын гэта не пераканала, мо нават, наадварот, зразумелі, што чуткі маюць пад сабой падставу. Але, канечне, Кунцэвіч ведаў больш, чым хто, і ім хацелася ведаць усю праўду.

— Чаго ж вам хавацца ад нас, Сцяпанавіч? — ледзь не ўмольна падступіла Вера Прымак.— Уся вёска грыміць, Піліпавічы таксама бурляць — не хочуць Сурмілу.

— Ды скажаш ты, урэшце, праўду народу?! — запатрабавала Кацярына Бакун. Яна дазваляе сабе сяды-тады нават пакрыкваць на Кунцэвіча, бо як яшчэ была ў дзеў-

ках, а ён у кавалерах, некалі трохі заляцаліся, а потым усё разладзілася, і Кацярына па сённяшні дзень не можа дараваць сабе, што некалі праваронiла сваё шчасце.— Не вярні носа ад народа, Ляксей, праўду кажы! Праўду кажы! Калі што — мы да райкома дойдзем, як адзін скажам: не патрэбны нам Сурміла!

— І правільна: дойдзем! — рашуча падтрымалі астатнія.

— Так і скажам: народ не хоча Сурмілу...

— Бач ты: знайшоўся ласы на чужыя каўбасы...

— Ты для нас харошы...

— На якую трасцу нам той Сурміла!

Яны гаварылі, перабіваючы адна адну, і немагчыма было зразумець, што хто гаворыць. У іх галасах было столькі занепакоенасці, рашучай шчырасці, што ў Кунцэвіча міжволі стала збірацца здрадлівая слязіна. Каб не выдаць яе, нахмурыўся.

— Каровы, нябось, яшчэ нядоеныя, а вы раскудахталіся, як квактухі. Канчайце мітынгаваць! — Ён хацеў надаць свайму голасу сярдзітасць, накрычаць на жанчын, але голас сарваўся, задрыжаў.— Глядзіце, а то так і ў «мінусы» можна ўбіцца...

А ўвогуле, ён быў шчаслівы, бадай, першы раз у жыцці ён быў такі шчаслівы ад гэтай дружнай людской падтрымкі і сардэчнай шчырасці. І думаць не думаў, што людзі будуць так трымацца яго. Проста дзіва! Чаго яны так трымаюцца? Калі разабрацца, то яны, гэтыя жанчыны, ад яго, пэўна, ніколі і слова ласкавага не чулі. Адно ведаў, што незадаволена бурчэць: мала робіце, дрэнна робіце, ды патрабаваць — давайце кілаграмы, працэнты, «плюсы», а яны вунь як... Хоць, канечне, усё было: і благое, і добрае. Такія цяжкасці адольвалі... Людзі разумелі, ні з чым не лічыліся: трэба — значыць, трэба. Ды з такім народам горы можна звярнуць!

Аднак прайшла хвіліна-другая, і спакваля з глыбіні душы стала падымацца, разрастацца, ламаць тоненькую

шкарлупінку радасці і задаволенасці трывога, нядобрая, змрочная, горкая. Як будуць жыць гэтыя людзі пры Сурмілу? Ой, нясоладка ім будзе... А мо дарма хвалюецца? Мо якраз пры Сурмілу ім будзе куды лепш, чым пры ім? Набудуе Сурміла шматпавярховікаў, стануць па-гарадскому жыць... Старэйшым-то наўрад ці даспадобы ад зямлі адрывацца, жыць, як на гарышчы, а маладзейшыя мо і ўпадабаюць? Адкруціў кран — вада, памыі якія сабраліся — плюхай сабе ва унітаз, захацеў — у ванне паплёхаўся, нават нужнік на месцы... Хоць бы гэты нужнік даўмеліся рабіць у якім закутку, а то побач з кухняю, амаль на кухні... Чорт ведае што!

Прывыкнуць, канечне, прывыкнуць. І да пятага паверха, і да нужніка побач з кухняй прывыкнуць. Ад каровы, птушкі, агародаў, сотак адракуцца. Прыедзеш у вёску — там не свінні, а транзістары равуць. Гараджанамі ўсе вакол паробяцца... Але што будзе, калі ўсе гараджанамі паробяцца? Хто карміць будзе такую араву? Праз магазін усіх не накорміш... Ой, спахопяцца, ой, якою паганаю мятлой будуць гнаць розных сурмілаў!

А мо ён проста прыдзіраецца да Сурмілы? Мо нечага не разумее? Мо не такі страшны Сурміла, якім яго малююць? Канечне, і ў Сурмілы ёсць нейкія хібы. А ў каго іх няма? Несправядлівы, людзей крыўдзіць... А хіба ён, Кунцэвіч, заўсёды і да ўсіх добранькі і справядлівы? Вядома, не заўсёды і не да ўсіх... І ў яго, пэўна, знойдуцца ворагі, хто будзе рады, што прагналі, хто потым не раз папікне, прыпомніць крыўду. Усім добранькі не будзеш. Гэта было б нават дзіўна, каб не знайшлося зласліўцаў. У любога старшыні, пэўна, сяброў можа і не быць, а зласліўцы абавязкова знойдуцца...

•

Адась прыкалдыбаў дамоў раней звычайнага, змрочны, злы. Памацюкаўшы гаспадыню за негатовы сняданак, загадаў рыхтаваць святочны касцюм.

— Тысь што, блёкату наеўся? Ці мо хтось крапівы пад хвост сунуў?

— Табе сказана, ідры тваю маць! — грозна тупнуў здаровай нагою Адась.— Не тваё бабскае дзела!

— Дальбог, звіхнуўся! Пасярод будняга дня-я...

— Маў-у-чаць! — грукнуў кульбаю па табурэтцы Адась.— Табе прыказана!

— Ат! — зняважліва махнула рукою старая і выйшла на вуліцу, даючы зразумець, што яна і не падумае вынараджваць яго, як на фэст.

Яе няўвага абразіла і яшчэ больш раз'юшыла Адася, і ён не ведаў, на чым спагнаць сваю злосць. Намацюкаўшыся ўволю, пайшоў да шафы, рвануў з усяе сілы дзверцы, што аж адскочыла завеса. Гэта трохі астудзіла Адася. Прыладзіўшы дзверцы, знайшоў сіні святочны касцюм, які вісеў у самым кутку на вешалцы-плечукоўцы. Як купіў яго гадоў дзесяць назад, то, здаецца, ні разу і не апранаў. Прыдзірліва агледзеў, ці часам не пабіла моллю, мацюкнуўся для прыліку яшчэ раз, супакоіўся. Паклаў касцюм на стол, зачэрпнуў з сагана на прыпечку кубак гарачай вады, дастаў памазок, брытву і стаў скрэбці перад люстэркам рудаватую шчэць, якая за тры дні добра ўзялася на падбародку, шчоках. Пагаліўшыся, выліў гарачую ваду з сагана ў тазік, распрануўся да пояса, старанна вымыўся з мылам, потым у шафе знайшоў свежую кашулю, стаў апранацца ў святочны касцюм. Хацеў быў начапіць яшчэ і гальштук, які разам з кашуляй атрымаў у падарунак на свята ўраджаю, але перадумаў. Крытычна агледзеў сябе ў люстэрку, падумаў і стаў яшчэ нешта шукаць у шафе, аднак не знаходзіў. Гэта пачынала нерваваць.

— Колькі раз прыказваў: не чапай! — зароў на ўсю хату.— Зноў некуды засунула, ідры яе матары! — І сціпіана, для сябе, дадаў: — Во, рэзус праклятый!

Ён паняцця не меў, што гэта такое рэзус, ведаў толькі: нешта медычнае, абразлівае. Усе яго дзесяціпавярхо-

выя з пералівамі мацюкі адскоквалі ад жонкі, як гарох ад сцяны, толькі не «рэзус». Большай абразы яна не ведала, пасля «рэзуса» заўжды — хоць на ферме днюй-начуй. Таму асцерагаўся гэтага «рэзуса», які б злы ні быў. Гэты «рэзус» яе дапякаў таму, што былі бяздзетныя. Не тое што бяздзетныя: дзеўяцера альбо нараджаліся мёртвымі, альбо паміралі на другі-трэці дзень, так ніводнага выхадзіць не ўдалося. Урачы сказалі, што ў яе не той рэзус. Таму і лютавала, пачуўшы тое праклятае слова.

Не знайшоўшы чаго трэба, разгневаны, выскачыў на ганак і гукнуў ва ўвесь двор:

— Дзе медале падзела, ідры тваю матары!

— Чаго равеш, як бугай! — сварліва азвалася з гумна старая і, выглянуўшы, убачыла яго ў святочным касцюме, спалохана ўсплёснула рукамі, занепакоілася.

— Ты кудысь сабраўся?

— Не тваё дзела! Дзе медале падзела, ідры т-тваю матары?!

Гэта яшчэ больш насцярожыла старую. Падышла і, гледзячы дапытліва, запыталася:

— А кудысь усё-такі ты сабраўся, скажы?

— У раён...— важна і таемна адказаў Адась.— Ты дзе мае медале падзела?

— А на якую пранцу тыя медале табесь? — нічога не разумела старая.

— Да райкому пайду! — важна аб'явіў Адась.

— Чагось ты там згубіў?

Адась разумеў: тое, што ён задумаў,— не бабскага розуму справа, аднак яго распірала ад нецярпення некаму сказаць, з некім падзяліцца — хай ведаюць, які ён смелы!

— Ляксея Кунцэвічавага праганяюць, то паеду пагавару з райкомам, ідры яго матары — важна надзьмуўся Адась.— Хай не смеюць! А то яшчэ тога пілпавіцкага ахламона ўздумаюць прыслаць...

— Э-эй...— адразу ж страціла цікавасць Адасіха.— Нехта цябесь, старога дурня, будзесь слухаць...

— Цыц! Не твайго розуму дзела! — ускіпеў Адась.— Давай медале!

— Там, у скрынцы! — і дадала здзекліва: — То мо і мае навесіш, і бацькавы георгіеўскія крыжы — тадыка можась і паслухаюць...

— Ты-ы-ы...— збляднеў Адась, кінуўся да стала, адчыніў шуфлядку, выграб са скрынкі ўзнагароды, сунуў у кішэню і кінуўся да выхада.

— Паеш хоць...— прымірэнча кінула Адасіха.

Ён спыніўся на парозе, глянуў пагардліва, мацюкнуўся, са злосцю бразнуў дзвярыма і, разнерваваны, пакалдыбаў па вуліцы, абапіраючыся на сваю кульбу...

## 7

Усю дарогу Кунцэвіч сядзеў засяроджаны, хмуры, маўчаў. Шафёр Міша бесперапынку расказваў нейкія свае байкі, намагаючыся «разварушыць шэфа», адцягнуць ад маркотных думак. Гэтых баек і розных гісторый у Мішы бясконцае мноства, невядома, дзе ён іх бярэ, пэўна, сам выдумляе. Іншы раз ён да колікаў забаўляе Кунцэвіча, і тады дарога здаецца карацейшай: не паспееш і агледзецца, як на месцы.

Зараз ён не слухаў Мішу. Байкі яго былі не смешнымі, нават прыдуркаватымі. Але не спыняў: хай трашчыць сабе, менш будзе прыставаць з рознымі пытаннямі. Ён любіць свайго шафёра, сам не ведае за што, але любіць. Міша хлопец не дурны, хоць трохі і балбатун, што, вядома, не ўпрыгожвае мужчыну, але машыну даглядае добра, не кідаецца ў паніку, знойдзе выйсце з любой сітуацыі. Неяк зімою прыхапіла ў дарозе такая кудаса, што трактары сядзелі ў гурбах, а Міша звярнуў на поле — і наўпрасткі, па цаліку, выехалі. Думаў, усё: тэпаць вёрст дзесяць, а тут аж пад хату прыехалі. Ас! Праў-

да, не заўсёды гладзіць па галоўцы Мішу, калі трэба, дае ого якога наганяю, асабліва калі без дазволу на машыне зрываецца куды-небудзь. У апошні час улёг у Селішча да Батуравай дачкі. Што ж, яно дзела маладое, але нашто машыну ганяць, калі да тых Селішчаў усяго вярсты тры? Старыя і то гэта за дарогу не лічаць, а ён... Бывае, спатрэбіцца да зарэзу, як учора, напрыклад, а яго — шукай ветру ў полі. Як завезці ўчора Апанаса ў бальніцу, каб не Лазовік аказаўся выпадкова? Во цяпер, пэўна, таму і паддобрываецца, віну сваю чуе, байкамі зубы загаворвае. А варта было б гіцлю запусціць вожыка ў парткі, каб ведаў. Але лаяць Мішу не было настрою...

Уехалі ў горад. Заўважыўшы, што з латка ля прадуктовага магазіна прадаюць апельсіны, Кунцэвіч схамянуўся, загадаў Мішу спыніцца. Выйшаў з машыны і прыладзіўся ў хвост чаргі. Чарга рухалася марудна. Адчувалася, шмат хто заўважыў апельсіны знячэўку, не меў ні сумкі, ні сеткі, ні нават цэлафанавага мяшочка, таму прадаўшчыца траціла шмат часу, робячы кулькі з газет. Гэтыя кулькі распаўзаліся, як толькі клала на вагу, буйныя ярка-жоўтыя з чорненькімі ромбікамі «марок» апельсіны вывальваліся на стол, а то і скочваліся на зямлю, падымала адзін — падала два. Словам, не работа, а адна марока. Чарга нервавалася, сыкала на тых, хто прыйшоў з пустымі рукамі. Таксама парадкі, падумаў Кунцэвіч, не маглі дадумацца даць прадаўшчыцы клееныя капшукі альбо цэлафанавыя мяшочкі — нябось, у магазіне гэтага дабра навалам.

Прайшло з паўгадзіны, і ён захваляваўся: было падобна, што пры такіх тэмпах апельсінаў не купіць. Праз паўтары гадзіны яго чакае Радзевіч, а да гэтага трэба пабыць у бальніцы ў Апанаса — спецыяльна раней паехаў. А мо махнуць рукою на гэтыя апельсіны ды пашукаць чаго ў магазіне? Свет клінам не сышоўся на апельсінах... Але нешта ўтрымлівала выйсці з чаргі — надта ж вялікая спакуса была парадаваць Апанаса гэтымі рэдкімі ласун-

камі. І, у рэшце рэшт, крыўдна: прастаяў столькі і вярнуцца ні з чым... А мо пакінуць Мішу ў чарзе, самому пайсці ў райком, а пасля ўжо ў бальніцу? Разумна, так трэба і зрабіць... Мо, калі Радзевіч на месцы, удасца пагаварыць раней... Аднак чым больш пераконваў сябе, што гэта найлепшае выйсце, тым больш разумеў, што яно непрыймальнае. Па-першае, размова ў Радзевіча, пэўна, зацягнецца, будзе непрыемнай і совацца да Апанаса з кіслаю фізіяноміяй не з рукі. Па-другое, к таму часу ў бальніцы пачнецца абед, «мёртвая гадзіна» — не прапусцяць, давядзецца чакаць да вечара. І, па-трэцяе, незразумелы неспакой за Апанаса, які пачаўся з учарашняга дня, нейкае нядобрае прадчуванне, падсвядомая няясная трывога. У апошнія гады Апанас хварэў часта, але такога, як цяпер, прадчування і трывогі ніколі не было...

Праўда, было яшчэ адно выйсце: папрасіць, каб дазволілі купіць апельсінаў без чаргі. Растлумачыць людзям, для чаго яны яму патрэбны. Але, пэўна, не адзін ён стаіць, каб аднесці гэтыя ласункі ў бальніцу... Уяўляў, што скажуць разнерваваныя кабеты, якія, пэўна, другую гадзіну тырчаць у чарзе, і спакуслівая думка прыдбаць апельсіны без чаргі стала брыдкаю. Ён любіў парадак ва ўсім, з найвялікшай пагардай ставіўся да розных спрытнюг, хто ў вялікім і малым хоча мець выгоду без чаргі, за чужы кошт.

Трэба было прымаць нейкае рашэнне, а ён усё вагаўся. Раптам ля століка прадаўшчыцы пачалося ажыўленне, пачуўся сварлівы жаночы голас:

— Мы ўсе спяшаемся! Не гуляць сюды прыйшлі!

— Чалавеку ж у бальніцу трэба...— уладным голасам прысароміла прадаўшчыца.

І перш чым ён зразумеў, што там адбываецца, ад латка, прыціскаючы абедзвюма рукамі два цэлафанавыя мяшочкі з апельсінамі, адваліў Міша. Аляксей Сцяпанавіч ад нечаканасці аж заморгаў вачыма, не ведаючы, радавацца ці гневацца. Міша з пераможным выглядам ішоў про-

ста на яго, ва ўвесь твар ззяла ўсмешка: маўляў, усё ў парадку, во як мы! Кунцэвіч сціснуўся ўвесь, дзіка глядзеў на Мішу, а той не мог нічога зразумець. Выскачыў з чаргі і подбегам памчаў да машыны, не заўважаючы Мішу, бы тым хацеў падаць знак, што ведаць не ведае гэтага нахабніка. Ён ішоў подбегам, а ззаду, з чаргі, здавалася, навылет свідруюць непрыязныя, ненавісныя позіркі, і прыгожыя, жаданыя ярка-жоўтыя апельсіны чамусьці раптам згубілі сваю былую прывабнасць...

Ля бальнічных сходкаў стаяла бледная, змардаваная хваробамі жанчына ў непамерна вялікім, закінутым пала за палу халаце цёмна-сіняга колеру і карміла крошкамі вераб'ёў. Птахі жвава круціліся амаль ля самых яе ног, абутых у стаптаныя скураныя пантофлі, і на худым твары жанчыны свяцілася цёплая ўсмешка.

— Што ты за гэтых дармаедаў прынялася? — насмешліва запытаў Кунцэвіч і падумаў: пэўна, яна вось так, самавіта, па-сялянску прывыкла карміць курэй, ссумавалася па доме...

— Так ужо і дармаедаў! — прыязна азвалася жанчына — і вераб'ёў як ветрам садзьмула на вярбу.

— Карысць-то ад іх якая, а?

— Э-э-э, чалавеча, колькі мух ды розных мошак яны нішчаць!.. Нішто на свеце не жыве без карысці...— Голас у жанчыны быў расцягнута-пявучы, разважлівы, і гаварыла яна так, быццам яны даўно знаёмыя. Пэўна, заўсёды, спаткаўшыся ў горадзе, вясковец вяскоўца здалёк пазнае па нейкіх ім толькі вядомых прыкметах, і сыходзяцца проста, без усялякіх цырымоній, рады адзін аднаму, як блізкаму сваяку, як добраму знаёмаму.— І яшчэ ведаеце, чаму мне падабаюцца гэтыя птахі?

— Ну-ну?

— Верныя яны, ніколі чалавека не пакідаюць,— з нейкім смуткам сказала жанчына.

— Ого! — здзівіўся Аляксей Сцяпанавіч — яму і ў галаву не прыходзіла такое: вераб'і ды вераб'і, хто на іх калі ўвагу звяртае.

Жанчыне, відаць, вельмі хацелася, каб ён пастаяў, пагутарыў яшчэ, па праўдзе кажучы, і Аляксею Сцяпанавічу карцела распытаць, адкуль яна, што з ёю, але ў яго не было часу.

— Дзе ў вас тут тэрапія?

— Ды во там — на трэцім паверсе. Пойдзем, я правяду,— з вялікаю ахвотай прапанавала свае паслугі жанчына.— А вы да каго?

— Ды тут аднаго знаёмага ўчора палажылі.

— Адкуль? — дапытвалася жанчына.

— З Забор'я. Мо чула?

— А то ж не чула! Гэта каторы з інфарктам? Мы тут усё ведаем.

— Так ужо і ведаеце...— недаверліва глянуў Кунцэвіч.— Ну-у, баба ёсць баба!

Дарогу перагарадзіла поўная, пажылая санітарка.

— Вы куды? — Голас у яе быў такі, быццам яна на ўсю бальніцу начальнік.

— У тэрапію...— не зусім смела сказаў Аляксей Сцяпанавіч.— Друг там у мяне ляжыць...

— Няможна! — уладна загадала санітарка.— Наведванне хворых па суботах і нядзелях,— і стала перад ім непрыступнай сцяной.

— Ды дайце вы чалавеку халат,— уступілася праважатая.

Санітарка знішчальна паглядзела на яе:

— А ты хто такая, каб указваць?! А ну-у-у... марш у палату! Хто дазволіў выпаўзаць?!

— У цябе не спыталася! — бязбоязна і трохі сварліва адрэзала жанчына і спагадліва параіла Кунцэвічу: — Што вы гаварыць будзеце з гэтаю ціграю? Урачу альбо медсястры назваціце — яны пусцяць.

— Ану брысь адсюль! — раз'юшылася санітарка.— Я табе зараз пакажу тыгру! У морг пара, а яна яшчэ рыпіць! — І столькі было непрыязі ў яе вачах, што Аляксею Сцяпанавічу зрабілася не па сабе: хіба можна трымаць у бальніцы такую — яна ж зверам кідаецца на людзей.

— Можна, я пазваню? — з настойлівасцю ў голасе папрасіў Кунцэвіч.

Санітарка падазрона агледзела яго з ног да галавы, мусіць, нешта змікіціўшы, мякчэй сказала:

— Звані! — і сама сабе прабурчала: — Ходзяць усялякія!

Урач, даведаўшыся, хто ён і каго хоча бачыць, папрасіў зайсці.

Санітарка неахвотна паплыла за бар'ерчык, моўчкі падала не першай свежасці халат. Выгляд у яе быў незадаволены — не па ёй выйшла.

Урач чакаў на пляцоўцы трэцяга паверха, заклапочаны, строгі. Па яго выгляду Аляксей Сцяпанавіч адразу ж зразумеў, што з Апанасам дрэнна. Сціпла павіталіся, урач запрасіў у ардынатарскую.

— Што-небудзь сур'ёзнае, доктар? — апалым голасам запытаўся Кунцэвіч.

Урач адказаў не адразу — узяў цыгарэту, пстрыкнуў запальнічкай, прыкурыў, падышоў да акна, адчыніў фортку.

— Хваліцца няма чым. Інфаркт міякарда. Ацёк лёгкіх. На кіслародзе трымаем...

Аляксей Сцяпанавіч адчуў, што ногі перастаюць трымаць яго, цяжка прысеў на канапу.

— Ён быў нетранспартабельны,— працягваў урач.— Нельга было везці, выклікаць «хуткую» трэ было...

— Можна да яго? — не сваім голасам спытаў Кунцэвіч.

— Яму кепска. Нельга! — коратка сказаў урач, але, мусіць, на яго падзейнічаў прыбіты Кунцэвічаў выгляд,

бо падумаў і перамяніў сваё рашэнне: — Пасядзіце. Я зараз пагляджу...

Яго не было хвілін з дзесяць, і Аляксей Сцяпанавіч не знаходзіў сабе месца. Трэба было ўчора, калі прыбегла Марта, схадзіць паглядзець самому. А што, каб схадзіў, паглядзеў? Усё роўна павезлі б, як сказала фельчарка. Але ўсё ж...

Нарэшце зайшоў урач і прапанаваў:

— Пайшлі... Толькі не больш пяці мінут — нельга яго хваляваць.

Апанасаў ложак стаяў упоперак палаты, ля акна. Злева і справа ўздоўж — былі яшчэ два. На адным ляжаў белы, як смерць, мужчына гадоў пяцідзесяці, на другім — падшыванец з надзвычай сінімі цікаўнымі вачыма. Ля Апанаса сядзела медыцынская сястра, побач на падлозе ляжаў вялізны курдзюк з кіслародам, а за спінкай ложка быў нейкі апарат.

Апанас ляжаў збляднелы, дыханне яго было цяжкім, раз-пораз нешта хрыпела ў грудзях. Як толькі яны з урачом наблізіліся, Апанас расплюшчыў вочы — пазнаў Кунцэвіча, не здзівіўся, спрабаваў усміхнуцца і зноў самкнуў павекі. Ляжаў спакойна, нерухома, выставіўшы ўперад падбародак, на якім з учарашняга дня прабілася сівая шчэць. Дыханне яго паступова рабілася больш роўным, не такімі сталі хрыпы, вусны трохі паружавелі, і Аляксей Сцяпанавіч падумаў, што ён спіць. Ужо намерыўся ўстаць з табурэткі і ціхенька выйсці, але Апанас адкрыў вочы і прашаптаў:

— Добра, што ты прыехаў.

— Ляжыце ціха — вам нельга размаўляць,— мякка, але настойліва загадаў урач.

— А чаму гэта і размаўляць няможна? — ні то запытаў, ні то запратэставаў Апанас і зрабіў спробу падняць галаву.

— Ды ляжы ты! — спалохаўся Кунцэвіч.

Урач паглядзеў на хворага трохі здзіўлена, але строга, сеў на табурэтку ля ложка і, узяўшы Апанасаву руку, стаў лічыць пульс. Ён палічыў раз, потым другі, уважліва гледзячы на гадзіннік.

— А мне стала зусім добра,— сказаў Апанас.

— Канечне! — супакоіў яго ўрач, устаў і папрасіў Кунцэвіча: — Толькі вы не доўга,— і выйшаў з палаты.

— А добра, што ты прыехаў...— яшчэ раз сказаў Апанас, але голас яго быў сумны, трохі абыякавы.

— Мацуйся, браце мой, слухай, што дактары кажуць,— падбадзёрыў Кунцэвіч.— Каб мне да цяпла на нагах быў, браце мой!

Апанас паглядзеў яшчэ больш сумна, паляжаў задуменна і ціха сказаў:

— Не-е, Аляксей, да цяпла я не дацягну. На гэты раз узяло — не вычухаюся... Чую дыханне яе, кашчавай,— недзе зусім побач ходзіць, аж холадам аддае.

— Здурэў! Дальбог, здурэў, браце мой! Гэта ж трэба даўмецца да такога! — спрабаваў абурыцца Аляксей Сцяпанавіч, а ў самога аж мурашкі пайшлі па целе.— Немец нас не даканаў, а хваробы мы асі-і-і-лім, браце мой!

Апанас нічога не адказаў, паглядзеў адчужана і маркотна, потым спыніў погляд на цэлафанавым мяшочку з апельсінамі:

— Гэта ты мне?

— Табе! — схамянуўся Аляксей Сцяпанавіч.— На во ласуйся, браце мой, ды папраўляйся скарэй.

— Дзякуй, Ляксей, але лепей унучцы завязі — я іх усё роўна не ем, ніякага смаку не чую.— Пераводзіў позірк на суседа-падшыванца і, заўважыўшы, як у таго гарэлі сінія вачаняты, усміхнуўся: — Ладна, пакінь...

Аляксей Сцяпанавіч выбраў у мяшочку самы вялікі апельсін, павярнуўся да хлапца, падміргнуў:

— Лаві, герой!

Той на ляту злавіў апельсін, адразу ж узяўся абдзіраць з яго скуру, забыўшыся ад радасці сказаць дзякуй.

Кунцэвіч хацеў яшчэ пачаставаць суседа справа, але той ляжаў з закрытымі павекамі — пэўна, драмаў.

— Ты мне ведаеш што прынёс бы...— задуменна сказаў Апанас.— Так захацелася-я-я...

— Чаго табе захацелася? Зараз жа прынясу...— з гатоўнасцю згадзіўся Кунцэвіч.

— Каньяку.

— ???!!!...

— Схадзі, Ляксей, вазьмі пляшку.

— Во мне піток знайшоўся! — падняў яго на смех Кунцэвіч.— І трэба ж дакумекаць!

Апанас прапусціў міма вушэй яго смех і з тою ж сур'ёзнай разважлівасцю працягваў:

— А я гэтага каньяку з тых часоў — памятаеш, у Германіі — так больш ніколі і не каштаваў. Не чуў у ім ніякага смаку — клапом пахне і дарагі, халера. Чысценькая — лепей. А цяпер, во, нешта захацелася. Здаецца, хоць з паўмензурачкі выпіць — і стане зусім добра. То схадзі, Ляксей, будзь другам — схадзі! Паглядзіш, мне не пашкодзіць, лепей стане.— Голас у яго быў умольны, такі, што і адказаць немагчыма, а бегчы па каньяк было б вар'яцтвам.

— Другі раз... Яшчэ як вып'ем у другі раз! А цяперака набірай сіл, браце мой.

— Не будзе другога разу, Ляксей...— сумна сказаў Апанас.— Не будзе...

— Ды выкінь ты, нарэшце, з галавы гэтае глупства! — спрабаваў зазлаваць Кунцэвіч.— Цяперака, браце мой, ого якая медыцына! Ураз на ногі паставяць.

— Значыцца, не прынясеш? — пакрыўджана ўздыхнуў Апанас.— Я і ведаў, што ты не прынясеш. Шкада — сам не магу... Сцеражэш... Ты ўсё жыццё сцярог мяне, як анёл які. Дабро рабіў. А ці па нутру мне было тое дабро — не пытаў. А яно іншы раз мне во дзе сядзела! — Правёў па горле аслабелай далонню.— Ты мне даруй, я не маю на цябе ніякай злобы, ты заўсёды быў мне добры друг.

Я во ляжу і думаю: чаму гэта так — хочацца, а няможна? Чаму гэта чалавек усё жыццё павінен сабе адмаўляць у нечым?

— Што за лухту пляцеш? — паціснуў плячыма Кунцэвіч.

Зайшоў урач.

— На сёння хопіць, хопіць! Хвораму спакой патрэбны,— настойліва сказаў ён, і Аляксей Сцяпанавіч зразумеў, што доктар будзе няўмольны.

— Ну, што ж, браце мой, мацуйся і будзь здароў,— нахіліўся ён над Апанасам.— На днях я да цябе заскочу.

— Будзь здароў, Ляксей! Дзякуй, што прыехаў. Мяне і ўпраўду штось на сон пацягнула...

Апанас поглядам праводзіў яго да дзвярэй, і гэты погляд быў сумны, развітальны...

Радзевіч быў не ў гуморы. Гэта адразу кінулася ў вочы, як толькі Аляксей Сцяпанавіч пераступіў парог. Ці мала чаго можа быць не ў гуморы першы сакратар! З каго-каго, а з першага за ўсё пытаюць. Чым большая пасада, тым больш і пытаюць.

Прывіталіся стрымана і даволі суха.

— Скажы, Аляксей Сцяпанавіч, за што ты так не любіш Сурмілу? — нечакана запытаў Радзевіч.— Я вось сяджу, думаю — і ніяк не магу ўзяць уцям, што вы з ім не падзялілі?

— А што нам дзяліць было? — паціснуў плячыма Кунцэвіч.— Ён — па сабе, я — па сабе. І чаму я павінен любіць Сурмілу? Што ён, дзеўка, і мне з ім жаніцца?

— Вам з ім працаваць.

— Ну, і будзем працаваць...

— Хацелася б, каб дружна працавалі.

Кунцэвіч усё яшчэ быў пад уражаннем сустрэчы з Апанасам, яго дзіўнай просьбы, ніяк не мог адкараскацца ад тужлівага і дакорлівага Апанасавага погляду. Заселі

ў памяці асцярожныя, але трывожныя словы ўрача: гэта дрэнна, што яму раптам так стала добра... Усё, пра што пытаўся зараз Радзевіч, было малаістотным, нават смешным.

— Нібы так важна, ці дружыць будуць старшыня калгаса і радавы калгаснік...— абыякава махнуў рукою Кунцэвіч.

— Чаму радавы калгаснік? — здзівіўся Радзевіч.— Хіба табе Лазовік не гаварыў, куды збіраемся рэкамендаваць?

— Чаму ж не гаварыў... Гаварыў! І я гаварыў: не хачу.

— Чаму?

— А таму...— буркнуў Кунцэвіч.— З мяне хопіць...

Радзевіч глядзеў уважліва і строга, гаворачы вачыма: не круці, не муці мне мазгі, кажы прама, што за прычына?

Кунцэвіч спакойна, нават абыякава вытрымаў гэты позірк, адчужана маўчаў, даючы зразумець, што рашэнне яго цвёрдае і гаварыць на гэты конт няма ніякай патрэбы. Радзевічу ж хацелася гаворкі па шчырасці, каб самому разабрацца, чаму Кунцэвіч не хоча ісці ў намеснікі, пераканаць па-добраму, а калі спатрэбіцца — націснуць сілаю аўтарытэта і ўлады першага сакратара райкома. Кунцэвіч, між тым, не хацеў раскрываць душу, паводзіў сябе хоць і сціпла, але незалежна, падкрэслена незалежна, быццам перад ім быў не першы сакратар, а звычайны субяседнік, якога можна ігнараваць, з якім можна не лічыцца. Гэта кранула Радзевіча за жывое, аднак не падаў знаку, і раптам са здзіўленнем зрабіў для сябе адкрыццё: а і на самай справе ён бяссільны прымусіць загаварыць, яго ўлада над гэтым чалавекам скончылася... Ён меў уладу над гэтым чалавекам, пакуль той быў старшынёю. Дзіўна... А мо ўзяў не той тон? Не з таго трэба было пачынаць. Не з таго... Вядома, Кунцэвіч пакрыўдзіўся... А чаму б Кунцэвічу і не пакрыўдзіцца?.. Быццам сам

ён не пакрыўдзіўся б, каб абышліся так, як з Кунцэвічам. Каб, калі давядзецца пакідаць пасаду, першы сакратар абкома не палічыў патрэбным сказаць усё сам, не знайшоў часу пагутарыць шчыра напаследак, падзякаваць, урэшце?.. Канечне, пэўна затаіў бы крыўду, ва ўсякім разе — было б дужа непрыемна... Чаму ж не падумаў аб гэтым тады, калі перадаручыў Лазовіку?.. Праўда, спахапіўся, але было позна... Як цяпер паправіць? Не паправіш... Што падумаюць іншыя старшыні, што людзі падумаюць? Кунцэвіч — гэта гісторыя, мо самая яркая і цяжкая яе старонка. Такія, як Кунцэвіч, заслугоўваюць таго, каб ім у ногі пакланіцца. Гэта яны, малапісьменныя, сёння часта забытыя альбо паўзабытыя, выцягнулі на сваім гарбе цяжар пасляваеннага аднаўлення, першых гадоў калектывізацыі з пустымі працаднямі, а асобныя самародкі з народа, як Кунцэвіч, дзесяцігоддзі вялі карабель, цвёрда і надзейна трымаючы ў сваіх руках штурвал. І гэтыя людзі заслужылі, яшчэ як заслужылі, каб да іх ставіліся з павагаю і ўдзячнасцю.

— Аляксей Сцяпанавіч,— перамагаючы горыч, пякучую сваю віну, выйшаў з-за стала і сеў бліжэй да субяседніка Радзевіч.— Ты ўжо даруй мне, што ўчора не сам цябе паклікаў. Сам сабе, ну чэснае слова, не магу дараваць, а ты, калі можаш, прабач. Непрыгожа атрымалася. Чорт яго ведае, як гэта магло атрымацца... Не падумаў...

Кунцэвіча здзівіла гэтая Радзевічава шчырасць, нават брыдка стала, што ён так хвалюецца праз нейкую дробязь. Па праўдзе кажучы, яму і ў галаву не прыходзіла крыўдзіцца, што паклікаў і сказаў не Радзевіч, а Лазовік. Падумаеш, далікатнасці! Якая розніца, хто сказаў?!

— Ну, што вы, Андрэй Паўлавіч! За што прабачаць?! — замахаў ён рукамі.— Я і не падумаў нічога, дальбог, не падумаў!

І зноў на хвіліну ўзнікла няёмкая паўза.

А калі расказаць усё Радзевічу? Мо, дазнаўшыся ўсю праўду, перадумаюць, не будуць ставіць Сурмілу — рап-

там асяніла Аляксея Сцяпанавіча думка. Радзевіч якраз у добрым настроі, мо якраз самы зручны момант папрасіць, каб вярнулі Цярэшку ці паставілі яшчэ каго, талковага?

— Вы пытаецеся, Андрэй Паўлавіч, чаму я да Сурмілы не хачу ісці ў намеснікі? — з ледзь схаваным хваляваннем пачаў ён.— Я Лазовіку казаў, калі хочаце, і вам паўтару...

— Хачу, Аляксей Сцяпанавіч,— шчыра і прыязна паглядзеў Радзевіч.

Кунцэвіч трохі памяўся, не ведаючы, як пачаць і, галоўнае, як павярнуць непрыкметна гаворку да самага важнага.

— Я, Андрэй Паўлавіч, болей за дваццаць пяць гадоў адкіраваў. Усяго было: і добрага, і благога. Адно магу кожнаму, як на споведзі, сказаць: ніколі не крывіў душою перад народам. Дзела прошлае — перад начальствам, ды і перад вамі, чаго там хаваць, здаралася, а перад народам — ніколі. Ніколі на шкоду калгасу, на шкоду людзям не рабіў нічога. Як жа цяперака, на старасці гадоў, магу ўзяць грэх на душу?

— Які грэх?

— Развальваць тое, што ствараў, што людзі стваралі гадамі. Мне паверылі, з першага дня паверылі, а цяперака я іх павінен ашукваць, па-вашаму? Каб потым пляваліся, пальцам тыцкалі...

— Ты думаеш, Сурміла праваліць калгас?

— Каб не думаў — не гаварыў бы...

— Даруй, а ўсё ж, чаму ты так думаеш?

Кунцэвіч паглядзеў насцярожана, але, заўважыўшы ў яго вачах добразычлівасць, шчырую зацікаўленасць, супакоіўся.

— Не любіць Сурміла зямлі — во чаму! Чужак ён для сялянскай справы, не ад зямлі чалавек, хоць і вучоны...

— А між іншым, Сурміла абараніў дысертацыю па аграноміі...

— Зямлю трэба не па кніжках ды дысертацыях ведаць, а любіць зямлю трэба, карэннямі ў яе ўрасці, а не так: сёння — тут, заўтра іншую знойдзе...— Заўважыў, што Радзевіч не зусім разумее яго.— Ну, што, напрыклад, будзе з Сурмілам, калі ён пусціць калгас у трубу? Чым ён рызыкуе?

— Ясна што: пакараем, прагонім...

— І на новую пасаду ўвапхнеце!

— А што, па-твойму, вешаць трэба? — іранічна ўсміхнуўся Радзевіч.

— Не вешаць, вядома... А на добры розум рабіць так: напаскудзіў — трымай адказ перад людзьмі, на радавой пасадзе змывай сваю ганьбу. А так што: чхаў ён на ўсё — радавым усё роўна не пакінеце, знойдзеце пасаду ў іншым месцы. Ноччу, як злодзей, будзе вывозіць свае мэтлахі, каб людзям у вочы не глядзець...

Радзевіч слухаў і думаў: а ў старога ёсць доля праўды. На самай справе, чаго больш за ўсё баяцца скампраметаваўшыя сябе кіраўнікі? Каб не пакінулі, не дай бог, у тым жа калектыве — самалюбства не дазваляе. Летась Ігнацюк з «Дружбы» ледзь не на каленях умольваў: куды хочаце, на любую пасаду, абы не на месцы заставацца. І ўважылі. Пашкадавалі яго светласці самалюбства. Ды хіба аднаго Ігнацюка ўважылі... А, мусіць, дарма гэта робім, дарма шкадуем. Калі аскандаліўся, хай шукае аўтарытэт там, дзе згубіў яго, хай глядзіць у вочы людзям, якіх падвёў...

— А ўвогуле ты слушную думку падказаў,— ажывіўся Радзевіч.

Кунцэвічу было прыемна, што, нягледзячы ні на што, з ім лічацца, і гэта надало ўпэўненасці, заахвоціла сказаць яшчэ больш.

— Я мяркую, павінна быць так: калі ўпрогся хто ў старшынскі вазок, трэба зрабіць перш за ўсё так, каб шляхі да адступлення адрэзаць — хай рогам варушыць, выкладваецца без астачы, не думае, што можна беспакаран-

на даць дзёру. Узяць таго ж Сурмілу... Хто-хто, а гэты сабе шляхі назад ого як зарэзерваваў! Так зарэзерваваў, што нават для вас, райкома, стаў недасягальны...

— Ну, што ты заладзіў: Сурміла, Сурміла! Зрабіў нейкае страшыдла, бы на Сурмілу і ўправы няма! — нечакана ўзлаваўся Радзевіч, але тут жа схамянуўся, памяркоўна сказаў: — Канечне, Сурміла не святы. Яго церці і церці трэба! Малады, гарачы, вопыту не стае, але галава не дурная.

— Я ж не кажу, што дурная. Толькі розум не ў той бок...

— Ну, і суб'ектывіст жа ты, Аляксей Сцяпанавіч! — з лёгкім дакорам сказаў Радзевіч.— Сам жа ведаеш: у Сурмілы ёсць усё, каб стаць добрым гаспадаром. Памочнік яму талковы патрэбны. Во і памагай! Зробім праваю рукою, мо сакратаром партбюро рэкамендуем. Кіраўнік — галава, партыйны сакратар — душа калектыву...

— Не такая, як я, Сурмілу душа патрэбна, не-е...

— А якая?

— Каб у пятках сядзела, як Клімовіч...— горка ўсміхнуўся Кунцэвіч і рашыў да канца гнуць сваё, не паддавацца, ухіляцца ад прыкрай тэмы, якую навязваў яму Радзевіч.— І не такі малакасос гэты Сурміла, як вы кажаце. Чалавеку за трыццаць пяць, лысіна ва ўсю галаву, а вы ўсё ў маладых, нявопытных трымаеце. Ды ў яго гады людзі франтамі кіравалі, як, напрыклад, Чарняхоўскі, Іван Данілавіч. У яго гады Пушкін стаў Пушкіным. Ці вазьміце Цярэшку... Во, і аддайце нам Цярэшку, а?

Радзевіч задумаўся, і Аляксей Сцяпанавіч глядзеў на яго з надзеяй, амаль умольна.

— Не-е, Аляксей Сцяпанавіч! Цярэшка на месцы, і аб'ядноўваем вас не з Цярэшкам, а з Сурмілам — сам разумееш... Цярэшка, сапраўды, харошы, з галавою гаспадар. Дзякуй табе за яго. А цяпер, Аляксей Сцяпанавіч, вазьміся, выпраўляй Сурмілу, памажы яму стаць на ногі. Ад нас будзеш мець самую моцную падтрымку...

— Крывое ды дзіравае выпраўляць цяжка...— расчаравана ўздыхнуў Кунцэвіч.— Надта ж я ведаю Сурмілу, каб можна было спадзявацца на яго выпраўленне, даверыце што важнае яму...

— І адкуль жа ты яго ведаеш так? — недаверліва паглядзеў Радзевіч. Яму чамусьці было дужа непрыемна, што Кунцэвіч ніводнага добрага слова не хоча сказаць пра Сурмілу, сам толкам не ведаў, чаму гэта так кранае, проста было нейкае неасэнсаванае, цьмянае адчуванне, быццам, гаворачы толькі благое пра Сурмілу, Кунцэвіч кідае камяньчыкі ў яго, Радзевічаў, агарод. Што гэта атрымоўваецца? Атрымоўваецца, што Сурмілу ўсе ведалі, апроч яго, першага сакратара! Лазовік ведаў, Антоненка ведаў, Кунцэвіч ведае, мо нават сакратарка з прыёмнай ведала. Усе вакол аналітыкі, празарліўцы, адзін ён, выяўляецца, быў сляпым, лапавухім дурнем... Во дажыўся! — То адкуль жа ты яго ведаеш?

— Сусед пра суседа заўжды больш знае, чым той здагадваецца...— ухіліста, трохі зацята адказаў Кунцэвіч.

— Чаму ж маўчаў дасюль? Загаварыў, калі на хвост наступілі. Усе мы робімся прынцыповымі, як пачнуць наступаць на хвост...

— Чаму маўчаў? — не зважаючы на іронію, спакойна сказаў Кунцэвіч.— Думаеце, калі на пленуме ці якой нарадзе не выступіў, то і маўчаў? Мо і выступіў бы, але прамоўца з мяне — самі ведаеце які... А Сурмілу не раз перасцерагаў. І каб з людзьмі лічыўся, і каб носа не драў, менш з трыбун балабоніў, а больш рабіў, і калі надумаў сілком вёскі сцягваць, таксама перасцерагаў сур'ёзна. Мы ж, ведаеце, з «Гігантам» даўно спаборнічаем. Калі там быў Язылец, вялікую дружбу вадзілі, патрэбу мелі сустрэцца, параіцца, памазгаваць разам, талковае — пераняць адзін у другога, благое — пакрытыкаваць адкрыта, па-суседску. Харошы быў мужык, пухам яму зямля, заўчасна з'ела гэтая хвароба. А як стаў Сурміла — усё пайшло наперакос. Касавурыцца нечага, быдта ў тым, што ў

яго горш, не сам, а я вінаваты. Іншы раз так душа баліць, гаворыш: не рабі гэтага, падумай, а ён наадварот, бы спецыяльна на злосць мне робіць. Летась, помніцца, дажджы аблажылі з ранку да вечара, барометр на непагадзь паказвае, радыё перадае: цыклон над усёй еўрапейскай тэрыторыяй, а ён касілкі на луг павыводзіў. Людзі хмурыя, знарок не спяшаюцца — каму гэта хочацца дурную каманду выконваць. Пачакай, кажу, траву папсуеш, яна яшчэ і забучнець не паспела, пранясе дажджы — тады і касі на здароўе. Рагоча: мы не можам сядзець ля мора і чакаць пагоды, мы не можам чакаць міласці ад прыроды, нам карацін патрэбны... І што? Спляжылі гектараў сто — гной сабралі. Во табе і караці́н! Давыскаляў зубы: міласці ад прыроды...

Радзевіч слухаў няўважліва — яго адольвалі сумненні. Па праўдзе кажучы, сумненні яго адольвалі з учарашняга дня, мо нават з пазаўчарашняга, калі на бюро раздзяліліся думкі. Спадзяваўся, што, выслухаўшы Кунцэвіча, развеецца, усё стане на сваё месца, аднак размова з Кунцэвічам не аслабляла, а ўзмацняла сумненні і не думала прыносіць той душэўнай раўнавагі, на якую спадзяваўся. У нечым стары, канечне, памыляецца, глядзіць аднабока, у нечым з ім цяжка не згадзіцца... Аднак што б там ні было, а паддавацца эмоцыям нельга. Машына запушчана, спыніць яе ўжо немагчыма... Большасць членаў бюро лічыць рашэнне правільным, і адступаць няма ніякага сэнсу... Вядома, Сурмілу заносіць, і, пэўна, Антоненка мае рацыю: былі аслеплены яго вучонай ступенню, яго ініцыятывамі і прамовамі. Праз тое і стала заносіць. Што ж, трэба папраўляць, вучыць. Гэта ў нашых сілах... Хоць, на добры розум, зрабіць гэта трэба было ўжо даўно. Насцярожыць павінны былі ананімкі, эканамічныя паказчыкі, тое, што калгас тры гады топчацца на месцы, а па некаторых пазіцыях нават здаў назад. Канечне, ён не заўсёды гладзіў Сурмілу. па шэрсці, але надта ж падкупляла, як кранала Сурмілу за жывое, што Кунцэвіч вырваўся напе-

рад. Калі старшыню калгаса кранае за жывое, што яго абышоў сусед, заўсёды радуе — такі старшыня будзе варушыцца, не схоча плесціся ў хвасце...

Але зараз адно ясна: трэба разводзіць Сурмілу з Кунцэвічам. Толку не будзе... Толькі куды падзець Кунцэвіча? Эх, каб яму адукацыю! Хоць бы які тэхнікум! Прашляпілі, ох як прашляпілі, што ў свой час не змусілі вучыцца! Цяпер не паправіш, і спісваць з рахунку рана — такімі, як Кунцэвіч, не раскідваюцца... От каб яго сялянскую жылку ды Сурмілу!

А мо паслаць старшынёю сельсавета? Не згодзіцца, ды і ў аблвыканкоме ўстануць на дыбкі з-за адукацыі... А мо рызыкнуць — паслаць у «Вымпел»? Пятручак галаву адурыў — усё просіцца, каб вызвалілі, а старшыню туды знайсці не так проста. «Вымпел», пэўна, толькі і пад сілу такому, як Кунцэвіч... Для раёна гэты «Вымпел» — што бяльмо на ваччу. Дванаццаць цэнтнераў збожжа, восемдзесят бульбы з гектара — і ўжо тут рэкорд. Пятручака пяць разоў да ўзнагароды прадстаўлялі, і кожны раз — асадзі назад: паказчыкі слабыя. Каб у тым жа «Гіганце» ўкладвалі столькі працы, як у «Вымпеле»,— у героях усе хадзілі б. Якія могуць быць паказчыкі, калі палі — пясчаныя астраўкі пасярод пушчы, брыгада ад брыгады за дваццаць кіламетраў. Пашы — лес ды хмыз, летам авадні жывёлу да смерці сцінаюць, толькі мясцовая пушчанская парода і вытрымлівае. Спрабавалі заводзіць пародзістых кароў — не прыжываюцца. А для «пушчанкі» паўтары тысячы кілаграмаў малака ў год — немаведама які рэкорд. Тэрыторыю з чвэрць раёна займае калгас, а толку? І не далучыш да каго багацейшага — па ўсёй пушчы вёсачкі параскіданы, хай і пастаршынствуе там Кунцэвіч — яго там яшчэ па партызанцы ведаюць. Мо і толк будзе. Якія падсобныя промыслы завядзе, напрыклад, грыбаварню, нарыхтоўку ягад. Чаго-чаго, а гэтага дабра там — хоць касою касі. Такі, як Кунцэвіч, з тапара суп зварыць...

— Аляксей Сцяпанавіч, а калі табе ўзначаліць «Вымпел»? А-а?

Кунцэвіч трохі здзівіўся, але ўспрыняў гэтую незвычайную прапанову спакойна і абыякава.

— А чаго гэта мне ад сваіх людзей уцякаць? Хм... Не-е, я ўжо да канца буду са сваімі людзьмі...

— Ты ж не хочаш да Сурмілы ў намеснікі... А мо падумай?

— Не!

— То што: мо брыгадзірам?

— Ды зразумейце ж нарэшце: не начальніцкія пасады мне патрэбны! Адначальстваваў я сваё, а на старасць вачэй пазычаць не хачу... Адно прашу: не губіце калгас — не стаўце Сурмілу!

Гэта было падобна на крык душы — шчыры, адчайны, і Радзевічу стала не па сабе. Але што рабіць? А мо ўвогуле нічога не рабіць — пакінуць пакуль што ўсё так, як ёсць? Мо і на самай справе трохі спаролі гарачку з гэтым узбуйненнем? Магчыма... Ва ўсякім разе, перш чым рэзаць, трэба было сем раз адмераць. Хоць бы рашыць, куды падзець Кунцэвіча. З абласным упраўленнем сельскай гаспадаркі ўзгаднілі, у абкоме партыі атрымалі згоду, а з Кунцэвічам нават не пагаварылі, не даўмеліся спытаць, згодзіцца ці не згодзіцца пайсці намеснікам да Сурмілы. Але хто мог падумаць, што не згодзіцца? Між тым, трэба было падумаць... А мо ўсё ж затрымаць гэтае аб'яднанне? Не, узбуйняць гаспадаркі ўсё роўна трэба, і пыканне-мыканне нічога не дасць, апроч шкоды... А Кунцэвіч? І нікуды не дзенецца Кунцэвіч — пераканаем, угаворым, пойдзе на «Вымпел» як міленькі...

## 8

Ужо трэці год смерць бокам абыходзіла Забор'е, таму вестка, што яна зноў убілася ў вёску і выбрала не таго, каму ўжо на самай справе пара, а Апанаса Бакуна, які

яшчэ і дзяцей не паспеў паставіць на ногі, усхвалявала кожнага.

Кунцэвіч спачатку не паверыў, памчаў у кантору, каб самому пазваніць у бальніцу. Гэта была праўда...

Трэба было нешта рабіць, а ён разгубіўся, ніяк не мог надумацца, што трэба рабіць у такіх выпадках, хадзіў з кута ў кут сам не свой, пакуль не сталі збірацца члены партбюро, праўлення калгаса...

Апанаса Бакуна хавалі ўсім калгасам.

Уперадзе неслі партрэт з крэпавай стужкай, потым — Зорку Героя, ордэны і медалі на чырвоных падушачках. Іх было шмат — аж васемнаццаць: дванаццаць за вайну і шэсць — пасляваенныя. Усе іх Апанас зарабіў на віду ў Кунцэвіча, і ён да драбніц ведаў, калі і за што ўзнагароджваўся Апанас... За ордэнамі і медалямі на падушачках дзяўчаты неслі вянкі, потым рухалася прыбраная машына з труною, за машынай ішла Марта ў чорнай хустцы. Яе падтрымлівалі пад рукі Валодзька і Галя. Тут жа былі сваякі, члены партбюро і праўлення калгаса, затым — духавы аркестр (прывезлі з горада), за ім — народ. Працэсія расцягнулася амаль на ўсю вёску...

Дарогу да могілак зусім развезла, і аркестранты, хлюпаючы па гразі сваімі моднымі чаравікамі, былі хмурыя, незадаволеныя, але гралі спраўна і ладна.

На могілках яшчэ ляжаў снег, наздраваты, пачарнелы, не ўтаптаны — зімою ніхто сюды не ходзіць, ходзяць на раданіцу і тады, калі каго хаваюць...

Могілкі на гэтым месцы ў Забор'і з незапамятных часоў. Калі прыгледзецца пільна, то на пахіленых, урослых у зямлю каменных слупках з астаткам з'едзеных іржою крыжоў можна яшчэ прачытаць «умер в 1880 году». Пасля вайны нават на раданіцу на гэтыя магілы ніхто не прыходзіць, ніхто не дагледжвае, і хто, чый прашчур там ляжыць — мала хто ведае. Свежыя магілы капаюць там, дзе

ёсць роўнае месца, і, бывае, выкопваюць нечыя зусім сатлелыя косці. Сельсавет яшчэ пяць гадоў назад адвёў пад могілкі новае месца — саснячок на прыгорку з крывымі каржакаватымі дрэвамі. Нават поп прыходзіў, пасвянціў гэтае месца, аднак усё роўна ніхто нікога там не хавае — не рашаецца першы. Кунцэвіч прапанаваў пахаваць Апанаса на новых могілках, але Марта заўпарцілася:

— Не, прадсядацелько, хай ужо ляжыць з усімі разам...

Для Апанаса выбралі месца на ўскрайку, ля старой сасны, якой, пэўна, за сто гадоў. У выкапанай магіле тырчалі абрубкі жоўтых карэнняў, з якіх сачылася ні то смала, ні то вада.

Труну знялі з машыны, панеслі на руках і паставілі на горку свежага жвіру ля выкапанай магілы. Пачаўся жалобны мітынг. Пра жыццё Апанаса расказаў сакратар партбюро Кардаш, хоць, пэўна, падрабязна расказваць пра жыццё Апанаса і не было патрэбы: Апанас жыў ва ўсіх на віду, яго кожны ведаў. Потым сказаў слова Кунцэвіч, камсамольскі сакратар Міша Кургун, настаўніца Вера Іванаўна...

Аляксей Сцяпанавіч не мог глядзець на нябожчыка. На бледна-васковым Апанасавым твары, здавалася, застыў дакор, і ўвесь час даймала неадчэпная згадка: а калі гэты дакор адрасаваны менавіта яму? Хоць, кажучы па шчырасці, каму-каму, а Апанасу на яго не было чаго крыўдаваць. Не было... Але з галавы не выходзіла тая апошняя сустрэча ў бальніцы, тая неразумная, дзівацкая Апанасава просьба. Цяпер яна набывала іншы, нейкі зларвесны сэнс... А ўсё ж трэба было ўважыць, прынесці таго каньяку, калі яму так захацелася. Але... Але каб прынёс, сёння, пэўна, лічыў бы сябе Апанасавым забойцам... Каб гэта мог ведаць, што яму ўжо нічога не паможа! А мо якраз і памагла б тая кропля каньяку? Вунь нават у газеце пісалі, што недзе пры інфаркце сталі даваць па кроплі каньяку — сасуды расшырае. Мо ў Апанаса на мяжы

жыцця і смерці абудзіўся невядомы інстынкт, які бывае ў шмат якіх жывых істот: бягуць, шукаюць, немаведама як знаходзяць патрэбную траўку — і вылечваюцца? Мо і праўда, у сваю смяротную гадзіну чалавек спасцігае тое, чаго не можа спасцігнуць усё жыццё? Але ўрачы... І ні халеры не ведаюць урачы, і не такая ўсясільная медыцына, як яе малююць. Во косяць рак, інфаркты людзей, а зрабіць нічога не могуць, лякарстваў не знойдуць... На Месяц забраліся, атамы пад мікраскоп разглядваюць, а тут нічога зрабіць не могуць. Во табе і вучоныя! А мо дзе пад нагамі якая непрыкметная траўка расце, ходзяць, топчуць, а што толькі ёю гэтую заразу можна вылечыць — не здагадваюцца. Быць таго не можа, каб у прыродзе ніякага сродку не было! У прыродзе ўсё збалансавана: калі ёсць хвароба, значыць, і сродак супроць яе павінен абавязкова быць. Толькі не ведаюць, шмат яшчэ чаго не ведаюць, хоць і пахваляюцца, што ўсё ведаюць, усё спасціглі...

Ударылі медныя трубы, у такт ім забухаў бубен — і жалобная мелодыя зноў абудзіла санлівы спакой могілак. Гэты раз мелодыя была чамусьці надзвычай вострая, гучная, шчымліва-жаласлівая, бы трубы плакалі і трагічна ўсхліпваў бубен не па адным Апанасе Бакуну, а па ўсіх разам вяскоўцах, што з немаведама якіх часоў знаходзяць свой апошні прытулак пад крыжамі і слупкамі-помнікамі на гэтым цесным кавалачку роднай зямлі. Здавалася, трубы плачуць і па тых, каго яшчэ памятаюць, і па тых, хто спіць у безыменных ужо магілах, і па тых, каму рана ці позна суджана закончыць свой шлях тут...

Застукалі малаткі, заганяючы цвікі ў века труны, і гэтыя стукі адгукваліся, быццам заганяюць цвікі не ў Апанасаву дамавіну, а табе ў сэрца. Горкая, пякучая спазма здушыла горла, самі сабой пакаціліся слёзы, якія стрымліваў мужна гэтыя дні, і Кунцэвіч ужо не рабіў спробу хаваць тыя слёзы.

Труну на вяроўках апусцілі ў магілу, істэрычна галасіла Марта, плакалі дзеці, уціралі слёзы, хлюпаючы наса-

мі, сваякі, жанчыны... У магілу паляцелі чырвоныя з крэпавай акантоўкай павязкі, якія здымалі са сваіх рукавоў члены пахавальнай камісіі. Аляксей Сцяпанавіч нагнуўся, узяў жменю жвіру ўперамешку з жылкамі карэняў. Жвір глухім рэхам ударыўся аб века труны. А людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі, бралі і кідалі жвір у магілу. Мужчыны ўзяліся за рыдлёўкі...

Кунцэвіч павярнуўся і пайшоў прэч — для яго заўсёды чамусьці невыносна чуць скрыгат рыдлёвак аб магільны жвір, здаецца, скура дзеравянее ад гэтага скрыгату... Пахадзіць, пакуль скончаць...

Спачатку абыякава, потым з цікавасцю (ніколі не думаў, што гэта можа быць цікава!) пераходзіў ад магілы да магілы, чытаючы надпісы на помніках, успамінаў... Адны з вяскоўцаў, як жывыя, стаялі перад вачыма, прыгадваліся нейкія эпізоды, сур'ёзныя, вясёлыя, смешныя; другія — былі як у тумане, як ні намагаўся, нічога не ўсплывала ў памяці. На шмат якіх помніках былі карычневыя фотакарткі на фарфоры. З іх глядзелі жывыя вочы, жывыя твары, і ў кожным з іх жылі водгукі то далёкага, то зусім блізкага мінулага. Пэўна, ніхто з іх і не здагадваўся, пазіруючы перад фотаапаратам, для чаго спатрэбіцца фотакартка, гэты дакладны адбітак імгнення, і, канечне, кожны думаць не думаў, што, па сутнасці, глядзіць не ў вочка аб'ектыва, а за мяжу ўласнага жыцця, на сваіх невядомых нашчадкаў, шмат якія яшчэ і не нарадзіліся, але абавязкова народзяцца ад сыноў, унукаў, праўнукаў, прапраўнукаў, прапрапра... Але ці ўспомняць, ці захочуць прызнаць тыя невядомыя, таямнічыя прапрапра?

Ён пераходзіў ад магілы да магілы, нібы вітаючыся са знаёмымі, часта блізкімі людзьмі — старэйшымі, аднагодкамі, маладзейшымі, і думкі сталі набіраць іншы напрамак... Для чаго жыве чалавек? Што чалавеку трэба? У рэшце рэшт, вельмі і вельмі мала: два квадратных метры зямлі і сціплы помнік з фотакарткай на фарфоры, а калі і помніка не пастavяць — абыдзецца, мёртвыя непе-

раборлівыя... Для чаго жыў хоць бы гэты «раб божий Примак Петр Иванович, родился в 1918 году, скончался в 1976 году. Мир праху твоему. Память от жены и детей»? Што бачыў на гэтым свеце Прымак Пётр Іванавіч? Партызаніў, ваяваў, быў калгасным конюхам, потым ужо ў сталыя гады навучыўся на трактарыста. Прыехаў на абед, узяўся за лыжку — упаў і... «раб божий». «Память от детей»... Чаго-чаго, а гэтага багацця ў Пятра Прымака хапала: што ні гадок — грыбок, адзінаццаць пусціў на свет. Два хлопцы сталі афіцэрамі, Маня — аж у Маскве ў нейкім навуковым інстытуце, кажуць, скора прафесарам стане. Сцяпан — заатэхнік у суседнім калгасе (шкода, месца не было — талковы хлопец), дзве дачкі навучыцелькамі, адна — урач, Алесь і Мікола трактарыстамі, Алена і Таццяна — на ферме, а малодшая Галя з залатым медалём дзесяцігодку канчае. Старэйшыя ўжо сваіх дзетак займелі. Як з'едуцца-сыдуцца — у хату не ўмяшчаюцца. Во якое разлапістае дрэва вырасла ад цябе, Пётр Іванавіч Прымак! А мо пусціць на свет дзяцей і ёсць асноўны сэнс чалавечага жыцця? Не-е! Мала пусціць на свет, на свет пусціць можа і апошні дурань. Каб людзьмі выраслі дзеці, каб іх паважалі і яны бацьку-маці шанавалі — во што галоўнае! Праўду кажуць: якія бацькі — такія і дзеці. Гэта нават на могілках відно. Прымаковы паставілі бацьку помнік, ды яшчэ які помнік! А вунь, зусім па суседству, збуцвеў-пахіснуўся крыж на магіле Мацея Петушка. Сямёра пакінуў Мацей, і ўсе жывуць заможна, а каб хоць які помнічак паставіць бацьку — забыліся... Хоць пра нябожчыка і не гавораць благое, але і пры жыцці пра Мацея Петушка ніхто добрага слова не мовіў. Усё хітрыў гэты Мацей Петушок, усё абдурыць некага хацеў, толькі б самому карысць мець, толькі б урваць ды пацягнуць. Ледзь пад суд не трапіў, калі пяць мяхоў ад сеялкі спёр. Бачыце, яму свіней трэба было карміць. Пашкадавалі, не яго, канечне, дзяцей пашкадавалі. Завіда быў, усё яму мала, усё збіраў, у шмоцці хадзіў, а ўсё запасаўся. А па-

мёр — суд разабрацца не мог, як пачалася грызня за бацькавы тысячы, як ваўкі, як шакалы якія. Усю вёску асаромілі. Што ж, яно і праўда: яблыкі ад яблыні далёка не падаюць...

А яго, Кунцэвічавы, яблыкі куды ўпадуць? Хто ж яго ведае, куды ўпадуць... Выраслі, сваім розумам жывуць, а душа смыліць-смыліць. Праўду кажуць: малыя дзеткі — малыя бедкі, падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі. Асабліва дочкі хвалююць. Не клеіцца ў іх жыццё. Большая за настаўніцу вывучылася, спецыяльнасць як спецыяльнасць — жаночая. Мо гэта і папсавала — залішне строгая, нейкая нелюдзімая, як манашка, таму і замуж ніхто не бярэ. Зусім не мае гэтых бабскіх хітрыкаў, каб мужыкоў прыцягваць. Малодшая — наадварот: скура гарыць. Яшчэ і дзевятнаццаці не было, як зблыталася з нейкім патлатым — ні то рэжысёрам, ні то артыстам, хто іх там разбярэ! Дзіця нажылі — і разышліся, як у моры караблі. Ім усё проста: прывезла — гадуй маці-бацька, а сама зноў круціць галаву ў горадзе. Зноў нейкага барадатага знайшла, не распісваюцца. А якое бацьку, калі дзеўка па руках пайшла? Лупцаваць трэба было, не пускаць у горад, хай пад наглядам сядзела б, калі такая ўрадзілася. Хаця... Хаця наглядай не наглядай, а як скура засвярбіць — халеру ўгледзіш. Вунь Жыгуні, на што ўжо строгія і сур'ёзныя людзі, а малодшая ў прыполе прынесла. І ніхто не ведае ад каго. Не, усё роўна не трэба было пускаць у горад, хай бы на ферме рабіла. Падумаеш, медсястра...

Хлопцы, праўда, лепшыя. Сцяпан сельгасінстытут канчае, аграномам будзе. Талковы, кемлівы — нічога не скажаш. Але таксама нейкая чмура найшла: адгадаваў валасню — хоць ты ў косы заплятай, брызентавую робу напяліў, бы няма ў што апрануцца, бы сорак пяць капеек на цырульню брак. Да ўсяго яшчэ вусікі адгадаваў. Каб яшчэ вусікі якія людскія, а то смаркачыкі нейкія. Хоць ты стой, хоць ты падай! Пудзіла пудзілам, людзей сорам-

на. А ён выскаляецца: адстаеш ад моды, тата. Каб яна згарэла, з гэтакай модай!

Меншы Лёшка ў дзесяты ходзіць — разам з Апанасавай дзеўчынай. Яна-то вучыцца, а ён больш на гітары брынчыць, чым над кніжкаю карпее. Не прыгоніш. Мусіць, праўда — у дурную галаву розуму калом не ўваб'еш. А мо дарма ён прыдзіраецца да меншага, мо і не такая ў яго дурная галава? Пры дурной галаве і рукі нязграбныя, а ў яго ўсё ў руках гарыць, за што ні возьмецца, усё на ляту даецца. Да тэхнікі ахвочы, ад машын і трактароў не адагнаць. І па сталярцы — акурат у дзеда. Гэта і добра, калі падумаць, што мае ахвоту, да сялянскай справы здатны. Некаму ж трэба і хлеб расціць. Што гэта было б, каб усе па гарадах разбегліся? Ды і свой век пры некім трэба дажываць са старою...

Засяроджаны, задумлівы, ён ішоў далей і далей, не зважаючы, куды ідзе. Ногі самі прынеслі: Кунцэвічы — уся яго радня. Бацькава магілка, матчына... Трэба сказаць Лёшку, каб на вясне абгародку пафарбаваў — за год зусім абліняла. На бацькавым помніку — керамічная фатакартка, з маленькай павялічылі, стары сам па сабе не падобны, але добра, што хоць такая знайшлася. А матчынай няма, мусіць, яна так ніколі і не фатаграфавалася, яшчэ пры Польшчы памерла — хто тады ведаў якую фатаграфію! Гэта цяпер нават Лёшка пстрыкае, а тады... Побач дзедава і бабчына магілы, абнесеныя загародкай. Таксама заадно трэба пафарбаваць ці мо і ўвогуле замяніць — жалеза зусім паржавела, здаецца, гадоў дваццаць таму назад памянялі. Дзеда звалі, як і яго — Аляксей Сцяпанавіч, а прадзеда (ён вунь там, поруч з дзядзькамі) — Сцяпан Аляксеевіч, як і бацьку. А прапрадзеда? На помнічку ўжо нельга прачытаць. Пэўна, таксама Аляксей. Раней заўсёды аднаму з сыноў давалі дзедава імя, а другому — бацькава, каб не звялося імя, каб не перарваўся ланцужок. Гэта цяпер забываюць, прыдумляюць розныя модныя, якіх у раду ніхто ніколі не ведаў. А шкада, што

забываюць. Што, у рэшце рэшт, застаецца ад чалавека? Імя! І ўсё добрае ці благое, што паспее зрабіць чалавек, прыліпае, зліваецца з імем, робіцца яго сутнасцю. Імя пераплывае чалавека, працягвае жыць незалежна ад яго, жыць з добрымі ці благімі справамі, якія паспеў зрабіць на зямлі чалавек, будзе жыць роўна столькі, колькі жыць будуць яго справы. Чалавек мусіць шанаваць сваё імя пры жыцці, каб не сорамна было перадаць сыну, унуку, праўнуку, прапраўнуку...

Аркестр дайграў сваю апошнюю жальбу і замоўк. Трэба ісці, мо ўжо шукаюць... Вось і ўсё... Памёр Апанас, няма Апанаса, калгас расфарміроўваюць. Скора і яму падбіваць бабкі, сюды збірацца... Што пакінулі яны з Апанасам, што навечна прыліпне да іх імя? Сёе-тое, канечне, пакінулі... Калгас, напрыклад, ды такі, што людзям у вочы глянуць не сорамна. Але ўсё, што нарадзілася, павінна і памерці. Памірае і калгас. Разам з Апанасам. Не-е, калгас, канечне, не памірае, калгас набывае новую якасць, новае жыццё. Яны з Апанасам пачыналі, прайшлі свой круг, нешта зрабілі, нешта зрабіць не паспелі, а цяпер прыйдуць іншыя, будуць нешта рабіць не так, па-свойму, але пачнуць усё ж з таго, чым кончылі яны, будуць дарабляць, развіваць тое, што створана ім, Апанасам, Пятром Прымаком, усімі жывымі і мёртвымі жыхарамі Забор'я. Хто прыйдзе пасля іх? Сурмілы прыйдуць... Кінуцца руйнаваць, нішчыць, перарабляць усё на свой лад, быццам да іх адны дурні жылі, быццам, начытаўшыся кніжак, панапісваўшы дысертацыі, яны спасцiглі ўсе таямніцы прыроды, усе малыя і вялікія ісціны.

І раней у вёску прыходзілі прышлыя людзі — дваццаціпяцітысячнікі, як, напрыклад, нябожчык Язылец, але яны ўжываліся, угрызаліся ў сялянскую справу, спасцігалі душу сялянскую, з павагай ставіліся да добрых сялянскіх традыцый, не ламалі-крушылі без разбору ўсё навокал, ехалі са шчырым намерам дапамагчы вёсцы, і тыя, хто прыжыўся, пакінулі добры след. У іх нешта святое за ду-

шою было. Сурмілы іншыя... Для сурміл вёска — дойная карова, трамплін для пасады ў горадзе. Пуп надрываюць, крычучы: для народа стараемся, нясём народу прагрэс, культуру, а калупніся глыбей — толькі пра сябе і думаюць. Хіба можна несці народу прагрэс і культуру, з найвялікшай пагардай ставячыся да народа? Пыхлівымі баж-камі, фанабэрыстымі князькамі робяцца гэтыя сурмілы. Узбрыдзе ў галаву — смяротны прысуд вёсцы вынесе — неперспектыўная. Хаты — пад бульдозер, хто жывы — у небаскроб: радуйцеся, цешцеся гарадскім жыццём, у пояс кланяйцеся мне, дабрадзею. А ці даспадобы селяніну гэты небаскроб, спытаць не давуміцца. Яму лепш відно, ён лепш за селяніна ведае, што селяніну патрэбна! Слава богу, хоць над мёртвымі яны не маюць улады і сілы — мёртвых-то нікуды не перавязеш. Ляжыце, дагнівайце, як і вёскі, памечаныя смяротным кляймом — неперспектыўныя. А там праз гадоў дваццаць — трыццаць знойдзецца новы разумнік Сурміла і да мёртвых дабярэцца, мёртвым не дасць спакою. Пачнуць таму новаму Сурмілу мазоліць вочы закінутыя могілкі, загадае зраўняць з зямлёю, які-небудзь свінарнік пабудуе...

Не-е, канечне ж, ён перабольшвае, наўмысна ўскладняе, наганяе страхаў. Канечне ж, так не будзе! Нават калі прыйдзе Сурміла, то доўга не пратрымаецца... Не можа быць такога, каб не спахапіліся ды не асадзілі сурміл! Асадзяць, дадуць па руках, не дазволяць без разбору ламаць і крушыць усё, што стваралася стагоддзямі. Знойдуцца разумныя людзі, скажуць: досыць! Дрэва жыцця павінна расці так, як яму наканавана прыродаю... Быць таго не можа, каб розум не ўзяў верх. Падумаць толькі, што робіцца, што вычаўпляюць сурмілы: гараджане з муроў на прыроду, на дачы пацягнуліся, а сялян сілком у муры гоняць? Так скора і для сялян дачы спатрэбяцца... Альбо: харошыя ўрадлівыя землі кустаўём урастаюць, а яны ў балоты лезуць, рэчкі нішчаць? І гэта для іх проста, як некалі з кукурузай... Кукуруза-то што: не расце —

можна перасеяць, а рэчку не адновіш... Вядома, і вёсачкі сякія-такія трэба зліваць, і балоты, дзе трэба, асушаць, і ніхто не супроць водаправода, каналізацыі, ванны, але рабіць усё трэба з розумам, падумаўшы, а не так, як сурмілы: стрэліла нешта ў галаву — крушы, ламі! Асушайце так, каб калодзежы не перасыхалі, лясы не гінулі, рэчак не чапайце, не знішчайце вёсак, а пракладвайце да іх дарогі, аўтобусы пускайце, упрыгожвайце быт, але ў звыклых для селяніна хатах — з садам, агародам, хлеўчыкамі для жывёлы. Не заганяйце людзей у клеткі пад неба, не адрывайце ад зямлі, ад прыроды. Скаціна і тая не можа без прыроды. Вунь мацёраў пазамуроўвалі ў бетонныя клеткі — і што сталася? На трэці год — выбракоўка. А мацёра сябе на трэці год толькі паказваць пачынае. Спахапіліся, калі парасят не стала, даўмеліся, што мацёры трэба і лычом у зямлі парыцца, і на сонейку паляжаць, і ў лужыне пакачацца — тады і прыплод харошы, і ніякі цыроз печані не бярэ. Прырода свайго патрабуе, вышэй прыроды не скокнеш. Не скокнеш...

Але ўсё ж, хто прыйдзе ім на змену? Толькі б не сурмілы! Калі і прыйдуць сурмілы, то доўга не затрымаюцца, век у іх будзе кароткі — не большы, чым некалі ў кукурузнікаў Баранавых. Быць таго не можа, каб сурмілы прыходзілі назаўсёды, быць таго не можа! Сурмілаўшчына — супярэчыць прыродзе, і адцвіце яна пустацветам, як адцвіла некалі баранаўшчына. Маладыя прыйдуць, разумныя, адукаваныя, улюбёныя ў зямлю, у хлебаробскую справу, такія, як Цярэшка, Лазовік, Жылінскі, Сурмач, Апанасаў Валодзька, яго Сцяпан, Лёшка, Пятра Прымака дзеці, заступяць, каб яшчэ лепей павесці пачатую імі справу. Інакш і жыць было не варта...

## 9

Для чаго збіраюць сход — у Піліпавічах усе ведалі, хоць ніхто і не аб'яўляў, для чаго. Два дні назад аднекуль

выплыла і пайшла гуляць чутка пра аб'яднанне з «Забор'ем», і гэтая чутка была ўспрынята глуха і нема, з нейкім дваістым пачуццём...

За гадзіну да вызначанага часу сабралі камуністаў. Адкрыў сход сакратар партбюро Клімовіч і адразу ж даў слова старшыні райвыканкома Дзевяценю. Ігар Пракопавіч сказаў аб рашэнні бюро райкома партыі, заклікаў камуністаў аднадушна падтрымаць гэтае рашэнне на агульным сходзе калгаснікаў. Потым, зрабіўшы невялікую паўзу, пачаў даказваць, якую перавагу будзе мець буйная гаспадарка ў эканамічным і сацыяльным плане. Яго слухалі ўважліва, панура маўчалі, і гэтае маўчанне не падабалася Дзевяценю. Адпіўшы глыток вады, ён абвясціў далей, што бюро райкома партыі рэкамендуе на пасаду старшыні ўзбуйненага калгаса Аляксандра Уладзіміравіча Сурмілу, павярнуўся ад трыбуны і эфектным жэстам паказаў на столік, за якім сядзеў Сурміла, важны, трохі надзьмуты, быццам яго тут і не ведалі.

У першым радзе перад самай трыбунай нехта заляскаў у далоні, аднак ніхто яго не падтрымаў, і гэтае адзінокае пляскание было трохі недарэчным, нават смешным, рабілася ўсё больш нясмелым і ніякавата заціхла.

У зале лягла магільная цішыня. Дзевяцень глядзеў налева, направа — і нічога не мог зразумець. Цішыня была дужа няўтульнай, рабілася гнятлівай. Ён не збіраўся гаварыць яшчэ нешта, але сам таго не жадаючы, мусіць, каб разрадзіць атмасферу, раптам пачаў на ўсе лады хваліць Сурмілу як маладога, адукаванага спецыяліста, кандыдата навук, добрага арганізатара, спахапіўся: а хваліць Сурмілу якраз і не трэба было б, і ўвогуле, ён загаварыўся, занесла, стаў крывіць душою. Але і ці той выпадак, каб пачаць з крытыкі Сурмілы?! Тым не менш, паправіўся — стаў гаварыць пра Сурмілавы недахопы, а сам ліхаманкава блукаў па спахмураных, насцярожаных тварах, спатыкаўся на халодных, недаверлівых позірках, ні ў адных з іх не знаходзячы ні адабрэння, ні падтрымкі. Гэта

быў рэдкі, выключна рэдкі выпадак, калі ён не знаходзіў кантакту з аўдыторыяй. Сярод кіраўнікоў раёна ён лічыўся самым здольным аратарам, нават ідэолаг Антоненка не ішоў з ім ні ў якое параўнанне. Цяпер рабілася нешта незразумелае: ён намагаў усё сваё красамоўства, даўно сказаў больш, чым думаў гаварыць, патраціў прызапасеныя для агульнага сходу фразы і павароты (не любіў паўтарацца), а ў зале было ледзяное, адчужанае маўчанне. Такога з ім яшчэ ніколі не здаралася. Апаноўваў незразумелы страх, нейкая асуджанасць.

— У мяне ўсё, таварышы. Прашу выказвацца...— Таропка пайшоў да століка на сцэне, за якім сядзелі Сурміла, Клімовіч і эканаміст, таксама выбраная ў прэзідыум.

Эканаміст нешта пісала для пратакола, Сурміла сядзеў насуплены, ні адзін мускул не варухаўся на яго гладка паголеным твары. Толькі лысіна на галаве-стаўбуне, не па гадах ранняя лысіна пакрылася ружовымі плямамі, што выдавала яго хваляванне. Клімовіч апусціў галаву, не ведаючы, куды падзець рукі. Дзевяцень прыкінуў: ні адзін з іх як прамоўцы нічога не вартыя — хай трохі ачухаюцца, хай выступіць хто іншы.

— Таварышы, хто хоча ўзяць слова? — прыўстаўшы за столікам, запытаў ён і схамянуўся: а сход-то вядзе Клімовіч!

Ахвотнікаў выступаць не было. У зале па-ранейшаму вісела насцярожанае, наэлектрызаванае маўчанне.

«Вядзі сход»,— шапнуў Дзевяцень Клімовічу.

Той без асаблівай ахвоты, але паслухмяна ўстаў з месца, нейкім пустым, траскучым голасам пачаў:

— Таварышы, прашу выказаць свае адносіны да ўзбуйнення калгасаў і вылучэння на пасаду старшыні таварыша Сурмілы, Аляксандра Уладзіміравіча, як нам рэкамендаваў па даручэнню бюро райкома партыі таварыш Дзевяцень Ігар Пракопавіч...

Прайшла хвіліна, другая, трэцяя, а ў зале была цішыня.

— Хто выступіць першы?

Маўчанне рабілася гнятлівым.

— Лявончык, мо ты скажаш? — глянуў на таго, хто апладзіраваў перад трыбунай, Клімовіч.

— Не-е...— збянтэжана, нават спалохана замахаў рукамі той.

— То хто выступіць? Прашу, таварышы, актыўнасць!

Было падобна, што і на самай справе выступаць ніхто не збіраецца, глядзяць на Сурмілу: хай ён кажа!

— Аляксандр Уладзіміравіч,— нахіліўся Дзевяцень.— Бяры слова...

Сурміла павольна і салідна ўстаў з месца, правёў па зале сярдзітым, строгім позіркам, выйшаў за трыбуну, пастаяў хвіліну, яшчэ больш напальваючы атмасферу, потым ненатуральным, казённым голасам пачаў:

— Таварышы! Дазвольце мне ад вашага імя выказаць вялікую падзяку бюро раённага камітэта партыі, выканкому раённага Савета народных дэпутатаў, а таксама партбюро, усім камуністам нашай партыйнай арганізацыі за высокі давер, які мне аказаны...

— А мы вам яшчэ не аказвалі даверу! — як стрэл, як гром з яснага неба, раздаўся дзёрзкі голас з сярэдзіны залы.

Па зале прайшоў прыглушаны шумок, і было відавочна, што гэты шумок не асуджае, не абураецца, а наадварот — падтрымлівае таго, хто кінуў рэпліку.

Сурміла анямеў ад нечаканасці, лысіна, твар яго наліліся чырванню, але не прайшло і хвіліны, як пагрозліва захадзілі жаўлакі, на шыі сталі ўздувацца жылы, расціраючы каўнер моднай у пасачку кашулі. Ён нерухома глядзеў на залу і ў тую хвіліну быў падобны на раз'юшанага быка, які вось-вось кінецца, каб растаптаць, знішчыць, разарваць на шматкі, змяшаць з граззю ненавісны прадмет.

— Хто-о... та-ам... нешта... хацеў сказаць?! — прамармытаў ён, бляднеючы.

Вядома, Сурміла пазнаў, хто гэта азваўся: Ганчарэвіч, заатэхнік. Во хто пісаў ананімкі! Была амаль неўтаймаваная злосць, неадольнае жаданне зараз жа тыцнуць гэтага Ганчарэвіча, як паганага шчанюка, аднак націснуў на тормаз, нутром адчуваючы, што нельга цяпер сарвацца. «Я ж з табою разбяруся пасля! Я ж табе рожкі абламаю! Вузлом завяжу — пабадаешся!» Ён стаяў нерухома за трыбунай, сваім маўчаннем усё больш і больш напальваючы і без таго выбуховую атмасферу, і ўсё выразней разумеў, што над ім згушчаецца пагроза. Імгненна, амаль аўтаматычна спрацаваў інстынкт самааховы, які падказваў: адзіны яго паратунак зараз, адзіная магчымасць выйграць — пачаць самалупцаванне, як бы гэта прыкра і балюча ні было.

— Дарагія таварышы! — Голас яго стаў здранцвелы, нацяты, як струна.— Я выдатна разумею, што ў мяне, як і ў кожнага з тут прысутных, ёсць пэўныя недахопы, пралікі, памылкі. Шмат чаго ў мяне як кіраўніка не атрымалася — не хапала вопыту, шмат што рабіў няправільна... Я абяцаю вам, даю слова, што з вашай дапамогай перадолею памылкі, разам з вамі прыкладу ўсе намаганні, каб слава нашага «Гіганта» расла і множылася...

Дзевяценю быў зразумелы Сурмілаў тактычны ход, і ў прынцыпе гэты ход, канечне, быў правільны. Але выклікала прыкрасць, раздражняла адно — няшчырасць Сурмілавых слоў. Іх робленасць, ненатуральнасць былі такія відавочныя, што спадзявацца, быццам яны здольныя крануць некага, мог толькі апошні дурань. Глянуў яшчэ раз на Сурмілу, які нават у гэтай сітуацыі нічога не разумеў, не змог ці не схацеў загаварыць з людзьмі шчыра, скінуць з сябе маску напыжанай саліднасці, самаўпэўненасці, і нейкая пякучая непрыязь раптам узнікла ў яго да гэтага чалавека. Па праўдзе кажучы, ніколі ў яго да Сурмілы і не было сімпатыі. Невядома чаму, але заўсёды ён насця-

рожваў, пакідаючы пасля сустрэчы нейкі нядобры астой... Чаму ж тады не выступіў на бюро, не падтрымаў Лазовіка і Антоненку, якія лепш за яго ведаюць Сурмілу? Чаго апусціўся да таго, што з трыбуны стаў расхвальваць на ўсе лады чалавека, да якога ў цябе няма ні даверу, ні сімпатыі? Ды яшчэ перад кім стаў расхвальваць?! Перад тымі, хто знае Сурмілу як аблупленага... Змаладушнічаў на бюро, пакрывіў душою, збаяўся ісці насуперак Радзевічу, утульненька суцяшаючы сябе: не зусім этычна, у раёне працую нядаўна, не ўсё ведаю, і ўвогуле, ніколі да дабра не прыводзіць, калі старшыня райвыканкома пачынае заядацца з першым сакратаром райкома... А заўжды так: адзін кампраміс цягне за сабою другі — вось і даводзіцца прасоўваць рашэнне, за якое галасаваў і з якім не згодны па сутнасці...

Сурміла, чырвоны, як бурак, ад узбуджэння ці мо сораму, што, хоць з аглядкаю, але ўсё ж давялося лупцаваць самога сябе, нарэшце скончыў гаварыць, пакланіўся зале кіўком галавы, чакаючы належнага эфекту.

У зале панура маўчалі. Толькі бялявы, сярэдніх год чалавек перад трыбунай, якога Клімовіч, запрашаючы выступаць, назваў Лявончыкам, занёс рукі, каб пляснуць у далоні, аднак у самы апошні момант перадумаў — разгублена апусціў, не ведаючы, куды падзець іх.

Дзевяцень разумеў, што набліжаецца самае горшае, чаго можна было чакаць, нутром адчуваў усю недарэчнасць свайго становішча. Так табе і трэба! Хай гэта табе будзе навукаю, добрай навукай! Хоць яшчэ невядома, чым усё скончыцца. Гэта — партыйны сход, а хто ведае, як павядуць сябе калгаснікі на агульным сходзе? Магчыма, калгаснікі павядуць сябе па-іншаму, Сурміла таксама зробіць вывады... А чаго адмоўчваецца Клімовіч? Хай скажа і ён, паглядзім, як ён тут кіраваў, які аўтарытэт мае ў камуністаў?

— Сакратар партбюро, ваша слова! — Сказаў знарок гучна, каб чулі ў зале.

Анатоль Іванавіч Клімовіч, гадоў пад пяцьдзесят чалавек з пышнай чарнявай чупрынай без сівізны, што нават дзіўна для яго ўзросту, без ахвоты падняўся з месца, паглядзеў адданымі вачыма на Сурмілу, нібы чакаючы ад яго дырэктывы, спалохана ўсміхнуўся і ніяк не мог пачаць сваю прамову. Дзевяцень ніколі не сутыкаўся блізка і фактычна не быў знаёмы з Клімовічам. Ведаў толькі, што той засядзеўся ў інструктарах райкома, здаецца, калі, гадоў пятнаццаць, а летась паслалі сакратаром партбюро да Сурмілы.

— Таварышы! — нарэшце прарвала Клімовіча.— Пытанне, пра якое гаварыў перад намі Ігар Пракопавіч Дзевяцень, ёсць пытанне надзвычайнай важнасці і надзённасці. Мы думаем, што бюро раённага камітэта партыі дэталёва і ўсебакова прааналізавала становішча і прыняло адзіна правільнае рашэнне. Камуністы, усе калгаснікі нашага калгаса горача і аднадушна падтрымліваюць рашэнне бюро райкома...— Пераможна глянуў у залу.— З узбуйненнем калгаса перад намі адкрываюцца светлыя даляглядзы, шырокія і ясныя перспектывы, гаспадаранне ў нашым калгасе будзе пастаўлена на прынцыпова новы ўзровень, на рэйкі навукова-тэхнічнага прагрэсу. Таварыш Сурміла Аляксандр Уладзіміравіч, каго рэкамендуе нам бюро раённага камітэта партыі і якога мы ўсе добра ведаем як таленавітага арганізатара калгаснага будаўніцтва, надзвычай кампетэнтнага, на ўзроўні навукова-тэхнічнага прагрэсу спецыяліста сельскай гаспадаркі,— ёсць іменна той кіраўнік, які патрэбен сёння вёсцы. Сярод старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў вобласці толькі наш Аляксандр Уладзіміравіч мае высокае навуковае званне кандыдата навук. Я лічу, што на агульным сходзе, які адбудзецца адразу ж пасля нашага партыйнага сходу, мы ўсе як адзін праявім высокую свядомасць і дысцыплінаванасць, дружна і арганізавана прагаласуем за аб'яднанне калгасаў і за выбранне старшынёю Аляксандра Уладзіміравіча Сурмілы! Нам выпаў вялікі гонар...— Словы ў

Клімовіча былі нейкія круглыя, нежывыя, халодныя, як градзінкі. Ён натхнёна і шчодра сыпаў іх у залу, а яна не рэагавала. Гэтыя словы, нікога не кранаючы, скакалі, як тэнісныя шарыкі, і выгляд прамоўцы рабіўся ўсё больш прыбітым, вартым жалю, на Клімовіча глядзелі хто са спачуваннем, хто з усмешкай. Тым не менш, калі скончыў, яму нават паапладзіравалі — ці то для смеху, ці то спачуваючы.

Пасля Клімовіча выступаць больш ніхто не схацеў, і сход закрылі, нават забыўшыся прагаласаваць.

Дзевяцень з нейкім дваістым пачуццём і прыкрым астоем на душы глядзеў, як спешна пакідаюць залу камуністы, і бачыў, што кожны з іх выносіць адсюль глухую незадаволенасць, нават пратэст. А што, калі на агульным сходзе возьмуць ды праваляць Сурмілаву кандыдатуру? Гэтая думка цяпер ужо не здавалася малаверагоднай, мо нават наадварот... Во будзе скандал! Старшыня райвыканкома праваліў, не правёў рашэнне бюро... Але страху за магчымы скандал ужо не было, з'яўлялася нейкае незразумелае, цьмянае, помслівае пачуццё, невядома на каго скіраванае — ці то на Сурмілу, ці то на Радзевіча, ці то на самога сябе, а магчыма, на ўсіх разам... Гэтае пачуццё не давала спакою, Ігар Пракопавіч не знаходзіў сабе месца. Да ўсяго страшэнна назаляў Сурміла са сваім ідыёцкім аптымізмам і недарэчнымі прапановамі разам павячэраць пасля сходу.

— Аляксандр Уладзіміравіч,— папрасіў ён, каб хоць на нейкі час адкараскацца ад Сурмілавай апекі.— Схадзіце паглядзіце, як збіраюцца людзі...

У Сурмілавых вачах з'явілася пытанне і палахлівае здзіўленне, аднак, не дачакаўшыся больш ніякіх тлумачэнняў, паслухмяна выйшаў, здагадаўшыся, мусіць, што яго проста спраўджваюць з вачэй.

Дзевяцень адразу ж кінуўся да тэлефона. Радзевічаў нумар не адказваў. Ага-а, Радзевіч жа паехаў у вобласць — паклікалі тэрмінова на нейкую нараду. Мо па-

званіць Чыжэўскай? Гэта яна больш за ўсіх насілася з Сурмілам, як з пісанай торбай...

Другі сакратар райкома партыі Галіна Пятроўна Чыжэўская моўчкі выслухала яго інфармацыю, занепакоена спыталася:

— Ты лічыш, што гэта сур'ёзна?

— Думаю, так. Сурмілу, пэўна, правяляць...

Трубка напружана замоўкла.

— Што б там ні было, а ты павінен касцьмі легчы, а лінію правесці! — нарэшце ачомалася Чыжэўская.— Мы не можам стварыць прэцэдэнт!..— Голас у яе быў напорысты, рашучы. Яна заўсёды такая: каб толькі было па ёй, калі што надумае: здаецца, і не ведае, што такое сумненні, што такое адступіць. Нават дзіўна: як у гэтым кволым стварэнні можа жыць такая крутая, непахісная мужчынская хватка? А зрэшты... А зрэшты, у яе ўжо і ад жаночага нічога не засталося — не жанчына, а проста кіруючы таварыш.

Дзевяценю па-чалавечы шкада Чыжэўскую, шкада ўсіх, як яна, жанчын-адзіночак, што па волі лёсу трапілі на свае кіруючыя пасады, праз якія так і не займелі свайго бабскага шчасця. І прывабнасцю многіх бог не абдзельвае, і нявесты відныя, а не асабліва знаходзяцца смельчакі, каб, страціўшы галаву, кідацца ў залёты. Ды і кіруючым нявестам гэтыя залёты быццам бы не з рукі: што скажуць, што падумаюць людзі, чаго добрага, папаўзуць плёткі... Бягуць гады, сплываюць апошнія шанцы, і як ні храбрыцца тая ж Чыжэўская, а глянеш у вочы — у іх туга, глухая, няўцешная, адчайная, а перад святамі і выхаднымі — асабліва. І нічога не паправіш, нікому не паскардзішся... Неяк у кампаніі на свята пасля выпітага залпам бакала віна Чыжэўскую пацягнула на шчырасць, потым пажартавала горка: калі б жанчыны ўздумалі пратэставаць, яна першая выйшла б з заклікам: «Далоў эмансіпацыю!» Жарт жартам, а і на самай справе наўрад ці хто пазайздросціць лёсу Чыжэўскай, лёсу ўсіх старых

дзевак, якія, пэўна, ні разу і не адчулі сябе жанчынамі. І праўду, мусіць, кажуць: няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі. Неўрастэнічнасць, зацятая, безразважлівая ўпартасць, здаецца, ужо сталі натурай Чыжэўскай, часта проста раздражняюць Дзевяценя, ды і не толькі яго аднаго...

Выслухаўшы ў трубцы доўгую натацыю ад Чыжэўскай, Дзевяцень, ледзьве хаваючы прыкрасць, сказаў:

— Ды не магу я прымусіць людзей падымаць рукі за Сурмілу!

— У цябе ёсць пастанова бюро! Ты абавязаны! Ты не маеш права! — кіпела яна.

— Ведаю!

Дзевяцень і сам быў не рады, што пазваніў Чыжэўскай,— мог і без званка прадбачыць яе рэакцыю, ведаць, што яна скажа. Падумае, пазваніў, каб перастрахавацца, распісаўся ў сваёй слабасці, скажа... Сама б прыехала! Хацеў бы паглядзець, што яна зрабіла б... Зрэшты, мо яшчэ ўсё абыдзецца, мо дарма ён кідаецца ў паніку? А не абыдзецца — таксама невялікая бяда. Людзі ведаюць, каго ім выбіраць, каго — не. Бюро райкома, у рэшце рэшт, можа толькі рэкамендаваць, а прымушаць, сілком навязваць калгаснікам старшыню не мае права...

Першае, што кінулася ў вочы, як толькі зайшлі ў залу, што яна біткам набіта — яблыку няма дзе ўпасці. Іх з'яўленне было ўспрынята насцярожана, з падазрэннем. Сурміла, як і належыць старшыні, падняўся на сцэну, пастукаў пазногцем па мікрафоне, патрабуючы ўвагі. Ён паспеў супакоіцца, быў салідны, афіцыйны. Адчувалася, ён і думкі не дапускае, што можа здарыцца нешта. А мо проста не падае выгляду?

За прапанаваны Клімовічам прэзідыум прагаласавалі дружна і аднагалосна.

Дзевяцень павінен быў выступаць першы. Да выступлення заставаліся лічаныя хвіліны, а ў галаве ўсё яшчэ быў нейкі сумбур, круціліся толькі абрыўкі падрыхтаваных фраз, якія зараз здаваліся ўжо непрыгоднымі, недарэчнымі. Аднак ён не панікаваў — спадзяваўся на сябе. Натрэніраваўшыся выступаць без паперкі, абы толькі выходзіў за трыбуну, як думкі адразу ж набывалі яснасць і лёгкасць, знаходзіліся самыя патрэбныя, самыя трапныя словы, фразы плылі складна і эмацыянальна — аж сам часам здзіўляўся. Бывае, экспромтам выдаецца такая прамова, якую б нізашто загадзя не напісаў...

— Слова мае старшыня выканкома раённага Савета народных дэпутатаў таварыш Дзевяцень! — аб'явіў Сурміла.

Ігар Пракопавіч амаль фізічна адчуў, як на ім сканцэнтравалася мо з паўтысячы пачцівых, але насцярожаных позіркаў, і гэтыя позіркі раптоўна абудзілі ў ім нейкі невядомы, неасэнсаваны страх.

Узяўшы сябе ў рукі, ён гаварыў спакойна і проста, трохі вяла, без звычайнага ўздыму, чуйна, з асцярогаю сочачы, як успрымаюць яго ў зале, і неўзабаве стаў разумець — пэўна, калгаснікі не будуць супроць аб'яднання. І то добра — хоць бы напалову выканаць заданне...

Выслухалі яго ўважліва, праўда, без асаблівага энтузіязму, моўчкі раздумваючы пра нешта сваё, і толькі калі закончыў, нейкі дзядок выкрыкнуў:

— То дзе цяперака кантора будзе? У нас ці ў Забор'і?

Дзевяцень чакаў гэтага пытання, спецыяльна прамаўчаўшы наконт цэнтра калгаса, каб [redacted] большым эфектам сыграць на мясцовым патрыятызме, які, калі разабрацца, таксама мае вялікую сілу.

— Ёсць прапанова пакінуць цэнтр у Пілінавічах і назву калгаса захаваць — «Гігант»...

Па зале прайшоў шумок адабрэння.

За аб'яднанне з «Забор'ем», за тое, каб цэнтр калгаса быў у Пілінавічах і за назву «Гігант» прагаласавалі да-

волі дружна, хоць шмат хто і не падняў рукі. На душы ў Дзевяценя трохі адлягло.

Трэба было прыступаць да галоўнага... Эх, каб не трэба было прыступаць да гэтага галоўнага! Нікуды не дзенешся... А мо яны і за Сурмілу прагаласуюць?

— Таварышы! — Чамусьці язык не павярнуўся сказаць звычайнае ў такіх выпадках, саліднае, аўтарытэтнае «бюро райкома партыі рэкамендуе...» — Ёсць прапанова выбраць старшынёю ўзбуйненага калгаса «Гігант» Сурмілу Аляксандра Уладзіміравіча...— I з заміраннем сэрца стаў чакаць, якая будзе рэакцыя залы.

Зала напружана замерла, адтуль, здалося, падзьмула ледзяным халадком. Ён ліхаманкава глядзеў то ў адны, то ў другія, то ў трэція, у пятыя, дзесятыя вочы — яны былі адчужаныя, недаверлівыя.

— Хто за тое, каб старшынёю выбраць таварыша Сурмілу Аляксандра Уладзіміравіча, прашу падняць рукі...— папрасіў ён і машынальна, па звычцы першы ўскінуў руку, тут жа схамянуўся: галасаваць ён не мае права, збянтэжана апусціў яе.

За Сурмілу прагаласаваў Клімовіч, яшчэ чалавек пяць з прэзідыума, пятнаццаць — дваццаць у зале.

— Смялей, смялей, таварышы! — спрабаваў падахвоціць Дзевяцень, заўважаючы, што ім стала завалодваць нейкая здрадлівая тайная радасць.— Хто «за», таварышы? — Голас яго ўздрыгнуў, ён спалохаўся свайго голасу.

Ніхто больш не хацеў галасаваць. Нават тыя, хто падняў руку, зараз сарамліва апусцілі, падначаліўшыся гіпнознай сіле большасці.

Дзевяцень разумеў, што зараз яго абавязак нешта гаварыць, зрабіць спробу пераканаць людзей, каб павярнуць сход у патрэбным кірунку, аднак не ведаў, што гаварыць, дакладней, ужо не хацеў пераконваць гэтых людзей, не меў ніякага жадання ратаваць Сурмілу. На момант глянуў на сябе чужымі вачыма, выразна ўявіў, у якое незайздрос-

нае становішча ён трапіў, наколькі робіцца смешным, стоячы гэтак, як слуп, за трыбунай.

Выручыў дзядок у кажушку, што задаваў пытанне наконт канторы.

— То што, і выказацца не дасце красцьяніну? — з робленай крыўдай сказаў ён і ваяўніча пайшоў на прэзідыум.— А мы слова маем!

— Калі ласка, калі ласка! — ветла запрасіў яго Дзевяцень, схамянуўшыся: як мог дапусціць такую прамашку! Трэба ж было, перш чым галасаваць, адкрыць спрэчкі, выслухаць людзей! — Даруйце, таварышы, давайце абмяркуем названую кандыдатуру.— І пайшоў з-за трыбуны за стол прэзідыума.

Дзядок, крэкчучы, узгрэбаўся па сходках на сцэну, стаў за трыбуну, з-за якой яго ледзь было відно, пастукаў па мікрафоне сваім каравым тоўстым пазногцем, як гэта рабіў перад пачаткам сходу Сурміла. Ці таму, што надта ж сур'ёзны выгляд меў гэты дзядок, ці ўсе зразумелі, што ён перадражнівае Сурмілу, ці проста ад гэтага бухбу-ух, бу-у-ух, якое са скрыгатам і трэскам, бы абвальвалася столь, вырвалася з дынамікаў, але ў зале пачалося ажыўленне, пачуўся лёгкі смех.

Адразу ж было відаць, што гэты дзядок з тых, хто не супроць папрыдурвацца, аднак пальца ў рот такому не кладзі — па локаць адхопіць. Дзевяцень заўсёды з асцярогаю ставіцца да гэтакіх вясковых «прасцячкоў» — яны здольныя сапсаваць любую абедню, але цяпер чамусьці ўзрадаваўся гэтаму дзядку.

— Чаго зубы скаліце? — узлаваўся той і яшчэ раз бубухнуў праз дынамікі. Зала ўздрыганулася ад рогату. Людзі смяяліся неўтаймавана, нейкая ўтрапёная радасць, калектыўны псіхоз смеху завалодаў імі. Так смяюцца хіба толькі пераможцы, адолеўшы нешта непамерна цяжкое, гнятлівае. Дзядок пакрыўджана павярнуўся да прэзідыума: — Навядзіце парадак!

— Таварышы, прашу ўвагі! — строга сказаў Дзевя-

цень, і адразу ж усталявалася цішыня, твары зрабіліся сур'ёзныя, нібы раптам людзі зразумелі: а радавацца яшчэ рана.

— Ды што ж гэта ў нас дзеецца, грамадзяне-таварышочкі? — пачаў пісклявым галаском дзядок.— Таварышок начальнічак нам Сурмілу сватае...— Усміхнуўся яхідна, павярнуўшыся да Дзевяценя.— Сватава дзела сватаць, а мы самі з вусамі. Не хвалі, сваток, кабылу запрагаючы, а нявесту прыбіраючы...— Пагразіў сваім крывым пальцам, потым тыцнуў на Сурмілу: — Мы гэтую нявесту до-о-обранька-а знаем! Ты нам заборскага працьсядацеля, Ляксея Кунцэвіча дай — от што я хацеў сказаць-! — Задзірыста глянуў на прэзідыум, намерыўся яшчэ нешта сказаць, але перадумаў, махнуў рукою і пакалдыбаў са сцэны, пераможна аглядваючыся па баках.

І што тут пачалося! Людзі паўставалі з месцаў, запляскалі ў далоні, апантана скандзіруючы: «Пра-а-віль-на-а! Пра-ві-ль-на! На-ам Кун-цэ-ві-ча! Кун-цэ-ві-ча!»

Дзевяцень кінуў позірк на Сурмілу: у таго збляднеў твар, толькі лысіна гарэла пажарам, а поруч з ім Клімовіч уціснуў галаву ў плечы, нібы хто збіраўся даць яму па карку.

— Спакойна, таварышы! Прашу ўвагі! — сам не ведаючы для чаго, зрабіў спробу перакрычаць утрапёную залу Дзевяцень.— Таварышы, прашу ўвагі...

І калі зала, нарэшце, аціхла і сотні запытальных вачэй упіліся ў яго, чакаючы важкага, рашаючага слова, Дзевяцень разгубіўся: а што сказаць? Без бюро ён не можа нічога вырашыць, не можа сказаць таго, чаго ад яго чакаюць гэтыя людзі. Ніколі ў жыцці ён не адчуваў сябе такім бездапаможным.

— Таварышы, пытанне ў нас надзвычай сур'ёзнае, давайце будзем рашаць па-сур'ёзнаму...

Гэта нікога не задаволіла, у зале пачуўся незадаволены шумок. Як жа выблытацца? Мо проста закрыць сход, нічога не вырашыўшы?

— Я хачу сказаць...— устаў з сярэдніх радоў высокі сутулаваты малады мужчына.

— Калі ласка...— перамагаючы разгубленасць, паказаў на трыбуну Дзевяцень.— Калі ласка...

Мужчына стаяў на месцы, камечачы ў руках шапку, можна было падумаць, што ён раптам завагаўся: а ці трэба выступаць?

— Калі ласка, калі ласка...— настойлівым жэстам паказаў яшчэ раз на трыбуну Дзевяцень.

— А я згэ-этуль! — рашуча махнуў шапкаю мужчына і стаў напаўабарот да залы.

— Вас чутно не будзе. Ідзіце за трыбуну,— настойваў Дзевяцень, толкам і сам не ведаючы, для чаго настойвае.

— Учу-уем!

— Хай гаворыць з месца...

— Ды з яго галасінай дынамікі палопаюць...

Гэта было і праўда: падобнага басу Дзевяцень ніколі не чуў. З такім голасам толькі ў оперны ці ў дзякі...

— У газетах пішуць, па радыё, тэлевізары кажуць: партыя і ўрад пра людзей клапоцяцца...— камячыў шапку ў руках прамоўца.— Чыстая праўда — клапоцяцца! Аднаму нашаму старшыні загад партыі і ўрада — не ўказ. Не клапоціцца ён пра рабочага чалавека, за чалавека яго не лічыць...— Паглядзеў вакол, шукаючы падтрымкі, адразу ж стаў смялейшы: — Узяць кармы. Як калгасніку пракарміць карову, калі яна яшчэ засталася? А калгасніку без каровы нельга... Во козы пазаводзілі... Козаў у нас ніхто век за скаціну не лічыў, а пры Сурміле дакаціліся да гэтай рагатай ганьбы. А што рабіць застаецца? Што ў хмызе ўваб'еш, на гарбе ў радзюшцы прыцягнеш ці, давай праўду казаць, украдзеш — тое і мець будзеш...— Павярнуўся і глянуў на Дзевяценя, сказаў да яго: — Хай лепей згніе, чым калгасніку даць — во якія ў нас парадкі. Летась палова сенакосу клякнула, шыш даў...— Глянуў на Сурмілу.— Мо няпраўда? А ўзяць выган, дзе калейку

пасем. Там блох пасвіць толькі, а не каровы. Ды і то збіраюцца заараць. Куды ж падзецца калгасніку?

— Ой, праўду, Пятровіч, кажаш! — ускочыла з месца кабета са звонкім сварлівым голасам.— Вам-то, піліпавіцкім, яшчэ што-о?! А нам, глінянскім, навасёлкаўскім, ройшанскім, каго ў гэтыя клеткі пад неба пазганяў, як жыць? Ні хлеўчыка, ні гуменца ля хаты. У вас кураняты, гусяняты, качаняты, хоць якое, а свінчо кожны выгадуе. А нам па тое няшчаснае яйко пасярод лета на базар прыся. Гэта ж розум трэба згубіць, каб на вёсцы чаўпці такое! Дальбог, людцы добрыя, гэта...— тыцнула пальцам на Сурмілу.— Нейкі вораг! Паглядзіце, дзе вобшчы хлеў для нашых каровак збудаваў! За вярсту ад хаты. Гэта ж адно мучэнне. Зімою пакуль прынясеш тое малако — замерзне, а ўлетку — глядзі што скісне. Спіціяльна робіць, каб каровы папрадавалі. І папрадаем — хай яны спрэндзяцца. Пакупляем матацыклы, машыны, пачнём ездзіць па кефір і малако ў гэтых пакетах у горад. Дзе ж гэта бачылі, каб сельскі чалавек па малако, мяса ў горад ездзіў? Ці мо знайшлі, як яго вырабляць на якім заводзе?! Трасцу! А мо я не хачу малака ў пакетах, мо мне не з рукі без курэй і без свінчаці!

— Затое жывяце па-панску! — падкузьміў вусаты дзядзька.— Ні табе дроў, ні табе чаго, плёхайся сабе ў ванне...

— То давай памяняемся, калі такі мондры?! Ага, спалохаўся! — Перавяла погляд на Сурмілу.— Ці мо з вамі, таварыш прадсядацель, памяняемся? Маўчыце... Нябось, самі-то на пяты этаж не палезлі, футар зрабілі для сябе ды яшчэ кус саду прыхапілі. Чаму ж не хочаце разам з намі жыць, калі гэтыя небаскробы такія салодкія, га? Вы ж самі-то да горада прывыклі, апроч сабакі, нічога не трымаеце? І для Клімовіча, нябось, таксама футарок робіце...

— Правільна!

— Безабраззе!

— Такога безабраззя свет не бачыў!

— Вон Сурмілу!

Людзі ўскоквалі са сваіх месцаў, махалі рукамі, намагаючыся перакрычаць адзін аднаго, і ўжо немагчыма было зразумець, што хто крычыць...

Дзевяцень гатовы быў скрозь сцэну праваліцца: каго ён падсоўваў людзям?! Закончыць, як мага хутчэй закрыць прыкры сход! Праз што ўтравілі яго ў гэтую гісторыю?

Аднак закрываць сход ужо не хацелася — расло, разрасталася тайнае зларадчае пачуццё: хай скажуць усё людзі, хай паслухае Сурміла, што пра яго думаюць! І адначасова з гэтым пачуццём рабілася ўсё больш востраай непрыязь да гэтага чалавека.

— Таварышы! Давайце выступаць па адным, таварышы! Тут не базар, таварышы!

Узбуджэнне ў зале неўзабаве стала аціхаць, і, калі стала зусім спакойна, з сярэдзіны залы паднялася жанчына гадоў сарака і таропка пайшла да трыбуны.

— Як ваша прозвішча? — невядома для чаго запытаў Дзевяцень.

— Неўгень...— трохі збянтэжылася жанчына.— Неўгень, Тарэса Іванаўна, даяркай раблю...— Яна пераступала за трыбунай з нагі на нагу, бы забылася, пра што сабралася гаварыць.— Я таксама хачу сказаць: дайце нам за старшыню заборскага Кунцэвіча. Чалавек ён сталы, гаспадарскі — хай і наш Аляксандр Уладзіміравіч у яго павучыцца. Я ўсё сказала...— Неяк ціха і вінавата пaглядзела на Дзевяценя, быццам хацела паспачуваць яму, стала асцярожна спускацца па сходках.

Ёй паапладзіравалі, праўда, не так дружна, як ранейшым прамоўцам. І адразу ж з сёмага рада падняўся чалавек у гадах, за якім даўно назіраў Ігар Пракопавіч. Устаўбучаныя валасы вакол лысіны, тонкі кручкаваты нос, адтапыраныя вялікія вушы, калючыя вочкі надавалі

яму драпежны выгляд. Ну, гэты вылье жоўці, падумаў Дзевяцень.

— Я хачу во што сказаць, таварышы...— на здзіўленне, голас у чалавека быў мяккі, амаль жаночы.— З коньмі ў нас непарадак... На ўсе Піліпавічы тры кані засталося, і тыя пааддавалі штатным, прыватную лавачку развялі — захоча дасць, захоча не дасць, без бутэлькі не сунься...

— Пра-а-вільна! — загулі ў зале.

— Па дровы паехаць — бутэлька,— узбадзёрыўся прамоўца,— гной на соткі вывезці — бутэлька, да доктара паехаць — і то бутэльку гані. Што ж гэта такое? Аляксандр Уладзіміравіч кажа, што коні ўстарэлі, на іх месца машыны. Для калгаса-то машыны, а для калхозніка? Не аб'елі б калгас тыя коні. Вунь у Забор'і...— ён гаварыў блытана і сам разумеў гэта, пачырванеў, разгублена глядзеў па баках.— Я, як і ўсе, за тое, каб за старшыню ў нас быў Кунцэвіч...

— Хто яшчэ просіць слова?

— До-осыць!

— Што гаварыць!

— Усё сказалі...

Дзевяцень глянуў на Сурмілу, нахіліўся і, ледзь хаваючы іронію, запытаў:

— Вы будзеце выступаць?

Сурміла быў аглушаны, збянтэжаны, тупа глядзеў на людзей у зале, быццам гэта ўвогуле былі і не людзі, а нейкія мурашкі, якія здольныя толькі ўкусіць, а знішчыць яго не змогуць... Па праўдзе кажучы, ён яшчэ не зусім разумеў, што здарылася, не хацела ўкладвацца ў галаве, што аддаюць перавагу нейкаму невуку Кунцэвічу. Гэтага ніколі не будзе! Райком не дапусціць... Прыедзе Радзевіч ці Чыжэўская — і ўсё стане на месца. Ён глядзеў абыякава, нават здзіўлена на залу, і не было ні злосці, ні абурэння — на іх проста не хапала сілы. Быў толькі сорам, вялікі, агідны; ён, гэты сорам, муціў свядомасць, душыў да спазмаў у горле.

— Не-е-е...— пакруціў галавою Сурміла, спалохаўшыся Дзевяценевага пытання.

Ігар Пракопавіч вычакаў хвілінку і сказаў у мікрафон:

— Таварышы, вашу думку я перадам бюро райкома партыі... А пакуль што сход аб'яўляю закрытым...— І адразу ж злавіў сябе на прыкрым: трэба, каб сход закрываў Сурміла, а не ён, але ат...

## 10

Кунцэвіча разбудзіў нецярплівы і настойлівы стук у акно.

— Каго ж там прынесла нячыстая...— спрасонку незадаволена прабурчаў ён, і адразу ж ёкнула трывога, разагнаўшы астаткі сну,— нешта здарылася! Так сабе старшыню калгаса пасярод ночы не паднімаюць. Кінуўся да акна — да шыбы прыліп прыплюснуты нос шафёра Мішы. Міша на мігах прасіў выйсці да яго. На хаду нацягваючы спартыўны касцюм, кінуўся да дзвярэй, пстрыкнуўшы на кухні выключальнікам.

Міша стаяў на асветленай палосцы і нецярпліва пераступаў з нагі на нагу.

— Што такое? — Аляксей Сцяпанавіч не хаваў трывогі, нават спалоху.

— Даруйце...— ніякавата памуляўся Міша.— А вы ўжо спалі?

— Што здарылася?!

— Я толькі што з Пілінавіч...— таемна сказаў ён, нецярпліва пераступаючы з нагі на нагу.

— Ну і што?!

— Сурмілу правалілі...— І Мішаў твар расплыўся ўсмешкаю да самых вушэй.

— Ты што, п'яны? — сумеўся Кунцэвіч, напускаючы на сябе сярдзітасць.

— Ні грамулькі! Дальбог, Сурмілу правалілі... Во, чэснае слова, праўда!

— І ты з-за гэтага мяне пабудзіў? — спрабаваў нахмурыцца Аляксей Сцяпанавіч. Ён яшчэ не зусім верыў, але і не мог лічыць чыстай брахнёй, бабскай плёткаю тое, што гэтак нечакана пасярод ночы прынёс Міша.

— Не ўтрываў, дальбог, не змог утрываць да раніцы...

— Цьфу, блазен! — плюнуў Кунцэвіч, павярнуўся і таропка пайшоў у хату, баючыся, каб Міша не заўважыў яго радасць.

Навіна ўзбударажыла Забор'е. З першымі промнямі сонца яна разнеслася па ўсёй вёсцы, абрастала падрабязнасцямі, фантастычнымі дэталямі, і ўсё прымалася за чыстую манету. К абеду, напрыклад, гаварылі, быццам Сурмілу ўжо арыштавалі, быццам нехта сваімі вачыма бачыў, як яго вялі ў каталажку аж тры канваіры — адзін з аўтаматам, двое з пісталетамі. Але гэтую недарэчнасць неўзабаве катэгарычна абвергла Тэкля Канцавая, якая ўсё ж не ўтрывала — з'ездзіла да дачкі ў Піліпавічы і, выведаўшы, адразу ж кінулася назад, каб паведаміць вяскоўцам падрабязнасці з першых рук. Сурмілу ў Забор'і рэдка хто нават у твар бачыў, але, як кажуць, добрая слава далёка ідзе, а ліхая — яшчэ далей, таму вёска пасля столькіх дзён непрыемнасцей уздыхнула з палёгкаю: слава богу, застанецца Кунцэвіч, нават Піліпавічы прагаласавалі за Кунцэвіча. Кунцэвіч — чалавек свой, надзейны...

Дзе б ні паяўляўся Аляксей Сцяпанавіч, з ім віталіся як ніколі пачціва, здымаючы шапкі, з паклонам і гледзячы з захапленнем, быццам зрабіў немаведама якое геройства, а ён адчуваў сябе няёмка, дзівіўся гэтым раптоўным зменам.

— А мы-то думалі, мужык мужыком, а ён, глядзі, якая галава — вучонага за пояс заткнуў! — шапталі ўслед жанчыны.

А Валодзька Бакун хадзіў як імяніннік.

— Во, а што я гаварыў! — узбуджана і пераможна казаў ён кожнаму, хто толькі трапляўся на вочы.— Во, не праігаласавалі — і будзь здароў! Гаварыў: сілком нізашто не ўвапруць! — І на Валодзьку таксама глядзелі з павагаю, нібы былі вінаватыя перад ім, што не прымалі ўсур'ёз, а ён і праўда як у ваду глядзеў: калі не схацець Сурмілу — ніхто не змусіць.

Аляксей Сцяпанавіч толькі плячыма паціскаў: што дзеецца з людзьмі! Узяць хоць бы таго ж інжынера Касьянава... Бывала, з самага ранку праходу не дае, заводзіць сваю песню: купляй, абнаўляй тэхніку, яршысты такі, а тут зардзеўся, як макаў цвет, калі выпадкова спаткаліся, ды такі рахманы — хоць ты яго да раны прыкладвай. На добры розум, вядома, трэ было даўно сёе-тое з тэхнікі замяніць. І думаў, нават ужо нарады ў сельгасупраўленні ўзяў, толькі не казаў нічога Касьянаву — хай, рашыў, будзе для яго нечаканасцю... І яшчэ была задума майстэрні расшырыць, адгарадзіць куточак у душавой — парылку для хлопцаў наладзіць. Прыехаў з поля, закончыў работу — калі ласка, у парылачку, пагрэй косці, змый пыл, адпар мазуту, каб не смярдзеў дома пры жонцы. Толькі ж, халера, каб не сталі пад тую парылачку піўцо, а то і гарэліцу пацягваць, каб праз гэта работу не занядбалі? А то пайшла зявядзёнка: калі лазня — значыць, і гарэлка. То па суботах, а раптам захочуць штодня — не ўгледзіш...

Але больш за ўсё здзівіў «каровін акушэр» Адась. Гэты раз ён быў непраўдападобна ціхі, нейкі ўрачысты, адчувалася, што яму карціць сказаць нешта важнае. Стукнула думка: а ці часам не натварыў ён чаго? Але што ён мог натварыць? Даяркі таямніча маўчалі, па-змоўніцку пераміргваючыся, падштурхоўвалі Адася бліжэй і бліжэй.

— Што здарылася? — не ўтрываў Кунцэвіч.

— Кажы-кажы, казёл аблезлы! — пагрозліва наступала на Адася Пракопчыкава Марыя.

Іншы раз, канечне, Адась даў бы ёй за «казла», а цяпер чамусьці вінавата маўчаў.

— Ну, што? — строга глянуў на яго Кунцэвіч.— Што здарылася?

— Вы-ы, Сцяпанавіч, не слухайце іх. Я гэта так, без злосці рэйдаў, ідры яго матары...

— Без злосці, кажаш?! — узялася ў бокі Пракопчыкава Марыя.— А ну, паўтары, што плявузгаў!

— Што ты вярзеш? — глянуў строга на яе Кунцэвіч і павярнуўся да Адася: — Скажы, урэшце, што здарылася?

— Ды-ы-ы... гэ-э-та-а...— і, заўважыўшы, як пырснулі ад смеху жанчыны, Адась зразумеў, што яго падвялі пад дурнога хату. Цяпер хоць крыж на сябе кладзі, даказваючы, што ездзіў у раён заступацца за Кунцэвіча,— не паверыць, на смех падымуць, і першы раз за ўсе гэтыя гады падступіла такая крыўда, што ледзь утрымаў слязу. Хмыкнуў нешта сабе пад нос, люта глянуў на жанчын і, мацюкнуўшыся, куляй выскачыў з фермы.

— Чаго гэта ён як апараны? — здзівіўся Кунцэвіч.— Што вы з ім учудзілі?

Даяркі наперабой, як сарокі, сталі расказваць, што гаварыў некалькі дзён назад Адась, а Кунцэвіч змрачнеў і змрачнеў.

— Вы падурэлі, ці што? — нарэшце не ўтрываў ён.— Усялякія жарты маюць меру. Вы ж, браце мой, пакрыўдзілі чалавека, абразілі, калі хочаце... Непрыгожа...

— А хай не рэйдае што папала, боўдзіла! — ваяўніча выступіла наперад Кацярына Бакун, да якой некалі ў маладыя гады заляцаўся Кунцэвіч, але ніхто не ўзяў яе бок, пэўна, зразумеўшы, што і праўда, непрыгожа, брыдка...

Супярэчлівыя чуткі пра ўчарашні сход у Піліпавічах, вядома, даходзілі і да Кунцэвіча, аднак, строга-настрога папярэдзіўшы Мішу, каб пра ўчарашнюю начную размову нікому ні гу-гу, рабіў выгляд, што і ведаць нічога не ведае. Іначай і нельга. А ў душы радаваўся, пэўна, больш

за ўсіх. Канечне, нават Радзевічу будзе няпроста, ды і наўрад ці хто здольны цяпер пераканаць людзей, што Сурміла харошы... Мо пасля ўсяго гэтага яшчэ і не будуць аб'ядноўваць... Мусіць, не-е, Сурмілу-то наўрад ці паставяць, а калгасы злучаць будуць. І хай сабе — не гэта важна. Чалавека б талковага далі — во што важней за ўсё!

Было, канечне, прыемна, што чужыя людзі пра яго слова добрае мовілі. Садніла іншае — усе вакол ужо лічаць яго старшынёю аб'яднанага калгаса. Хто-хто, а ён добра ведае: калі аб'ядна́юць — яго старшынская песенька спета. Але як гэта ўкласці ў галовы ўсім навокал? Як сказаць, каб паверылі: а дарма вы, даражэнькія, перада мною шапкі здымаеце. І слухаць ніхто не хоча, толькі таемна і паблажліва ўсміхаюцца: не хітруй... А на якую трасцу яму хітраваць, каб хто спытаў?.. Зрэшты, ат! Скора самі ўбачаць... Адразу ж перастануць шапкі знімаць. Пэўна перастануць... Цікава: няўжо абавязкова трэ быць начальнікам, каб перад табою знімалі шапкі?..

## 11

Нешта надламалася, анямела ў душы ў Аляксандра Уладзіміравіча Сурмілы. Гэта быў шок, нейкі страшэнны кашмар. Адразу ж пасля сходу навалілася незразумелая апатыя і такая санлівасць, што ледзьве сіл хапіла даплесціся ад клуба да дома. Жонкі яшчэ не было — пэўна, педсавет ці яшчэ якая сходка, і ён на хвіліну абрадаваўся, што няма жонкі. Але і гэтая мізэрная радасць была нядобрай, прыкрай. Сілы пакідалі яго. Хацеў не распранацца, заваліцца на канапу адзетым, але ўсё ж змусіў сябе сцягнуць пінжак, штаны, кашулю. Не разбіраючы пасцелі, залез пад коўдру — заснуў імгненна.

Прачнуўся ад яркага сонца ў вочы, здзівіўся: гадзіннік на сцяне паказваў адзінаццаць. Столькі ён ніколі не спаў. Тым не менш, галава была цяжкая, як з перапою.

Толькі цяпер пакрысе стаў даходзіць ва ўсёй сваёй жахлівасці сэнс таго, што здарылася. Гэта было настолькі непраўдападобна, неверагодна, што аж засумняваўся: а ці не прыснілася ўсё? Але то быў не сон, ён дакладна ведаў, што не сон. Ускочыў з ложка як уджалены, зноў безда-паможна сеў, адчуваючы, як глухі, агідны страх пачаў душыць яго, і, нібы ратуючыся ад гэтага страху, кінуўся да тэлефона, стаў спешна набіраць нумар, яшчэ не ўсведамляючы, навошта звоніць. Нумар доўга не адказваў, потым, нарэшце, азвалася сакратарка.

— Мяне ніхто не шукаў?

— Ніхто,— без звычайнай пачцівасці, суха, нават, здалося, з насмешкаю адказала сакратарка, і яе тон кальнуў непрыемна, балюча.

— Калі што — я дома. Хай сюды звоняць! — са звычайнай строгасцю загадаў ён, ледзьве стрымліваючыся, каб не падаць знаку, што сакратарчын тон яго абразіў.— Я захварэў! — Шпурнуў трубку, а сам аж кіпеў ад злосці, не ведаючы, на кім спагнаць яе...

Пахадзіўшы па пакоі, трохі супакоіўся. А мо лепш было б паказацца ў канторы? Пэўна, лепш... Што, уласна кажучы, здарылася? Нічога асаблівага — маленькая заминка. Прыедзе Радзевіч — і ўсё паставіць на месца... Але чаму так доўга ён не азываецца? На добры лад, даўно павінен быў пазваніць... А мо яшчэ не вярнуўся з вобласці? Ці мо засядае бюро, «чысцяць» Дзевяценя? Ой, недзе «пачысцяць»! Падумаць толькі: так апраставалосіцца! Такога чэпэ яшчэ не ведаў раён... Знайшлі ж каго пасылаць?! Што, не мог прыехаць сам Радзевіч?! Ці хоць бы Чыжэўская? Гэтыя не завалілі б рашэнне бюро...

А мо сам больш за ўсіх вінаваты? На якога чорта трэба было збіраць агульны сход, сцягваць усіх, каб схаўрусіліся? Сабралі б упаўнаважаных — і рашылі б без агульнага сходу. Падабралі б надзейных людзей, каб сядзелі, як мышы пад мятлой... Во дзе прамашка! Ай, трэба было думаць...

Цяпер недзе радуюцца, зубы скаляць... Хай сабе парадуюцца — радасць-то будзе нядоўгай! Радзевіч не адступіць, да канца будзе гнуць сваю лінію...

А калі не будзе? Не захоча калі?! Што тады?..

І адразу ж стала не хапаць паветра, зрабілася млосна і душна, аднак праз хвіліну адчуў, што праймаюць дрыжыкі.

Трэба нешта рабіць, але што?!

Падышоў да акна, упёрся лбом у халодную шыбу, шукаючы, за што зачапіцца поглядам. Ля шпакоўні на клёне ўвіхаліся два чорныя шпакі. Прыляцелі...

А раптам і праўда Радзевіч адвернецца? Не можа быць! А чаму, уласна кажучы, не можа быць? Ад Радзевіча можна чаго хочаш чакаць — гэта яшчэ бацька казаў. Усе гэтыя гады Радзевіч так і не падпусціў да сябе, трымаўся на адлегласці. Хто ён, зрэшты, для Радзевіча? Звычайны старшыня калгаса. Радзевічу ў свае гады трэба пра сябе клапаціцца, з-за нейкага там Сурмілы на ражон ён не палезе...

Па праўдзе кажучы, ён ніколі не меў павагі да Радзевіча. Пабойваўся, а павагі не было. Разважаў: а што, уласна кажучы, за выключнасць такая Радзевіч, каб яго паважаць? Толькі што відную пасаду займае... А за душою ўсяго ВПШ, і тую гадоў дваццаць назад скончыў завочна, ніякай прафесіі. Цяпер і настаўнікам ніхто не возьме, калі што... І ён бярэцца павучаць Сурмілу!

Іншы раз аж дух займала ад такой дзёрзкай смеласці, хоць гэтая смеласць і была схавана за сямю пячаткамі, нават у думкі дапускаць яе асцерагаўся, каб часам, выпіўшы, не ляпнуць перад кім. Перад начальствам у ім жыла нейкая заячая душа, былі моманты, калі і сам не ведаў, чаго баіцца, і быў праціўны сам сабе, але перайначыцца не мог. Разам з тым знаў сабе цану. І яшчэ ведаў: рана ці позна наступіць яго зорны час, хоча таго Радзевіч ці не хоча, а зараз эпоха кандыдатаў навук, ім у рэшце рэшт дыктаваць палітыку... А кожнаму ясна, што Радзе-

віч доўга не пратрымаецца — за пяцьдзесят перавалiла, не сёння, то заўтра пацягнуць у вобласць на якi прафсаюз цi сабес.

І яшчэ яго заўсёды вельмi краналi звесткi, калi недзе старшынь калгасаў ставiлi адразу першымi сакратарамi райкома партыi. Звычайных старшынь, нават не кандыдатаў навук, а ён... Праўда, паўгода назад iшлi настойлiвыя пагалоскi, што яго збiраюцца паставiць на райвыканком, нават Радзевiч неяк асцярожна намякнуў: маўляў, як паглядзееў бы, каб перабрацца ў горад... Канечне, прапанова была няпэўная i адказ, натуральна, быў такi ж, але ў душы ён згадзiўся, упэўнены, што гэта часовае рашэнне, свайго роду перасадка... А потым выйшла закавыка, сарвалася, прыслалi нiкому не вядомага Дзевяценя. Не сядзець жа i чакаць, склаўшы рукi? Дзейнiчаць трэба было разумна i хiтра, i перш за ўсё абставiць так, каб iмя тваё мiльгала пад рознымi пачынамi, круцiлася на вуснах у начальства, не сыходзiла са старонак газет, радыё, тэлебачання: самы вучоны старшыня, самы першы пачаў, самы першы закончыў, узяў самыя высокiя абавязацельствы, самы, самы, самы... Завёў сяброў сярод газетчыкаў, ахвотна пазiраваў перад тэлекамерай, запiсваўся ў спрэчках на кожным пленуме, нарадзе. А потым нечакана прыйшла генiяльная iдэя — прыбраць «Забор'е», i Радзевiч адразу ж клюнуў на гэтую нажыўку... А во як сталася: аказваецца, сам сабе я́му капаў...

Дзень падбiраўся к поўдню, сонца стаяла высока, гурба бруднага снегу пад акном асела, распаўзалася жылкамi раўчукоў, у паветры насiлiся чорныя як смоль галкi, паўзбiраўшыся на плот, гарлапанiлi суседскiя пеўнi.

Чаму не звонiць Радзевiч? Чаму маўчыць Чыжэўская?

Невядомасць мучыла, выбiвала апошнi грунт з-пад ног, ён як ратунку, як збавення чакаў званка з райкома. Чакаў i сам сабе палохаўся прызнацца, што страшэнна баiцца гэтага званка. Гэты званок мог перакрэслiць у адзiн момант апошнюю надзею...

Недзе трыумфуюць Лазовік з Антоненкам, хто-хто, а яны не ўпусцяць моманту, каб падвесіць яму камень на шыю, падліць масла, ды што масла — бензіну плёхнуць у агонь!

Рыпнула калітка. Ён апантана кінуўся да суседняга акна, што ад вуліцы, і засмучана адступіў — жонка! Чаго гэта яна так рана? Хоць бы які педсавет надумалі, ці што! Зараз жах як не хацелася бачыць, дакладней — каб яго бачыла жонка. Ён даўно пакінуў звычку расказваць ёй пра свае службовыя справы, тым больш — пра непрыемнасці. На свой жаночы розум, яна заўсёды ўсё брала блізка да сэрца, хвалявалася за розную дробязь. Спачатку хаваў, «перапальваў» у сабе свае непрыемнасці, шкадуючы, не хочучы турбаваць яе, потым з цягам часу жончыны хваляванні і спачуванні зрабіліся прыкрымі, сталі раздражняць, а ў апошнія гады — асабліва. Адным словам, непрыкметна ішло-заходзіла, зрабілася нормаю, што ўвогуле перастаў мець патрэбу гаварыць жонцы, дзе быў, што рабіў, з кім сустракаўся, з якой нагоды ўзяў добрую чарку. Іншы раз яна спрабавала далікатна выпытваць, але гэта заўсёды выклікала злосць — адказваў коратка і раздражнёна, даючы зразумець, што ёй да таго няма ніякай справы. Яна спіскалася ўся, хаваючы крыўду, а потым перастала цікавіцца. Ды і сама ўсё менш і менш расказвала пра свае школьныя клопаты, бачачы, што гэта яго не цікавіць. Часта ім і гаварыць не было пра што, і, пэўна, каб паглядзеў хто збоку, мог бы падумаць, што тут, у гэтым прасторным доме, жывуць двое глуханямых.

Ён разумеў, што іх сямейны човен дае трэшчыну, аднак не спяшаўся ні канапаціць яго, ні садзіць на мель...

Жончын цень мільгануў у акне, пачулася, як яна адмыкае паштовую скрынку. Чаму, чорт вазьмі, не надумалі на сёння там які педсавет, яшчэ раз з прыкрасцю падумаў ён... Канечне, ужо даведалася, нябось, па ўсёй ваколіцы недзе паспелі раззваніць... Мо таму і на педсавеце не засталася — спяшаецца суцешыць, паспачуваць...

Трапляць на вочы жонцы чамусьці было брыдка, а выслухоўваць яе спачуванні — гэта ўжо вышэй усякіх сіл, і ён ліхаманкава думаў, што рабіць?.. Мо выклікаць машыну і з'ехаць куды-небудзь? З'ехаць, вядома, з'ехаць... А раптам азавецца Радзевіч?!

Рашэнне прыйшло нечакана — шмыгнуў у спальню, імгненна распрануўся, залез пад коўдру, заплюшчыў вочы, затаіўся.

Рыпнулі дзверы, стукнуў аб падлогу цяжкі партфель — пэўна, была кантрольная... Распранае паліто, вешае ў шафу, ідзе... Ён спіной адчуў яе позірк, доўгі, дапытлівы, заклапочаны, і гэты позірк, здалося, прасвечвае навылет, працягваецца вечнасць. Сцяўся, баючыся выдаць сябе і ўмольна думаючы: толькі б хутчэй пакінула ў спакоі! І калі скрыпнулі-зачыніліся дзверы і аддаліліся яе крокі, уздыхнуў з палёгкаю: нарэшце...

Прайшла хвіліна-другая, і стала нясцерпна ляжаць лежнем. Ніколі дагэтуль не заўважаў, што ложак такі мулкі — вось-вось з матраца павылазяць спружыны. Асцярожна, каб не заскрыпела, павярнуўся на другі бок, заплюшчыў вочы. Эх, каб на самай справе заснуць! Лёг на спіну — стала трохі зручней. Каб толькі зноў не ўздумала прыперціся!

Стаў думаць пра жонку. Канечне, лепшай жонкі, чым Зіна, і жадаць нельга. Яна — зручная. Не вельмі назаляе, не скандаліць, як іншыя... Праўда, нешта не ладзіцца ў іх — гэта факт. Не ладзіцца, вядома, адтаго, што няма дзяцей. Пакуль былі маладзейшыя, яшчэ сяк-так, а пасля трыццаці — кашмар... Паездзіўшы па дактарах, засумнявалася, што яе віна, стала дамагацца, каб ён абследаваўся. Ехаць з такою хваробай, канечне, было брыдка, а каб пераканацца, што на самай справе не яна вінавата, пацяху завёў палюбоўніцу ў райцэнтры. Пераканаўся... Гэта было жахліва... Як ні стараўся змірыцца, супакоіцца: не адзін ён такі,— але нейкае змрочнае, фатальнае пачуццё непаўнацэннасці не давала спакою. Адчайна адганяў, а

яно хадзіла за ім неадчэпна, дапякаючы горкімі развагамі, што прырода абдзяліла яго, зрабіла бясплодным, пазбавіла магчымасці нарадзіць сабе падобнага...

Зінаіда Пятроўна з'явілася так нечакана, так раптоўна, што нават не паспеў заплюшчыць вочы.

— Ты не спіш? — мякка запыталася яна.

— Не... — панура буркнуў ён. — Нешта нездаровіцца...

З-пад акуляраў на яго глядзелі спакойныя вочы, якія ўсё разумелі, і яму стала не па сабе ад гэтых вачэй.

— Ну-у, ужо і раскіс...— неяк светла ўсміхнулася яна, прысеўшы, як ля хворага, на краёк ложка і дакранаючыся сваёй цёплай далонню да яго лба.— Таксама знайшоў мне трагедыю...

Яму быў непрыемны гэты дотык, яе тон, і, незадаволена адводзячы руку, змрочна заўважыў:

— Ты што, радуешся? Парадуйся-парадуйся, паскачы!

— Ну і дзівак ты, Саша...— У яе голасе была пяшчота і трохі дураслівасць, як колісь у першыя гады,— такой жонку даўно не бачыў.— Гэта ж і добра, што так сталася! Я даўно ведала, што так будзе...

— Хм! Яна ведала! — непрыязна пакасіўся ён.— Бач яе: яна даўно ведала! Аракул у спадніцы...

— А ты не смейся, Саша...— не зрэагавала на яго змрочны гумар Зінаіда Пятроўна.— Я на самай справе душою чула, што так скончыцца...— Голас у яе быў шчыры, трохі засмучаны, па ўсім было відаць, што яна настроілася на доўгую размову.

«Толькі яшчэ не хапае яе ўшчуванняў!» — з прыкрасцю падумаў ён і стаў спешна апранацца, яшчэ не ведаючы, куды збіраецца, што будзе рабіць праз хвіліну. Было толькі адно жаданне — некуды ісці, бегчы адсюль стрымгалоў, бо адчуваў, што заставацца з жонкай, выслухоўваць яе ўшчуванні ў яго проста не хопіць сіл.

— Ты куды? — ні то здзівілася, ні то спалохалася Зінаіда Пятроўна.

— У кантору...— адчэпнага буркнуў ён, паспешліва апранаючы паліто, і позірк міжволі ўпаў на люстэрка. На яго глядзеў чужы, асунуты, учарнелы твар, непрыемны, агідны.— Ы-ых! — Утрапёна кінуўся да дзвярэй, уцякаючы ад уласнага адлюстравання. Апынуўшыся на вуліцы, да рэзі ў вачах быў аслеплены яркім сонцам, аглушаны нейкім незразумелым вясновым шматгалоссем. Машынальна прыкрыў вочы рукавом, ліхаманкава думаў: куды ісці, куды падзецца?

Ніколі яшчэ гэтыя дзвесце метраў да канторы не былі такія бясконцыя, страшныя, брыдкія. З вокнаў на яго глядзелі людзі, ён скурай адчуваў іх позіркі, быў пад гэтымі позіркамі як голы. О, як люта ён ненавідзеў іх, хто гэтак бесцырымонна і нахабна прынізіў, абліў памыямі, апляваў яго ўчора! О, як баяўся зараз, каб хто часам не заўважыў яго разгубленасці і страху.

Сцяўшыся, прайшоў крокаў дзесяць і стаў адчуваць, як з глыбіні душы падымаецца, разрастаецца крыўда: за што яны?! Хіба ён жадаў ім благога?! Хіба не ён сілком цягнуў іх да культуры, да новага жыцця? Хіба ён гультайнічаў, не хацеў, каб калгас быў харошы? І адразу ж злавіў сябе на думцы: дзіўна, але нават сам перад сабою развучыўся быць да канца шчыры... Вядома, ён менш за ўсё думаў пра іх. А пра што думаў, чаго дамагаўся? Свайго месца пад сонцам... А хто не дамагаецца свайго месца пад сонцам?.. Але хіба можна дамагчыся чаго, адчуваючы сябе чужаком, не ў сваёй стыхіі? Хіба не раздражнялі яго прыземленыя, нейкія мурашыныя клопаты, мізэрныя інтарэсы гэтых людзей, хіба не курчыла, як зубны боль, нават іх мова, якую даўно перастаў лічыць роднай? Хіба калі верыў усур'ёз, што гэтыя людзі здольныя спасцігнуць культуру, якую ён насаджаў? Чаго ж можна было чакаць ад іх, калі шчыра...

Ля канторы (во насланнё!) сутыкнуўся з трыма механізатарамі, хацеў быў не заўважыць, але не заўважыць было ўжо немагчыма. Яны пачціва, трохі ніякавата пазда-

роўкаліся, і ён нічога не мог зразумець — у іх позірках не заўважыў ні насмешкі, ні злосці. Дзіва...

Сакратаркі ў прыёмнай не было — пэўна, недзе чэша язык у бухгалтэрыі, гэта і добра, што няма сакратаркі. Адамкнуў сваім ключом кабінет — і ногі чамусьці сталі як налітыя свінцом, ледзьве дайшоў да стала. Не распранаючыся, сеў у крэсла і не ведаў, што рабіць, адчуваў толькі — тут доўга не затрымаецца.

Яго цяжкі, невідушчы позірк блукаў па знаёмых і, здавалася, ужо незнаёмых рэчах, шукаючы нечага, а чаго — ці то забыўся, ці то проста не ведаў. Нарэшце затрымаўся на тэлефонным апараце, глядзеў на яго здзіўлена, быццам бачыць першы раз, схамянуўся, схапіў трубку, нервова набраў нумар.

— Гараж? Прышліце маю машыну... Да канторы...

Яшчэ раз абвёў кабінет самотным позіркам, нібы развітваючыся з усім, што было тут, цяжка ўстаў з крэсла, пашукаў у кішэні ключ, адамкнуў сейф, узяў тры пяцідзесяцірублёўкі, не зусім разумеючы, навошта яны яму, замкнуў сейф, сунуў ключ у кішэню і таропка пайшоў да выхада.

Не паспеў ступіць на сходкі, як падкаціла белага колеру «Волга», скрыпнула тармазамі, хіснуўшыся ўзад-уперад, застыла як укопаная на месцы. Шафёр паслужліва адчыніў пярэднія дзверцы.

— Вылазь! — загадаў Сурміла і, заўважыўшы здзіўленне ў шафёравых вачах, растлумачыў: — Я сам паеду!

Шафёр паслухмяна вылез з машыны, але па яго твары было відаць, што перадаваць руль яму няма ахвоты.

— Запраўлена? — глянуў уладна і сярдзіта Сурміла.

— Так точна! — па-вайсковаму казырнуў шафёр.— Поўны бак.

Машына рыўком узяла з месца, пагойдваючыся на выбоінах, пакаціла па вуліцы. Раз-пораз траплялся лужыны, і Сурміла не асабліва клапаціўся аб'язджаць іх. Пырскі ляцелі ва ўсе бакі, заляпалі лабавае шкло — уключыў

«дворнікі». Зараз яны скрыпелі чамусьці дужа непрыемна, а неўзабаве сталі злаваць — выключыў, паехаў асцярожней.

Вуліца скончылася, пачалася брукаванка — зусім ужо чыстая ад снегу і амаль сухая. Дабавіў газу — машына пайшла лёгка і даволі мякка.

Ён і сам не ведаў, куды спяшаецца, увогуле, куды і навошта едзе. Пакуль што і не думаў пра гэта. За рулём адчуваў сябе спакайней — і гэтага было дастаткова, каб імчаць, імчаць, адчуваючы хуткасць, пругкасць паветра на лабавым шкле...

Дарога бралася пад гару, але машына ішла лёгка, не адчуваючы пад'ёму. Ля кюветаў сталі трапляцца дрэвы, якія яшчэ не паспелі выкарчаваць. А што, калі разагнацца і ўдарыцца? І ўсё будзе скончана, ніякіх клопатаў і хваляванняў... Ніколі не прыходзіла ў галаву, што смерць за чалавекам ходзіць так неадступна, так побач. Нават сядаючы ў машыну, ты пачынаеш з ёй гульню — хто каго... Не-е, мы яшчэ паездзім, мы не дапусцім такой раскошы! Гэта мы яшчэ паглядзім, хто каго...

Куды едзе? Чаго едзе? Да каго едзе?

Пакуль што ён не ведаў гэтага, аднак трэба было рашаць да выезду на шашу.

Мо ў вобласць, да бацькі? Павярнуць направа — і праз гадзіны паўтары на месцы. А чаму б і не наведаць старога? Расказаць пра ўсё, калі яшчэ не ведае, мо чым паможа... Праўда, вага ў яго цяпер не тая — астатні год да пенсіі даседжвае ў абласным упраўленні сельскай гаспадаркі. За апошнія гады двойчы паніжалі — не спецыяліст. Пакаціўся стары, ой як пакаціўся! І, мусіць, гэта яго зусім даканала — стаў нейкі падазроны, злы, улёг за чаркай. Але ўсё роўна трымаецца, робіць выгляд, што па-ранейшаму вялікі начальнік, і гэта нават смешна... А і праўда, старому ўсё жыццё не шанцавала, яшчэ як не шанцавала! Толькі пачне падымацца на грэбні хвалі, як хваля спадае, наперад вырываюцца розныя спрытнюгі, адціскаюць, ста-

вяць падножкі. Так было ў раёнах, тое ж і ў вобласці...

Сурмілу было шкада бацьку, але зараз ён гатовы праклінаць яго. Каб не стары, пэўна, інакш, лепш склалася б жыццё. Гэта ён некалі дамогся, каб ішоў у сельгасакадэмію, хоць, па праўдзе кажучы, не мог тады адрозніць аўса ад ячменю. Марыў пра політэхнічны інстытут... Але ў сям'і бацькава воля была — закон. Стары хоць і не аграном, не заатэхнік, не эканаміст, не інжынер, нават не ветурач, але ўсё жыццё так ці інакш быў звязаны з сельскай гаспадаркай і меў перакананне, што толькі сельскагаспадарчая прафесія адкрые для сына самыя светлыя перспектывы, што яна ёсць і заўсёды будзе ў самай высокай цане...

Акадэмію закончыў з чырвоным дыпломам, і калі прапанавалі застацца на кафедры, бацька сказаў катэгарычна: нізашто! Кафедра нікуды не ўцячэ, пачынай [illegible] агранома ў калгасе. Без гэтай ступенькі — ты нішто. У аграномах, пакуль я жывы, доўга не затрымаешся, толькі галаву май на плячах. Памятай адно: лепш быць гаспадаром на сметніку, чым прыслугаю ў ювелірным магазіне...

Хоць баяўся вёскі да дрыжыкаў — яна была чужой, незразумелай, але паехаў, як і хацеў бацька. Стары меў рацыю — і ў вёсцы можна жыць, нават вёска мела нейкую перавагу для перспектывы... Канечне, асядаць тут навечна ён не збіраўся, і бацька на гэты конт арыентаваў... Замацаваўся і завочна адолеў аспірантуру, сяк-так здаў кандыдацкі мінімум, зачапіўся за тэму. Аграному-практыку лягчэй зачапіцца за тэму... А там і старшынёю калгаса стаў, потым — без асаблівых ускладненняў — абараніў дысертацыю... Адным словам, усё ішло гладка, па бацькавым сцэнарыі. Да ўчарашняга дня...

І на якога чорта, уласна кажучы, трэба было высоўвацца з гэтым узбуйненнем?! Сядзеў бы ціха... Сядзець-то сядзеў бы — прыпякаць пачало. Рабіць трэба было нешта. Толькі апошні ідыёт можа спакойна чакаць, пакуль пач-

нуць лупцаваць у хвост і грыву... Не-е, ход, канечне, быў правільны. Але хто мог падумаць?!

Ат, зрэшты, чхаць на ўсё, тым больш на гэтае старшынства! Трэба было даўно вастрыць лыжы на інстытут. Цяпер хоць не ўпусціць момант, пакуль не распаўзлося па ўсёй вобласці... Але ці ёсць там вакансіі? Раптам — няма! Ці пакажуць ад варот паварот, даведаўшыся?.. Выкарыстаць старыя бацькавы сувязі?.. Не хацелася б, але што рабіць застаецца... Тут у сродках пераборлівы не будзеш... Галоўнае — уладкавацца. А там... А там засесці за доктарскую, напісаць манаграфію, магчыма, падручнік па аграноміі ці па навуковых прынцыпах кіраўніцтва — зараз гэта модна і актуальна... А там, глядзіш,— дацэнт, прафесар, a з цягам часу і... Чалавекам сябе адчуеш, як кажуць, кум каралю, сват міністру... Не-е, канечне ж, стары даў прамашку, нацэльваючы на райком... А што той райком? На нервах работа, калі разабрацца... За ўсім не ўгледзіш, да ўсяго не дойдуць рукі, ледзь што — ого як шыю будуць мыліць!.. Хутчэй, як мага хутчэй з гэтых смярдзючых Пілінавіч! Што ён тут згубіў? Нічога!.. Кватэра ў старога шыкоўная — чатыры пакоі ў цэнтры горада. Хай пацясніцца — шмат ім трэба на дваіх... У рэшце рэшт, мо і паслухаць Зіну — усынавіць дзіця. Якраз зручны момант — ніхто і ведаць не будзе. Мо тады і ў сям'і наладзіцца... Пэўна наладзіцца...

Канечне ж, гэта было б самае лепшае выйсце, нічога іншага цяпер і не прыдумаеш... Аднак нешта замінала ўхапіцца за гэтае разумнае выйсце, ён амаль ведаў, што не ўхопіцца, бо гэта было б прызнаннем свайго паражэння, капітуляцыяй, панічнымі ўцёкамі, ганьбай, такой плямай у біяграфіі, пасля якой хоць распеража́ся — вышэй дацэнта не выб'ешся. А якое яшчэ выйсце? Ёсць, канечне, выйсце... Паехаць у райком, прасіцца, каб зволілі па ўласным жаданні, напісалі добрую характарыстыку... Але... прынізіцца да прашэння?! А што рабіць? Карона з галавы не спадзе — абы біяграфія была чыстая. Гэта зараз га-

лоўнае!.. Але ці захоча Радзевіч звальняць па ўласным жаданні, ці захоча замяць гэты прыкры інцыдэнт, выпусціць з чыстай біяграфіяй? Раптам заўпарціцца, прынцыповасць некаму паказваць уздумае?..

Дарога пачала псавацца — усё часцей траплялiся выбоіны, яміны з каламутнай вадою, даводзілася прытармажваць, аб'язджаць іх. Злева і справа быў густы хмызняк. Зімою тут заўсёды наносіць вялізныя сумёты, шлях прабіваюць грэйдэры, і цяпер паабапал дарогі ляжалі высокія брудныя гурбы снегу. Да шашы заставалася метраў трыста — не болей. Ужо відаць, як сюды-туды мільгаюць машыны, а ён усё яшчэ вагаўся, не ведаў, куды зверне: направа — у абласны цэнтр, ці налева — у раён.

Наперадзе паказалася лужына — вялікая, на ўсю праезную паласу і метраў на трыццаць у даўжыню — гурбы паабапал перагарадзілі сцёк, таму і разлілося такое мора. Але Сурміла дакладна ведаў, што грунт тут цвёрды, нададзейны — можна смела адольваць лужыну з ходу. Перайшоў на другую перадачу, дабавіў газу — вада пругка ўдарыла ў паддон картэра, у радыятар, заліла капот, лабавое шкло, зашыпела выхлапная труба, і раптам колы сталі прабуксоўваць, катастрафічна гасілася хуткасць... Сурміла быў вадзіцель даволі вопытны — ведаў, чым гэта ўсё можа скончыцца. Хуценька пераключыўся на першую перадачу, даў газу — і машыну павяло ўправа, днішча скрыгатнула ні то па каменнях, ні то па лёдзе, нечакана заглух матор, і стала ціха-ціха, толькі хваля падалася наперад, лізнуўшы брук, вярнулася назад — і адразу ж у машыне забулькала, зашыпела.

— Толькі яшчэ гэтага не хапала! — з прыкрасцю чартыхнуўся Сурміла, намагаючыся запусціць матор.

Стартэр завываў нудна і агідна, матор чмыхаў, але не заводзіўся. Вада стала прасочвацца пад ногі, і ён выдатна разумеў, што справы дрэнь...

А да асфальту заставалася ўсяго метраў трыста! Злева направа і справа налева, размінаючыся, беглі жвава і ве-

села легкавікі, аўтобусы, паўзлі натруджана розныя грузавыя машыны, але ніхто не зварочваў сюды, ніхто не зважаў на яго бяду. Вада тым часам усё прыбывала і прыбывала, трэба было ўжо ногі падбіраць, абяссілены стартэр ледзьве варочваў махавік, і Сурміла з жахам падумаў, што хочаш не хочаш, а давядзецца выкупацца. Тужліва глянуў на брудную ваду — і мурашкі пайшлі па целе. Нічога не застаецца рабіць... Не сядзець жа паланёным пасярод лужыны ды чакаць, пакуль затопіць па вушы! Зняў туфлі, сцягнуў шкарпэткі, стаў расшпільваць штаны і — ледзь не ўскрыкнуў ад радасці: з асфальту сюды, направа, павярнуў грузавік! Утрапёна стаў круціць ручку, апускаючы шкло. Сядзець, задраўшы ногі, было нязручна, і ён лёг на сядзенне, выставіўшы галаву ў акно. А вада ўсё булькала, падбіралася вышэй і вышэй.

Грузавік спыніўся па той бок лужыны, з кабіны выскачыў малады хлопец.

— Ну, што, друг, плаваем? — крыкнуў ён замест прывітання.— Не для тваёй бляшанкі гэтае мора! Хоць трос маеш?

Сурміла не ведаў, ці ёсць у багажніку трос. Пэўна, няма. А мо і ёсць... Яшчэ раз з жахам глянуў на каламутную ваду.

— Няма-а...

— Што ж гэта ты так? — з дакорам сказаў хлопец.— Ну, ла-а-дна, пацярпі трохі — зараз выцягну...

Ён рухава забраўся ў кузаў, скінуў на зямлю трос, саскочыў з борта, зачапіў пятлю троса за крук грузавіка, другі канец па ўсіх правілах трэба было браць і чапляць да «Волгі» самому Сурмілу. Шафёр стаяў ускрай лужыны і, нічога не гаворачы, чакаў...

— Зараз, во толькі распрануся...— сказаў Сурміла, разумеючы, што ўсё ж яму не выкруціцца — давядзецца лезці ў брудную, ледзяную ваду, пасля чаго, напэўна, прычэпіцца ангіна, а то і запаленне лёгкіх...

— Ла-а-дна! Сядзіце ўжо...— паблажліва ўсміхнуўся хлопец, перайшоўшы на «вы»,— пэўна, зразумеў, што за вадзіцель перад ім, і бязбоязна ступіў у лужыну.

Вада яму даходзіла да костачак, з кожным крокам усё вышэй і вышэй, во ўжо і боты схаваліся, а ён усё ішоў і ішоў уперад, асцярожна намацваючы нагою дно — мусіць, каб не паслізнуцца ці знячэўку не шаснуць у якую яму. Сурміла з захапленнем глядзеў на яго, і раптам забытае, цёплае пачуццё ўдзячнасці варухнулася ў яго душы, зрабілася не па сабе: во ён сядзіць, задраўшы ногі, на сухім, а гэты незнаёмы чалавек робіць яму такую ласку...

Машына пагрузла глыбока, і хлопец, абапёршыся рукою на капот, шарыў у вадзе, намагаючыся ўчапіць трос. Рукаў яго курткі намок да самага пляча, а ён і не зважаў на гэта.

— Во робяць, ідры іху маць! — вылаяўся хлопец.— І зачапіць няма за што, каб ім рукі паадсыхалі!

Сурміла глядзеў, як на бога, на гэтага простага хлопца, адчуваючы ў ім нейкую незразумелую сілу, якой ён, бездапаможны, гатовы падначаліцца цалкам, без астатку.

Хлопец, яшчэ раз мацюкнуўшыся на канструктараў, што не прадугледзелі ніякага кручка, супакоіў: нічога, зараз нешта прыдумаем, і, шырока расстаўляючы ногі, пайшоў назад да сваёй машыны. Ён ступаў, і з шырокіх халяваў кірзачоў фантаніравала вада. Сурміла, паралізаваны сваёй поўнай бездапаможнасцю, сарамліва адвёў вочы, не ведаючы, як аддзякаваць гэтаму хлопцу. Той палез у кабіну, выцягнуў з-за сядзення завадную ручку і зноў рушыў у лужыну. Цяпер, мокры, ён не звяртаў увагі на ваду. Вылавіў канец троса, прадзеў ручку ў пятлю, нагнуўся і стаў прыладжваць яе пад амартызатарам.

— Ну, кажысь, гатова! — весела сказаў ён і пабрыў да сваёй машыны.

Сурміла, слабы, бездапаможны, сядзеў, задраўшы ногі, і нецярпліва чакаў збавення з гэтага прыкрага палону. А хлопец не спяшаўся — прысеў на падножку, разуўся,

выліў ваду з ботаў, выкруціў анучы, абуўся і толькі тады сеў за руль.

Грузавік асцярожна даў задні ход — трос напяўся, «Волга», скрабучы днішчам, стала падавацца ўперад і неўзабаве апынулася на сухім. Хлопец заглушыў матор, жвава выскачыў з кабіны, пайшоў да «Волгі», з цікавасцю назіраючы, як з усіх дзірак цурчыць вада. Сурміла таропка абуўся, адчыніў дзверцы і з палёгкаю выйшаў на сухое. Хлопец, нічога не кажучы, павярнуў назад да свайго грузавіка, зноў забраўся ў кузаў і выкінуў рыдлёўку.

— Што ты рабіць сабраўся? — здзівіўся Сурміла.

— Раўчук пракапаць трэ — хай збягае, а то пад якую халеру zаваліцца хто ноччу...

— Я памагу! — нечакана для сябе, з нейкай вінаватай гатоўнасцю прапанаваў Сурміла і кінуўся адмыкаць багажнік, каб знайсці рыдлёўку.

— Не трэба — упраўлюся! Тут той работы з гулькін нос... Вы лепей глядзіце, каб матор завёўся, пакуль я тут. Калі вады нассала, мо яшчэ з буксіра заводзіць давядзецца...

— Не-е, давай спачатку спусцім гэтае мора! — рашуча запратэставаў Сурміла, здзіўляючыся, што яму раптам стала так лёгка і проста з гэтым сімпатычным хлопцам.

Работа ў дзве рыдлёўкі пайшла дружна і спорна, праз некалькі хвілін вада хлынула цераз пракапаны раўчук у кювет. Яны стаялі і з пачуццём выкананага абавязку заварожана глядзелі, як імкліва ўбывае лужына.

— Ну, а цяпер пойдзем зірнем, ці жывая ваша каробка,— весела прапанаваў хлопец.

Матор аніяк не хацеў заводзіцца, толькі сяды-тады чыхаў смуродам. Хлопец папрасіў адкрыць капот, пакорпаўся ў маторы і скамандаваў:

— Ану, пробуйце!

Матор чхаў, фыркаў, хапаўся не ўсімі цыліндрамі, дрыжаў, як прыпадачны, нарэшце, прарвала — запрацаваў роўна, амаль бясшумна.

— Ну, во і парадак! — весела сказаў хлопец.— Можна ехаць! — і добразычліва параіў: — Толькі будзьце абачлівы, не суньцеся ў любую лужыну...

— Не буду,— падміргнуў Сурміла і, пакуль хлопец падбіраў трос, пашарыў у кішэні, знайшоў пяцёрку.— Спасіба, друг, за помач. Вазьмі! — Сунуў грошы.— Прыедзеш — сагрэешся, а то, нябось, ніткі сухой няма...

— Вы што?! — спалохана глянуў хлопец, рашуча і сярдзіта адводзячы руку з грашыма.— Вы што?!

— Бяры-бяры — не саромся!..— паблажліва падміргнуў Сурміла.— Як знойдзеш, прыехаўшы...— І тут жа пашкадаваў — хлопец узлаваўся не на жарт.

— А каб я, напрыклад, аказаўся на вашым месцы? — іранічна спытаў ён.— Няўжо вы грошы ўзялі б?

Аляксандр Уладзіміравіч зніякавеў, разгублена камячыў у руцэ пяцёрку, не ведаючы, што рабіць з ёю.

— То яшчэ раз вялікае дзякуй...— нарэшце знайшоўся ён і нечакана для сябе — для прыліку, ці што, а мо проста, каб не маўчаць,— запытаўся: — Адкуль хоць сам будзеш?

— З Забор'я. Чулі?

— З Забор'я?! — сумеўся Сурміла.— Чуў, брат, чуў...— І таропка пайшоў да сваёй машыны...

## 12

Пра тое, што Сурмілу пракацілі ў сваім жа калгасе і нават Дзевяцень з яго аратарскімі здольнасцямі не мог нічога зрабіць, назаўтра з раніцы толькі і гаворкі было ў райкоме партыі, райвыканкоме, упраўленні сельскай гаспадаркі. Сурмілу ніхто не любіў, таму хто адкрыта, хто спадцішка радаваліся і з нецярпеннем чакалі з вобласці Радзевіча — што ён скажа, як зрэагуе?

Радзевіч з'явіўся ў другой палове дня, недзе гадзін каля чатырох, калі ўжо стаміліся яго чакаць, на ўсе лады абгаварылі тое, што здарылася ўчора ў «Гіганце». Не па-

спеў Радзевіч і распрануцца, як у кабінет да яго кінулася ўстрывожаная Чыжэўская — яе абавязак першай дала-жыць...

— Што здарылася, Галіна Пятроўна? — стомленым го-ласам запытаў Радзевіч.

— Чэпэ, Андрэй Паўлавіч... Сурмілу...— У Чыжэўскай не хапала духу сказаць.— Словам... Пра-а-валілі...

— Правалілі Сурмілу, кажаш?..— спакойна, нават, зда-лося, з палёгкаю перапытаў Радзевіч.— А я-то думаў...— Ён не сказаў, што думаў, але было ясна — чакаў нечага горшага.— Значыць, правалілі...— Усміхнуўся незразуме-ла і загадкава, быццам пацвельваецца, пасмейваецца з яе трывогі.

Чыжэўская была збіта з тропу, у вачах яе застыла пы-танне, здзіўленае, разгубленае: як гэта разумець? Як мо-жа ён, першы сакратар, так спакойна, болей таго — абы-якава ўспрымаць тое, што кідае цень на рэпутацыю бюро, увогуле райкома партыі?! Чаму не абураецца, не распытвае, у рэшце рэшт, чаму, як усё гэта зда-рылася?!

Радзевіч маўчаў, нібы знарок сабраўся выпрабоўваць яе нервы.

— Дзевяцень не правёў лінію бюро...— глуха сказала Чыжэўская.— Такога мы яшчэ не мелі...

Радзевіч глянуў, як глядзіць сталы, умудроны жыццём чалавек на нейкія дзівосы падлетка,— трохі паблажліва, трохі сур'ёзна, трохі дакорліва, нічога не сказаўшы, сеў за стол, стаў машынальна перакладваць паперы. Гэтая падкрэсленая няўвага непрыемна ўразіла Чыжэўскую, на-ват абразіла, аднак яна не падала знаку, села ля прыстаў-нога століка і з выклікам стала чакаць.

— Значыць, ва ўсім вінаваты Дзевяцень?..— насмешлі-ва запытаў Радзевіч — такі тон ён дазваляе толькі тады, калі яна гаворыць відавочнае глупства. Звычайна ж ста-віцца да яе сур'ёзна, як да дарослай дачкі — без натацый і наганяяў, але заўсёды з выразным намёкам: думай, май

сваю галаву на плячах, не рабі хуткаспелых высноў...— А мо ўсё ж не адзін Дзевяцень вінаваты? А-а?..

— А хто? — сумелася Чыжэўская.— Дзевяцень не меў права адступаць!

Радзевіч адказаў не адразу, толькі паглядзеў на яе выразна, і ў яго трохі журботным позірку Чыжэўская заўважыла не проста нязгоду, неадабрэнне, горкую іронію, а нешта большае — адчужанасць, асуджэнне, суровае, бязлітаснае.

— А што вы прапануеце? — нечакана перайшоў на афіцыйнае «вы» Радзевіч, і Чыжэўская адчула, што гэтае халоднае «вы» нічога добрага для яе не абяцае. Яна хацела і ніяк не магла зразумець, адкуль, з якой ласкі Радзевічава няміласць? Што гэта ўсё значыць? Ніякай віны, ніякіх грахоў за сабою яна не адчувала, тым не менш...

— Я лічу, што прэцэдэнт варты таго, каб абгаварыць на бюро! — трохі ніякавеючы, але энергічна адказала Чыжэўская.

— Што ж...— падумаўшы, згадзіўся Радзевіч.— Нам і праўда ёсць пра што пагаварыць... Толькі не на бюро, а на пленуме райкома...

— Можна і на пленуме...— павяла плечуком Чыжэўская, дэманструючы сваю нязгоду.— Але пленум — не дня і не тыдня справа, як вы ведаеце, а з «Гігантам» трэба рашаць неадкладна.— І, перамяніўшы тон, заклапочана запыталася: — То што будзем рашаць з «Гігантам»? Вы самі паедзеце ці я?..

— Калгаснікі самі рашылі, што рабіць! — суха сказаў Радзевіч і, злавіўшы яе ўпарты погляд, сярдзіта і рэзка дадаў: — Самі, Галіна Пятроўна! Падума́йце пра гэта...

— Але ж мы не можам пакінуць старшынёю Кунцэвіча! — няўцямна глянула Чыжэўская.

— Калгаснікі самі рашылі — няўжо вы гэтага не разумееце?! — раздражнёна сказаў Радзевіч, нахмурыўшы бровы.

— Андрэй Паўлавіч, мы не можам...

— Што мы не можам?!

— Забяспечыць, каб сто працэнтаў кіраўнікоў гаспадарак мелі вышэйшую адукацыю. Нас не зразумеюць, ушчэнт разнясуць, што не ўберaглі кандыдата навук...

Радзевіч паглядзеў здзіўлена, і ў вачах яго заскакалі маланкі.

— Галіна Пятроўна, скажыце, будзьце ласкавы, хто вы?

— Другі сакратар райкома! — зацята, з выклікам глянула Чыжэўская, даючы зразумець, што з ёю трэба лічыцца.

— Рахункавод — во хто вы! — узарваўся Радзевіч.— Які ж вы партыйны работнік, калі не разумееце элементарных рэчаў?!

Такіх абвінавачанняў ніколі ніхто ёй яшчэ не кідаў. Гэта нагадвала аплявуху, неспадзяваную, пякучую, крыўдную да слёз, і яна анямела, не ведаючы, што сказаць. А Радзевіч, праўда, памяркоўней, але не супімаўся:

— Вучыцеся, прывыкайце, Галіна Пятроўна, глядзець у сутнасць, глядзець на чалавека, а не на працэнты — інакш вас канчаткова заесць гэты фармалізм і казёншчына. Не жахацца трэба, што калгаснікі выказалі недавер нягоднаму кіраўніку, не пажадалі ўважыць яго вучоную ступень, а нам з вамі, праглынуўшы горкую пілюлю, радавацца трэба, што ў нас такія людзі. І секчы, як сідаравых коз, нас з вамі трэба, што мы аказаліся сляпыя, апынуліся не з людзьмі, а разам з гэтым выскачкам — во чаго даравань нельга, і ў першую чаргу вам, Галіна Пятроўна! — І, заўважыўшы, што Чыжэўская збіраецца пярэчыць, сярдзіта пагразіў пальцам: — Так, так, Галіна Пятроўна! Вы больш, чым хто, бывалі ў «Гіганце», а што заўважылі? Ці хоць раз без суправаджэння Сурмілы альбо Клімовіча пайшлі да камуністаў, да людзей, паслухалі, пагаварылі шчыра? Пэўна, ні разу, інакш — даўно забілі б трывогу. А прыгадайце ананімкі на Сурмілу? Як вы іх правяралі? Праз чые акуляры глядзелі?! — Супакоіўшыся,

дадаў іншым тонам: — Гісторыя з Сурмілам для нас павінна стаць добрым урокам. Вось і скажам на пленуме ўсё адкрыта, прынцыпова, па-партыйнаму пагаворым пра наш стыль работы...

Чыжэўскай па звычцы карцела пярэчыць, але язык прысох да зубоў. Шырока раскрытымі вачыма, усё больш ніякавеючы, глядзела яна на Радзевіча — такім бачыла яго першы раз, і нешта цьмянае, ні то трывога, ні то страх, стала ўсё больш і больш закрадацца ў яе душу.

Застаўшыся адзін, Радзевіч адчуў стому. Апошні час ён усё часцей стаў заўважаць, што нязвыкла стамляецца пасля доўгай дарогі. Ён думаў, што дарма сарваўся, мо залішне груба накрычаў на Чыжэўскую — нябось, недзе румзае, мо ўсю ноч прарумзае ў падушку: жанчына ёсць жанчына, хоць і другі сакратар. Калі шчыра, то ці толькі яна адна бачыць лес, а дрэў не заўважае? Канечне, не адна Чыжэўская... Трэба вучыць, каб кожны кіраўнік і лес бачыў, і асобныя дрэвы заўважаў... І ў тым, што прагледзелі Сурмілу, яму, першаму сакратару, нельга шукаць казла адпушчэння — перш за ўсё сам вінаваты. Канечне, сам... Нешта гняло, выклікала прыкры астой. А ўсё ж няпроста перажываць свае памылкі, нават калі асэнсуеш, прызнаеш іх, няпроста...

Пахадзіўшы сюды-туды, стаў трохі супакойвацца. Але ўсё роўна нейкае нядобрае, цьмянае, як прадчуванне непазбежнай бяды, пачуццё працягвала садніць. Каторы раз прыходзіла на памяць тая загадкавая размова ў абкоме партыі, куды тэрмінова выклікалі ўчора. Канечне, ніякай загадкавасці ў рэшце рэшт не засталося — усё ўладзілася, усё стала на сваё месца, аднак ад гэтага мала палягчэла на душы...

Сакратар абкома партыі, загадаўшы сакратарцы, каб нікога не пускала, пачаў распытваць пра справы ў раёне. Яго, Радзевіча, гэта насцярожыла, аднак, як і належыць,

падрабязна і грунтоўна дакладваў аб усім, што робіцца ў раёне, парш-наперш пра гатоўнасць да вясны, пра становішча ў жывёлагадоўлі, квартальныя планы па малаку і мясе. Сакратар раз-пораз устаўляў свае пытанні, каменціраваў нейкія яго думкі і меркаванні, але ўвесь час не пакідала ўражанне, што не гэта яго цікавіць, што ён нешта не дагаворвае. Спачатку падумаў, мо паступіла якая ананімка, і сакратар намацвае грунт, адкуль ямчэй падысці. Не, пра ананімку ён сказаў бы адразу... А мо прадбачыцца якая праверка, заслухоўванне на бюро? Але, звычайна, такія заслухоўванні загадзя ўносяцца ў план работы абкома, і з гэтымі планамі знаёмы ў райкомах...

Распытаўшы пра гаспадарчыя справы, сакратар стаў пільна дапытвацца пра кадры раённага звяна. Перш за ўсё пра Дзевяценя: як прыжыўся, як да яго ставяцца людзі, што ён, Радзевіч, можа сказаць пра асабістыя Дзевяценевы якасці? Пытанні, канечне, натуральныя: Дзевяценя прыслалі ў раён, чаму ж і не пацікавіцца, чаго ён варты, як бярэцца за справу.

Ён станоўча ахарактарызаваў Дзевяценя, не ўтаіўшы, як таго настойліва дамагаўся сакратар абкома, і некаторых, на яго погляд, слабых бакоў: пэўная нерашучасць, боязь іншы раз узяць на сябе ўсю адказнасць... Потым перайшлі да Чыжэўскай, Антоненкі, Лазовіка... Сакратар патрабаваў шчырасці, аб'ектыўных ацэнак, і, натуральна, ён, Радзевіч, гаварыў, што думаў, што ведаў, пазбягаючы катэгарычнасці, увесь час падкрэсліваючы, што гэта яго асабістая, суб'ектыўная думка. Адчувалася, што яго спакойныя і ўзважаныя характарыстыкі падабаюцца сакратару абкома. Разам з тым за яго заклапочана-ўніклівымі пытаннямі і рэплікамі хавалася нейкая недамоўленасць, і гэта не магло заставацца незаўважаным. І раптам непрыемная згадка: а ці не збіраюцца яму прапанаваць нейкую іншую работу? Логіка, шматгадовы вопыт падказвалі, што менавіта так. Але чаму? Няўжо на самай справе састарыўся, выходзіць у тыраж?..

— Вы колькі ўжо першым?
— Чатырнаццаты год...— насцярожыўся Радзевіч.
— Не стаміліся?
— Я зразумеў, што хочаце запхнуць на спакойную, ціхую работу... Устарэў...— Ён нявесела ўсміхнуўся, даючы зразумець, што гэта яго крыўдзіць і абурае.
— Ды не...— трохі зніякавеў сакратар, памяркоўна і мякка сказаў: — Мы так не думаем... Вы забяспечваеце свой участак работы... Асаблівых прэтэнзій да вас няма. Раён адзін з перадавых у вобласці — гэта гаворыць само за сябе. Калі адчуваеце ў сабе сілы — працягвайце працаваць на здароўе, ніхто вас не збіраецца ні здымаць, ні запіхваць, як вы кажаце, на спакойную работу. Мы цэнім ваш вопыт, вашу энергію. Аднак, наш абавязак адкрыта і шчыра запытаць... Мы не маем права змушаць людзей працаваць на знос. Учора, дарэчы, у мяне быў Васілец: на прамілы бог просіцца ў вобласць на спакайнейшую работу — цяжка, выдахся, нервы здаюць... А вы і па гадах старэйшы, і ў два разы больш за яго на пасадзе першага... Сёлета, як вы ведаеце, партканферэнцыі, і мы загадзя павінны ведаць і думаць...
— Вы сумняваецеся?..
— Не сумняваемся. Проста — наш абавязак запытаць... Так што лічыце, не было гэтай гаворкі, пытанне будзем лічыць закрытым...— І, падумаўшы, дадаў: — Тым больш вы сабе раўнацэннай замены не падрыхтавалі...
«Лічыце, не было гаворкі»... Хм... Не-е, была гаворка, быў першы званочак — гэта факт. Нявесела, канечне, калі табе даюць званочак... Хай сабе і першы, але званочак...
А мо дарма даў у хамут? Трэ было хоць пацікавіцца, што яны збіраліся прапанаваць. Канечне, трэ было пацікавіцца. А мо праўда, як ні маладзіся, а гады бяруць сваё. Магчыма... Сядзеў бы ў якой ціхай канторы, як таго, напрыклад, захацеў на шэсць гадоў маладзейшы Васілец. Прыходзіў бы сабе да дзевяці, адыходзіў бы — у шэсць пятнаццаць, спакойна пакідаючы за парогам ціхай канто-

ры ўсе клопаты і хваляванні. Чым не жыццё? Хм, жыццё... Хіба гэта жыццё?..

Падышоў да акна, адчыніў фортку — і ў кабінет адразу ж дыхнула свежасцю, нейкім не зусім зразумелым шматгалоссем вясны. Гэта супакойвала, бадзёрыла. Стаў думаць пра ўчарашні сход у «Гіганце» і ніяк не мог уявіць, як там усё адбывалася. Трэба паклікаць Дзевяценя — хай раскажа... Цікава, а як там адчувае сябе Сурміла? Як ён усё гэта ўспрыняў?.. Мо пазваніць? Не, не трэба: хай падумае — гэта для яго карысна... А ці пацягне Кунцэвіч такую гаспадарку — во пытанне? Пацягне... Канечне, пацягне. Трэба падмацаваць талковымі спецыялістамі, мо хто і прыглянецца старому: глядзіш, праз год-два і падрыхтуе сабе змену... А што, цікава, скажуць у абласным упраўленні сельскай гаспадаркі? Якога коніка выкіне Сурміла-старэйшы?

Пахадзіў па кабінеце, зноў вярнуўся да акна, з палёгкаю адчуў, што магчымыя непрыемнасці з Кунцэвічавай кандыдатурай у абласным упраўленні не дужа хвалююць яго...

А на вуліцы бралася вясна. Сонца хілілася к заходу, але ўсё яшчэ свяціла ярка і шчодра...

**Блакіт В.**

Б 68 Шануй імя сваё: Аповесць.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 253 с., іл.

У пер.: 1 р.

У цэнтры аповесцей — сучасная беларуская вёска з яе складанымі, часта супярэчлівымі сацыяльна-эканамічнымі працэсамі. Праблемы духоўнай спадчыны, сялянскай душы, чалавечай дабрыні і гонару, вечныя і невычэрпныя тэмы жыцця і смерці, кахання і абавязку даследуюцца ў гэтых вострасюжэтных, часам палемічных творах.

Б $\frac{70303-054}{М\ 302(05)-81}$ 2—81

ББК 84 Бел 7

Бел 2

**Валентин Блакит**
(Валентин Владимирович Болтач)

ЧТИ ИМЯ СВОЕ
Повести

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. П. Рыбак. Мастак У. С. Шнарэвіч. Мастацкі рэдактар Г. І. Труханава. Тэхнічныя рэдактары Т. М. Сокал, Л. М. Шлапо. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 978

Здадзена ў набор 15.07.80. Падп. да друку 27.02.81. АТ 06050. Фармат 70×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44. Ул.-выд. арк. 11,95. Тыраж 12 000 экз. Зак. 830. Цана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.